варочаецца, несучы пад пахай бохан хлеба, а ў руках загорнуты ў ручнік крышан сала, вялікую бутэльку самагонкі. Гліняная міска, кубкі, шклянкі, нож, нават відэльцы ў каравулцы ёсць. Відаць, Базылюк сагравае сяды-тады адзінокія дні самагонкай.

Садзяцца за стол, з ходу выпіваюць па шклянцы.

— Вось што, Пятро,— пачынае Тоўсцік.— Тут усе свае, не бойся. З немцамі мы парвалі. Скажы, можаш звясці нас з партызанамі?

Базылюк глядзіць на Лубана. Тут, на Падляшынскім хутары, ён, Базылюк, даўно, з таго дня, як у мястэчка прыйшлі немцы. Ён добра памятае, што іменна ў Росіцы восенню сорак першага года Лубан, прызначаны намеснікам бургамістра, застрэліў пераапранутага чырвонаармейца. Цяпер, значыцца, хоча ў партызаны. У Росіцы забіў чалавека і ў гэтым самым месцы шукае паратунку. Вось як яно бывае.

— Не магу,— адказвае Базылюк.

— Баішся? — пытае Тоўсцік.

— Мяне і так па галоўцы не пагладзяць. Думаеце, не ўведаюць, што вы ў мяне гасцявалі?

Тоўсцік хмурыцца.

— Дык што — не маеш з хлопцамі хаўрусу? Не сышліся характарамі? З кім жа ты тады, Базылюк?

— Сам па сабе.

— Сам па сабе не пражывеш. Трэба прыбівацца да якога-небудзь берагу.

Быў некалі Базылюк відны мужчына. З форсам насіў сваё буйное цела, смеючыся, разяўляў шырокі рот з цэлым пакладам залатых пя-

польска-савецкай мяжой, і тады, у падполлі, хавала Сяргея Прытыцкага.

«...Ну, рана ўсталі — бачым: акружаны, няма куды ўцякаць. Сядзім у хаце, пачалі яны хадзіць па хатах, выганяць на сабранне. Зайшлі і сказалі:

— З малюткамі! Усе з малюткамі!

Ну што ж, мы сабіраемося і ідзем на тое сабранне. І нас ставяць тутака во, дзе цяпер магіла, усіх у рад. І праходзіць і пытаецца:

— Дзе монж?

Ну, каторыя гавораць: «Вот, стаіць». Дайшло да мяне, а ён, мой Антон, пайшоў да сястры, за сем кіламетраў, пайшоў малаціць жыта. А ў мяне чатыры месяцы было рабёнку. Я так і кажу.

— Калі? — пытаецца гэта па-польску.

— Учора,— кажу я (ён пайшоў тры дні раней, а я кажу ўчора).

Але не, не выкінулі мяне з гэтага раду.

А потым выклікалі актывістаў, каторыя, напрымер, за Савецкую ўласць былі. Актывістаў — з сям'ёю, усіх.

— Пераходзьце на той бок!

Дайшла да мяне вочарадзь.

— Актывіст Кулак Антон Раманавіч! З радзінаю перахадзі!

Пераходжу я туды з тым дзіцем. Стаю. Да партызанскіх сем'яў нас усіх далучаюць. А кулямёты так стаяць усе! Тыя людзі — як заплакалі! Усякімі галаскамі, як пчолы. Яны як касанулі — усё!..

Як касанулі па нас, я ўспела нахланіцца. А на мне такі ватовік быў тоўсты. Парвала мне куляй ватовік і так мяса закаціла, што рукою не накрыць. Каб яшчэ чуць, дык яна б у мяне сюды выйшла, куля. Я ляжу жывая і дзіця жывое. А я так жму яго ліцом, а яно крычыць. Чуствую, што задушваю, сэрца баліць. І я жывая, і дзіця жывое... Пушчу вальней, яно закрычыць.

А потым пастралялі трэцюю групу.

Што ж, ходзіць, падымае, каторыя, можа, яшчэ не кончыліся... А яны ходзяць з пісталетамі і дабіваюць. Дайшоў да мяне, чуе, што дзіця крычыць, а на мяне ён не падумаў, што я жывая: валасы ў мяне панясло, і тутака кроў. У тое дзіця бахнуў і мне пальцы прастрэліў. Як дзяржала я яго за лічыка, так і ў мяне пальцы ён прастрэліў. І дзіця сціхла, кроў на мяне, чую, свішча на твар...

А каля мяне ляжала яго, Антонава, сястра. Яшчэ храпла. Ён яе паднімаў. Яна села, і так ён яе дастрэліў. І пайшоў ад мяне — далей і далей, і ўсё дастрэльваў.



рэдніх зубоў. Любіў жанчын, і яны яго любілі. А цяпер здаў: шчокі на шырокім твары абвіслі, цела аб'ехала, вочы пабляклі.

— Мы ўсе нарабілі глупства,— гаворыць Базылюк, наліваючы па новай шклянцы.— Вы кінуліся да немцаў, я зашыўся ў дзірку. Але пра мяне гаворкі няма. Нядобра чуюся, хлопцы. Есць мяне нешта знутры. Не жылец, мабыць, я, таму не ваяка. Яшчэ перад вайной сяды-тады пракідалася слабасць, а цяпер саўсім занямог. Але, скажу вам, ваша палажэнне тожа не завіднае. Партызаны могуць не прыняць.

— Што ты ведаеш пра партызан? — выгуквае Тоўсцік.

— Мала. Яны, мабыць, далёка, за Пціччу. Асноўныя сілы. Тут аціраюцца групкі. Можа, у іх проста раскол? Сказаць не магу, даўно нікога не бачыў. Дабрацца трудна. Ведаеце самі — у Мохаве гарнізон.

Лубан, які маўчаў, курыў, раптам устрапянуўся.

— Колькі паліцэйскіх у Мохаве?

— Чалавек пятнаццаць,— адказвае Гадун.

Лубан залпам выпівае сваю шклянку. Гаворыць хрыпла, ні на каго не гледзячы:

— Вось што, арлы, калі рашацца, то рашацца. Сядзець тут, выгадваць, вынюхваць нечага. Кончыцца тым, што прыедуць жандары і павядуць, як бычкоў на шворцы. Хто-небудзь ды бачыў, куды мы навастрылі нажы. Трэба зараз жа ехаць у Мохаў. У мяне наган, у Гадуна — аўтамат. На тое войска хопіць...

— Пастраляюць нас,— ляпеча збялелымі вуснамі Адамчук.

Твар у Лубана імгненна наліваецца крывёю. Ён грукае сціснутым

Ляжу я, ляжу, а тут ужо дыхаць няма чым. Тут у мяне кроў, і завалена я ўся людзьмі, сваёю сям'ёю, і не магу дыхаць. Потым чую: машыны адыходзяць, адыходзяць усё...

Ну, устала я. Сталі людзі падыходзіць тыя, староннія, не пастраляныя. Глядзяць — ляжаць людзі пастраляныя, як авечкі: сталі плакаць каторыя. Тады я давай падымацца. Паднімаюся і не вылезці: уся завалена, уся ў крыві...

І маму маю забілі, і сястру забілі, усіх, усю маю радню. А на ранак што? Пераначавалі — як карчэ. А я зайшла ў адну хату, мне троха закрылі гэтую рану, перавязалі ды кажуць:

— Ідзі, Мар'я, а то праз цябе і нас немцы паб'юць.

Ну, то я з гэтай хаты ў другую іду нанач. Ноч пераначую, кажуць:

— Ідзі ўжо ў трэцюю хату, бо, кажа, мы баімося.

Так я тры ночы прахадзіла, а на чацвёртую ён прыйшоў, і ўжо я гэта... І завёз ён мяне ў бальніцу, у Слонім.

Завязлі мяне. Што ж гаварыць тым немцам у бальніцы?

Але завязлі гэтакі во кусок сала, збанок мёду, дык яны р-а-д-ы, і палажылі. Як толькі прыехала, а яны мяне, раз-два, раздзелі, руку забінтавалі, плячо ўбінтавалі і ў бальніцу.

Ляжу адзін тыдзень, другі тыдзень ляжу, і ўсё прыязджаюць у бальніцу, і ўсё дапытваюць, хто які.

Ноччу забіраюць і расстрэльваюць. Страшна, страшна!

Страх мяне ўзяў, і наказваю: «Прыязджай, забірай!»

Бо прыдзе, думаю, вочарадзь і да мяне ўжо.

Ён прыехаў.

Яшчэ праціў той ночы, што я начавала, прывязлі дзеўчыну з Галынкі. І ў бальніцу прыехалі яе брацьрасстрэльваць. Але як-та ёй связь сказала, і яна ўцякла з бальніцы. Ой, як паднялася тая бальніца ўжо! На тую дзяжурную!.. Хацелі яе павесіць або застрэліць, што яна прапусціла, каб тая ўцякла.

А потым, на другую ноч, ляжаў ваенны ранены, наш ваенны. Ён усё да мяне прыходзіў, распытваўся, распытваўся. А я баюся гаварыць. Але ён ані шагу ад мяне. Усё: «Цётка, так, як там партызаны?» А я яму гавару, але і баюся, бо хто яго знае...

А потым я прыехала дадому, і ён прыходзіць: уцёк таксама. Далі яму ўсё —

кулаком па стале так, што скачуць шклянкі, і з іх на брудны заплямлены настольнік выліваецца гарэлка.

— Дык бяжы назад, сволач! Ліжы немцам с...у! Пакайся, можа, яшчэ раз даруюць. Можаце ўсе адпраўляцца к чортавай матары!.. Не трэба вы мне! Ваякі задрыпаныя!.. Пайду адзін. Хай партызаны страляюць, вешаюць, але немцам я болей не слуга!..

Пасля нядоўгага маўчання азываецца Тоўсцік:

— Не трэба так, Сяргей Дзмітравіч. Не зневажай нас, бо мы можам тожа раззлавацца. Камандзірам мы цябе пакуль не выбіралі і рашаць, што нам рабіць, будзем разам. Адамчук праўду кажа — зброі малавата.

Лубан ускіпае зноў:

— Дык няхай яе зусім не будзе! Няўжо ты не можаш уцяміць? У Мохаве пра нас ніхто нічога не ведае. Зробім, што захочам, голымі рукамі. А вечарам будзе позна. Нават кулямёты не памогуць!..

— Трэба ехаць,— падхопліваецца Гадун.— Зараз жа. Сяргей Дзмітравіч гаворыць праўду.

Выпіваюць астатнюю гарэлку, похапкам закусваюць. Устаўшы з-за стала, Лубан кладзе Базылюку руку на плячо:

— Які сёння дзень?

— Нядзеля.

— У цябе ламачына якая-небудзь ёсць?

— Прыхаваў жалязяку.

— Аддай Адамчуку. Калі ты хворы, то табе ў такія дзялы совацца не трэба. Беражы дзяўчат. Галавой адказваеш. Пра нас пакуль нікому

і боты пад бальніцу прынеслі, і пайшоў з бальніцы. Праз дзве нядзелі прыходзіць ён.

— Ну вот, а я,— кажа,— ужо ў партызанах!

Прыехала я з той бальніцы — ні паліць, ні варыць, ні адзецца. Завёз мяне Антон да сястры, за сем кіламетраў, і была я там да самага апрэля месяца, там ляжала.

Разам са мной тады забілі восемдзесят шэсць чалавек...»

Вёска Васілевічы. Партызанаў тут не было. Іх стаянкі былі на правым, лясістым беразе Шчары, а сюды, на густа заселенае левабярэжжа, яны прыходзілі толькі начамі, як у зону дзеяння і забеспячэння. Дабрацца да партызан і ўступіць з імі ў бой акупанты не квапіліся. Тут, як і ў іншых мясцінах, яны пусцілі ў ход д'ябальскую тактыку: абвінаваціць у існаванні партызан насельніцтва, убіць клін паміж мірнымі жыхарамі і партызанамі.

Акупанты загадалі па ўсіх шчароўскіх сёлах пад пагрозай смерці не пускаць партызанаў у хаты, не даваць есці, не размаўляць з імі. Але хіба можа маці не пусціць у хату сына, жонка мужа, сястра брата, ды і проста чалавек чалавека? Не можа, вядома, покуль не перастаў чалавек быць нармальным чалавекам. Такім чынам, акупанты стварылі сітуацыю, у якой усе людзі станавіліся вінаватымі толькі таму і толькі за тое, што яны — людзі, звычайныя людзі з нармальнымі чалавечымі пачуццямі і звычкамі.

Паслухаем, як тут праходзіла крывавая «акцыя».

Расказвае калгасніца Марыя Фёдараўна Сасноўская:

«...Ну вот, гэта перад коляды прыехалі да нас сюды біць нас, у сераду. Калі гэта было — я не ведаю, я неграматная.

Мы сядзелі ў хаце ўсе. Мой муж паехаў у горад, павёз — яшчэ мы былі вінаватыя — пастаўку. А дзве старэйшыя дачкі пашлі да суседа з кудзеляю, прасці. А я з гэтымі меншымі хлопцамі была дома. У мяне гэта было шасцёра дзяцей, а я сама сёмая. Дзеці меншыя забаўляюцца, а немец прышоў у хату... Не ведаю я — немец ён ці не немец, але ў нямецкай адзежы.

— Здрастуйце, здрастуйце. А дзе хадзяін?

— Паехаў у горад.

— Ну, то збірайцеся на сабранія.



ні слова. Дні праз два падскочым. Зразумеў?

Базылюк падхопліваецца, згодна ківае галавою.

## V

Нізкія, прыземістыя хаткі вёскі Мохаў разбрыліся на аснежаным прасцягу, як статак авечак. Можа, раслі тут калі-небудзь дубы, сосны, але цяпер стаяць наўкруг толькі голыя, з налётам першай перадвясенняй сінечы алешнікі ды ніцыя лозы. Сыплецца дробны сняжок, нізка навісае хмурнае шэрае неба.

У тым месцы, дзе пяць ці шэсць хатак збегліся разам, дарогу ўцекачам перагароджваюць двое паліцэйскіх у чорных дублёных паўкажушках, з вінтоўкамі за плячамі. Вазкі імчаць з боку мястэчка, таму ніякіх мер перасцярогі ахоўнікі не прымаюць.

— Вяселле ў нас, гаспадзін Лубан,— пазнаўшы намесніка бургамістра, радасна паведамляе чарнявы, са шчарбінай у верхнім радзе зубоў паліцайчык.— Вайцяхоўскі тожа на вяселлі.

З хаты па левы бок дарогі сапраўды чутны вясёлыя галасы. Вароты двара расчынены, у двары да нізкага шчыкетніка прывязаны асядланы конь.

Гасцей заўважаюць, бо гамана ў хаце прыціхае. На ганак, у накінутым на апашкі такім жа, як і ў паліцэйскага, паўкажушку, толькі лепей дагледжаным, абшытым па нізе, бартах белай аўчынай, выскаквае высокі франтаваты хлопец. На хвіліну агледзеўшыся, пераканаў-



**Марыя Сасноўская.**

А я кажу:

— На якое сабранія?

— Будзеце бачыць, якое.

Па-руску гаварыў: А я кажу:

— Мае дзеткі малыя, босыя, голыя, холадна ім будзе.

Бо бедна мы жылі. Дзеці малыя: аднаму тры гады, гэтаму во пяць лет, і тыя папрыходзілі дзяўчаткі, ужо ўсе сабраліся, сем чалавек у хату. Ну, я за гэтага, закруціла, нясу. А тога меншага, што тры годы, старшая дзевачка нясла. А ён кажа:

— Замыкайце халупу і ўсе выходзьце.

Ну, мы ўсе сабраліся і пайшлі. І прывялі нас пад Адама, пад мост. І тут усіх выганялі. І мы стаялі мо паўдня. Ажно холадна стала, дзеці пачалі дрыжаць, плакаць. Тут — едзе таксі з горада. А паўнамочаны быў у горадзе. І Экарт. Гэта паўнамочаны і Экарт прыехалі на таксі.

Мы стаім на гэты бок моста, ад Адама, а таксі стала на той бок. Зараз павылазілі яны, і Экарт будзе пытацца:

— Паўнамочаны, якія гэта людзі? Што ты сабраў усіх?

А ён:

— У-у-у! Ушысткі бандыты!

Мае дзеткі маленькія — і «бандыты»!..

А Экарт ізноў будзе пытацца:

шыся, што перад ім высокае начальства, подбегам кідаецца на вуліцу. З начальнікам мясцовай паліцыі размаўляе Гадун. Ссунуўшы бялясыя бровы, пазіраючы ў зямлю, пытае:

— Што ў вас робіцца, Вайцяхоўскі?

— Трохі непарадак, гаспадзін начальнік,— прозвішча Гадуна Вайцяхоўскі забыў ці не ведае.— Якраз вяселле ў маёй сястры. Прашу дарагіх гасцей зайсці.

— Пасты выстаўлены?

— Чатыры. Двое вот етых,— Вайцяхоўскі паказвае на паліцаяў,— і яшчэ два ля школы. Астатнія са мной.

— Збяры ўсіх у казарму. Хутка, на адной назе.

Начальнікі селі ў вазкі, паехалі.

Паліцэйская казарма ў школе. Школьны будынак новы, з гладка ачэсаных сасновых бярвенняў. Стаіць трохі наводшыбе. За школай наўсцяж, аж да сінявата́й грады далёкага лесу, шэрая шчэць балотных хмызоў. У бок гэтых хмызоў звернуты амбразуры драўлянага, напаўзасыпанага зямлёй бункера, у якім дзяжураць двое вартавых. Праўдзівей, дзяжурыць адзін, другі паходжвае каля школы, усчапіўшы на плячо вінтоўку.

Тут жа, побач з будынкам, горка вынесеных з памяшкання школьных парт.

З паліцэйскімі раённыя начальнікі толькі павіталіся і адразу рушылі ў казарму. Сцены тут з сярэдзіны нават не атынкаваны, пабудавалі школу, відаць, перад самай вайной. Уздоўж па калідоры чатыры пакоі. У першым — каравулка, у ёй нікога няма. У козлах — некалькі

— А дзе ж тыя пастрадаўшыя, спаленыя партызанамі?

— А-а, Сонечка,— будзе крычаць солтыс,— ідзі сюды!

Там другая, трэцяя... Вызваў нешта чалавек пяць...

А што з намі рабіць? Хацелі нас загнаць у Адамава гумно, папаліць. Адкрылі гумно тое, паглядзелі, што там поўна збожжа, яшчэ незмалочанае, і сена,— не памесяцца, нешта дзвесце чалавек. Старыя, малыя, хлопцы, дзяўчата, усе разам, хто толькі быў дома. Не памесцяцца. Закрылі гумно. А паўнамочаны кажа:

— Іх на цмэнтаж [1] ганіце, там убіваць, на цмэнтажы.

І пагналі нас усіх, як авечак, на надворак. Закрылі. Кругом немцы нас абступілі. Пачалі нас па дзесяць чалавек усё выганяць.

Я — сем душ — ішла на тры вочарадзі. Адразу мяне, вось з гэтым хлопчыкам — я яго на руках нясу. А пасля на другую вочарадзь два чалавекі, на трэцюю таксама. Са мною ўсе не ішлі, бо ўсе людзі круціліся тамака, плакалі, косы ірвалі...

І тады пагналі нас на могліцы.

А я яго пад сябе, закруціла і ўпала на яго, калі пачалі страляць. Чую, ужо мае нагі няма, ранена ўжо нага. А яго ўжо... чую: кроў кап-кап-кап...

І пашпарт я паказвала, што нічога мы не вінаваты. Малая мая сям'я яшчэ.

І гэта яму пуля праз вуха і праз шыю, тры раны. І чую я, кроў кап-кап-кап. І пашпарт мой увесь быў у крыві.

Ну вось, нас перабілі, пасля другіх гналі. Сталі, пастаялі, кажа:

— Ушысткім капут.

Пастаялі, пакурылі і пайшлі.

Ямаў яны не капалі. Прама прыжануць дзесяць чалавек, палoжаць на зямлю... І мы гэта ляжымося... Вядома, каб чалавек не бачыў гэтыя кулі. І гэтак усё ў галаву, у галаву. Калі маіх дзяцей пабілі потым — я ўжо не бачыла і не чула, бо не паднімалася.

Усіх перабілі, адно адна жанчына... Дзяцей яе пабілі, яна бачыць, што іх пабілі, а сама скінула валёнкі і бегам у Парэчча. Тыя ўжо не гналіся за ёю і не забілі. Але ўсё роўна сохла-сохла яна і памерла.

А тады ўжо назаўтра пазганялі падводаў, мужчынаў, выкапалі яму такую вялікую, як капец, і тады ўсіх гэтых трупаў пацягалі і пазакрывалі. Не з нашай вёскі мужчыны, вераб'ёўскія і разанаўскія. У нас не было падводаў. Нашы каторыя мужчыны былі, то яны паехалі на вывазку ў лес. Адно жанчыны былі дома...»

[1] Могільнік.



вінтовак, лавы, стол, нары — узбоч сцяны. Наступны клас заняты пад кабінет начальніка, два астатнія — пустуюць. З апошняга нават не вынесены парты.

Уцекачы, у якіх дагэтуль на тварах быў выраз маўклівай зацятасці, зайшоўшы ў школу, ацаніўшы становішча, імгненна між сабой дамаўляюцца: сабраць паліцэйскіх у апошнім пакоі, расставіць пасты.

Лубан заскоквае ў каравулку. Азірнуўшыся на вокны, адну за другой хапае вінтоўкі, клацаючы замкамі, выкідвае похапкам з магазінаў патроны, сыпле ў кішэню.

Хутка да казармы бязладным гуртам падыходзяць паліцэйскія. Вайцяхоўскі едзе на кані. Гадун астаецца ў каравулцы, Альшэўскі — на ганку, Лубан і астатнія ідуць у пакой, дзе стаяць школьныя парты. Яшчэ праз некалькі хвілін паліцэйскія заходзяць у клас, падгінаючы ногі, рассаджваюцца на нізенькіх партах. Вайцяхоўскі, начальнік, садзіцца на табурэтку ля акна.

Сярод чатырнаццаці паліцэйскіх, якія сабраліся ў пакоі, людзей сталых, пажылых меней палавіны. Пераважае зялёная моладзь. Хлопцы гадоў па дзевятнаццаць, па дваццаць. Вайцяхоўскі таксама малады. Прадаўгаваты чарнявы твар, шчыльна сцятыя тонкія губы. Глядзіць на раённых начальнікаў як бы з выразам стоенай трывогі.

Лубан, які стаіць, прыхінуўшыся да сцяны, падыходзіць да стала. Абводзіць позіркам прыціхлых паліцэйскіх. Гаворыць глуха, апусціўшы вочы.

— Таварышы, трэба канчаць нямецкую службу. Выкупляць віну. Мы цяпер партызаны. З намі намеснік начальніка раённай паліцыі Га-

Кажуць, што блізкасць лёсу робіць людзей падобнымі адзін на аднаго. Калі гэта праўда, то сын Марыі Фёдараўны Сасноўскай, Аляксандр,— ідэальная ілюстрацыя такой заканамернасці. Падабенства іх настолькі прыкметнае, што пачынаеш думаць, можа тады, на могілках, калі маці другі раз падарыла Сашу жыццё, можа тады і набыў ён гэтае незвычайнае падабенства. Штосьці несамавітае ёсць і ў прамаце характару, і ў манеры гаварыць напрасткі, кароткімі сказамі, якісці па раллі з цяжкою ношай на плячах. А крокі скіраваны ўсё да яе, да маці. Нават цяпер, праз трыццаць гадоў пасля таго:

«...Тады мне было пяць год. Я помню, як мы сядзелі з братам маленькім у хаце. Зайшоў немец — мы папалохаліся. Ды да маткі схапіліся ўдвох. Ён пастаяў, сказаў матцы збірацца...»

А там, на могільніку, у часе расстрэлу, калі маці прыкрыла Сашу сваім целам, хлопчыка захлынула гэта спракаветнае адчуванне мацярынскай апекі, па-



**Трактарыст Саша Сасноўскі.**



чуццё бяспечнасці ля яе грудзей. Саша прыгадвае:

«...А я ўсё на матку сваю:
— Дахаты,— гавару,— пойдзем.
А матка возьме мяне за руку, сцісне:
— Ляжы, не аказвайся.
Калі ўсіх перабілі, пашлі ў дзярэўню тыя немцы. Давай па хатах хадзіць, куры браць, парасёнкі, пачалі грабіць. Чуваць было нам на могілках, як яны грабілі тут усё.
Ну, а як паехалі, мы ўсталі. Холадна было. Я голы быў во так. Маці з большай дзеўчыны пальцішка зняла, гэта я яго адзеў, пакінуў матку і бягом дахаты. Прыбег, сеў на надворку і чакаю — прыдзе матка...
Ужо немцаў няма, немцы паехалі ў горад, сяло пустое, толькі дзверы скрыпяць — вецер усхадзіўся, проста страшна так...
Ну, я сядзеў, сцямнела ўжо, а матка не дайшла да свае хаты, а да маткі свае зайшла. А там, у той хаце, суседка была, гадоў восемдзесят старушка, дык мама пытаецца:
— Можа бачылі, як хлопчык які тут бег?
— Бачыла, кажа, бег нейкі.
— Пайдзіце, бабка, яго прывядзіце.
Прышла бабка, за руку мяне цягне:
— Хадзем да нас.
А я ўпіраюся, не хачу ісці. Кажу:
— Адкрыйце мне, я пайду ў нашу хату.
Ну, а яна мяне за руку і павяла туды.
Дзве нядзелі мы там так ляжалі, ніякай перавязкі, нічога. Баяліся ехаць да доктара: білі нас немцы і зноў да іх ехаць,— даб'юць, страшна ўсё-такі. А потым усё-такі рашылі — ці так, ці так, а трэба ехаць.
Паехалі. У Слонім, туды, у бальніцу бацька завёз. Месяц мы ляжалі ў бальніцы. А ўрачы гэтыя ў бальніцы нічога не ведалі, дапытваюцца: «Дзе вы былі, на фронце?» Вёску нашу не спалілі, а ў Слоніме не ведалі, што нас пастралялі.
Месяц мы паляжалі ў бальніцы і зноў дадому прышлі...»

Уратавала маці Сашу Сасноўскага. І вырас ён дужым і спраўным, стаў трактарыстам у родным калгасе «Савецкая Беларусь». Высокі, здаровы, з бясхітраснаю праматою ў блакітных вачах і валявою ўпартасцю ў прамой моцнай шыі. Толькі між густымі брывамі затоена нейкая збянтэжанасць: ён, як і маці, тужыцца і ніяк не можа адказаць на пытанне: чаму такое было з ім? Расказваючы, ён нібы ўвесь час пытаецца...



дун. Бярыце прымер з яго. Можаце падумаць, ніхто не няволіць. Але ў каго ёсць наган ці якая зброя, прашу палажыць на стол...

Мёртвая цішыня. Твары імгненна палатнеюць, мярцвеюць. Як бы хто прыкаваў паліцэйскіх да нізенькіх школьных партаў.

У гэтую хвіліну ў праёме дзвярэй узнікае постаць Гадуна з настаўленым аўтаматам. Ён дае чаргу паверх галоў, у столь. У класе — воблака дыму. Вайцяхоўскі падхопліваецца, ускочыўшы на падаконнік, усім целам б'е ў раму. Звініць шкло. Лубан, сігануўшы да акна, аберуч хапае начальніка паліцыі за ногі, сцягвае на падлогу. Хапіўшы за каўнер, прыстаўляе да сценкі. Затым — поўная для ўсіх нечаканасць — б'е Вайцяхоўскага фінкай у шыю, у грудзі.

Астатніх паліцэйскіх выпускаюць.

## VI

Пра тое, што Лявонці Гвозд — паліцэйскі шпік, многія здагадваюцца, пры сустрэчы — лішняга не гавораць, ліслівяць, нутром адчуваючы, што нават благі чалавек да пахвалы ахвочы.

Лявонці Гвозд трапіў у мястэчка тады, калі ў ім адкрылася лясная школа. Гэта фактычна быў першы на ўсё лясное наваколле тэхнікум, і маладыя хлопцы, якія паканчалі школы першай ступені, рынуліся сюды на вучобу.

Гвозд прыехаў з асаблівымі паперамі, і яго прынялі без іспытаў. Ён прывёз накіраванне Мазырскага прыюта, у якім было напісана, што яго бацька і маці загінулі ад рук бандытаў. Тады, у трыццатым годзе, Лявонцію Гвазду было семнаццаць гадоў.

Вось і суседка Сасноўскіх, Тэкля Пятроўна Герасімчык, б'ецца над гэтым пытаннем.

«...Тут я і нарадзілася, тут я і замуж пайшла. І раскажу я тое самаё... У тысяча дзевяцьсот сорак другім годзе, шаснаццатага дзекабра была серада. Я выпаліла ў печы, усё гэта... пакарміла дзяцей і стала мясці хату. А муж быў у гумне, архаваў ці ячмень, ці авёс. Ну вот, прыходзіць немец у хату:
— Цурык, цурык!..
— Куды, пане?
— Туды, на сабранне.
— Адной мне? — пытаюся.
— Не, і дзеці бяры. Кіндэр, кіндэр!..
Ну і што... у мяне было тры годзікі хлопчыку. Я ўкруціла так яго, накрыла.
Пагнаў ён нас. Прыгнаў да моста. І мужа пагнаў з гумна. Муж уперад пайшоў, а я ўжо з дзецьмі за ім. З намі была Ганнуся і Маруся Майсеева, дзве старушкі. Прыгналі сюды пад мост, каля Адама Герасімчыка. Акружылі нас, уставілі нас ва двары. Хацелі спачатку ў сарай, каб сажэч жывых, але тут ужо не было ім як: поўна было накладзена, толькі адзін ток гуляў, з аднаго боку сена, а з другога — жыта немалочанае...
Ну і ўсё дажыдаліся гэтага солтыса-людаеда. Прыехаў ён з горада на таксі, з тым начальнікам-немцам. Давай гаварыць:
— Дзе тут твае спалёныя людзі?
Ну, стаяў яго зяць з сям'ёй, ён за зяця:
— Во гэта мае. Больш я нікога не хачу.
Я з дзіцем на руках, дзяржала хлопчыка, дзіця зашчаміла мяне за шыю і не дало мне нідзе аглянуцца:
— Мамачка, мамачка, не кідай мяне. Будзем разам, нас немец пастраляе разам.
Тры годзікі было.
— Ну,— кажу,— сынок, не кіну, не кіну.
Муж мой узяў яго ў мяне, а ён:
— Не, я да мамкі, да мамкі.
І мой свёкар стаяў, восемдзесят лет, у той самай групе. І дзевер, і залоўка з маленькім, і я з дзіцем. Гэта нас гналі ўсіх. А дзіця гэтае ўчапілася проста як клешч. Пагналі. Прыгналі на кладбішча і гавораць: «Падай!» Я тут упала з дзіцем, а муж мой — пабег уцякаць за раку. І яшчэ адзін старычок, Малец. Пабеглі яны ўдваіх. Гэты старычок быў лягчэйшы, перабег, а мой муж — не ведаю, ці ён заваліўся ў раку... дабег да яго немец, у яго ўсё страляў, і забіў там яго. І ён ляжаў там тры дні.

Далей здарылася незразумелае. Малады, прыгожы прафтэхшколец, на якога заглядаліся дзяўчаты, да вучобы аказаўся зусім не здатны. Хімію, біялогію, фізіку, матэматыку ў тэхнікуме выкладалі ў пашыраным аб'ёме, а Гвозд з гэтых навук амаль нічога не ведаў. На першым годзе навучання з яго няцямнасцю яшчэ сяк-так мірыліся. Нямала вясковых хлопцаў веды мелі ў адну столку, пасавалі перад хімічнымі, трыганаметрычнымі формуламі. Але ішоў час, яны пакрысе вырываліся наперад, а Гвозд як быў, так і застаўся ў хвасце.

Пасля другога курса Гвазда са школы адлічылі.

Але паўстала пытанне — куды яго дзець? Сям'і няма, у прыют не вернеш.

Яго пакінулі на пасадзе культурніка, нават каморку асобную выдзелілі — пад жытло. Цэлых пяць гадоў Гвозд выдаваў прафшкольцам сетку, валейбольны мяч, кнігі. І ніхто не ведаў пра тайную загану віднага, плячыстага хлопца: ён краў. Красці пачаў яшчэ ў прыюце — хаваў пад коўдрай, калі ўсе спалі, пайку хлеба, грыз тарана, ссаў цукар.

Па характару Гвозд ласкавы, ціхі. Можа, гэта ратавала яго ад пранііклівага вока таварышаў па прыюце, якія ведаюць адзін пра другога ўсё. Ён быў, на іх думку, размазня, а што з размазні возьмеш?

Аднойчы ён усё-такі папаўся: украў на кухні кавалак масла, запхнуў у кішэню. Дзяжурныя хлопцы хапіліся, прыціснулі да сценкі. Ён не прызнаваўся да таго часу, пакуль растопленае масла не пацякло па штанах. Тады ён заплакаў.

Тут, у мястэчку, Гвозд крадзе асцярожна. Маёмасці прафшколы нават пальцам не чапае. Два-тры разы на год сцягвае палотны, якія гаспадыні беляць па расе, бялізну, якую яны развешваюць на вяроўцы для прасушкі. Лявонці хавае набытак у надзейнае месца і, калі справа аціхае, перакладае яго ў вялікі, абшарпаны куфар, вязе ў горад прадаваць. За грошы, якія заводзяцца ў кішэні, ён купляе шакаладныя цукеркі.

Гвозд не п'е, курыць толькі для прыліку, а цукеркі — любіць.

Дзіўна — малады, прыгожы хлопец — з дзяўчатамі не знаецца. Можа баіцца, што яны — істоты хіжыя — дакапаюцца да патаемнай яго чарвяточынкі.

Лясную школу перавялі ў горад. Каб інтэрнаты, аўдыторыі не пуставалі, у студэнцкім гарадку ўсталявалі новую школу, якая па-ранейшаму падпарадкоўвалася лясному ведамству, але выпускала ўжо не лесатэхнікаў, а шафёраў.

Гвозд з палёгкай уздыхнуў. Ранейшыя выкладчыкі раз'ехаліся, яго цяпер мала хто ведаў.

Калі ў Бацькавічах арганізаваўся раён, Гвазда прызначылі начальнікам пашпартнага стала.

Ён вельмі хутка адчуў выгоду новай пасады. Тут ён быў на кані — зняважаны, прыніжаны ў гады маладосці. Выдаючы дакументы, ён стаў нават болей, чым вымагалі службовыя абавязкі, цікавіцца некаторымі фактамі з жыцця пэўных асоб. Гэта як бы прыбаўляла ўласнай сілы, годнасці.

Трымаеш у руках паперку, а чалавек — слабенькі, голенькі — умяшчаецца на далоні.

Я на могілках ляжала, не чула — ці каго стралялі, бо ў мяне сэрца забілася, і не знаю, не помню...



**Тэкля Герасімчык.**

Я пасля ўжо ачнулася — нікога няма, толькі вакол трупы ляжаць... Я падняла галаву — ой, ужо не бачу нічога на адно вока, мне ўсё тут запухла. Куля тут во папала і праз вока выйшла. Я паднялася, зноў упала, бачу: дзіця ляжыць нежывое. Я гавару яму: «Косцік, Косцік», а ён нічога, ужо нежывы. Тут свёкар забіты, тут залоўка ляжыць. Ятроўка забітая з дзіцем. Я паднялася і зноў упала...

А ўжо вечарэе. А майго свёкра дом каля могілкаў на хутары стаіць. Я паднялася ўсё-такі, падзяржалася за кусцік трохі. Усё на мне скарэла, у крыві. Кінула тое каўдзёрка, што дзіця было ўкручана, і папаўзла. Прыпаўзла я да дому гэтага, упаўзла ў дом — нікога няма. Я лягла тут на караваць, ляжала, ляжала, ужо мне ўсё шуміць... А потым увэходзіць у хату... А я думаю, што гэта заходзіць мяне забіваць. Адно ж прыходзіць Кацярына Хатунчык да мяне проста, да ложка. І яе дзяцей трое забілі. А яна пайшла карове тады даваць якраз, і так засталася. А Любу, ятроўку яе, з дзеткамі разам забілі. Цяпер яна мне гаворыць:

— Ты жывая?

— Жывая,— адказваю.

— Хадзем,— кажа яна,— я цябе завяду ў сваю хату.

Падняла яна мяне, пад руку ўзяла, накрыла мяне радзюжкай і павяла мяне ў свой дом. Я тут упала каля дома свайго, і ляжала,— нідзе нікога нямашака. После яна ўсё-такі мяне падняла і правяла ў Пападзічкову хату. А там жыў солтысаў зяць. Адчыняе яна хату і вядзе мяне туды. А яны крычаць:

— А куды ты яе вядзеш?

А я ўсё помню, толькі не бачу нічога во гэтым вокам, бо запухла ўсё. А маці ў яго старая гаворыць:

— Во, каб за яе яшчэ і нас пабілі.

Яна памерла. Каб яна жыла, дык я б ёй у вочы сказала. Яны сабраліся ды з тае хаты пайшлі, а я засталася адна. Ляжу. Цёмна ўжо, нікога нідзе, цішыня... А потым адчыняюць хату і ўваходзіць Малашка і на мяне гэтак:

— Ты жывая?

— Жывая,— адказваю.

— Хадзем я цябе да сябе занясу...

Мяне ўзяла ў радзюжку і занясла Герасімчык Малання да сваё хаты. І яна мяне ўсю ноч, гэта, глядзела. І муж яе Мікалай. Памёр ужо ён. А яна яшчэ ёсць жывая.

А на ранькі і гэты солтыс прыехаў. А гэты солтыс быў Малашын дзевер.

— А што,— кажа ён,— жывая, засталася яшчэ...

А яму кажуць:

— Ну і жывая. І няхай жыве.

І яшчэ засталіся ў мяне дзве дочкі і сынок. Сыну было сем год, і ён быў у сястры. Так і застаўся. Адна дочка, Таня, з каторую я цяпер жыву, уцякла. Пад печку схавалася з цёткай. Чатыры разы прыходзілі ў хату іх шукаць, а яны пад печкай картопляю прыгарнуліся...

А на ранькі прыехала мая сястра, забрала мяне і павязла ў бальніцу. А выйшла з бальніцы, так трэба было работаць, тады ж яшчэ калхозаў не было. З дзеткамі я так і работала патроху. Хадзіла абвязаўшы галаву. І цяпер яна яшчэ ўсё баліць, дваццаць восем год прайшло, а яна ўсё баліць...

І работала я, і пастаўкі ўсе здавала, і радавалася, што хоць Савецкая ўлада прышла і што хоць лягу ды сплю спакойна...»

Тэкля Герасімчык руплівая, удумлівая жанчына. У сённяшніх умовах з такіх выходзяць добрыя настаўніцы — узгадавальніцы моладзі. Ёй рупіць дайсці да канца не толькі ў расказванні, а і ў дакопванні да карэння, да прычын, якія абумовілі трагічныя факты. Тэкля Фёдараўна была сведкам абвінавачання на судзе над фашысцкімі злачынцамі і іх памагатымі. На тым судзе апраўдваўся солтыс: «Не я вас біў, гэта акцыя біла»,— кідаўся ў словаблуд фашысцкі паслугач.

Ён тады ажаніўся. Жонка трапілася ціхая, пакорлівая і любіла яго моцна.

Амаль напярэдадні вайны здарыўся канфуз. На чужым вяселлі Гвозд падгуляў і не стрымаўся: украў паліто ў механіка МТС. Механік аказаўся выжлятнікам, нюхам пачуў, чыя работа, назіркам паехаў за Гваздом у горад, у барахолцы хапіў за руку. Шум атрымаўся вялікі. Да суда не дайшло, але з пашпартным сталом прыйшлося развітацца.

Калі пачалася вайна, начальнік міліцыі Мацвееў некалькі разоў выклікаў Гвозда да сябе. Пранізваў яго шэрымі, трохі пукатымі вачыма, гаварыў злосна:

— Біяграфію ты сабе падпсаваў, але ёсць магчымасць рэабілітавацца. Не разумею, як ты дайшоў да крадзяжу? Бацькі загінулі ад рук класавага ворага, а ты красці? Беспрытульшчына адрыгнулася, так, Гвозд? Але немцы, па маіх звестках, за такіх, як ты, хапаюцца. Ёсць думка пакінуць цябе тут. Будзеш назіраць, чым хто дыша. Ты беспартыйны, відных пасад не займаў.

Начальніка, відаць, тачыла сумненне, бо раз за разам ён перапытваў:

— Дзіўна, ты нават у камсамоле не быў. Чаму не паступаў?

Што мог Гвозд адказаць? У прафтэхшколе ніхто яго ў камсамол не запрашаў, потым было позна.

Яму ўсё-такі верылі. Зарукай гэтай веры была смерць бацькоў, што жылі ў прыгранiччы.

Калі Гвазду стала ясна, што ён астанецца ў мястэчку, будзе жыць з немцамі, ён здранцвеў душой. Днямі ляжаў на ложку бязвольны, расслаблены. Ён ведаў, што Мацвееў будзе ў лесе, а значыць, у нейкай бяспецы, а ён, Гвозд, на відавоку, адкрыты для ўсіх напасцяў, і ад гэтай думкі яго кідала ў адчай.

За тыдзень перад тым, як рушыць са знішчальным батальёнам у лес, Мацвееў даў Гвазду яўку для сувязі. У ліку сувязнікоў — два леснікі, абходчык з чыгуначнай веткі на Хвойнае, у мястэчку — інжынер лесакультур Дзянісава.

Дадзеныя яму прозвішчы, інструкцыі Гвозд запамінаў абыякава. Ён ведаў, што ў мястэчку не астанецца. Пойдзе ў водступ, змяшаецца з людскім натоўпам і асядзе дзе-небудзь у чужой мясцовасці, дзе яго ніхто не ведае.

Ён так і зрабіў. Калі Мацвееў з мястэчка выскачыў, Гвозд пацалаваў прыціхлую, разгубленую жонку, якая ўжо хадзіла дзіцем, і рушыў да Дняпра.

У адыходзе ён пабыў больш месяца і зазнаў такога пекла, што думку — перасядзець ліхі час на старане — выдзьмула з галавы, як ветрам. Вакол Кіева немцы самкнулі клешчы, Гвозд трапіў у кашу, выбіўся з яе толькі таму, што меў цывільную вопратку і спраўныя дакументы.

Ён, можа, прыліп бы да якой-небудзь маладзіцы, але тады трэба было б гаспадарыць — араць, касіць,— а рабіць гэтага ён не любіў і не ўмеў.

У час блукання Гвазда ўсё часцей наведвала думка пра дзяцінства.

Тэкля Фёдараўна сказала настойліва, цвёрда сказала:

— Не акцыя біла, а вы!

Дзяўчына ў паэзіі ўсіх народаў свету выступае як істота пяшчотнай чысціні. Беларуская песня ўвасабляе яе ў вобразе белай бярозкі, каліны ў цвеце, пялёсткаў ружы ў ранішняй расе.

А вось два дзявочыя лёсы, апаленыя агнём і смерцю. Марыя Скок з Паўлавіч і Яўгення Бардун з Нізу. Марыя ў той час ужо ўбіралася ў дзяўчыну, а Яўгення была яшчэ дзіцем, як і Саша Сасноўскі.

Марыя Скок пачынае свой расказ разважаннямі.

Ёсць у яе гаворцы ноткі гордасці. Ёсць і высокае разуменне непарушнасці той сувязі партызан з народам, якая тады была. Ёсць і глыбокае ўсведамленне таго, што трагедыя сяла не можа быць вытлумачана барацьбою акупантаў супраць партызан. Сённяя ўжо вопытны чалавек, яна разумее, што ўся справа ў нейкай карэннай ненармальнасці, звыроднасці фашызму.

«...Парцізанам памагалі. І зналі, што да дабра не дойдзе. Але бароліся...

Ну, што... Нас сазвалі пашпарты мяняць. Гаворaць: «Ідзіце пашпарты мяняць». Туды, дзе крыж стаяў.

І да гэтага некалькі разоў прыязджалі. І на калені стаўлялі нас, і палохалі. І кулямётамі білі па вярху, і пад расстрэл стаўлялі, і запальвалі, і гаварылі: «Зарубіце сабе на насу, што вам гэта не паздаровіцца». У канцы канцоў прыехалі і гаворaць: «Ідзіце пашпарты правяраць». Пашлі з пашпартамі. Каторыя малодшыя мужчыны, тых у старонку. А жанчын з дзецьмі...

Была ў два канцы хата, нас сагналі туды, пастанавілі патрулe і ў сенях, і пад вокнамі з гранатамі. І давай па восем, па дзесяць чалавек выганяць. І там расстрэльваць.

Во, гэтак во: за адну руку дзяржыць, падвядзе пад яму і ў затылак б'е... Там у іх чатырох чалавек было, каторыя расстрэльвалі, пазакатваны пасюль во рукава і дзяржаць ліворверы ў руках. Адзежа на каторых была лепшая, дык яны здымалі і ў кучу скідалі. З жывых яшчэ, да расстрэлу. Падвядуць да ямы і — у затылак. Сто два чалавекі са мной было ў той магіле. Са ста двух чалавек — адна. Мяне зразу... як выстралілі, то я ўпала і без чувствія была, а пасля дашла да сазнання... Дык яны во — у ладошкі!..

Вечарэла ўжо. Каб дзе пад ніз, дык



**Марыя Скок з нявесткай.**

Бацька яго ў грамадзянскую вайну быў у чырвоным войску, меў добрыя дакументы, але чамусьці асеў у чужой старане, прыстаўшы ў прымы да жанчыны, якая была намнога за яго старэй. Можа, яго прывабіў хутарок, уладальніцай якога была маці? Гвозд гэтага не ведае. Бацька з маці жыў кепска. Кожны дзень у хаце не спынялася сварка, лаянка.

Калі паблізу пралягла мяжа з панскай Польшчай, хутарок апынуўся ў паласе прыгранічча. Днём бацька шаптаўся з чырвонаармейцамі-пагранічнікамі, якія іншы раз завітвалі ў хату, ноччу з таго боку, з-за мяжы, прыходзілі іншыя людзі, і бацька з імі шаптаўся таксама. Пасля ён хаваў прынесеныя начнымі людзьмі скруткі шэрсці, сукна, скуранога тавару. Гвозд вынюхаў аднойчы патайную схованку — у пуні да знешняй сцяны бацька прыбудаваў унутраную.

Маці звалі Марыя-Тэрэза. Бацька іншы раз нават біў яе, успамінаючы нейкага фальваркоўца Нарбутовіча.

Бацьку і маці начныя прышэльцы зарэзалі нажамі. Пагранічнікі можа б адшукалі патайную схованку, але ў тую ж ноч хутарок згарэў дашчэнту.

Каму служыў бацька? Яшчэ невядома, ці бальшавікам? А калі наадварот?

Чым бліжэй падыходзіў Гвозд да мястэчка, тым болей спакайнеў душой. Хто, што пра яго ведае? Што ён украў паліто? Дык гэта ж добра. Немцы, мабыць, дабраліся да Урала, і трэба думаць, як жыць далей.

Ён толькі тыдзень пасядзеў дома, нікуды не вытыркаючыся. Як толькі дачуўся, што набіраюць паліцыю, пайшоў да немцаў, надзеў павязку. Самому Швальбе, першаму начальніку жандармерыі, расказаў пра Дзянісаву і астатніх.

Праз месяц Швальбе расшалопаў, што такога чалавека, як Гвозд, трымаць у паліцыі затанна. Прыклёп знайшоўся — позніцца на дзяжурства, служыць неахайна. Перад паліцэйскім строем у Гвазда адабралі вінтоўку, сарвалі з рукава павязку...

## VII

Паўночы Гвозд выстаяў каля кватэры колішняга загадчыка радыёвузла Палуяна. Немцы ім цікавяцца, думаюць, мабыць, што слухае радыё. Гвозд так не лічыць. Свайго ценю баіцца Палуян. А дзесятай гадзіне — ужо ў ложку. За паўмесяца ні адзін чалавек не прыйшоў да яго ў хату.

Мястэчка спіць. Чарнеюць палахлівай пустатой завулкі. За тынамі, парканамі як бы хаваюцца рухомыя цені. За апошні год Гвозд да дробязяў вывучыў вуліцы і завулкі. Колькі начэй прасядзеў ён па панадворках, хлявах, мерзнучы, асочваючы тых, што вярнуліся з лесу і зноў па-змоўніцку збіраюцца, шэпчуцца. Тых ужо няма. Але разам з імі як бы знік грунт, на якім ён цвёрда і надзейна стаяў. Былых начальнікаў, якія не хацелі ісці на нямецкую службу, ён выкрыў усіх. Жывучы болей як дзесяць гадоў у мястэчку, ён ведаў пра іх усё, мог даць самыя дакладныя характарыстыкі.

дзе я там устала б, а то наверсе ляжала. Парасстрэльвалі і ў ладошкі пахлопалі.

— Вот,— гавораць,— капут вам!

Я гэта помню ўжо. Я гэта да памяці дайшла. Відаць, яны яшчэ хацелі гранаты кідаць, але потым нешта пагергеталі і пайшлі.

Ой, што было піску, енку!.. Там многа жывых людзей падушылася. Але не было іх каму раскапаць. І прасіліся: і «ратуйце нас!», і «спасайце нас!», але не было каму.

А яшчэ і да бою здзекаваліся: і віламі паролі, і нагамі хадзілі, і білі, ой!.. Дзеці малыя былі, то па жывых нагамі хадзілі. А некаторыя зналі, што немцы яйкі любяць, нясе каторае дзіця яму яічак ды просіцца, каб не забілі. А ён як дасць яму нагою, дык яно перакулілася — і з нагамі па ім пайшоў.

У мяне самой чатыры браты забілі і мацеру. Залезлі пад печ, схаваліся. Кожнаму смерць страшная вачавідная. Дык яны спаролі віламі так, што не было дзе голкай ткнуць. Пад печкай. Гэта ўжо даставалі адтуль, а не хацела гэта дзетвара вылазіць.

Мяне і самую віламі спаролі. А потым пагналі расстрэльваць. І вот я ляжала да двух часоў ночы. У гэтай магіле. Я помню — адну цётку сцягнула на бераг, другую сцягнула і сама... Я ранена была, у мяне крыві ўжо налілося поўна запазуху, аж пад пояс, і сама саслабела — што са страху, а што цэлы дзень... Колькі ўцякалі, колькі хаваліся!.. Мала калі ўдома там бывалі. А на тую бяду — дык дома засталіся.

Ну... А цяперака я баюся ўставаць. Вылезу з гэтай магілы, папоўзаю, папоўзаю, папоўзаю кругá і зноў улезу, на гэтыя мёртвыя лягу. А душна! Колькі народу! Воздух такі цяжкі, кроў тая кіпіць, як у катле. Думаю я, дзе ж тыя немцы? Баюся ўставаць. Спаўзу і апяць лягу на гэтыя мёртвыя.

А потым — пайду, што будзе! Пайшла, пайшла гэтымі кусцікамі пад Шчару. Думаю: «Пайду ўтаплюся, абы яны не здзекаваліся. Усё роўна».

Адзін хлопчык, гадоў яму, мусіць, шэсць — устаў, і знаў ён, прыпомніў, дзе гэта бацьку пагналі,— у другую хату пайшоў. А яны сустрэлі яго, у картафляную яму завялі... Увесь у крыві, ранены, а яны ў картафляную яму завялі і дабілі. А дзевачка сядзела — мацеру забілі, а яна, чатыры годзікі, сядзела і ўсё прасілася:

— Мама, годзе спаць, уставай, ідзем дадому!

І таксама расстралялі.

Думаю: «Пайду я ўтаплюся, абы я не бачыла гэтых іх, і іхняй смерці».

Пайшла. Мне кажацца, што іду я, іду... Ішла, ішла, так саслабела, што зайшла аж у Кабаке: вунь там дзярэўня, па-за рацэ. Зайшла, і мне стала — кругом, кругом Шчара. Я куды ні кінуся, у які бок — кругом Шчара. Ужо ў галаве закружэнне стала.

І думаю: «Пайду тапіцца». І палезла, палезла і перайшла на той бок Шчары, і помню, што я не ўтапілася. У якое месца папала і як ішла? Уродзе, я на калені станавілася і паўзла... У калючую провалаку ўбілася. Выпутвалася, выпутвалася, *ледзьве з той провалакі вылезла...*

Зайшла ў гэтую дзярэўню Кабаке, а ўжо саслабела, не магу. А там, дзе кусцік, дзе слупік,— мне здаецца, што гэта ўжо немец стаіць.

А там на выганку адзін домік стаіць. «Зайду,— думаю,— прыадчыню дзверы, спытаюся, ці немцаў няма...» Зайшла я, гляджу: бяллё вісіць. Думаю: і тут пабілі. Я прыадчыніла дзверы, пытаюся:

— Немцаў у вас няма?

А гаспадар гаворыць:

— Няма.

А як угледзелі, што я ўся ў крыві, растропана, нарабілі крыку. Увайшла ў хату. І пайшоў адзін дзядзька шукаць па сяле, можа, дзе ёду, бінту.

Пайшоў той дзядзька, прынёс бінту і ёду. А я так напіталася гэтага духу цяжкага, што блявала, блявала... Ён мне стакан водкі даў. Выпіла — нічога не памагло. Папяросу даў — нічога. А я ўся мокрая, мокрая — во, па вушкі, і ўся ў крыві. І баяцца дзеці мяне.

Далі мне матрасік нейкі, дзіцячы, я каля парога лягла. Дзе я буду ляжаць — уся мокрая, уся ў крыві. Устала ў тры часы ночы, пайшла.

Пайшла. Аблава ішла, а мне трэба цераз гасцінец ісці. Зайшла я аж у Мельніке, на хутарэ. Зайшла пад адну хатку. Так ужо саслабавала, і села на прызбе. Устала цётка на ранку, я падышла:

— Ці няма ў вас, цётка, немцаў?

Гаворыць:

— Няма. Ну, ідзі ў хату.

Я пайшла, а яны пытаюцца:

— Што, гэта ў вас, можа, выбілі?

А я баюся гаварыць — чорт яго ведае, якая яна. Можа пойдуць накажуць немцам ці паліцаям. Пасядзела я трохі ў хаце і пайшла.

Пайшла я ў лес. Гэдакая мокрая, і холад, і так аслабела — пад елачкаю задра-

Ён адразу скеміў, што апрача яго і Дзянісавай ёсць яшчэ пакінутыя для патайной работы. Але хто?

Ён начамі не спаў, перабіраючы ў памяці ўсіх, хто бегаў да вайны з партфелямі, вылузваўся са скуры на бальшавіцкай службе. Выпадак прывёў яго ў майстэрню Шэлега, які прытварыўся, што вельмі яму падабаецца быць бляхаром, латаць самавары, каструлі. Месяца не пашкадаваў, каб асачыць рамесніка, ухапіцца за нітачку. Яна прывяла да жанчыны, якая, як некалі ён сам, выдавала пашпарты.

Ён і Драгуна раскалоў бы, памятае гэтага актывіста яшчэ па лясной школе, ды хітрэц, схаваўшыся за немцаў, паспеў перабрацца ў Гарбылі, а ў лес ужо адтуль драпануў.

Пасля забойства Швальбе партызанамі круг як бы замкнуўся. Вялікіх удач няма. Каго цяпер асочваць? Бухгалтараў, якія і да вайны былі бухгалтарамі? Але за гэта немцы не расстрэльваюць, а звязаны хто з партызанамі ці не звязаны — на лобе не напісана. Раней прасцей было. Ладуцька хто? Пракурор, камуніст, быў у бандзе... Аўсянік хто? Тое самае...

Гвозд ганарыцца сабой, сваёй знешнасцю, роляй, якую выконвае. Шляхецкая кроў матулі ў ім, мужчыне, праявілася на поўную сілу. Знешнасць памагае, дзе трэба, прыкінуцца авечкай, у другім месцы — пусціць пыл у вочы. Ніхто лепей, чым ён, не здолее выкручвацца. Трэба хітрасць, асцярожнасць, галава. Галоўнае — цярпенне. Хіба лёгка выстаяць вечар у вечар у падваротні або выседзець летнюю ноч у кіяшніку? Немцы, сволачы, нават цыгарэт шкадуюць. Восем штук на суткі. Некалі ён не курыў, а цяпер без тытуню не можа.

мала. Задрамала і — немцы ідуць! Там лясок невялікі. А забіралі маладзёж яны ў Германію тады. І немцы гавораць. А там тры дзядзькі, такія во, як я, бегалі, хаваліся. І яны тожа пачулі нямецкі разгавор, тожа бягуць. І чую я, што трэскат, думаю: «Немцы!» Яны з таго боку ідуць, а я з гэтай гарушкі, і бягом, і да гэтага самага дзядзькі ў гумно. Прыбегла на падворак, а гэты дзядзька кажа:

— Дзе цябе падзець? Усё роўна будзе — і цябе расстраляюць і мяне. Зачыню я цябе ў гумне,— кажа,— ужо як знойдуць — заб'юць, як запаляць — згарыш, а, можа, шчасце будзе, то застанешся.

А там у яго гарох накладзены роўна з бэлькаю і так во адстаў ад сцяны, і я пад самы ніз за той гарох залезла. І ўжо чую: немцы па надворку ходзяць, ужо, як гусаке, гергочуць кругом гэтага гумна. А потым дзверы адчыняюцца. У гэтага дзядзькі самагонка стаяла, цэлая бутэль выгнана на таку. Брата яго ў Германію забіралі: ён прышоў, узяў гэтае самагонкі, пайшоў, угасціў іх, з сабою ім даў — брата забраў. І паехалі яны, не траслі. Так я і асталася.

Асталася. Пасядзела да вечара, у лес пайшла. Цэлы тыдзень пад карчом у лесе сядзела, галодная. Забалела гэтай... дзезянцерыяй. Поўзала ракам дзве нядзелі.

Мацеру маю і аднаго брата, што ў школе быў, застралілі з вінтоўкі, а тры тут, на вуліцы. Пяцьдзесят пяць чалавек на вуліцы забілі, яшчэ і гранаты кідалі на іх.

Пака немцы не адступілі, то мы ніколі дома не былі...

Цяпер у мяне трое дзяцей. Сын у калгасе трактарыстам, два гады вучыўся ў Слоніме. А дачка вышла замуж і ў Слоніме жыве».

Мажная, поўная, усмешлівая Марыя Скок, у адрозненне ад некаторых нашых расказчыц, доўга ўваходзіла ў тэму, спынялася, набіраючы духу або аціраючы слязу. Яе дабрадушны твар пасвятлеў толькі тады, калі мы, зашпіліўшы футляр магнітафона, пацікавіліся яе дзецьмі і пахвалілі сапраўды вельмі мілую яе нявестку. Мы і сфатаграфавалі іх абедзвюх, такіх розных лёсамі родных жанчын.

З Яўгеняй Бардун нас завочна пазнаёміў дзед Лявон Алізар з вёскі Ніз, да якога мы, па аднолькавай справе, заехалі раней, чым да яе.

Спачатку Лявон Сідаравіч гаварыў нам пра аднаго мясцовага паслугача фашыс-



Перад прысадзістым будынкам пошты Гвазда аклікае немец-вартавы. Свецячы кішэнным ліхтарыкам, доўга разглядае начны пропуск. Звычайная кардонка, Гвозд нават не ведае, што на ёй напісана, але патрульныя заўсёды вяртаюць яе як бы са страхам. Гвазду па гэтай прычыне заўсёды падабаецца паказваць немцам пропуск.

Побач з поштай, у глыбіні двара — маленькая хаціна, у якой жыве мнагадзетны саставіцель Лысак. Былы Гваздоў знаёмы нікуды не рушыў, сядзіць дома, есць бульбу. На першым часе Гвозд яго пабойваўся. Але тое даўно мінула. Калі і баіцца каго Гвозд, то толькі немцаў. Гэтыя тарбахваты сваю карысць разумеюць. Служыш ім — вось увесь пашпарт. Ім напляваць, кім ты быў учора. Хто ты сёння? — вось для іх важна. Разумеюць, д'яблы, што чалавек хоча жыць, а калі трапіць у такое пекла, як цяпер, то сем шкур памяняе...

Гвозд чысты перад немцамі.

Навёў ён туману толькі ў адным. Пагалоска па мястэчку пушчана густая — Мацвееў забіты. У лесе сапраўды знайшлі забітага, немцы вызвалі Гвазда пазнаваць труп. Ён пацвердзіў тое, што трэба было пацвердзіць. Для сваёй бяспекі, для спакою пана Швальбе.

Жывы Мацвееў ці мёртвы — Гвозд не ведае. Былое сплыло, не вернецца. Не Мацвееў страшны — адзінота. Ён, Гвозд, прапаў бы, каб не падмога родзічаў. Цесць — залаты чалавек, штодня адвядзеш з ім душу. Двух сваіх сыноў, жончыных братоў, аддаў у паліцыю. На дзве сям'і — тры пайкі.

Вось толькі з жонкай кепска. Нарадзіла дачку і сохне. Зрабілася

таў, стараючыся знайсці матывы яго агідных паводзін:



**Лявон Алізар з унукам.**

«А-а,— грэбліва цягнуў дзед Лявон,— той, што выдаў нашу вёску? Паліцай!.. Ён цэлае жыццё сваё такі быў. Ён і пры Польшчы ўродзе займаўся палітыкай — і сюды, і туды... Раз падлажыў ён аднаму хлопцу чырвоны флак... над дзвярыма ў сенях заткнуў у стрэху, каб відзён быў гэты флак. І хлопец той праз яго чатыры гады пры Польшчы ў турме сядзеў. Правакатар быў...»

Дабрадушны, марудлівы дзед Алізар ніяк не можа падабраць належных слоў, каб растлумачыць такое звырадненне.

Карнікі аддзялілі маладзейшых мужчын ад жанчын, старых і дзяцей, загадалі ім сабраць харчы і лапаты, накрэслілі дзе капаць яму.

Тыя адмовіліся. Тады ім загадалі запрэгчы коней і на вазах павезлі «той маладзёж», мужчын ад шаснаццаці да сарака гадоў, у Германію. А старэйшых мужчын, усіх жанок і дзяцей сагналі ў адну хату і выводзілі невялікімі групамі за гумно ды расстрэльвалі з пісталетаў у патыліцу,— кожны немец-канваір свайго падканвойнага...

Ужо ў пачатку дзед Алізар гаварыў ды здзіўлена паглядаў на магнітафон, а калі дайшоў да таго правакатара, паліцая Бяляўскага, неўразуменне яго ўзрасло. Інтанацыя мовы расказчыка гаварыла:

тоненькая, як цявіна, на худым, змізарнелым твары толькі вочы блішчаць. Нікуды на людзі не паказваецца.

У наступны вечар Гвазду пашанцавала. Выбраўшыся сачыць за кватэрай Палуяна, ён спаткаў у цёмным завулку высокую, як жардзіна, старую, акрытую старасвецкім дзіравым шалем жанчыну. Прозвішча яе, здаецца, Ядрыцкая.

— Пане Гвозд, супыніцеся. Маю да пана інтэрас.

— Што вам трэба?

— Магу даваць пану розныя звесткі. Пра небяспечных для нямецкай улады асоб. За пянёндзы, вядома. Жыву бедна, не маю хлеба...

Гвазду робіцца весела. Ды гэта ж тое, што трэба. Дарэмна ён пакутаваў, ламаў галаву: набраць такіх бабуль, і зноў ён на кані. Азірнуўшыся, ён выцягвае з кішэні кашалёк, дае старой у рукі некалькі крэдытак.

Яшчэ праз дзень Гвозд кладзе на стол начальніка жандармерыі паперу пра зборы на кватэры адваката Быліны. Цікавы вузельчык завязваецца. Стары знаёмы Лысак таксама прыходзіў да адваката. Тыдзень, як выпусцілі з турмы — і зноў матэрыяльчык. На гэты раз ён з ім расквітаецца.

На развітанне Гвозд просіць:

— Гаспадзін начальнік, дайце мне грошай. Маю памочнікаў, ім трэба плаціць. Размовы па майму заданню падслухоўвае настаўніца Ядрыцкая.

Жандар усміхаецца, ляпае Гвазда па плячы, але грошай, скупянда, адвальвае не густа — восемдзесят марак.

**VIII**

Яшчэ холадна, але не-не дый дыхне ў твар ясным сонечным днём вясна. Капае са стрэх, трашчыць пад нагамі тонкі, падталы лядок на лужынах.

Надвячоркам, калі шараваты змрок павіс над мястэчкам, млынар Забела заварочвае ў двор да Крамера. Доўга грукае на ганку ботамі, хвошча па іх венікам-дзеркачом. Асабнячок у бургамістра ніштаваты. Мае выгляд як звонку, так і з сярэдзіны. Густ у старшыні райспажыўсаюза, які за казённыя грошы адгрукаў да вайны хароміну, някепскі.

Насустрач млынару яшчэ ў сенечках-верандзе выплывае Гертруда Паўлаўна, ласкава вітаецца, прапускае ў пакоі. Прымае ў рукі паўкажушак і шапку. Прыклаўшы палец да губ, шэпча:

— Вы яго, Панас Дзянісавіч, не нервуйце. Прашу вас. Не расказвайце нічога благога. З сэрцам у яго...

Баба трохі дурнаватая, магла б не гаварыць. Паганяе панства. Забела ў апошні час забягае да Крамера часцяком і лепей за яе ведае, як жыве на свеце бургамістр. Зблажэў Аўгуст Эрнэставіч, моцна зблажэў. З таго дня, як у лес да партызан збег яго намеснік Лубан, а з ім некаторыя іншыя мясцовыя начальнікі, на вачах перамяніўся. Асунуўся з твару, аслабеў. Ледзь богу душу не аддаў пасля той ночы, калі жандармерыя расстраляла заложнікаў — жонак і дзяцей усіх тых, што паўцякалі ў лес.

Крамер ляжыць на канапцы, дрэмле. Пры ўваходзе млынара падымаецца, усоўвае ногі ў лямцавыя пантофлі.



**Яўгеня Бардун.**

сапраўды, людзі добрыя, немажліва нармальнаму чалавеку дабрацца толку ў паводзінах вылюдка. Хіба звар'яцець самому... Ды і ўвогуле нялёгка сёння перадаць нармальным людзям, што дзеялася ў той, прынесены ворагамі, шалёны дзень, калі і сам ён, Лявон Сідаравіч, недастрэлены, ацалеў.

Дзеду Лявону перашкаджаюць унукі, а зрэшты, можа яны і выручаюць яго з клопату. Іх ажно трое ў яго на выхаванні ў гарачую пару касавіцы. Тры малыя анархісты завялі ў хаце свой парадак. Абараняючыся ад свавольнікаў, дзед, відаць, папрыбіраў аздобы і ўвогуле ўсе прадметы, якія можна дастаць рукою, пабіць, зламаць, скінуць. І чысты пакой Алізаравай хаты выдаецца нейкі пусты і неабжыты: дзве сасновыя лавы цягнуцца ўздоўж сцен, як два промні ад покуця, у якім высока пад столлю вісіць адзінокі абразок усмешлівай багамаці з такім жа жэўжыкам на руках, як меншы дзедаў унук. Лавы парэзаны сцізорыкамі, падзёўбаны сякераю, пакрэмзаны цвікамі, ножкі іх разгайданы. Зводдаль ад лаваў стаіць стол, які менш кранула самадзейнасць галапузых распуснікаў. Стол кантрастуе з дзвюма паабціранымі, падрапанымі, парэзанымі дзіцячымі табурэткамі. А дзед як быццам і не бачыць тут непарадку. Калі дайшла справа да фатаграфавання, ён з анёльскаю ўсмешкай папрасіў:

— А з унукамі можна?..

Не бянтэжачы Лявона Алізара і парадоксы асабістага жыцця Яўгені Бардун. Выйшаўшы з намі на вуліцу, ён паказаў рукою на поўнач, у другі канец вёскі, і сказаў:

— Там, злева, каля крамы новы добры дом. То яе.

— Мусіць, муж цесля?

— Не было мужыка. Толькі дзеці. Пяцёра. Ды харошыя дзеці ў яе, от пабачыце.

Мы перапытваем, думаючы, што дзед Лявон агаварыўся, а ён такім дабрадушным даравальным тонам, якім гаворыць з унукамі, удакладняе:

— Не было ў нас пасля вайны такіх мужчын, каб жаніліся. А дзеці харошыя, двое ўжо павывучваліся, а трое пры ёй. Хату калгас памог зрабіць. За добрую работу.

Мы не засталі Яўгені Адамаўны дома, яна была на працы, на сенакосе за Шчарай. На трэці дзень, у нядзелю, таксама давялося чакаць яе з таго сенавання да самага абеду. Убачыўшы нас на двары, гаспадыня падышла з граблямі на плячы. Невысокая, ладная, яна была б нават па-свойму прыгожая, калі б не лішне шырокія ад нежаноцкай працы плечы. Пачуўшы, чаго мы завіталі да яе, Яўгеня села на траву і расплакалася.

Была ў гэтым плачы чалавечая скарга на сваё заўчаснае сіроцтва, на тыя раны і страхі, і боль, якія зваліліся на шасцігадовую дзяўчынку.

«...Спачатку прышлі немцы ў хату. Забралі бацьку. Бацька наш быў хворы, дык неяк адпрасіўся: «Пусцеце, я хворы жалудкам». І яны яго адпусцілі. І сказаў тады паліцман нямецкі,— ён жыў у тым канцы вёскі,— што нікуды вы не ўхадзіце, будуць пашпарты ў вас правяраць, і ўсё. У нас дзяўчата яшчэ ўсе малыя былі, нікога ў партызанах не было, адно бацька памагаў танк выцягваць партызанам з ракі. Ну, бацька і баяўся, што ён, значыць, выцягаў *саветам танк гэты*, баяўся, што немцы падазраюць і могуць яго забіць.

Потым заходзіць у хату паліцман і немец і выганяюць. І сагналі ў адну хату, а многа нас было, палавіну сяла сагналі. І пачалі выводзіць.

Зразу трох мужчынаў, а потым і бацьку ўжо ў другой тройцы вывелі. Проста прышоў немец і «драй», «драй» на пальцах паказвае. Самі людзі выходзілі, бо дзе ж ты дзенешся, ён гранату паказвае — выходзь...

— Сядайце, Панас Дзянісавіч. Дзякуй, што не забываеце. Для некаторых, сказаць па праўдзе, мяне і дома няма. Жонка на пасту.

Уваходзіць Гертруда Паўлаўна, прыносіць запаленую лямпу. Стаіць, запытальна глядзіць на мужа.

— Можа чарачку, Панас Дзянісавіч? Сам то я не магу.

— Дзякаваць, дзякаваць, Аўгуст Эрнэставіч. Нешта і мне не здаровіцца. Пячонка, ліха яе матары.

Гаспадыня выйшла, і, як заўсёды, яны асталіся ўдвух. Аўгуст Эрнэставіч падняўся, выняў з шуфлядкі стала бутэлечку з зялёнымі пілюлямі. Дзве з іх праглынуў, запіў, не наліваючы ў шклянку, вадой з графіна.

— Яўрэйка гэтая вышмыгнула,— панізіўшы голас да шэпту, паведамляе Забела.— Ад Краснея дала лататы. Што ж, цяпер ёй нічога не страшна... Вясна на носе. І нам не страшна. Цяпер мы вольныя з вамі, Аўгуст Эрнэставіч. Душой я змучыўся. То ж, глядзі, болей як паўгода хавалі. Не дай бог знайшлі б яе тут. Яе ж, каб прыціснулі, то як на споведзі ўсё расказала б.

Пра тое, што яўрэйка з дзіцем рушыла хутчэй за ўсё ў вёскі, дзе цяпер валадараць партызаны, Забела дыпламатычна змаўчаў. Навошта вымаўляць непатрэбныя словы? Няхай ідзе хоць да чорта на рогі, абы тут было спакойна.

— Яе мы ўратавалі,— гаворыць бургамістр,— а другім наўрад ці паможам.

— Што такое, Аўгуст Эрнэставіч?

— А хіба не чулі?

Ну і бацька выйшаў у другой тройцы. Маці паглядзела... што бацьку павялі ўжо, а дзеткі малыя, яна за сваю сям'ю і нас, малых, павяла за бацькам.

Павяла за ім... Старшыя дзве сястры былі ў мяне, а маці нясла маленькага. Дзіця. Было яму год. А сястра ўжо нясла другое, два годы хлопчыку было.

Даводзілі нас да сарая. Тады я забегла неяк наперад сястры. Немец ёй у патыліцу стрэліў, а яна мяне з ног збіла, і я так засталася. Яна на мяне ўпала так во — ад шыі да пояса, а на нагі другіх людзей куча навалілася. Людзі да мяне ўсё падыходзілі, іх стралялі, яны на мяне валіліся. Але галава мая была наверсе, не пад людзьмі, і так я і ўцалела. І ўжо як тут пабілі, дык сталі біць на другім канцы вёскі. А я ўжо ляжу.

Засталося тры хлопцы раненых, мае равеснікі раненыя, у трупах. Я падняла галаву — яны плачуць, раненыя, кроў цячэ з іх. І я аказалася да іх, чуць галаву прыпадняла. Але не ўстала, бо мне не было як устаць: на мне трупы велькія ляжалі. Я аказалася, і тут ляціць немец. Даляцеў да іх і з вінтоўкі проста падабіваў.

А акурат бацьку майму на нагу стаў, ранены што ляжаў. І тады яшчэ стаяў, стаяў. Відаць, і мяне ён дагледзеў, што я яшчэ жывая... І як я не аказалася ў той момант?

Ляжала я, ляжала — ужо сцямнела. Ён мяне не дабіў. А так як хто жывы быў, то ўсіх падабіваў. Дзеці малыя пад трупамі падушыліся. Адна дзяўчынка была, то бацька потым нідзе на ёй раны не найшоў.

Тады ўжо гудуць машыны, едуць немцы... Я ўжо, мусіць, у вобмарак упала... Немцы ўжо сталі ад'язджаць, пішчаць свінні, куры крычаць, яны ўжо ловяць. І чую — нехта падышоў да трупаў і гаворыць... Мужчына адзін з сяла падыходзіць і кажа:

— Хто жывы, уставайце, немцы паехалі.

Бацька мой пазнаў яго па голасе, падняўся і кажа:

— Ну, я жыў.

І яшчэ адзін мужчына, Лявон Алізар. Дык бацька кажа яму:

— Ты ідзі дахаты, вазьмі хлеба, а я яшчэ пагляджу сям'ю сваю...

І ён пачаў глядзець. Кажа:

— Усе мае дзеці ёсць, адной толькі дзевачкі няма, шэсць лет, але яна не можа ўцячы, бо яшчэ дзіця.

Стаў ён глядзець, і я аказалася. Дык мне ўжо ногі перападаўлівала, усе косці... Людзей страляюць, а мне куля косці не зачэпіць, толькі мяса павырывае.



Косці на нагах відны былі, проста не магла хадзіць зусім.

Ну, і бацька мой гэтак абамлеў над гэтай горбай.

І тут прыбягае той Алізар. Бацьку траслі, мяне паднялі з тое горбы і панеслі ў лес. Я ўся ў крыві, як паставяць мяне на снег, дык ногі мае ўсе хістаюцца, мне ж іх пaперадушвалі, горба вялікая ляжала на мне.

Занеслі ў лес. Там хутары гэтыя былі, а людзі паўцякалі ў лес. Сядзелі, касцёр клалі. Угледзелі, што мы ўсе ў крыві, што мяне нясуць у крыві, нейкае дзіця... Яны ўсе паўцякалі.

І стаў на іх ужо гукаць бацька мой, што мы людзі свае. Так што мяне ўжо абсушылі. І бацька мяне адаслаў у Талькаўшчыну каля Слоніма, там у мяне цётка была. Ну што, яны мяне там нядзелю хавалі. Гэтыя раны ўсе паразгнойваліся... Страшна. Лячыцца не было чым.

Бацька мой пажыў трохі, а потым пасля вайны ад ран тых і памёр, гангрэна падпала ў нагу. А я гэтак і асталася. Мне тады, як білі, шэсць гадоў было, сёмы...»

Вёска Вялікая Воля знаходзіцца ў нізоўі Шчары, якая цячэ тут з поўдня на поўнач. Ад Вялікай Волі да Акунінава будзе больш за сотню кіламетраў, гэтая адлегласць паказвае на маштабы таго злачынства, якое паводле слоў Пятра Саўчыца з Гарадкоў называлася ў фашыстаў «акцыяй супраць партызан». У фашысцкіх справаздачах акцыя гэтая называлася псеўданімам «Гамбург», а тая, ля Акунінава і Баравікоў,— «Альтона».

У Вялікай Волі ацалела пяць чалавек дарослых і чацвёра дзяцей. Найбольш *паказальным нам здаўся расказ Івана* Іосіфавіча Павачкі. Гэты разважлівы і добры па натуры чалавек ужо неадной-чы сведчыў пра злачынствы акупантаў. *Яго паказанні ўключаны ў акт* Дзяржаўнай Камісіі Казлоўшчынскага раёна па ўстанаўленні і расследаванні злачынстваў акупантаў у 1941—1944 гг. і апублікаваны *ў асобнай кнізе. Там запратакаліраваны* агульны ход падзей і дзелавыя акалічнасці злачынства. Іван Іосіфавіч адзначыў тады, што 16 снежня 1942 года па *загаду нямецкага афіцэра па прозвішчу* Сзук была загнана ўся сялянская жывёла з Вялікай Волі ў мястэчка Казлоўшчыну. Неўзабаве ў вёску ўварваўся другі карны атрад фашыстаў, які сагнаў усіх жыхароў у адно месца і падзяліў іх на дзве групы, адну групу — 156 чалавек, сярод якіх знаходзіўся сведка, яго жонка і двое дзяцей, *карнікі прыгналі да кар'ера,* з якога раней да вайны бралі пясок пры будаўніцтве моста цераз Шчару. Карнікі загадалі людзям легчы і расстрэльвалі іх

— Нічога не чуў, як богу. Я сёння з ранку да сястры ў Дубровіцу быў падскочыў. Мужык на вайне, дзеці, як мак, дробныя. Падкінуў ім мяшок мукі. Прыехаў — і да вас...

— Зноў былі арышты. Узялі шасцярых.

Забела хмурнее. На шырокім чырванаватым твары разгубленасць і запытанне.

— Дык яны такі вінаваты?

— Цяпер сам чорт не разбярэ. Хачу запытацца ў вас, Панас Дзянісавіч. Ці ведаеце Ядрыцкую? Да вайны настаўніцай у школе рабіла. Хоць якая там настаўніца — па маляванню. Недзе там блізка ля вас жыве.

— Ведаю. Хто ж яе не ведае.

— Ну, і што вы скажаце?

— Сволач, Аўгуст Эрнэставіч, чыстая сволач. Боўтаецца, прабачце за слова, як г.... у проламцы. Мне адзін чалавек яшчэ перад немцамі гаварыў,— млынар папярхнуўся, зірнуў на бургамістра. Але міжволі зляцелае слова той прапусціў міма ўвагі.— Яна ж не адсюль, аднекуль з Украіны,— працягвае Забела.— То там, казаў, дзе раней жыла, сто вёдзер крыві выпіла. Нібыта тады,— млынар перайшоў на шэпт,— на людзей пісала.

Крамер усміхаецца.

— Ядрыцкая і на мяне пісала. Мінулай зімой. Нібыта пакрываю камуністаў. Тады яшчэ Швальбе быў. То я загадаў, каб ёй усыпалі.

— То што, зноў піша?

— Момант настаў. Усё гэтыя нарабілі, што паўцякалі. Яна, сцерва, нюхам чуе. Думае, цяпер у мяне сіла не тая. Але яшчэ паглядзім. Яшчэ на нагах стаю цвёрда. Да мяне не падкапаецца...

Болей пра арыштаваных бургамістр не лічыць патрэбным гаварыць, а Забела не дапытваецца. Рыпнулі весніцы, на двары пачуліся крокі. Праз нейкі час зноў нехта прайшоў міма завешанага акна і зноў ляснулі веснічкі. У пакой зазірнула Гертруда Паўлаўна. Не зважаючы на госця, паведаміла:

— Князеў быў. Начальнік паліцыі. Я сказала — цябе няма.

— Ладна, ідзі... Я, Панас Дзянісавіч, не каюся ў тым, што рабіў,— пачынае Крамер.— Іначай не мог. Сумленне маё чыстае. Гаварыў і гаварыць буду — сядзець трэба ціха. Вот зноў аб'явіліся партызаны, і вы думаеце, гэта давядзе да дабра? Не давядзе. Немцы тры вёскі спалілі, у Вербічах і людзей не пашкадавалі. А чаму? Вайна. А на вайне ваенныя законы.

— Яно то так, Аўгуст Эрнэставіч. Але з другога боку... Войны і раней былі...

— Я разумею вас, Панас Дзянісавіч. Мірнаму насельніцтву цяжка. Я і немцаў не хвалю. Яўрэяў знішчаюць. Ці вот жонак і дзяцей пастралялі... Чым яны вінаваты, што мужыкі ў лес пабеглі? Але што мы можам зрабіць? Хіба немцаў пераменіш?

— Дык жа і партызанаў, Аўгуст Эрнэставіч, не пераменіш. Будуць у немцаў страляць.

— То будзе нядобра, пане Забела. Могуць і да мястэчка дабрацца. Я не пра партызан кажу, пра немцаў. Тады не паглядзяць ні на вас, ні на мяне...



Іван Павачка.

з кулямёта. «Першая кулямётная чарга,— гаворыць Іван Павачка,— прайшла па галовах ляжачых, і быў смяротна паранены мой сын Міхаіл, а мне куля на левай руцэ адарвала сярэдні палец, а безыменны і мезенец раздрабіла. Мой сын паспеў сказаць: «Тата, мне баліць», і скончаўся» [1].

З другой групы, у сто трыццаць чалавек, ацалелыя расказвалі, што іх адлучалі па дванаццаць ды гналі ў лес і там расстрэльвалі.

Расказаўшы на нашу просьбу жахлівую гісторыю нанова, Іван Іосіфавіч згадзіўся нават завесці нас на месца расстрэлу і паказаў, як ён у той зімовы дзень ляжаў тут пад кулямётным агнём. Цяперашні расказ яго мы перадаем з усёй магчымай дакладнасцю.

Як і многія іншыя ацалелыя жыхары «вогненных вёсак», Іван Іосіфавіч пачаў гаворку з разважанняў пра фашысцкую версію барацьбы супраць партызан:

«...Немцы сабралі вялікую сілу на лясы. Партызанам яны нічога не зрабілі. І гэтай усёй нянавісцю нападалі на мясцовае насяленне.

Мы ўцякалі ў лес, зіма была. З дзецьмі. Ну, у лесе — не месца: мароз быў, холадна. Пайшлі мы ў вёску Капце. Заехалі немцы і кажуць: «Ідзіце дадому». Ну, мы, вядома, павінны былі ісці, бо тут усё пакінулі: і коней і каровы.

Прышлі мы дадому, сядзім, бачым — ідуць.

Сусед мой гаворыць:

— Дзень добры, пану.

А яны:

— Дзень добры, пане бандыце.

Разграбілі яны ўсё наша, забралі ўсю нашу скаціну. І чалавек пятнаццаць увялі з сабой у абоз.

Сядзім мы. Нікога няма. І не згледзелі, як награнулі немцы ізноў. У кожную хату заходзіць немец і наказвае нам, каб кожны на тры дні харчоў браў. «Мы вас вывезем». Хто паспеў што ўзяць, а хто і не паспеў.

Снег ляжаў, а аднаго старога вялі босага, без рубашкі і без шапкі.

Паставілі тут усіх нас на калені. Нас білі прыкладамі і таўклі нагамі, а мы прасіліся. І раптам пачуўся грукат цяжкіх машын. Прышло дзевяць машын, а ў машынах поўна немцаў. Па чалавек, можа, дваццаць, а, можа, і больш. Маладыя немцы, на галовы нацягнуты каскі.

З адной машыны вылез афіцэр, даў каманду, і нас павялі пад сільным канвоем. З правай стараны ехалі машыны, а з левай — ішлі немцы.

Не дахадзя да таго месца, спынілі, і трох немцаў пайшлі з кулямётам. Паставілі кулямёт на ўзгорачку, двох там засталіся, а трэці вярнуўся і махнуў рукою.

Прывялі нас у лагчыну, перад тым кулямётам, і сказалі лажыцца. Мы лажыліся, хто з кім. Ну, я лёг з сямілетнім хлопчыкам, трымаў яго на руцэ, прытуліўшы, а жонка з трохлетняю дачкою. Калі мы леглі — шапка з мяне звалілася, і я яе на галаву больш не клаў.

Немцы ад нас адышліся... Ага! — немцы адышлі ў сторану і заляглі кругом. А гэты немец, кулямёт каторага на ўзгорачку стаяў, узяў гэты кулямёт і падышоў да нас метраў на дваццаць. Там была яма, дзе нямецкая бомба ўпала. Улез ён у гэтую яму, укленчыў і паставіў на беразе ямы кулямёт. Тады немцы адышліся ад нас, і ён пацягнуў першую вочарадзь па нашых галовах.

Я як ляжаў на левым баку, так мне вот так па пальцах, а хлопчыку ў галаву. І ён яшчэ ўспеў толькі сказаць:

— Ой, тата, баліць!

А я гавару:

— Ціха, Мішка, не будзе балець.

[1] «Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии». Мінск, 1965, стар. 279.

Забела спалохаўся. Дыхаў перарывіста, па твары пайшлі чырвоныя пляміны.

— То што ж гэта?.. Тут жа вы і другое нямецкае начальства. Уласць. Што вы загадваеце, тое мы робім. За што ж страляць?..

Крамер падымаецца, нячутна тэпаючы мяккімі пантофлямі, ходзіць па пакоі.

— Немцы, каторыя жывуць тут, не зачэпяць ні вас, ні мяне, Панас Дзянісавіч. Можаце спаць спакойна. Але, думаеце, чаго прыходзіў Князеў? Ён у Піляцічах начальнікам паліцыі быў. Жыў, як цар. А тут, у мястэчку, яго бралі на службу звычайным паліцэйскім. Не захацеў, не пайшоў. Таксама гонар мае. Ходзіць да мяне і даказвае, што там, у Піляцічах, партызан мала. Нехта ж яму прыносіць звесткі. Самы час, даказвае, па партызанах стукнуць.

Забела маўчыць. У такія справы ён умешвацца не хоча.

— Князеў жа ходзіць не толькі да мяне, а і да жандараў,— працягвае бургамістр.— Расказвае пра партызан. І такіх, як ён, многа. Тыя, што паўцякалі ў мястэчка, баючыся партызан, хочуць вярнуцца ў свае сёлы, у свае хаты. Бог ведае, што яны нагаворваюць немцам. А тыя ставяць кружочкі на карце. Вы не ведаеце, Забела, нашто немцам карта з кружочкамі?

— Не ведаю,— аднымі губамі выдыхае Забела.

— А я ведаю. Я бачыў тую карту. Нашы мясцовыя немцы тых кружочкаў баяцца. Лічаць, што ў партызан — незлічоная сіла. У страха вочы вялікія. Таму з мястэчка нашы немцы нікуды не палезуць. Але могуць паявіцца другія.

Больш ён не аказаўся.

Пяць вочарадзей выпусцілі. Мне папала ў правую нагу, абпаліла мне падошву і так прарэзала нагу. Сільна мне балела. Варушу — варушыцца, але боль — не вытрымаць. Усё роўна як крапівою мне хто па пальцах.

Пасля сталі дабіваць, хто стагнаў. Увесь мой твар быў абліты кроўю, і вельмі з мяне дух гнала. Падышоў немец, нагою мне ўдарыў у галаву — галава мая так зашаталася, але я вачэй не расплюшчыў.

Сталі самі засыпаць зямлёю. Зямля была мёрзлая, груды гэтыя, пясок. Паабівалі мне твар...

А за плячыма ў мяне ляжаў,— гадоў можа яму шаснаццаць,— хлопец. Ён нідзе ранены не быў. Усхапіўся на ногі і просіцца:

— Паночкі, не беце мяне! Забілі маю мацеру і сёстры, пусцеце мяне жывога.

Яны штo-та па-нямецкі, што-та паміж сабою пагаварылі, раздаўся выстрал з пісталета, і ён мёртвы ўпаў на мяне.

Пяску нямнога насыпалі, і я стаў душыцца. Думаю, буду вылазіць, хай дабіваюць, бо цяжка вельмі душыцца. Увесь мокры, як з рэчкі. Раз прыпадняўся, потым другі раз, і ўжо я беспрытомны. Потым неяк напружыўся — ну, тады я быў сільны, малады — прыпадняўся, тыя груды расхіліся, і мне стала лягчэй дыхаць.

І ляжу я, слухаю, не чутна, каб кідалі... Колькі ляжаў — не ведаю. Потым яшчэ паварушыўся, высадзіў твар і чую — ужо ў тым канцы стрэлы чутно. Паляжаў я, пакуль сцямнела. На нogі не ўздымаўся, і гавару:

— Уставайце, хто жывы. Немцаў ужо няма, пайшлі.

Ніхто не аказаўся. Нас было тут, у гэтым канцы вёскі, сто пяцьдзесят душ, а толькі я адзін застаўся... Парваў на сабе рубашку, абкруціў рану і пайшоў у лес...

У лесе я праляжаў трое сутак. «Ну, думаю, пайду ў дзярэўню Капце, калі заб'юць, хто-небудзь зямлёю прысыпле, бо як у лесе памру, то звяры косці толькі будуць цягаць. Прышоў я рана ў вёску Капце і не пазнаў яе — яна мне ўжо перамянілася, зусім другою стала. Ведаю я, што тут Капце, сабакі брэшуць з Малой Волі, але Капцёў не пазнаю. Пастаяў я і зноў пайшоў у лес.

Потым знайшоў я нашых, каторыя паўцякалі з Казлоўшчыны, сустрэліся мы з імі. Прышлі мы з суседам у Капце, і там я ўжо астанавіўся.

Лёг я ў Віктара Касача і праляжаў шэсць дзён. Потым Копаць Аляксей, які



— Якія другія, Аўгуст Эрнэставіч?

— Вайсковыя часці. Думаеце, немцы будуць спакойна глядзець, як партызаны кожнага дня ўзрываюць чыгунку? Чыгунка ж фронту служыць. Збяруць кулак, ды так стукнуць, што юшка пацячэ. Мястэчку тожа пападзе на арэхі. І я нічым не памагу.

Забелу як перахапіла дыханне. Некалькі хвілін маўчыць, выцірае скамечанай насоўкай лоб. Крамер садзіцца на канапу, зноў дастае з шуфлядкі бутэлечку і глытае дзве пілюлі. Запівае вадой, цяпер ужо наліваючы з графіна ў шклянку.

— Я вот вам што скажу, Аўгуст Эрнэставіч,— набіраецца духу Забела.— Вы з самага пачатку гаварылі правільна. І рабілі правільна.

— А хто мяне слухаў! — нечакана ўзрываецца бургамістр.— Чым я правініўся перад тымі, што ў лес збеглі! Я Адамчуку і Альшэўскаму жыццё выратаваў, а яны што? Слухалі, паттаквалі, а як прыйшлося, то ў шапку Крамеру налажылі. Цяпер ворагам лічаць — сем'і не ўратаваў. Ці ж можна далей так жыць? Я прывык верыць людзям, а яны на мяне камень за пазухай насілі.

— Не ўсе такія, Аўгуст Эрнэставіч. Народ, які жыць хоча, работу мець, вас паддзержыць. На такі народ трэба апірацца.

— А ў тых сёлах, дзе цяпер партызан поўна, хіба не народ?

— Што ж ты зробіш? На тое вайна. На чыім возе едзеш, таму і песню спявай. Прыйдуць у хату з вінтоўкай, то не прагоніш. Трэба к жыццю прымярацца. Я яшчэ вам скажу, Аўгуст Эрнэставіч... Фронт у немцаў, чутно, не вельмі моцны. Усё яшчэ можа быць. А народ, ён ніколі не падвядзе...

служыў кагда-та ў польскай арміі санітарам, зрабіў мне перавязку...»

Прайшло больш за дваццаць пяць гадоў паміж тым першым, запратакаліраваным, і вось гэтым, запісаным намі на магнітафонную стужку, расказам Івана Павачкі, але час не сцёр у памяці расказчыка вогненных і свінцовых слядоў. У расказе 1971 года Іван Іосіфавіч дапоўніў інфармацыю разважаннем пра псіхалагічныя стымулы лютасці карнікаў: яны, мяркую, не змаглі разбіць партызан і «з гэтай нянавісцю» ўзяліся помставаць на мірных жыхарах. Можна хіба толькі дадаць, што для асаблівай злосці ў акупантаў былі ў тую пору і іншыя прычыны: неўзабаве была замкнута ў кацёл абкружэння армія генерала Паўлюса пад Сталінградам. Гітлераўскую дзяржаўную, партыйную і вайсковую сістэму пачынала ліхаманіць. У канцылярыі рэйха рыхтавалася распараджэнне, якое ўступіць у сілу 27 студзеня 1943 года, паводле яго ўсе мужчыны ва ўзросце ад 16 да 65 гадоў і жанчыны ва ўзросце ад 17 да 45 гадоў былі абавязаны прыбыць на зборныя пункты для накіравання іх на розныя абаронныя прадпрыемствы. А розныя фарміраванні карнікаў актывізавалі сваю злачынную дзейнасць менавіта ў моманты паражэнняў нямецкіх войск на франтах і завастрэння тэрарыстычных мер у самой Германіі.

Селянін з глухой лясной вёскі не мог знаць, што 11 снежня 1942 года галоўнае камандаванне фашысцкай арміі выдала спецыяльны сакрэтны дакумент «Аб барацьбе з бандамі партызан на Усходзе», у 83 пункце якога рэкамендавалася: «У абыходжанні з бандытамі і іх добраахвотнымі памочнікамі праяўляць крайнюю жорсткасць... Сама жорсткасць мер і страх пакарання павінны ўтрымаць насельніцтва ад дапамогі бандам». Праз шэсць дзён услед за гэтай інструкцыяй начальнік генштаба вермахта Кейтэль выдаў загад. У пункце першым гэтага загада генерал напісаў, што прытрымлівацца міжнародных пагадненняў і прынятых звычаяў вядзення вайны — не трэба. «Гэтая барацьба не мае больш нічога агульнага з салдацкім рыцарствам або палажэннямі Жэнеўскай канвенцыі... Войскі праваўмоцны і абавязаны без усякіх абмежаванняў выкарыстаць у гэтай барацьбе любыя сродкі, у тым ліку супраць жанчын і дзяцей, абы гэта прынесла поспех»[1]. Другі пункт: «Ніводзін немец,

[1] «Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии». Мінск, 1965, стар. 43.

Зноў выбухае гневам бургамістр. У яго голасе ашаломленаму млынару чуюцца раптам жалезныя ноткі.

— Дык што, Забела, і вы бальшавікоў чакаеце? Не думаў, не думаў! Хоць у чужую душу, як кажуць, не залезеш. Але ведайце — не вернуцца бальшавікі! Германія не такая слабая. Тое, што заваяваў нямецкі салдат, ён ужо не аддасць. Запомніце гэта цвёрда, Забела!..

— Мы людзі маленькія. У паліціку не мяшаемся. Хлеб мелюць пры ўсякай уладзе.

Крамер адразу адчуў, што перабраў. Крыўдзіць млынара яму не хочацца. Усё-такі памагаў чалавек і шчыра спрыяў у самую цяжкую часіну, з бяды выручаў. А з гэтай яўрэйкай яны наогул адной нітачкай звязаны.

Сумеўся і Забела. Ён ужо дакарае сябе, што не думаючы ляпнуў пра фронт. Крамер ўсё-такі немец, і яму непрыемна чуць, што на фронце ім накруцілі хвост. Прыйдуць ці не прыйдуць бальшавікі, відно будзе. Але пакуль улада нямецкая, трэба ўмець дзяржаць язык за зубамі.

Нібы ў тон млынаровым думкам, бургамістр прымірэнча гаворыць:

— Не крыўдуйце, Забела, што накрычаў на вас. Служба такая — крычаць прыходзіцца. А балбатня пра фронт дорага каштуе. Тых шасцярох, думаеце, за што забралі? Збіраліся ў адваката Быліны, шапталіся, пра фронт тары-бары разводзілі. А Ядрыцкая падслухала.

— Ды няўжо ж, Аўгуст Эрнэставіч, такой сцерве верацъ?

— Думаеце, жандары дурні? У іх — па закону. Пазвалі Былінаву жонку, прыстрашылі, прыціснулі — пацвердзіла.

які ўдзельнічае ў барацьбе з бандамі партызан, не павінен быць прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці або пастаўлены перад ваенным і палявым судом...» [1].

Івану Павачку, вопытнаму пажылому чалавеку, усё ж такі інтуіцыя падказала слушна — карнікам наперад дароўвалася ўсё. Яны аказаліся няздольнымі пабіць сапраўдных партызан і пад выглядам партызан білі жанчын, дзяцей, старых.

У архівах захавалася «Паведамленне № 38» паліцыі бяспекі і СД аб выніках карных экспедыцый «Гамбург» і «Альтона» ў раёнах Баранавіцкай і Брэсцкай абласцей ад 22 студзеня 1943 года. Непасрэдныя верхаводы карнікаў выхваляліся перад вышэйшымі інстанцыямі сваімі «подзвігамі», выдавалі забітых мірных жыхароў за партызан. Вось два ўрыўкі з «Паведамлення».

«...Аперацыя «Гамбург» у раёне гор. Слоніма.

Гэтая аперацыя была адною з найбольш паспяховых аперацый, праведзеных да гэтага часу ў Беларусі. Дадзеныя разведвальнай каманды паліцыі бяспекі і СД былі такія дакладныя, што ўдалося выявіць кожны лагер. У шматлікіх баях было забіта 1676 партызан. Затым было расстраляна западозраных у сувязях з партызанамі 1510 чал... Былі захоплены шматлікія трафеі, у тым ліку 4 браневікі і 8 супрацьтанкавых ружжаў, велізарная колькасць жывёлы і збожжа.

У населеных пунктах, размешчаных у раёне аперацыі, акрамя таго, было знішчана 2658 яўрэяў і 30 цыганоў.

Страты немцаў склалі 7 забітых і 18 раненых.

Аперацыя «Альтона» ў раёне Косава — Бытаня.

Гэтая аперацыя была праведзена з мэтай разгрому вялікага партызанскага атрада, які прарваўся на поўдзень пасля аперацыі «Гамбург»... Партызаны страцілі забітымі 97 чалавек. Потым у гэтым раёне было расстраляна 785 чалавек, западозраных у прыналежнасці да партызан, 129 яўрэяў, 24 цыганы. Захоплены значныя трафеі: жывёла і прадукты харчавання, зброі і боепрыпасаў захоплена невялікая колькасць» [2].

На самай справе ў раёне Слоніма карнікі нават не сутыкнуліся з партызанскім атрадам. Карнікі напалі на вёскі знянацку, і перашкодзіць іх злачыннаму разбою партызанам не ўдалося, яны змаглі толькі заапекавацца ацалелымі людзьмі. Але

[1] «Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии». Мінск, 1965 г., стар. 56.
[2] Там жа, стар. 71.



Прымірыўшыся, палагаднеўшы адзін да другога душой, прагаварылі яшчэ парадкам.

Забела ўстае, памыкаецца ісці, але Крамер не пускае. Не памагае і тое, што раз-пораз не надта ветліва адчыняе дзверы Гертруда Паўлаўна. Выбраўся ад бургамістра млынар толькі пад поўнач.

Ноч — пакута для Аўгуста Эрнэставіча. Бадай, не спіць з таго часу, як заварылася каша з уцекачамі. Тады, калі толькі яго паставілі бургамістрам, ён не спаў, бо, навошта грэх таіць, баяўся партызан. Цяпер не баіцца. Не палезуць яны на мястэчка, дзе салдаты, кулямёты, вайсковая сіла. Ёсць штосьці другое.

Аўгуст Эрнэставіч доўга ляжыць з адкрытымі вачамі, перабірае ў памяці ўсе хоць трохі прыкметныя праявы ў паводзінах уцекачоў і прыходзіць да вываду, што сваё партызанства яны задумалі даўно. Бадай, яшчэ з лета. Па астатніх не надта відно было, а наконт Лубана, калі б глыбей глядзець, льга было прадбачыць. Хадзіў невясёлы, хмурны, пра ўласны дабрабыт не дбаў, вельмі часта пярэчыў яму, бургамістру. Тады ужо тачыў яго чарвяк нездавальнення. Дый астатнія, калі ўдумацца, размоў пра палітыку не любілі, нямецкім перамогам не радаваліся...

Ва ўсёй гэтай гісторыі Аўгусту Эрнэставічу незразумела: чаму Лубан і астатнія пакінулі ў мястэчку сем'і? Хіба не ведалі, што іх тут чакае? Ведалі. На свае вочы бачылі, што робяць немцы з такімі сем'ямі. То на каго ж спадзяваўся Лубан і яго хаўруснікі? На яго, Крамера? Таксама смешна. Лубан — не дурань і разумеў, што ён, бургамістр, не ўсемагутны і што ёсць сілы, вышэйшыя за яго.

крывавыя рэпрэсіі не стрымалі народнага партызанскага духу, не падарвалі яго сувязі з насельніцтвам.

Сёння нават рэваншысты лаюць Гітлера і яго спадручных, лаюць яго і генералы: выгадна скідаць на мёртвага фюрэра адказнасць за масавыя злачынствы, якія тварылі многія, і сёння яшчэ жывыя, фашысты. Праўда, найбольш прадбачлівыя рэваншысты і антыкамуністы, відаць, разумеюць малую дзейснасць такога прапагандысцкага прыёму, як адрачэнне ад скампраметаванага фюрэра. Замест індывідуальна-псіхалагічных міфаў пра дэманічнасць Гітлера і гітлераўцаў прыдумваюцца міфы ўніверсальныя, дзе ваенныя злачынствы фашыстаў аб'яўляюцца непазбежнымі, як стыхійныя бедствы, спадарожнікамі сучаснай вайны. Генерал у адстаўцы Хасо Мантэйфель у заключным артыкуле кнігі «Вынікі другой сусветнай вайны», напісанай групай вайсковых спецыялістаў і выдадзенай у 1953 годзе ў Гамбургу, сцвярджае, што адной з асноўных рыс сучаснай вайны з'яўляецца: «...Адмаўленне розніцы паміж ваюючымі войскамі і цывільным насельніцтвам як у адносінах удзелу ў баявых дзеяннях, так і ў адносінах небяспекі, якой яны падвяргаліся,.. выкарыстанне баявых сродкаў не так для знішчэння жывой сілы і тэхнікі праціўніка, як для знішчэння яго вайсковага патэнцыялу, зусім незалежна ад таго, ці ідзе пры гэтым гутарка пра матэрыяльныя каштоўнасці ці пра саміх людзей» [1].

Далей генерал пускаецца ў маральна-філасофскія летуценні, з уздыханнямі:

«На гэта можна скардзіцца, гэтым можна абурацца, спасылацца на розныя патрабаванні этыкі, звяртацца з заклікannем да рыцарскага духу мінулых войнаў, можна, нарэшце, рабіць прагнозы аб пагібелі чалавецтва, але ў абліччы сучаснай вайны ад гэтага нічога не зменіцца» [2].

Адным словам, вайна, па ўяўленню гэтага генерала, спісвае ўсе злачынствы супраць чалавечнасці. Сааўтар генерала, спецыяліст па ваеннаму праву Ганс Латэнзер у той жа кнізе імкнецца апраўдаць фашысцкіх ваенных злачынцаў, заяўляе, што ўзяцце заложнікаў або забойства нявінных людзей не пярэчаць якім-небудзь міжнародным пагадненням, як і ўвогуле ўсім законам і звычаям вайны. Зверствы фашыстаў на савецкай зямлі гэты знаток закона называе лацінскім тэрмінам «рэпрэсаліі» ды заяўляе, што іх высокая ступень «была абумоўлена тым,

[1] «Итоги второй мировой войны». Масква, 1957, стар. 615.
[2] Там жа.

Прыняўшы да ўвагі ўсе акалічнасці, Аўгуст Эрнэставіч прыходзіць да думкі, што трывалай сувязі з партызанамі ўцекачы не мелі. Хутчэй за ўсё не ведалі, як іх прымуць партызаны. Яны ж, як і ён сам, фактычна засноўвалі нямецкую ўладу ў мястэчку і ў раёне. Лубан дык нават чырвонаармейца застрэліў увосень сорак першага. І нягледзячы на гэта, адважыўся павініцца, прасіць у партызан літасці...

Менавіта ад гэтага Аўгусту Эрнэставічу робіцца страшна. Як жа трэба ненавідзець немцаў, каб пайсці на такі крок! Лубана ж і партызаны маглі расстраляць, а ён пайшоў да іх, схіліў галаву. Мабыць, звязана з гэтым і рашэнне аб сям'і. Лубан не ведаў, ці будзе жыць сам. Аб сям'і таму не думаў. Каб партызаны яго расстралялі, немцы тады не зачапілі б сям'ю.

Памятны ліст, дзе Лубан прасіў паклапаціцца аб пакінутых у мястэчку сем'ях, прынеслі на трэці дзень. Значыць, партызаны не расстралялі ўцекачоў, прынялі. Аўгуст Эрнэставіч занёс ліст у жандармерыю. Іначай зрабіць не мог.

Ход бургамістравых думак раптам ідзе ў другім кірунку, усю яго істоту захліствае нястрымная злосць. Не, ён проста міндальнічае, калі шукае апраўдання Лубану і астатнім. Звычайныя шкурнікі і прыстасаванцы. Калі б у немцаў справы на фронце ішлі лепей, яны нікуды не пабеглі б. Дагаджалі б яму, бургамістру, лавілі б кожнае слова. Лубан усё-такі прыхапіў з сабой старэйшую дачку. Ведаў, чым усё пахне.

Зноў Аўгусту Эрнэставічу робіцца страшна. Свет звар'яцеў. Усе ранейшыя ўяўленні перавярнуліся, звяліся на нішто. Змалку лічыў ён, што сям'я — аснова жыцця, болей за ўсё чалавек павінен шанаваць сям'ю. Немцы робяць на гэтым палітыку, караючы за злачынства не каго-небудзь аднаго з сям'і, а яе ўсю. Таксама вар'яцтва. Малалетнія дзеці, нават жонка, могуць і не ведаць таго, што замысліў гаспадар. Чым тады яны вінаваты? За што іх страляць?..

Раней людзі, апранутыя ў вайсковую форму, не расстрэльвалі жанчын, дзяцей. СС, СД там, у Германіі, мабыць, спецыяльна для гэтага і прыдуманы. Але паляць вёскі разам з жыхарамі не толькі эсэсаўцы, а і звычайныя салдаты, тыя, якія павінны ваяваць на фронце. З другога боку, хіба была калі-небудзь такая вайна? Хіба шкодзяць немцам адны толькі мужчыны?..

Ён, Аўгуст Эрнэставіч, каб ведаў, што немцы будуць вытвараць такое, ніколі б не згадзіўся стаць бургамістрам. Няхай бы каралі, расстрэльвалі. Мінула якіх-небудзь дваццаць з лішнім гадоў, калі ён бачыў салдат кайзера Вільгельма, а як усё перамянілася. Другой стала Германія...

Аўгуст Эрнэставіч уздыхае, варочаецца з боку на бок, але заснуць не можа. Даўно бачыць сны жонка, і яе перарывістае храпенне даносіцца аж праз дзве сценкі. У гэтыя хвіліны Аўгуст Эрнэставіч яе проста ненавідзіць. Сытая кабыла. Лічыць сябе начальніцай, першай дамай і ні аб чым болей не дбае.

Цяжкім мядзведзем зноў навальваюцца чорныя думкі. Свет перавярнуўся, але штосьці сталае, цвёрдае ў ім засталося. Лубан і іншыя ўцяклі ў лес, бо яны помняць Радзіму. Яны ведалі, што яна можа спытаць, чым яны займаліся, чым памагалі ёй у цяжкую часіну?

што ўлады антыгерманскага блока арганізавалі на акупіраваных немцамі тэрыторыях моцны нелегальны рух супраціўлення» [1].

Крытыкуючы Гітлера і яго падручных, накшталт Эрыха Коха, сучасныя рэваншысты не асуджаюць ні мэт, ні сродкаў, якімі карысталіся гітлераўцы. Гітлераўскіх гадаванцаў засмучае толькі недастатковая эфектыўнасць людаедскіх прыёмаў.

Усё гэта зразумела, бо нацызм спарадзіў не Гітлер па сваёй прыхамаці, а фашызм спарадзіў Гітлера. Фашызм — не плод «дэманічнай» натуры фюрэра, ён плод імперыялізму, уласніцкіх грамадстваў, якія захворваюць на нацыяналістычнае азвярэнне.

## «Я ТАКСАМА З ВОГНЕННАЙ...»

Успаміны людзей, якія тут прагучалі і будуць зноў і зноў гучаць, мы збіралі тры гады. А збіраць паехалі тры дзесяцігоддзі пасля саміх падзей.

[1] «Итоги второй мировой войны», Масква, 1957, стар. 559.

Што ж яны такое — гэтыя людскія ўспаміны, расказы, запісаныя на магнітафонную стужку, калі мінула ўжо столькі часу? Наколькі гэта дакумент? І які гэта дакумент?

Мы не баімся самі задаць такое пытанне, бо нам, хто бачыў, чуў усіх гэтых людзей,— вельмі розных і ў той жа час у нечым вельмі падобных,— нам адказ вядомы.

Так, гэта дакумент. Псіхалагічны, сацыяльны. І не толькі дакумент таго, як сёння, у 70-я гады, народ памятае вогненныя Хатыні, аднак і надзвычай важкі дакумент аб праўдзе саміх падзей. Хоць і прайшло з тых часоў больш за чвэртку стагоддзя.

Праўда гэтых расказаў перш за ўсё псіхалагічная. Што і як было з ім самім, як адчуваў, успрымаў, бачыў тое ён сам — чалавек помніць настолькі дакладна, што праўда гэтая не толькі пераконвае цябе, але гучыць часамі проста невыносна. Настолькі зблізку глядзіць памяць на тыя жудасныя падзеі і набліжае да цябе іх так раптоўна, адразу, такім «буйным планам», што сам ты робішся нібы сведкам — не слухачом толькі, а сведкам падзеі...

«Я не з гэтай, але таксама з вогненнай...» — пачулі мы на Віцебшчыне, у Шумілінскім раёне. Жанчына гаварыла пра вёску, але ж і пра памяць: **вогненная!**

Псіхалагічная праўдзівасць гэтых расказаў — немалая гарантыя і ўсякай іншай дакладнасці, фактычнай таксама. Тут магчымы, вядома, і памылкі, правалы памяці (калі што адбывалася, прозвішчы людзей, паслядоўнасць падзей). У такіх выпадках мы стараліся ўдакладняць расказы, супастаўляючы іх, адшукваючы інфармацыю ў мясцовых музеях, у дакументальнай літаратуры,— пакуль у саміх не ўзнікала ўпэўненасць: іменна так разгортваліся падзеі.

Неяк былыя партызаны расказалі нам, як на шашы Магілёў — Бабруйск была знішчана група карнікаў. Тых самых эсэсаўцаў, што забілі ў Борках тысячу васемсот мірных жыхароў.

Ананіч Аляксей Андрэевіч:

«Было іх так чалавек шэсцьдзесят. Эсэсаўцы. Але што характэрна — характэрна было тое, што калі мы бралі іх штыкі, то яны былі ў крыві. Гэта была адна з груп, што ўчаствавалі ў Борках».

Ананіч Іван Сяргеевіч:

«Возьмеш іх вешчмяшок, дык там дзіцячае барахло было. Дажа вынімалі іх гэтыя фінкі, дык у крыві былі. Яны людзей прыразалі і кідалі ў агонь».

На магнітнай плёнцы засталіся нашы настойлівыя (можа, часамі нават і занадта) пытанні: як яно ўсё-такі было, як адбывалася? Эсэсаўцаў было шэсцьдзесят, партызан — сто з нечым, ды з засады — можна было знішчыць фашыстаў, нават нікога не страціўшы. Аднаго толькі партызана паранілі. Але ж, як мы даведаліся пазней, той бой пачаўся не зусім удала.

Ананіч Іван Сяргеевіч:

«...Не даехалі машыны метраў пяцьсот — некаторыя нашы сталі патроны заганяць у патроннікі. І нячаянна адзін партызан выстраліў. Немцы пачулі выстрал. Яны спешыліся, шафёр адкрыў дзвёрку і паціхонечку ехаў. А немцы па кувеце ідуць...»

Пры такіх акалічнасцях ды такі бяскроўны для партызан бой? Ці не легенда гэта трохі? Шчыра кажучы, мы засумняваліся, што ўсё тут дакладна.

— А колькі іх было ўсіх?

— Іх, гавораць, чалавек шэсцьдзесят было.

— Усіх пабілі?

— Усіх.

— А машын колькі?

— Тры, здаецца.

А дзе Радзіма яго, Крамера?.. Раней ён лічыў, што тут, на гэтай зямлі, у якой пахаваны косці яго бацькі, дзеда. Цяпер сам не ведае. Ведае адно: калі немцы фронт не ўтрымаюць, ён тут не астанецца. Многа, вельмі многа стала такіх, хто лічыць яго, Крамера, ворагам...

Позна. Мабыць, даўно за поўнач. Дзесьці далёка пачуўся глухі стрэл. Аўгуст Эрнэставіч устае, босы тэпае па падлозе, вобмацкам адчыняе шуфлядку стала. Супакоіўшыся ў гаворцы з Забелай, думаў абысціся на ноч без снатворных парашкоў. Ад іх назаўтра цэлы дзень цяжкая галава. Ды дзе там абыдзешся...

Аўгуст Эрнэставіч задзірае галаву, стукаючы пальцамі па паперцы, глытае саладкаваты парашок, запівае вадой з графіна. Кладзецца ў ложак і, паступова супакойваючыся, правальваецца ў цёмную бездань.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

### I

Сінее надвячорак. За акном цёмная падкова хвой. Між імі, як у вянку, стаіць партызанская вёска Сасновіца. Бярэцца на вясну — дні прыкметна падоўжалі, са стрэх павіслі празрыстыя суслы — яны час ад часу зрываюцца і звіняць, разбіваючыся, як шкляныя. Днём пануе ў паветры чыстая, ясная празрыстасць. Прадвесне і пачынаецца з такой чысціні. У соснах — густы, аднастайны пошум. Каторы дзень веюць над Палессем цёплыя, заходнія вятры, з'ядаюць пакрысе снег, прыкметнай чарнатой адзначаюць дарогі.

— Дык вы ўсіх і пабілі, і машыны спалілі?

— Так. У нас адзін ранены быў толькі.

— Яны, мабыць, не ўсе па гэтай дарозе пайшлі, бо Боркі вельмі ж вялікія і немцаў больш прыязджала?

— Так, можа, на Магілёў пашлі часць. А мы ляжалі ў сторану Бабруйска.

Потым, распытаўшы добра яшчэ людзей, мы ўпэўніліся, што так і было: сапраўды, на дзіва ўдала правёў бой Аркадзь Анцюх, які камандаваў партызанскай ротай. Усё так і адбывалася, як расказваюць Ананічы, Аляксей і Іван.

Працягвае расказ Іван Сяргеевіч:

«...Аддае загад: зрабіць не простую засаду, а трымаць сапраўдны франтальны бой. Агню ў нас, мы адчуваем, хопіць — мы рашылі прыняць бой. Для гэтага мы размясцілі роту буквай «Г». А самаму правафланговаму ўзводу камандзір даў каманду: як толькі завяжацца бой, перасякаць шашу і — цэп'ю, для таго, каб лягчэй было расправіцца...

Ну, завязаўся бой. Адтуль нашы ўжо сталі перабягаць, каб абкружыць, але — тут біў кулямётчык нямецкі. Я перабег у канаву, дзе немцы, і пакуль падбеглі нашы — развярнуўся і ўбіў кулямётчыка і другога номера таксама, і тут жа, у гэты момант, мне ў нагу ўдарыла... Я сеў, пакуль мяне перавязалі, прайшло пяць мінут, і бой быў закончаны. Рабята падбеглі і змялі іх, літаральна за пяць мінут...»

Вядома, так дапытвацца пра ўсе абставіны, «муштраваць» (хай яны нам даруюць!) мы маглі па-сяброўску толькі хлопцаў-партызан. Удакладняць расказы жанчын ці старых, што прайшлі праз усе тыя жахі, не станеш вось такім «адкрытым спосабам». Тут ужо мы стараліся апытаць як мага больш людзей, спецыяльна звяртаючы іх увагу на той ці іншы факт (дату, колькасць ахвяр, прозвішчы, паслядоўнасць падзей і г. д.), шукалі матэрыялы ў мясцовых музеях, глядзелі дакументы ў райкомах і райвыканкомах.

Але гэта — што датычыцца «знешніх фактаў». Пра тое ж, што чалавек сам перажыў, адчуў, што ён рабіў і што з ім нелюдзі выраблялі — пра тое вам Тэкля Круглова ці Вольга Мініч так і такое раскажуць, што іх успамінамі можна ўдакладняць многае. І ўжо не ў маштабах вёскі ці раёна, ці нават усёй Беларусі. Цэламу свету маюць што сказаць яны — гэтыя жанчыны.

Жывуць сярод іншых, сённяшніх людзей — таксама сённяшнія, тыя, каго мы шукалі, ездзячы з вобласці ў вобласць,



У адным месцы сцяна хвой разрываецца, і нават адсюль, з акна, відаць лапік цёмнага кустоўя, хмызняку, а за імі аж да наступнага лесу — аснежаны палявы прасцяг, ахутаны полагам перадвясенняй сінечы. Там, за полем, за лесам, другія вёскі, паселішчы, лясныя абшары.

Пачаў церусіць дробны сняжок.

Як толькі ў штабную хату, гучна затупаўшы на ганку, уваліліся Петравец і Лісавенка — камандзір і камісар Дамачоўскага атрада, абодва ў чорных дублёных паўкажушках, у добрых хоць і самаробных ботах, Вакуленка ўскочыў з ложка, на якім спаў ці прыкідваўся, што спіць, і, нават не павітаўшыся, размашыста закрочыў па пакоі. Нагнятаў у сабе злосць. Рослы, шырокі, з адвіслай ніжняй сківіцай, шырокім барвовым тварам, ён нагадваў у гэтую хвіліну раз'юшанага мядзведзя, якога не ў пару падымалі з берлагу.

Бондар сядзіць пры стале, прыводзіць да ладу паперы. Дарошка, яго памочнік па штабе, укленчыўшы на падлозе, налівае з бліштастага бітончыка ў бляшаны магазін лямпы запраўлены соллю бензін.

— Ну што, начальнікі, даседзеліся? — раўнуў Вакуленка, на хвіліну спыніўшыся насупраць пакоя.— Цёпла спалі, смачна елі. А атрад дзе? Анархію разводзіце? Калі пацвердзіцца тое, аб чым вот тут напісана,— Вакуленка рвануў з нагруднай кішэні сіняй, вайсковага фасону суконнай гімнасцёркі шматок паперы,— абодвух да сценкі! Зразумелі?..

— Мы не вінаваты, Адам Рыгоравіч,— спакойна адбівае наскок Петравец, паказаўшы тым самым, што ведае, аб чым пойдзе гаворка.—

з раёна ў раён, з вёскі ў вёску... Па спісах абкомаўскіх, аблвыканкомаўскіх, потым — па райкомаўскіх і райвыканкомаўскіх, а далей — па жывому ланцужку чалавечай памяці: назваў чалавек факт, прозвішча, вёску — едзем туды, а там — новы ланцужок да іншых фактаў і людзей, якія, можа, нідзе, ні ў якіх паперах і не абазначаны. Ланцужок гэты вядзе да ўсё новых і новых людзей, успамінаў трагедый, чалавечага болю і жорсткасці нелюдзяў — адразу перакідаючы цябе, а разам з тым і сонца, і вуліцу з дзіцячымі тварыкамі і галасамі, і дамы, і лес, і дарогу — туды, за тры дзесяцігоддзі назад...

Вось спыніўся наш газік сярод пясчаной, занадта нейкай шырокай вуліцы. Пасля пажараў і ад пасляваеннага бязлюддзя ўзнікла такая планіроўка. Трэба распачынаць гаворку з жанчынамі, што па-нядзельнаму сядзяць каля старых, яшчэ даваенных, бяроз. Тут, вядома, і дзеці круцяцца; не вельмі многа іх сёння ў вёсках.

Па-рознаму ў розных умовах пачынаем размову — найчасцей адразу з тлумачэння, чаго мы ездзім па іх мясцовасці.

— Ой, успамінаць гэта ці лёгка!

— Яшчэ адзін толькі раз раскажыце,— пераконваеш чалавека, як прабачэння просіш,— мы запішам, надрукуецца гэта, хай людзі ведаюць...

Але часам адцягваем такую размову надалей, бо самім хочацца звычайнай, сённяшняй гутаркі, каб і сонца сённяшняе заставалася, і смех, і галасы дзіцячыя не зніклі...

Пачынаеш з іншага, здалёк:

— Гэта — Пагулянкі? І цяпер так вёска ваша называецца? Мабыць, вясёлыя людзі былі дзяды і бабкі, што так назвалі.

— А чаму ж! А мы хіба сумныя?

Ну вось, мы нечакана самі сабе ўскладнілі задачу. Цяпер паспрабуй перайсці да **таго.**

— У вайну ў вас тут...

І жанчыны, быццам і тону не мяняючы, гучна — пра тое, што «было, а як жа, хапіла ўсім!» Але ўжо некалькі твараў як бы аддзяліліся ад астатніх. Гэта заўважаеш адразу. Найперш вочы бачыш — спыненыя на нечым там, у мінулым...

Жыве чалавек, як усе, у многіх і сем'і новыя, і дзяцей часам шмат,— але ўжо другіх, таксама «новых». Не, не абавязкова твары іхнія, вочы гэтыя будуць сумныя ці строгія (хоць такіх большасць). На некаторых трымаецца нейкая незразумелая ўсмешка, якой сам чалавек, здаецца, і не адчувае. Не, чалавек зусім

Сігналы ёсць і ў нас. Але што мы можам зрабіць? Загад ісці за Пціч быў падпісаны вамі. Мы і ў Паўла Антонавіча пыталіся.

— Ты Бондара не мяшай. Ён тады начальнікам штаба не быў.

— Я не пра тое. Мы прыязджалі прасіць помачы. Пыталіся, што рабіць з тымі, хто не хоча ісці за Пціч. Павел Антонавіч сказаў — няхай астаюцца.

— Такая размова была,— пацвердзіў Бондар.— Яны прыязджалі ў Рагалі пасля таго, як мы разбілі гарнізон у Літвінаве.

— Вы ўсе цяпер разумненькія! — крычыць Вакуленка.— Я не я, і хата не мая. Адзін за другога хаваецеся. Вакуленка адзін вінаваты? Ён загадаў сюды збірацца, ён вінен і ў тым, што галда пабаялася ад жаночых спадніц адарвацца. Вы колькі тут адлежваецеся? Два месяцы. То не маглі за два месяцы іх сюды прывесці?

— Не маглі! — ужо са злосцю выгуквае Петравец.— Іх шэсцьдзесят і нас шэсцьдзесят. Што нам, грамадзянскую вайну з імі пачынаць? Дзесяць разоў да іх хадзілі. Яны проста смяюцца з нас. Дурнямі завуць. За тое, што пайшлі сюды, за Пціч...

— Можа і ты так думаеш? — шырока расставіўшы тоўстыя ногі, Вакуленка спыняецца насупроць Петраўца.— Знайшлі, што называецца, камандзіра атрада. Ты забыў, Петравец, кім ты быў? Ты быў папіхачом у Дзяругі. Дзяруга цябе нават на ўзвод не паставіў. Я цябе прыкмеціў і вылучыў, атрад даў. Думаў, чалавек. Ты што, дысцыпліны не прызнаеш?

— Я прызнаю дысцыпліну, Адам Рыгоравіч. І камандзірствам мяне не папікайце. Я на атрад не прасіўся. Паставілі дык паставілі, ка-

нармальны. Ненармальна тое, што ён ведае, што памятае гэты чалавек, што памятаюць людзі з вогненных вёсак.

Ёсць, мабыць, пачуцці, перажыванні, калі звычайныя праяўленні іх (плакаць ці смяяцца) робяцца нібы неадпаведнымі. Другіх жа, «адпаведных», прырода чалавеку, можа, і не дала. Не ведала маці-прырода, з чым сустрэнуцца некалі яе найразумнейшыя дзеці...

На некаторых зробленых намі фота жанчын — такая вось нечаканая ўсмешка. Яе разумееш, толькі ўбачыўшы не на здымку, а на жывым твары, спалучаную з голасам чалавека. І тады нават як быццам пагаджаешся з ёю: чалавек, які перажыў, на свае вочы бачыў такое, мае права на словы і вывады, ад якіх няхай сабе нават і холадна робіцца.

«...Немцы ішлі да нас так — адна партыя з Капцэвіч, а другая вунь з таго канца. А мы на вуліцы былі. На вуліцы нас і пабралі, пагналі вунь туды, у канец сяла. І там стаяў такі на калёсах... Я не ведаю, што гэта. Мы думалі, што нас будуць расстрэльваць. А яны за нас, групамі заганялі ў сараі, у хаты. Я папала ў другую групу. Адна я была і са мною залвіца мая. Дзеўка. Дык яе ў першую групу загналі, паранілі ў хаце, яна выпаўзла і ў калодзеж упала. А можа яе ўкінулі туды? Я не ведаю. А я ў сарай папала, а потым Павел адбіў дзверы і мы ўцяклі. Гарэлі ўсе, і сарай той гарэў. Сталі ўцякаць, а яны нас давай біць. Мы шасцёх уцякалі: Лукашэвічыха старая, Сяргеева маці, Веры Такалінай маці разам са мною ўцякала з сарая, цётка Дар'я ўцякала... Тых пабілі, а мы ўтрох асталіся. Я за такую во копачку забегла і села. Шаптала тая копачка — так стралялі па ёй. І я засталася жывая. Я з дваццатага года сама, а дзеці мае былі тады ў лесе, двое дзяцей было ў мяне. Не разумела я яшчэ, думала, што хаты ў нас харошыя, новыя, дык буду прасіць, каб яны іх не палілі. Бо пагаворвалі, што паліць будуць, але ж ніхто не думаў, што людзей будуць паліць ды расстрэльваць...

Як я падняла з-за капы сваю галаву, дык яны стралялі, але я пабегла, а потым убачыла, што за капой сядзіць Ева Горбань. Я хацела ўзяць яе, а яна кажа: «У мяне няма ног». Я яе і кінула. Мне ж не шкада было нічога, я і дзяцей сваіх не шкадавала, кінула, я і сама сябе не шкадавала. Не ведаю, хто іх, маіх дзяцей, пабраў. Сама пабегла ў лес».

Гэта і гэтак гаварыла нам Вера Цімафе-



мандую, як умею. Не горай, чым другія. Вы толькі мне скажыце, якога д'ябла мы тут, за Пцічу, тырчым? Чыя галава так зварыла, каб сагнаць у адно месца столькі людзей? Каго мы ахоўваем, з кім ваюем? Я ведаю, вы тут ні пры чым. Вы, можа, загад выконвалі.

Вакуленка глядзіць на Бондара, потым на Дарошку, як бы шукаючы іх падтрымкі. Але начальнік з памочнікам маўчаць.

Камандзір ідзе да стала, стомлена прысядае, запусціўшы руку ва ўскудлачаныя, чорныя, з прыкметным серабром сівізны валасы.

— Не будзь пракурорам, Петравец. І божай авечкай не прыкідвайся. Загад зімаваць за Пцічу аддаў Мінскі абком. Гомельскае начальства тожа нічога лепшага не прыдумала. Большасць іх атрадаў, сам ведаеш, таксама тут было. Каўпак і той ля Князь-возера стаіць. Дык што, мы ўсе такія дурныя, што ў адно месца стаўкліся? Я ўсім ета скажу, Петравец, не толькі табе аднаму. Ніхто нічога не прыдумліваў, а проста ўзялі прымер з нас, з Акцябрскага раёна. Вы ўсе па прымах сядзелі, па падполлях ды паграбах туляліся, а мы і леташнюю зіму ваявалі. Блакаду перажылі. На ўсім Палессі нам найбольш досталося. Ну, можа, яшчэ трохі ельскім. А тыя атрады, што нашы перад адступленнем пакінулі, сам ведаеш дзе. А чаму так, ты не думаў? Таму што не разам былі, не ў адным кулаку.

Ты трохі перабольшваеш, Адам Рыгоравіч,— пярэчыць Бондар.— Прычына тут не адна, а многа. Не забывай, што ў сорак першым была зусім другая абстаноўка. Я маю на ўвазе фронт. Ды і вопыту не было.

— Дык што, ты тожа лічыш, што мы дарма тут зімуем?

еўна Какора ў вёсцы Вялікія Сялюцічы Петрыкаўскага раёна.

А мо яна нагаворвала на самую сябе? І дзяцей, бачыш, «не шкадавала», і «самой сябе не шкода было», і суседзяў.

Можна спытацца: а нашто гэта чалавеку — так, на самога сябе нагаворваць?

Насуперак логіцы, быццам бы.

Але ж ці многа (мог бы спытаць такі чалавек) «логікі» ў цэлым свеце? Дзе такое рабілася, дзе такое магчыма? Вось і гаворыць, сапраўды не шкадуючы ні сябе, ні тых, хто будзе слухаць. І тады расказ чалавека гучыць жорсткім выклікам: можаце жахацца, можаце абурацца. Свет вунь які, дык не патрабуйце і ад мяне!..

Людзі, якія такое перажылі і якія сёння жывуць сярод нас — гэтыя з ліку наймацнейшых. Большасць адразу ці праз нядоўгі пасля вайны час адышла ад нас — услед за болем сваім, услед за дзяцьмі, бацькамі, што так жудасна загінулі.

А гэтыя ўсё трымаюцца ў жыцці: адных трымае новая сям'я, новыя дзеці, праца, старэчыя клопаты каля ўнукаў; другіх, адзінокіх, трымае ў жыцці, магчыма, якраз памяць пра страчанае, бо чалавек супраціўляецца, не хоча, каб самае дарагое знікла канчаткова — разам з ім. Бо і мёртвы для блізкага чалавека,— ці жыве, ці яшчэ раз памірае. «Яшчэ раз памірае», ужо канчаткова. Нават мёртвае дзіця сваё маці будзе ратаваць (калі трэба, ахвяруючы сабой) ад другой, ад новай смерці — вось як Марыя Фёдараўна Кот з вёскі Вялікія Прусы на Капыльшчыне:

«...І як застралялі ў дзверы, у вокны, меншанькая мая: «Ой, мамачка!» Глянула я, а ёй сюды папала, у пераноссе. Толькі захрапла. А другой ужо шаснаццаць было, маёй старэйшай. Во гэта на фатаграфіі. Забілі нас, а ўсё чую, як за печкай дабіваюць суседзяў. Мы як упалі, дык і раскаціліся кожны сваёй сям'ёй. Бачу, як жанчына... не дае адсунуць краваць — там дзеці яе, а ён б'е яе наганам па галаве. Таўкуць кравацямі тых дзяцей, а яны пішчаць, госпадзі! А другі ўбачыў, што я гляджу, падбег і трах, трах, трах — я і цяпер бачу сіні наган, сіні-сіні, і агнём мяне — па твары, па твары. Адцягнуў мяне за нагу ад маіх дзяцей. А я ўсё жывая... Чую — зноў ходзяць. Думаю, зноў немцы. А гэта сын мой, Жора, у крыві ўвесь, нічога не бачыць, ідзе да дзвярэй.

— Сынок!

А ён:

— Я думаў, мама, што вас ужо няма, няхай і мяне заб'юць.

— Не лічу. Дзе было лепей зімаваць — тут ці па сваіх раёнах — ніхто не ведаў. А людзей трэба было захаваць, таму рашэнне правільнае.

Вакуленкава злосць пачынае аціхаць, ён увачавідкі весялее.

— Ну, дзякуй табе хоць за ета. А то да мяне слухі даходзяць, што Лаўрыновіч інакай думае. Тыдзень, як прыляцеў з Масквы, а да нас і носа не паказвае. Сядзіць у Мінскім штабе і атрады дзеліць. Пра нас быдта думка цвёрдая: адседжваемся.

— Слухаў не слухай,— жартуе Бондар.— Ім не надта трэба верыць. А калі што, дакажам паперамі. Я, Адам Рыгоравіч, не дарма ў цябе два месяцы хлеб ем. У мяне ўсё, як мае быць, запісана.

Уваходзіць гаспадыня, кідае перад грубкай бярэмак дроў. Вузкатварая, чарнявая, даволі яшчэ маладая і прывабная, яна весела бліскае шэрымі вачамі, як бы з насмешкай зірнуўшы на камандзіраў, трое з якіх сядзяць за сталом, а двое, не распрануўшыся, трымаючы шапкі ў руках, стаяць пасярод пакоя.

— То, дарагія госцейкі, можа, вячэраць будзеце? На ўсіх падаваць ці толькі сваім? Лепей усім разам, а то яшчэ пасварыцеся.

Вакуленка са спрытам, трохі незвычайным для яго мядзведзяватай фігуры, матлянуўся да гаспадыні, абняў за плечы, прыхінуў да сябе.

— Люблю цябе, Каця. Хоць бы адну ноч падаравала.

— Аге, любіш,— Каця не робіць ніякай спробы вырвацца з абдымкаў.

— Магу замуж узяць. Пойдзеш за мяне?

— Пайду. Чаму не пайсці? Такі дабрэнны кавалер.

— Лажыся, кажу, сынок, на тое самае месца, можа яно шчаслівае!

Не ведаю, ці пачулі там, ці што, але забягае адзін. «Уставай!» Пачакаў, пастаяў. Потым гранату кінуў — пад печ. А ўжо дым, ужо глінабітку паляць, аблілі нечым. Столь над намі гарыць, агонь трашчыць. Не забілі яны нас, дык яшчэ горш — жывыя згарым. **А дзяўчатак забілі, дык яшчэ і спаляць.** Ускочыла я, кравацъ ля акна стаяла, я раму выламала, заву Жору:

— Памажы ж мне выцягнуць іх! Дзяўчатак нашых.

Усцягнула меншанькую на кравацъ, на падаконнік і неяк на двор. Потым старшанькую. Падняла — дык яно такое маладое, мяккае!..»

Маці схавала дзяцей у яму ад бульбы. А потым яшчэ раз, жыццём рызыкуючы, вярнулася да дзяцей. І кажа нам пра гэта, **пра забітых:**

— Прыпаўзла да ямы. Ці **жывыя,** ці не паелі свінні?..

Так, чалавек можа жыць дзеля адной памяці: каб у ей і дзеці яго жылі — забітыя, спаленыя. Можа, таму многія і жывуць — сілай любові чалавечай, мацярынскай: тая памяць, якая іх спальвае, яна ж іх і трымае на свеце.

Людзі з вогненных вёсак — як і ўсе, могуць быць заклапочаны і пенсіяй, і тым, што ўнучка не паступіла ў інстытут, і шыфер ім патрэбен, і сена для каровы. І нам, ездзячы, слухаючы, запісваючы, трэба было прымаць самы практычны ўдзел у гэтых іх клопатах. Бо, на жаль, не ўсе і не ўсюды яшчэ разумеюць, што да гэтых людзей адносіны павінны быць — ну, хоць бы такія ж, як да ветэранаў, да інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны.

Аднак жа там, дзе праходзіць балючая мяжа іх памяці, там усе клопаты і практычныя інтарэсы знікаюць. За той мяжой клопат адзін: каб сказаць адну толькі праўду, каб людзі ведалі яе. Нават здзіўляешся, наколькі шчыра чалавек можа гаварыць, расказваць **усё** — і тое, што здавалася б, гучыць не на карысць яму...

Многія расказы не проста праўдзівыя, а нават жахаюць сваёй бязлітаснай праўдай. Ужо і хочацца міжволі, каб яе было менш. Але ж чалавек гаворыць, сапраўды не шкадуючы самога сябе. Дык няўжо нам, слухаючы, сябе шкадаваць?

«...Мая адна дочка была ў Германіі, забралі маю дочку, а адна дома была. Ну, дык ён прышоў, мой хадзяін, і дачка прышла з лесу і трое дзетак прывезлі яшчэ. Дык я кажу:



— То давай цяпер. Нашто адкладваць? Начальнік штаба нас запіша. Ён у нас, як да вайны загс.

— Няхай запісуе. Я згодная. Толькі я хацела папытацца, ці паспеў запісаць Нюрку з Барсукоў?

— Якую Нюрку? Што ты гаворыш, Каця?

— Тую, што на кані катаў. На саменькім сядле. Па ўсіх сёлах вазіў.

Вакуленка, выпусціўшы гаспадыню з абдымкаў, гучна рагоча.

— Нагаворы. А калі што і было, то толькі пад п'яную руку.

— А Вера з Бывалек? З ёю на асобнай кватэры жыў. Фіраначкі на вокнах, занавесачкі павесіла...

— Кінь, Каця. Нашто ўспамінаць леташні снег?

— Бач, не падабаецца... Няйначай, старэць стаў камандзір. Да адных маладзенькіх горнешся.

Вакуленка не крыўдуе. Круцячы вялікай, кудлатай галавой, сам сабе пасміхаецца, відаць, здзіўляючыся з праніклівай Кацінай бухгалтэрыі, якая занатавала кожны яго крок.

Вячэраюць напачатку сумнавата. Спаважна хрумсцяць агуркамі, падоўгу мацаюць пальцамі кожную бульбіну. Нарэшце Вакуленка не вытрымлівае:

— Вып'ем патроху, хлопцы. Чорт яго бяры! Усё адно наш штаб, мабыць, не ўдзержыцца. Лаўрыновічу падказваюць розныя. У Дзяругі быў, у Міхнаўца, у Гаркушы, а да нас усё не збярэцца. Прачысціць мазгі. Хоць без нас, думаю, і Лаўрыновіч не абыдзецца. Прынясі, Каця.

— Анупрэй, ты ведаеш што, бяры ты гэтыя дзеці ды ідзіце ў лес назад.

— Эх ты, такую-растакую, будзеш хавацца мне ўсё!..

Не слухае, не слухае мяне мой даражэнькі. Тады ж не было ні пасцілак, ні коўдраў, дык я кажу яму, што давай у дзяругу дзіця ды пойдзем у лес. І зноў ён лаецца. А тут ужо немцы ідуць. Дык я яму і гавару:

— Хваробу мы цяпер з табою ўцячом. Хаця цяпер ты ўжо вядзі маю гэтую доньку!

А яна харошая была, ужо сем класаў кончыла.

— Дзе вунь людзі ўцякаюць — там і ты!

Ён, праўды, за яе:

— Ох, донька мая!

І пайшлі яны. А цяпер — адкуль ужо немцы ўзяліся! — абнялі нас кругом. От табе ты і ўцёк!.. Паліцэйскі гукае яго. Ён вярнуўся, дык яны яго тут у дваре і застрэлілі. Ён ідзе во ў двор, а я крычу яму:

— А божа мой! А куды ж ты? А ўцякаў бы ты, дык трасцу б яны ў цябе папалі.

Сама сабе ўжо, не на яго. Спачатку яго, а потым маю доньку, дык я — ох! Няхай жа яны мяне ў плечы, а не ў вочы!.. Ды сабралася я, ды ўцекла адна. Дзяцей кінула. Два хлопчыкі: аднаму чатыры гады, а другому шэсць. Яны бягуць за мной. А ўжо немец... Гэта бабы, каторыя потым расказвалі: «За табою, Парася, беглі!..»

Яны ім, бабы, гавораць тады: «Ціха, ціха, мама зараз прыдзе». А яны мяне, немцы, во і так, пуля тая во і так, госпадзі родненькі, ужо паранілі мяне, дык ляціць кроў... І як я віляла тады! І хто мне даў далей бегчы не прама, а ўсё віляю, віляю!.. І не ўбілі. Там у нас далей копанка, дык я ў тую копанку ўпала. Дык яны, паразіты, туды і не пашлі. А я ў гразі ляжу. А яны думалі, што ўжо ўбілі. А я потым устала мокрая і пайшла. Пайшла ды кажу: «Божа мой, божа, дзе ж мае сынкі?» А ў мяне яшчэ тры хлопцы, дык гэты старэйшы тавар пасвіў, а меншыя — свіней. Дык я ім казала, як яшчэ жывыя былі ўсе: «Ганіце, дзеткі, а то немцы пабяруць. І парасяты паб'юць і свінню». Дык яны ўжо і пагналі. І прышла я да іх. А я ж не ведала, дзе тыя дзеці ў лесе. Але прывяло мяне — во! Яны сядзяць у лесе пад купінкамі, панакрываліся, як я прышла.

— Во, сынкі мае родныя, да ўбілі ж і бацьку, да ўбілі ж і Любку, да ўбілі ж і Ваньку, да і Кольку ўбілі!

Дык яны:

Калі гаспадыня, прымарудзіўшы ў пярэдняй палавіне хаты, прынесла і паставіла на стол трохі задымлены графін з рудаватай вадкасцю і некалькі шклянак, пасадзілі і яе. Добры гумор, можна лічыць, прыйшоў пасля першай шклянкі. Гаспадыня доўга аднеквалася, але, насеўшы грамадой, прымусілі і яе трошкі выпіць.

— Ты не крыўдуй, Петравец,— Вакуленка сядзіць, падпёршы рукой галаву, і амаль не закусвае.— Тут бачыш якая механіка. Калі палавіна твайго атрада тут, а палавіна — у раёне, то Лаўрыновіч адразу ўбачыць непарадак. Скажа: вот паглядзіце, дзержацца людзі ў раёне і немцаў не баяцца. Не выпусцілі ім кішкі немцы, а вы нешта доўга латаецеся. Можна падысці да такога дзела з другога боку. Батура так вельмі бдзіцельнасць праяўляе. Кішка тонкая, дык дрыжыць. Падумаеш, атрад — шэсцьдзесят пар лапцей. Але Лаўрыновічу будзе за што зачапіцца. Не хвалюйцеся.

— Трэба ехаць туды,— гаворыць Бондар.— Дазволь мне з Петраўцом, Адам Рыгоравіч. Возьмем з сабой чалавек трыццаць. Каб не падумаў Батура, што на расправу. Адзін наш на двое іхніх.

— Я такіх субчыкаў, як Батура, бачыў,— працягвае Вакуленка, не слухаючы.— Мінулай зімой мы натрапілі ля Глуска на зямлянку. Шэсць чалавек у ёй, называлі сябе кіраўніцтвам атрада. Атрад даўно разбрыўся, а яны сядзяць. Сувязяў з насельніцтвам ніякіх. А калі якi дзядзька, па дровы прыехаўшы, выпадкова нападзе на іх зямлянку, то ў іх ужо страх.

— Дык што зрабілі з тым кіраўніцтвам? — унутрана здрыгануўшыся, пытае Бондар.

— Ох, мамка, добра хоць, што ты жывая.

Аднаму было восем, другому было дзесяць, а трэцяму, што цяпер у яго цагляны дом, васемнаццаць было. Ну, добра. А потым ужо і было... Э-э-эх, каб гэта ўсё расказваў, дык гасподзь мілы...

Мне ўжо семдзесят другі год. Калі па хадзяіну, то Параска Іванаўна Луцкая, а як па бацьку, то Скакун».

Было гэта ў вёсцы Першамайск Рэчыцкага раёна.

Старая, хворая, з прастрэленым на тым полі тварам жанчына скончыла расказваць і зноў скардзіцца на непаслухмянага мужа, *што вось так загінуў,* на тое, што аж да Масквы немец дайшоў, на нявестку і сына, якія яе папракаюць, што жыве ў гэтай старой хатцы адна і не хоча да іх перайсці. І ўсё гэта гаворыцца з такой усмешкай на аднавокім твары (вока выцекла ад ранення) і такім голасам, такімі словамі, што міжволі ўяўляецца: «Ну вось, я бегла, на ўсё, на ўсіх забыўшыся ад жаху, а нікуды ж не ўцякла, усё яно працягваецца — ва мне!..»

Новыя, іншыя твары, імёны, галасы, лёсы. І раптам зноў — тая ж горыч на самым дне расказу. Ужо новая сям'я ў чалавека, дзеці, іх найчасцей роўна *столькі ж, колькі забілі,* і ўсё ёсць, што патрэбна жывому, але раптам, пасля расказу, вырвецца: «Засталася я, а навошта? Пасля таго!..»

Тыя, што ў Іспаніях, у Аргенцінах хаваліся, а цяпер у Заходняй Германіі жывуць, як дабрачынныя «дзелавыя людзі» і «любячыя бацькі сем'яў» — вунь як крыўдліва яны (і іх абаронцы) упэўнены ў сваім праве не толькі на жыццё, на «тэрмін даўнасці», але і ў сваім «абавязку» прысутнічаць сярод новых пакаленняў.

А гэтыя, іх ахвяры, ахвяры нялюдскай жорсткасці, людзі з вогненнай памяццю нясуць у сабе — таму што яны людзі! — *праклятыя пытанні,* якія мучылі ўсіх вялікіх пакутнікаў за чалавека і чалавецтва: ад Дантэ і Шэкспіра да Талстога і Дастаеўскага.

Дык што памятае і што можа памятаць чалавек праз *столькі год?*

На дзіва многа і на дзіва, аказваецца, *падрабязна — калі гэта датычыцца* **такіх** падзей. Былі б толькі словы — перадаць перажытае. Але і словы ёсць, знаходзяцца, асабліва ў жанчын. У мужчын, як правіла, словы не так дакладна прылягаюць да балючай памяці. Але таксама



— Калі па сакрэту, то я хацеў іх пачаставаць. Усіх шасцярых. Але знайшліся заступнікі. Распіхалі па атрадах.

— Кругом калатнеча, кругом мітрэнга,— гаспадыня ўздыхае.— А дзе ж беднаму чалавеку абарону знайсці? Вот сяджу я, удава, з дзецьмі, а да чаго дасяджуся? Хоць бы дзяцей зберагчы...

— Не сумуй, Каця,— Вакуленка, працягнуўшы руку цераз стол, гладзіць гаспадыню па валасах.— Мы — настаяшчыя партызаны і свой народ у крыўду не дадзім. Ну, падумай — вот тут, у Сасновіцы, мы дажа паліцэйскіх сем'яў не зачапілі. Яны нашы сем'і расстрэльвалі, здзекаваліся, а мы іх не чапаем. Сядзяць ціха — няхай сядзяць. Ну, а што я благога зрабіў свайму народу? Можа якую маладзіцу ці дзеўку, выпіўшы, прытуліў, дык, ты думаеш, вельмі яны брыкаліся? На добрае ж, як кажуць. Нявіннай крыві я не ліў і ліць не буду. Можа, хіба дзе памылка выйшла. Усё ж такі тысячы людзей — чорненькіх, рабенькіх, паласаценькіх — сярод іх, можа, дзе якому ангелу хвост прышчаміў.

— Пойдзеце вы і прыйдуць немцы,— працягвае гаспадыня.— Пастраляюць нас усіх. Як у той Рудабелцы. Проціў танкаў у вас сілы няма. Немцы ж не шукаюць, хто праў, а хто вінен. Знішчаюць народ.

— Не вешай носа, Каця. Калі прыдуць немцы, то і вы з намі будзеце. Як-небудзь у лес дарогу пакажам. Ну, спаляць хату, хлявы папаляць. Чорт іх бяры. Новыя паставім. Яшчэ лепшыя. Абы самі жывы былі. Ды і немцы, Каця, цяпер не тыя. У Сталінградзе ім

не ва ўсіх, аб чым сведчыць расказ Івана Максімавіча Савіцкага.

Пра чалавека гэтага і пра расказ яго — ужо была асобная гаворка (гл. «Маладосць» № 8).

Карнікі ўварваліся ў вёску Збышын Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці, а малады партызан Савіцкі якраз з лесу прыйшоў, трэба было наведацца да сястры. Зброю ён схаваў у лесе. Кінуўся ў хлеў на гарышча і адтуль назірае, бачыць. І вось што помніць, як запомніў чалавек:

«І мне цераз франтор[1] відна, што цераз рэчку бягуць дзве жанчыны. А вось так перада мной сарай стаяў, гумно называецца ў нас. І там стаіць станкавы кулямёт, і яны цераз рэчку страляюць у гэтых бягушчых жанчын. І вось уяўляеце! Мне вось гэты сектар з-за дошак франтора відзён, дзе бягуць жанчыны, а далей за дошкай не відна. А выскачыць яны павінны вось тут — там зноў мне відна. Там я іх зноў убачу. І калі жанчыны вось тут з-за дошкі не выскачылі, я зразумеў, што забілі, што ў Збышыне б'юць людзей...»

Ці тое месца з расказу Івана Максімавіча Савіцкага, як чалавек стаіць у запаленым будынку і не можа адразу выскачыць, бо забойцы недзе блізка, стаіць у самай сярэдзіне і трывае, пакуль можна, і сам здзіўлены, што трывае:

«Ну, знаеце, калі свечка гарыць, дык на краях жарка, а ў сярэдзіне — не. Гарыць хлеў кругом мяне, а я стаю. І калі мне ўжо не можна было стаяць, мяне пякчы пачало, я і палез пад сцяну...»

Часамі, асабліва калі жанчын слухаеш, пачынае здавацца: вось толькі што чалавек **адтуль!** Вырваўся і прыбег да людзей і гаворыць, гаворыць пра тое, як і што было з ім, у яго вёсцы, і сам ён здзіўлены, амаль не верыць, што жывы. І што яно было сапраўды, ужо быццам не верыць, бо вось тут усё паранейшаму, а яму ж здалося, што ўсюды, што ўжо назаўсёды — **гэта, так...**

Домна Васільеўна Шчамялёва расказала нам, што калі яна забрала, знайшла сына сярод трупаў (жывога, параненага), цягнула на спіне тры ці больш кіламетры ў лес, дык пасля таго хадзіла, жыла згорбленаю. Доўга, некалькі год спіна такой заставалася. Быццам усё яшчэ несла жанчына на сабе жудасны цяжар таго дня...

Дык не дзіва, што такое не дазваляе і памяці чалавечай да канца выпрастацца і скінуць усё з сябе. Не можа так чалавек. Бо ён — чалавек.

[1] Франтон.

мяшок завязалі. Глядзі, што першы май будзем без акупанта святкаваць...

Выпілі яшчэ па шклянцы, трохі паспявалі. Вакуленка, які, здаецца, прапусціў міма вушэй тое, аб чым гаварыў Бондар, устаючы з-за стала, загадвае:

— Заўтра вазьміце людзей — і да Батуры. Каб самавольнікі былі тут. Без ніякіх гваздзёў.

## II

Плыве над Палессем ціхая светлая ноч. Неба засеяна бясконцым мноствам зорак — адны з іх яркія, буйныя, яны мігцяць, як далёкія агеньчыкі, другія ледзь-ледзь прабіваюцца серабрыстымі малапрыкметнымі іскрынкамі. На ўсю сярэдзіну неба пралёг як бы ахутаны павалокай туману таямнічы Млечны Шлях. Колькі часу вісіць над цёмнай зямлёй неба, а людзі ўсё глядзяць, не наглядзяцца на далёкія, недасяжныя зоркі...

Бондар выбраўся на вуліцу. Спіць Сасновіца, і толькі свецяцца кволыя агеньчыкі ў каравульным памяшканні і ў хаце, дзе размешчаны шпіталь. Дарога, прысыпаная лёгкім сняжком, падшэрхла. Далёка чуваць крокі — трашчыць пад нагамі хрупасткі лядок. Адразу за агародамі цёмная сцяна сосен — ад яе на снег падае сіняватая палоса ценю. З лесу цягне вострым пахам смалы, зялёнай хвоі, прыхопленай марозікам, зляжалай іглiцы.

Прайшлі два патрулі, але, пазнаўшы начальніка штаба, маўкліва прапусцілі, рушылі ў цёмны канец вуліцы.

Спачатку некаторыя самі не вераць, што ўсё памятаюць, што так блізка яно. «Ой, хлопчыкі, аж калі было гэта!..» Але скажа слова, другое, кране, дакранецца, і раптам такія падрабязнасці ўспомніць, на такія вострыя вуглы памяці пачне натыкацца... І разумееш, што чалавек помніў усё і заўсёды, але ёсць памяць, дакранацца да якой боязна, балюча.

А быў жа некалі першы расказ пра гэта — найцяжэйшы. Калі толькі чалавек вырваўся з пекла, прыбег да людзей ці яны яго выхапілі з рук катаў, смерці.

І вось здаецца, і вельмі часта, што і мы слухаем — іменна той расказ, самы першы. Столькі і сёння ў многіх расказах першага пачуцця, першай слязы, першых, самых праўдзівых слоў.

Некаторыя спачатку надоўга анямелі.

Як сказала Марына Іванаўна Кавальчук з вёскі Княжаводцы Мастоўскага раёна:

— Я тады можа пяць дзён не піла і не ела... Усё пабілі, усё папалілі, нават і вароны не каркалі — такі быў страх...

А потым (а хто і адразу) расказалі людзям. І як тады, упершыню і першым людзям, расказалі, так яно, мабыць, і запісалася (ужо словамі) у памяці. У памяці самога расказчыка, на «стужцы памяці» ягонай. Вогненнай памяці. Так здарылася, што некаторых людзей (у Борках Кіраўскіх, у Вялікай Гарожы, і Брыцалавічах Асіповіцкага раёна) аднаму з нас запісваць давялося двойчы. Чатыры гады прайшло, а здавалася, што слухаеш — як на магнітную стужку запісанае. І інтанацыя, і дэталі, і словы — усё амаль тое ж. І разам з тым — па пачуцці, непасрэднасці — як упершыню расказвае. Найчасцей, за некалькімі выключэннямі — так. Адзіны на ўсё жыццё расказ, але кожны раз гучыць ён як упершыню — бо праз такі боль прарываецца, праз такую пакуту памяці!..

Адчуваецца, што некаторыя многа раз расказвалі суседзям, можа, дзецям (новым дзецям — пра іх забітых сястрычак, брацікаў). Але тут прыехалі да іх незнаёмыя людзі здалёку, з рознымі апаратамі, і просяць успомніць усё і як мага больш падрабязна, а суседзі таксама тут, слухаюць, што не раз ужо чулі ці нават самі на свае вочы бачылі: і дапоўняць, і напомняць...

І тады бывае, што ўключаецца як бы яшчэ адна «секцыя» чалавечай памяці— пра тыя ночы без сну, калі ты зноў і зноў гэта ўяўляў, бачыў, успамінаў —усё да драбніцы...

...Як суседка, бачачы немцаў, што акружылі вёску, і пачуўшы крык: «Будуць нас біць!» — раптам сказала свайму васьмігадоваму хлопчыку: «Сынок мой,



Два месяцы табарам стаяць за Пціччу партызанскія атрады Палесся. Падлаталіся, абшыліся, трохі пазатыкалі дзюркі з узбраеннем і боепрыпасамі. Немцы за гэты час чапалі іх мала. Былі дзве ўпартыя стычкі ля вёскі Грабаў, але, адчуўшы моц партызанскіх сіл, немцы болей не палезлі.

Спіць партызанская Сасновіца. У кожнай хаце, раскінуўшы на падлозе куль саломы, акрыўшыся шынялямі, світкамі, паддзёўкамі, адсыпаюцца па восем-дзевяць хлопцаў. А другія — у паходзе. Патаемнымі сцежкамі, нябачнымі дарогамі штоночы адпраўляюцца групы да гарнізонаў, да чыгункі. Іх, бадай, нават болей, чым тады, калі атрады не пакідалі стойбішчаў. Чыніць дыверсіі стала цяжэй — немцы паўсюдна высеклі ўзбоч палатна лес, а ў некаторых мясцінах панаставілі сетак, замініравалі падыходы. Бывае, што каб дарвацца да рэек, поўзаюць хлопцы па снезе па тыдні. Але нягледзячы на ўсе перашкоды, грыміць чыгунка.

Бондар падыходзіць да хаты, якая ў адрозненне ад астатніх стаіць уздоўж вуліцы. У нерашучасці спыніўся, зірнуў на цёмныя вокны. Хутчэй за ўсё Гэля начуе тут, у санчасці. Днём прывезла паранenага, як бы ненарокам забегла ў штаб.

Увесь месяц ён ловіць сябе на тым, што думкі пра Гэлю не прыносяць радасці. Няма да яе ні добрых, ні якіх-небудзь іншых пачуццяў. Разышліся назаўсёды, і ад гэтага, калі прызнавацца самому сабе, нават прыемна. Разарванага — трывала не звяжаш. Зближэнне, якое наступіла мінулай зімой у Гарбылях, а затым працягвалася ў атрадзе, радасці не прынесла ні ёй, ні яму. Бондар ідзе далей, прыслухоў-

што ж ты ў гэтую разіну абуўся. Тваё ж дужа будуць ножкі доўга гарэць у разіне».

(Касперава Анастасія Іларыёнаўна, вёска Боркі Кіраўскага раёна.)

...Ці як людзі сядзелі, схаваўшыся ў жыце, а забойцы бегалі шукалі іх, а каскі звінелі аб каласы...

(Малашчанка Пётр Мікалаевіч, вёска Лозкі Калінкавіцкага раёна.)

...Ці як, перастраляўшы суседнюю вёску, карнікі схаваліся ад дажджу, стаўшы пад страху, стаяць паўз дзве сцяны хаты, а ў хаце той — людзі, і чуюць, як цвёрда стукаюць каскі немцаў аб сцены...

(Жарчанка Алена Рыгораўна, вёска Рудня Расонскага раёна.)

...Як думалася сярод забітых, як баяліся тыя, якіх куля абмінула: «Снег на забітых тае, а на мне — не. Заўважаць!..» Або: «Пачаў я дрыжэць ад холаду і думаю: убачаць!..»

Памяць зноў і зноў выцягвае з уласнай глыбіні тое, што самога чалавека, можа, здзівіла тады: нечаканасцю, жудаснай неадпаведнасцю ўсім абставінам.

Еве Тумаковай з вёскі Красніцы Быхаўскага раёна вельмі ж запомнілася, як яна, тады падлетак яшчэ, убачыўшы, зразумеўшы, што забіваюць усіх падрад: «У дом ускочыла расцераная, панімаеце. Але мыслі такія... Яшчэ жыць думалася. Ляжаў вузялок адзёжы, дык думаю: «Вазьму я хоць вузялок, спаляць жа, дык пераадзецца нечага, я ж у адной адзёжы». А тады думаю: «Яшчэ засмяюцца, скажуць: убіваюць, а яна вузёл какойта!»

І сёння помніць, як дзіўна тады павадзілася, як дзіўна думалася. Кожную думку аб уласнай думцы памятае.

Пачуўшы ў вёсцы Курын на Акцябршчыне мімаходзь сказанае, што дзяўчаты, ідучы насустрач смерці, неслі з сабой вялікае люстэрка і не забываліся, глядзеліся ў яго (дзяўчаты ж, па семнаццаць гадкоў!), мы яшчэ раз спыталіся пра гэта: «Вось так і было — з люстэркам у руках уцякалі?»

«Вы пра тое люстэрка пытаеце? Ага, гэта калі спалілі Хвойню, дык нашы людзі ўсе выехалі ў лес. Пабылі да вечара ў лесе, і — холадна. Я кажу: «Хадземце, дзеўкі, дадому, нічога не будзе!» Нас трох было. Ну, ішлі ўжо дарогаю, узялі ж у лесе вялікае люстра — бо гэта ж дзеўкі, нам не трэба, што б там набраць, а ў люстра ж паглядзецца... Ну, мы ішлі, на горцы пасталі, дык ужо расказвалі падводчыкі, што яны, немцы, бачылі, як мы глядзеліся ў люстра».

(Грынкевіч Матрона Трафімаўна, вёска Курын.)

ваючыся, як патрэсквае пад нагамі тонкая скарынка лёду, як тут, на паветры, прыемнай свежасцю поўніцца галава. Сувязь з Гэляй як бы нагадвала палон, і ў апошні месяц з палону ён вырваўся. Ад гэтага прыемна. Ён як бы п'е слодыч пачуцця свабоды. І ён, і яна пацягнуліся адно да другога ад душэўнай слабасці, ад няпэўнасці становішча. У іх адносінах было ўзаемнае спачуванне, спагада, але, відаць, такія пачуцці крылаў не даюць.

У Гарбылях немцы расстралялі старога Салаўя, Гэлінага бацьку. Старую і дачку ўдалося вырваць. І менавіта тады, калі Гэлі было асабліва цяжка, між імі наступіў разрыў.

Бондар дабрыў да канца вуліцы, да таго месца, дзе сосны расступаюцца, адкрываючы позірку зараслае кустоўем гала. З-пад сцяны хаты вынырнула цёмная постаць, кляцнула замком, маладым ломкім голасам спыталася пароль. «Маздок»,— сказаў Бондар і спытаўся водзыў. «Магілёў»,— пачуў у адказ, і цёмная постаць зноў прыліпла да сцяны.

Снег наўкола прыкметна прычарнеў. Ад снежных валкоў, якія аселі, ад упадзін-лагчынак, дзе стаілася начная цемень, на полі, здаецца, мільгацяць няроўныя сіняватыя палосы. Сосны заціхлі ва ўрачыстым маўчанні. Ні зыку, ні шолаху.

Бондар бачыць ля дарогі незнаёмы слуп, падыходзіць да яго. Гэта не слуп, а крыж. Пастаўлены нядаўна — ля падножжа прыкметна выдзяляецца чорны кружок зямлі. Бондара агортваюць невясёлыя думкі. Баяцца людзі нямецкай кары. Таму ставяць крыжы, нават ручнікамі абвешваюць.

Такое чалавек памятае і не можа не запомніць назаўсёды. Бо гэта было за крок да смерці, а там, у такіх сітуацыях, усё набывае асаблівы маштаб і асаблівы сэнс.

І калі так памятаюць, такія дакладнасці — верыш у праўдзівасць, непрыдуманасць усяго. Сядзіць жанчына — трывожны, запытальны, гатовы да пакуты твар, погляд — як у бальніцы перад сур'ёзнай аперацыяй. Тут не да прыдумак!..

Некаторыя расказваюць з такой гатоўнасцю, быццам яны чакалі гэтага ўсе тры дзесяцігоддзі — каб вось так некаму, хто ад далёкіх людзей прыехаў, пaскардзіцца, усяму свету паведаміць, што тут рабілі з імі.

Вёска Казулічы Кіраўскага раёна. Акуліна Пракопаўна Гаўрусь:

«...Ну, у мяне была дзеўка два гадкі на руцэ, во тут во. Праўда, у мяне дакумент быў, узяла я дакумент. Ну, гналі, прыгналі. Я думаю: божа ж мой, дзе ж мая сям'я? Толькі адна дзевачка ў мяне на руцэ. Прыгналі. Хто гаворыць, што будуць у бежанцы гнаць, а хто гаворыць, што будуць біць, а хто яго ведае! Я думаю, куды мне, божа мой? Потым пагналі людзей па шляху. А суседка ідзе ды гаворыць:

— Ат, Куліна, пайшлі, куды людзі, туда і мы! Што бог дасць!

Дайшлі мы толькі да крупадзёркі, з-за хаткі выходзім, і немцы выносяць тыя вясы. Дык я гавару:

— Ну, маладзічка, нам ужо бог даў.

А нам было слышна, што ў Люціне загналі ў мельніцу і спалілі людзей. Я гавару:

— Ну, Яўгіння, нам ужо бог даў.

Яна гаворыць:

— Ага, ужо.

Ну, іх абнялі кругом, адзін паўз аднаго стаялі — кругом! І пальцам не прасадзіш — ад шляху і да шляху, кругом гэтага будынка. А людзей поўны ж двор. І вот іх пруць у гэтыя дзверы, душаць, гоняць у етыя дзверы, а там — у крупадзёрку. А ў мяне дзевачка на руках во тут во. І ў мяне дакумент. Я як зірнула — ужо мама там і тата. Етых людзей ужо так душаць, так б'юць! Адзін тут стаў прасіцца, дык яго — прыкладамі. На штысе і паперлі туды. Гэта мужчына быў. Малады папаўся. А я з етай дзевачкай. Азірнулася во гэтак назад — мама стаіць мая.

— Мамка,— гавару,— ужо ўсё наша!



### III

Ціха, але трывожна, з затоеным страхам, пражыло першыя месяцы зімы сяло Піляцічы. Занесеныя шчыльным покрывам снегу, дрэмлюць някідкія шматкі палёў, разложыстыя балотцы, задумна ціснуцца да паселішча з поўначы рэдкія сасоннікі і беразнякі. Раніцай, як звычайна, падымаюцца з каміноў хат шызыя дымы, пачынаецца людскі рух. Едуць людзі на балота па сена, возяць з лесу дровы. З вуліцы можна пачуць скрыгат і шоргат амаль у кожнай хаце — мелюць у жорнах зерне. Рыкаюць каровы, брэшуць сабакі...

Да жонкі бургамістра Спаткая, які ўцёк з Піляціч і хаваецца пад крыльцамі немцаў у мястэчку, вечарам заходзіць Батура. Доўга аббівае снег на ганку, а ў сенечках, перш чым зайсці ў хату, стукае ў дзверы. З пакоя азываецца звонкі, малады голас.

Гаспадыня завіхаецца ля печы. Бліскае на Батуру залатым зубам, абмахвае ручніком табурэтку, ставіць ля стала.

— Сядайце, калі ў хату прыйшлі.

Батура расшпільвае шынель. Садзіцца, шапку-будзёнаўку з зоркай кладзе на стол. На хвіліну ўсталёўваецца няёмкае маўчанне.

— Я па дзелу,— гаворыць Батура.— Вы жонка бургамістра Спаткая?

— Хіба ты забыўся, як мяне завуць, Саша? Якія вы пасталі сур'ёзныя, паначапляўшы на плечы ружжаў. Помніш, у саракавым годзе, як прыязджаў з арміі, праводзіў мяне дадому?

Я яе цалую, дык яна як лёд. А тата ўжо далей трошкі. А ўжэ... А тут адна, знаеш, жанчына; дзве дзевачкі і яна. Яны к немцу аднаму, папрасіліся — ён пусціў. Гэта во, Улляніха. Прапусціў. Тады я зірк — божа мой, трэба было і мне з мамай ісці! І мне ўжо цёмна ўваччу стала, я нічога не бачу. Толькі бачу цень чалавека, каторы пусціў ужо етых. Дык я падышла ды: «Пан!» — во гэтак перахрысцілася, а тады ета мая дзевачка — у мяне во тут дакумент быў, я і забылася на яго,— ета маё дзіця выцягла гэты дакумент. «А божа ж мой, дык гэта ж у мяне дакумент! Я ж ужо забылася...»

За нішто маглі забіць цэлую вёску. Бо мардавалі — лішне не разбіраючыся, хто там які, ёсць у яго іхні «аўсвайс», акупацыйнае падабенства пашпарта, ці няма. І раптам жанчына паказвае ім гэты «дакумент», і ён ратуе ёй і дзіцяці яе жыццё... Выпадковасць, якая толькі падкрэслівае, наколькі ўсе іхнія «прычыны» і «абгрунтаванні» злачынстваў прыдумваліся на хаду, не вельмі каб і старанна.

**Пытанне:** — Колькі вашай дзевачцы было?

— Два гады.

**Пытанне:**— Яна сама ўзяла гэты дакумент?

— Ну, яна гэтак во... Я яго дзяржала, а на яго забылася, ужо мне цёмна было ўваччу, нічога, толькі бачу, як цень чалавека ідзе. Я — яму, а ён, праўда:

— Матка, туды!

Я пабегла на гэты бок, упала. Упала з гэтай дзевачкай. Потым прыпаднялася. І ідуць наперадзе — адзін шарэнак [1], другі шарэнак. Думаю,— усё роўна — тыя пусцілі, етыя заб'юць. Не, не кранулі. Тут даходжу толькі да гэтага, да шляху — ідзе чалавек. Нясе дакументы, збегаў і ўжо дакумент гэты ўзяў, і жонка і двое дзетак. Клуначку яшчэ адзежы нясуць. Я думаю: «Госпадзі, куды ж вы, людцы!» Думаю, скажу — другія ж прайшлі і не сказалі ім,— думаю, скажу, дык і мяне заб'юць. Іх ужо як давялі, дык убілі там. Я як азірнулася: «Э-э, ужо дым!» Толькі пулямётам, чутна была: тр-тр-тр! Як пхалі там, так адразу і білі. А тады ўжо і запалілі. А гэтага немец вёў, што з дакументам; каб жа не немец, дык я б сказала, што забіваюць.

Тры гады яно мо ў мяне з воч не сходзіла, стаяла ўваччу і стаяла...»

[1] Шарэнга.

Батура чырванее. Спаткаіха яўна хоча збіць яго з афіцыйнага тону, на які ён, ідучы ў гэтую хату, настроіўся.

— Замужам за бургамістрам Спаткаем былі вы, а не хто другі.

Яна стаіць ля печы, расчырванелая, з чапялой у руках, насмешліва пазірае на Батуру.

— У загс я з ім не хадзіла, і поп нас не вянчаў.

Батура пачынае нервавацца. Трохі павысіўшы голас, выпальвае з гневам:

— Чаго хвастом віляеш? Ведаюць усе, што з мінулага лета жыла са Спаткаем. Ну, няхай Спаткай жыў у гэтай хаце. Адзін чорт. Я па дзелу прыйшоў, а не зубы высkаляць.

На нейкае імгненне прыгожы твар жанчыны перасмыкаецца грымасай злосці.

— Дарагі Саша, калі ты такі спрос, то я табе нештачка скажу. З прошлага лета ў мяне, можа, дзесяць такіх мужоў, як Спаткай, было. Чаму пра другіх не пытаеш? Вынімай блакнот, запісвай. Пра ўсіх па парадку. Спаткай у мяне быў для харчу. Пайка мне не давалі. Каня і каровы не было.

Якраз у гэты момант з пярэдняга пакоя вынырае Міша Ключнік. Тоіць на губах усмешку, але пазірае нахабна, з выклікам. Батура нямее.

— Ты чаго тут?

— Таварыш Батура, я падчыняюся не вам, а камандзіру роты Ткачу. Камандзір узвода мае права выбіраць кватэру, дзе хоча.

Батура бялее, устае, расшпільвае каўнер.

— Вот што, Ключнік... Спаткай з Князевым расстралялі маю маці і сястру, а не тваіх. Дазволь мне разабрацца, хто вінаваты. Загадваю табе: вынось хутчэй ногі! Не паслухаеш — буду страляць. Наогул, забараняю займаць кватэры паліцэйскіх, старастаў і прочай сволачы..

Ключнік супраціўляцца не адважваецца. Шуснуў у чысты пакой апрануўся і, ужо стоячы на парозе, прымірэнча сказаў:

— Ладна, пайду. Ты, Саша, на Зіну не цісні. Ну, прыстаў да яе Спаткай, прыстрашыў. Сам ведаеш, якая яна жонка яму.

Зіна, прыхінуўшыся да печы, плача.

— Я не помсціць прыйшоў, Зіна,— лагадней гаворыць Батура.— Думаеш, я не ведаю: каб хацела ўцякаць са Спаткаем, то ўцякла б. Я таму і прыйшоў. Скажы лепей — Спаткай цябе не заве?

— Заве,— выціраючы слёзы рукавом, адказвае Зіна.

Яна ідзе ў чысты пакой і праз хвіліну вяртаецца, несучы ў руках два невялікія аркушыкі, спісаныя хімічным алоўкам.

Батура з прагнасцю накідваецца на спаткаёвы пасланні. Па меры таго як ён прабягае вачамі паперку, гнеў усё болей авалодвае яго сухой, выпетранай на вятрах і халадах істотай. Вычытанае нібы б'е Батуру па галаве. Бургамістр, якому там, у Бацькавічах, паводзіцца не соладка, пасля прывітанняў, пяшчотных слоў, адрасаваных маладой Зіне, пераходзіць да лютых пагроз партызанам. Як бы хоча паказаць нядаўняй жонцы, што мае яшчэ ўладу, таму пералічвае ўсіх, каго, вярнуўшыся ў Піляцічы, расстраляе або павесіць. Сярод другіх прозвішчаў ёсць Батурава.

Але найбольш уражвае Батуру Спаткаёва дасведчанасць. Піша,

І цяпер яно не «сходзіць з воч» у Акуліны Пракопаўны — тое, як забівалі Казулічы — яе родных, суседзяў.

Знайшлі мы і тую жанчыну, пра якую гаварыла Акуліна Пракопаўна — Дрозд Улляну Пракопаўну. Яна таксама на свае вочы бачыла ўсю жудасць расправы над жыхарамі Казуліч.

«...Ну, мы ўжо сталі... Усіх акалацілі, толькі адны хаты асталіся. Бацька і маці мае, дзве сястры меншых. Яны к шляху, а я асталася, і яшчэ свіней двое і дзве каровы панакрывала саломай. І сабака на цапе. Яны падышлі:

— Авек, авек, авек!

Я сабралася і пайшла к шляху. Выходжу — усе стаяць се-ем'я-мі! І плачуць. Стаяць навыцяжку і плачуць...

І павялі нас. Дзе вот гэтае кладбішча, тут стаяла мельніца, крупадзёрка, жыў мельнік. Так старая хата яго была, а так новая. Ну, вот туды заходзяць:

— Заварачвайце направа!

Заварачваем. Мельніцу расчынілі на дзве палавінкі, і ля дзвярэй стаяць вясэ мельнічныя.

— Захадзіце, вынасеце вясэ!

Нямецкая адзежа, а па-рускі гавораць:

— Захадзіце!



**Улляна Дрозд.**

Ніхто ж не ідзе.

— Захадзіце!

Ніхто не ідзе ў гэту мельніцу. Яны — такія плёткі разінавыя, цераз руку во гэтакі рамень,— і гэтай плёткай цераз галаву, цераз галаву! У раду ішлі сем'ямі, дык вот так мужчыны пазакрываліся. Кінулі біць. Кінулі, крупадзёрку гэту расчынілі — а крупадзёрка на дзве палавіны, шырокія дзверы, завал быў. Яны адкрылі гэтыя дзве палавінкі дзвярэй:

— Ану-ка, захадзіце сюда!

Ну, хто ідзе, хто не ідзе. Яны зайшлі:

— Ану-ка захадзіце, захадзіце, авек, авек!

А гэтыя па-рускі:

— Захадзіце, захадзіце!

Людзей і ўпіхнулі ў гэтыя дзверы. У гэтую крупадзёрку. А я, значыць — стаіць у нямецкай адзежы,— я кажу:

— Пусціце мяне,— і нейкая ў мяне была справачка нямецкая. У Любонічах давалі. Я гавару: — Пан, пусціце мяне.

Паглядзеў на гэту... паперку, за руку мяне, цераз шлях перавёў мяне:

— Садзіся і сядзі тут,— па-руску.— Сядзі, пакуль я не прыду, не ўцякай нікуды. Еслі пабяжыш — уб'юць цябе.

Ну, што будзе, то будзе. Я села і сяджу. А мама мая дый кажа:

— На хусту і хлеб ужо, у бежанцы сабірайся.

Два кускі сала з сабой яна ўзяла, дзве булкі хлеба — гэта ж трое дзяцей ужо і самі ўдваіх,— думалі ж, што пагоняць у бежанцы. Я махнула: «Не нада!»

**Пытанне:** — А маці ваша дзе?

— У крупадзёрцы ўжо.

**Пытанне:**— Яна вам гэта перадала?

— Мне не далі ўзяць, не пусцілі мяне к ёй, а яе ка мне. Ну, я махнула: «Мама, не нада. Мне, гавару, хваціць дома».

**Пытанне:** — З мамай хто яшчэ з вашых быў?

— Дзве дзеўкі меншых, мае сёстры. Ну, немцы за людзей — у крупадзёрку, зачынілі гэтым завалам. А я сяджу, ногі спусціла вось гэтак у канаву і сяджу. Так, як во цяперака на лаве. Падыходзіць гэты самы, што мяне перавёў цераз шлях. А яны бегаюць, бегаюць, каністрамі — жах-жах-жах, пааблівалі каністрамі. А гэты самы падходзіць да мяне:

— Сабірайся — шагам марш!

І шляхам, кажа, паўзбок, толькі не бяжы, будуць страляць, гэта, кажа, не па табе. Так ён. Ну я і пайшла. Іду, што будзе, то будзе! Іду, іду, а там чалавек ідзе: яго пусцілі дамоў, каб дакументы гэтыя ўзяць, і двое дзяцей з ім. Немец павёў іх, тых людзей, тога чалавека з жонкай і з сям'ёй. А я пайшла і пайшла. Прыходжу на шлях сюды, а тут стаіць



гэты часавы. А гэтыя ўжо стаяць, а машыны так равуць усе. Падходзіць мая сястра (ёй цяпер семьдзесят два гады):

— А дзе тата з мамай?

А іх ужо, пакуль я адыйшла, запалілі, гарыць ужо крупадзёрка. Кажу: «Вот, ужэ гарацы!»

«Гэ-э-э!» — паднялі людзі крык.

**Пытанне:** — Усе гэтыя людзі? Каторыя засталіся?

— Ага. Я гавару: — «Ціхаце!»

Падскаквае адзін ды па-руску:

— Успакойцеся, а то і вам ета будзе.

Праўда, сці-іхлі ўсе, як вады ў рот набралі! Змоўклі. Падбягае Канавалаў гэты самы — той, што ў красную суботу быў...

**Пытанне:** — Яго тады партызаны пераналі таксама?

— Пераналі і ранілі, а нехта казуліцкія яго ў уборную захавалі. А праз ноч на жарабку завезлі ў Кіраўск.

**Пытанне:** — Ён быў начальнік паліцыі? Якой?

— Начальнік самы галоўны, етай Кіраўскай, ну, там. Атрадам ужо іхнім камандаваў. Ну, дык ён падходзіць:

— Ну што, ету сторану на вугаль зжэгці, а ета старана пусць стаіць!

**Пытанне:** — На вёску паказвае?

— На вёску. Етыя немцы ўжо як беглі, а сюды вецярок, як беглі па захлеўю, па захлеўю — цераз адну, цераз адну запалілі — гэта ўжо і гарыць усё. «А вы, кажа, расхадзіцеся». Усе тады і пабеглі, і я пабегла.

**Пытанне:** — У вас многа людзей засталося?

— Наша дзярэўня бальшая была. Трыста васемнаццаць ужо спалілі з малымі, ну, а яшчэ вёска вялікая. Я прыбегла, яшчэ выгнала карову, цялёнка і двое свіней выгнала. Стаяла вядро, міска і лыжак сем,— я за ета, на руку і пайшла з хаты. А так у хаце ўсё згарэла. Ну, пайшла, села на вуліцы і сяджу ўжо. Немцы мяне не кранулі. Толькі па шляху едуць — усё ўзад-уперад, узад-уперад. Некаторыя пахаваліся, а я сяджу, думаю — адна смерць, калі я ўжо адтуль ушла!.. Усё згарэла, назаўтра прыду і на двор яшчэ не магу зайсці. Як гляну — не магу, паверыце! Тады адкрыла пограб, зірнула на гэту адзежу: татава, маміна ляжыць. Я, вы паверыце, абамлела ў тым пограбе. Ну і што, пражыла... А забыцца не забылася. Тады сніцца гэтая мая сястра, самая меншая, яна такая кудлатая была! Хадзіла ў другі клас. Дык я кажу:



што партызанаў мала, што яны слаба ўзброены, абяцае ў хуткім часе іх разагнаць.

— Хто прынёс? — не пазіраючы на Зіну, хрыпла пытаецца Батура.

— Кінь, Аляксандр. Прыходзіла баба з мястэчка, прынесла. А другое — Вострыкавай Насці перадаў Спаткай. Сустрэў у мястэчку на вуліцы і перадаў. Цяпер ён як цюцька там. Насця хадзіла ў Бацькавічы па соль.

— Вострыкава Насця! — як бы штосьці ўспомніўшы, мармыча Батура.— Яе ж брата, здаецца, уходалі летам. Тады, як гнаў маладых у Германію. Зразумела...

Зіна спалохалася. Адразу, як толькі Батура зайшоў у хату, яна адчула, што з гэтым чалавекам, які носіць на твары пахмурную зацятасць, будзе цяжка гаварыць. Забрыдалі да яе ў дом другія партызаны, асабліва на першым часе, калі Спаткай толькі збег у мястэчка. Лаялі, зневажалі, нават забралі вопратку, што належала валасному бургамістру. Але ніколі не адчувала яна сябе так бездапаможна, як цяпер.

— Аляксандр, не хацела гаварыць, ды скажу. Каб на другіх людзей не думаў. Спаткай сам тут быў. На каленях поўзаў, прасіў, каб ішла з ім у мястэчка. Ды я яму доўга заседжвацца не дала. Узяў трохі бялізны, сала. Прыходзілі ўночы з Князевым. Толькі той у хаце не быў. Стаяў за вуглом, пільнаваў.

— Калі прыходзілі?— бялеючы з твару, пытаецца Батура.

— Тыдняў два назад. Як была мяцеліца. Уночы прыйшлі, уночы пайшлі.

— Вот, Алена...

Знаю, што яна спалена. А яна мне:

— Ох, Ульяна, да балела ж мая галава, пад палена хавала галаву, так прыпякло ўжо цяпло!..

Прыснілася. І пад палена яна хавала сваю галаву. Так у сне яна мне гаворыць».

Вогненная памяць, вогненныя сны...

Пра сны свае, ваенныя, пасляваенныя, расказваюць, гавораць нам многія. Бо ў снах тых — працяг іхніх пакут. Зноў і зноў, як самую рэальнасць, перажываюць людзі ўсё тое — разам з загінуўшымі і як бы за іх ужо.

Нават «калектыўныя» бывалі сны ў людзей — пасля таго агульнага жаху. І такія, што людзі ў лесе, пагаварыўшы, перагаварыўшыся раніцой, раптам беглі на свае папялішчы — настолькі рэальным загадам былі для іх начныя, у сне, уяўленні пра пакуты родных, блізкіх...

Мы — каля вёскі Лазовая ў Асіповіцкім раёне. Некалькі жанчын, занятых справай ля сянажнай ямы, даведаўшыся, хто і чаго прыехалі, гавораць з намі, перабіваючы адна адну: і пра ўчарашняе ўсё, і, яшчэ больш, пра сённяшнія справы. І адно з другім сплецена: жыццё ў чалавека адно, і памяць — таксама адна. Як на дрэве: раней чым дойдзе сок ад каранёў да самай апошняй, наймаладзейшай галінкі, павінен ён прайсці праз увесь ствол. А гэтыя жанчыны яшчэ і досыць маладыя, моцныя, таму і сённяшнія клопаты для іх маюць значэнне большае, чым для тых, для многіх, каго старасць «адсадзіла ўбок». Людзі, што жывуць усімі практычнымі справамі, інтарэсамі. І вось яны нам — пра сны. Пра свае, такія рэальныя, сны. Бо сама ж рэальнасць, рэчаіснасць тады выглядала жудасным сном, кашмарам. Адно пераходзіла ў другое, няведама дзе канчаючыся...

«...Мы былі ў лесе, — гаворыць Вольга Рыгораўна Грышановіч, — ну, і прыйшлі з лесу, калі нашых спалілі. Паглядзелі, сабралі попел: дзеці ляжаць — здаецца, жывое. Возмеш — папялок рассыплецца. У адной хаце мы сабралі ўсіх. Дзевяць цаброў — адны беленькія косточкі. А ў другой — там ужо была гáра. І кроў відна была,— іх, мусіць, білі. Таму што яны ў кучы, і кроў была. Па куточках былі, пад печам. Цераз год адзін дзед... Яму прыснілася жонка: «Чаму ты мяне не пахаваеш, — кажа яна ў сне, — я ж пад печам!» Ну, ён нікому не сказаў, дождж ідзе, ён ціхонька гэту печ раскідае. Прыходзім, кажам:

новапрызначаны камандзір Якубоўскі, ротны Ткач і Ключнік, які затрымаў уцекачоў, сам бываў у мястэчку і мог ведаць пра іх такое, чаго не ведаюць другія.

На панадворку ціснуцца цікаўныя кабеты. Некаторыя настроены ваяўніча, чуваць іх узбуджаныя галасы.

Першага прыводзяць Лубана. Ён у чорным паліто, скураную, фабрычнай маркі шапку трымае ў руках, круглы нязголены твар суровы, зацяты. Увайшоўшы ў пакой, намеснік бургамістра нерухома застывае на парозе.

— Сядайце,— запрашае Бондар, і калі Лубан наважваецца прысесці на табурэтку, прыўзнімаецца, працягвае яму праз стол руку. Гэтак жа вітаюцца з Лубанам Якубоўскі, Ткач і Ключнік.

— З якой мэтай прыйшлі да нас? — пытаецца Бондар.

Лубан, не задумваючыся, глуха выдыхае:

— Біць немцаў!

— Чаму так позна? Самі ведаеце, другія прынялі такое рашэнне раней.

— Былі прычыны, пра якія тут я не хацеў бы гаварыць.

Твар Бондара хмурнее.

— Дарагі таварыш, ці як там вас, прабачайце, называць. Да нас можна прыйсці толькі з адкрытай душой. Трэба гаварыць праўду, якая б горкая ні была. Разумееце, у нас фронт з усіх бакоў. Таму не ўсіх прымаем.

Лубан як бы каўтнуў паветра: у роце яго, відаць перасохла. Загаварыў тым жа глухім голасам:

— Ну, што ж. Я не збіраюся таіцца. Памыліўся я. У савецкай уладзе памыліўся... Можа, мне нельга нават даравадь. Да немцаў пайшоў сам. У трыццаць восьмым мяне арыштоўвалі. Лічу, што несправядліва. Выпусцілі, але дарогу закрылі. Не здолеў перабароць злосць. Многа чаго не разумеў. Нават аднаго акружэнца застрэліў. Мае рукі ў крыві. Вот усё...

Бондар глядзіць на Якубоўскага, на астатніх. Тыя сядзяць, апусціўшы вочы. Ім, як і яму самому, мабыць, яшчэ не прыходзілася мець справу з такімі, як гэты намеснік бургамістра.

— Значыць, разумееце сваю віну? — пытаецца Бондар.

— Разумею. Сволачы ўсюды ёсць. Пры ўсякай уладзе. Думаю, што немцы рукамі сваіх шпіёнаў рабілі трыццаць сёмы год. Усе тыя, што пісалі даносы, цяпер у іх. Савецкая ўлада не магла так рабіць.

Лубан гаворыць перарывіста, цяжка дыхаючы, на яго ілбе выступае пот, нервова цярэбіць пальцамі шапку. Пальцы шурпатыя, амаль без пазногцяў.

— Акружэнца за што расстралялі?

— Здалося, з тых самых. Сказаў, што ідзе з турмы. Даведку тыцкаў. А сам дзве гімнасцёркі нацягнуў. Не пытайце пра акружэнца. За яго сто немцаў пакладу. Верце слову. Ненавіджу немцаў!..

— Даўно сталі ненавідзець?

— З мінулага лета. Зразумеў, што прыйшлі знішчыць наш народ. Калі сталі паліць вёскі разам з людзьмі, расстрэльваць сем'і... Не знаходзіў месца. Не ведаў, куды падацца. Для партызанаў быў вораг.

— Да вас ад партызанаў ніхто не прыходзіў?

Лубан устрапянуўся, зірнуў у вочы Бондару.

— Мінулым летам была жанчына з Няхамавай Слабады. Нібыта ад дэсантнікаў. Спачатку думаў — правакацыя, потым ледзь ад паліцыі яе ўратаваў. З таго дня лягчэй стала. Думаць стаў пра партызанства.



— Чаму не ўстанавілі з партызанамі сувязь?

— Не прыйшлося. Вы не думайце,— Лубан раптам захваляваўся,— мы не ўпяцярых збіраліся ўцякаць. Мецілі ўсю паліцыю пад удар падставіць. Там, у мястэчку, зброя схавана — вінтоўкі, кулямёты,— можна праверыць. Сарвалася. Аднаго сцапалі. Таму кінуліся да вас.

Партызаны пераглядаюцца. На Лубана пазіраюць ужо не так строга. Падабаецца ўсім, што гаворыць шчыра, не тоячыся.

— Сям'я ў мястэчку? — пытаецца Бондар.

— У мястэчку,— Лубан апускае галаву.— Мая і Адамчука старэйшая дачка на Падляшыне. На хутары. Схавалі ў аднаго чалавека. Не ведалі, як нас прымеце.

Бондар устае.

— У партызаны вас прымаем, таварыш Лубан. Хоць амністыі не аб'яўляем. Зброю палучыце сёння. Астатняе залежыць ад вас.

Наступным выклікаюць Гадуна.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### I

Калматыя конікі шпарка бягуць па ўезджанай дарозе. Цуг саней расцягнуўся на паўвярсты.

Сіняватыя, блізкія чалавечаму сэрцу колеры пануюць у наваколлі. Яшчэ між дрэў ляжаць гурбы наздраватага снегу, які паспеў толькі чуць-чуць асесці, спіць яшчэ ў нары-сховішчы барсук, прытаілася ў дупле вавёрка, не падаюць голасу, акрамя варонаў, ніякія іншыя птушкі, а пахне ўжо вясной.

Пранікліваe вока тутэйшага чалавека заўважае многа прыкмет набліжэння вясны. На голлі вербалозу разбухлі покаўкі, з некаторых вытыркаюцца белыя коцікі. Прыспусцілі вецце старыя, разгалістыя бярозы.

Цяпер, на прадвесні, асабліва пакутуе ад недаядання заяц, таму, не зважаючы на небяспеку, бязлітасна абгрызае кару нават з прыдарожных асінак. Небяспека, праўда, невялікая: зайцоў ніхто не страляе, іх развялося шмат. Заечыя сляды напаткаеш на кожным лапіку снежнай роўнядзі.

Вярнуўшыся ў Сасновіцу, Бондар адразу адчуў перамены. Ля штабной хаты ў двары і на вуліцы — з дзесятак запрэжаных саней. Ля ганку малюнак зусім нязвычны — пахаджвае вартавы з перавешаным цераз шыю аўтаматам. Увогуле ў вялікай, з перакрыжаванымі вуліцамі вёсцы, кожная хата якой дала прытулак партызанам, відаць ажыўленне. У дварах заўзята пілуюць, сякуць дровы. З камінoў, хоць яшчэ светла, валяць у шэрае неба шызыя дымы. Часам вецер зрывае шапкі дымоў, сцеле па дахах, па зямлі. Крочыць па вуліцы па-вайсковаму, строем, аддзяленне, якое атрымала нарад.

У пярэдняй палавіне хаты, якая служыць штабам, на ложак навалена гара паліто, кажухоў, шынялёў. З другой палавіны даносіцца незнаёмы, густы голас.

Бондар увайшоў, стрымліваючы хваляванне, павітаўся.

За сталом — чарнявы, шыракаплечы чалавек у камандзірскім абмундзіраванні, але без знакаў адрознення. Ён стаіць. Перад ім стусік папер. Па правы яго бок сядзяць Вакуленка, акуратна пагалены,

падстрыжаны, па левы — сакратар міжрайкома Грынько. Дарошка прымасціўся на краі стала, штосьці піша. На табурэтках, крэслах, нават за шырмай на ложку сядзяць камандзіры і камісары атрадаў. З кутка падміргнуў Бондару Бальшакоў, усміхнуўся, кіўнуў галавой Хмяльніцкі.

Вакуленка падняўся.

— Наш начальнік штаба,— прадставіў Бондара.— Да новага года быў камандзірам Гарбылёўскага атрада. Атрад болей за другіх дзейнічаў на чыгунцы.

Вайсковец праз стол працягнуў Бондару руку:

— Лаўрыновіч... У Мінскім штабе чуў пра вас многа добрага. Выбачайце, што пачалі нараду без вас. Але сядайце і бярыце лейцы ў рукі.

Камандзіры заўсміхаліся. Бондар кінуўся ў пярэдні пакой распранацца. Калі вярнуўся, Грынько кіўком галавы запрасіў садзіцца побач. Нехта падставіў крэсла.

— Цэнтральны Камітэт ставіць задачу,— працягвае перапыненую гаворку Лаўрыновіч,— стварыць партызанскія атрады ва ўсіх раёнах вобласці. Туды, дзе пакуль няма базы, пашлём ініцыятыўныя групы. Для тых раёнаў, якія далі ўспышку партызанскай дзейнасці, але ўласных атрадаў не афармілі, іх арганізуем. Выдзелім мясцовых людзей з іншых атрадаў. Гэтак жа ставіцца пытанне адносна падпольных райкомаў, падпольных партыйных і камсамольскіх арганізацый. Яны павінны быць усюды. Пачнём выпускаць абласную і пяць раённых газет. Партатыўныя друкарскія станкі, шрыфты я прывёз, а кадры, думаю, знойдзем на месцы. Бальшавіцкі друк — наша магутнейшая зброя.

Сорак трэці год, таварышы, павінен стаць годам масавага ўсенароднага партызанскага руху. Пра поспехі Чырвонай Арміі вы ведаеце. Зламаўшы германскаму фашызму хрыбет пад Сталінградам, нашы войскі вызвалілі ўсю тэрыторыю, якую немцы паспелі захапіць летам і восенню мінулага года. Не выключана, што ў хуткім часе мы з вамі таксама адсвяткуем вызваленне.

Таварыш Сталін назваў партызанскі рух другім фронтам. Апраўдаем жа, таварышы, гэтую высокую ацэнку. Будзем вартымі велізарных клопатаў, якія штодзённа праяўляе аб нас, беларускіх партызанах, вялікі правадыр і настаўнік таварыш Сталін.

Урачыстыя, засяроджаныя твары. На іх як бы выраз святасці, вялікага ўзрушэння. Пры апошніх словах прамоўцы ўсе, хто сядзіць у пакоі, як па камандзе, уздымаюцца, дружна пляскаюць у далоні. Пляскае і сам Лаўрыновіч.

Бондар, як толькі заходзіць у пакой і садзіцца за стол, увесь напінаецца, як струна. Дакарае сябе ў думках за тое, што ўваліўся на нараду як мядзведзь, не здагадаўшыся распрануцца.

Ён слухае, поўніцца, як і ўсе астатнія, хто сядзіць у пакоі, узвышанымі пачуццямі. Момант сапраўды ўрачысты. Можа, такога моманту ён не зведаў за ўсё жыццё. Лаўрыновіч, бясспрэчна, разумны чалавек, кіраўнік вялікага маштабу. Пры ўсіх яго, Бондара, пахваліў. Запрасіўшы за стол, у прэзідыум, як бы паставіў на роўную з сабой нагу. Вядома, такія нарады праходзілі і раней, але не ў такой урачыстай абстаноўцы. Вакуленку перабівалі, не вельмі баяліся, калі крычаў і пагражаў. Вакуленка свой, тутэйшы. Лаўрыновіч — прадстаўнік цэнтральнай улады, паўнамоцтвы ў яго вялікія. Як бы яднае сваёй асобай іх партызанскія справы з велізарнай вайной, якую вядзе народ, армія.



— Калі падсумаваць сказанае,— гаворыць далей Лаўрыновіч,— то ў нас дзве вялікія задачы. Па-першае, не даваць ворагу ні хвіліны спакою на камунікацыях. Падрываць эшалоны, масты, знішчаць жывую сілу, тэхніку гітлераўцаў. Гэта наша непасрэдная дапамога фронту. Другая задача ў тым, каб зрываць палітычныя, эканамічныя захады акупантаў. Пытанне стаіць так: ні пуда хлеба, ні кілаграма масла і мяса ворагу. Усе атрады павінны вярнуцца ў свае раёны. Узяць пад свой непасрэдны кантроль гаспадарчае жыццё, весці нястомную масава-растлумачальную і палітычную работу. Мы павінны стварыць для фашысцкіх акупантаў невыносныя ўмовы, каб гарэла пад імі зямля, каб не мелі яны спакою ні днём ні ноччу.

Лаўрыновічу зноў пляскаюць, але ён не садзіцца, як бы даючы знак, што воплескі не патрэбны. Усміхнуўшыся, пераходзіць на больш даверлівы тон:

— Што ж, давайце абмяняемся думкамі, таварышы. Прашу выказваць усё, што набалела. Не забывайце, што я ў вас толькі тыдзень і мой партызанскі вопыт вось такі,— сашчаміўшы пальцы правай рукі, ён паказвае мізінец.— Папросім таварыша Вакуленку весці нашу нараду. Бо я, прызнацца, магу і не справіцца.

Твары цвітуць усмешкамі. Вакуленка падымаецца, дае першае слова Кандрату Дзярузе, высокаму, з чорным, пахмурным тварам камандзіру аднаго са шматлікіх акцябрскіх атрадаў. Дзяруга ўстае, аднекуль з-за пазухі выцягвае тоўсты сшытак. Ён у светла-шэрым, з бляклымі паскамі пінжаку, зімніх ватніх штанах, якія выдавалі да вайны шафёрам, стрэлачнікам і кандуктарам, у падшытых тоўстым лямцам валёнках.

Шурпатымі пальцамі Дзяруга адгортвае вокладку, адліствае некалькі старонак, хрыплым, прастуджаным голасам пачынае гаварыць аб высокай палітыцы. Выкрывае Гітлера, яго пасобнікаў, прарочыць ім немінучую гібель. Рускія словы вымаўляе на палескі лад, неміласэрна іх расцягваючы, блытаючы канчаткі. Усім ясна, што для даклада камандзір аж зашмат чарпануў з лістовак, газет, якія трапляюць у партызанскія рукі.

Дзяруга сваёй прамовай заняў паўгадзіны, але пра канкрэтную чыннасць атрада амаль нічога не сказаў. Відаць, проста пасаромеўся прызнацца, што ледзь не палавіна людзей не маюць вінтовак, а тыя, у каго яны ёсць, маюць да іх па пяць-шэсць патронаў.

Далей ідзе не лепей. Камандзіры Надпрыпяцкага атрада Міхнавец, Сасновіцкага — Гаркуша гэтак жа, як Дзяруга, прамаўляюць, гледзячы ў паперкі, урачыстыя словы.

Бондар нервова перакочвае ў пальцах аловак. Нараду Вакуленка не падрыхтаваў. Прамоўцы, як бы ўзрушаныя хваляй уздыму, стараюцца засведчыць, што разбіраюцца ў палітыцы, вядуць правільную лінію, а пра канкрэтныя справы гавораць найменей, пакідаючы іх убаку.

Бондара ўзрадаваў толькі Хмялеўскі, камісар Гарбылёўскага атрада. Гаворыць не з месца, устае, падыходзіць да стала. Ахайны, у добра адпрасаванай гімнасцёрцы, з падшытым падкаўнерыкам. Хоць настаўнік, а на вайскоўца болей падобны, чым некаторыя, што гадамі служылі ў арміі. У Хмялеўскага таксама сшытак, але ён у яго не заглядае. Дае падрабязную карціну: хто, калі і адкуль у атрад прыйшоў, колькі ўчынена дыверсій на чыгунцы, разагнана ўпраў, гарнізонаў, сарвана гаспадарчых мерапрыемстваў немцаў. Пад канец камісар падпускае шпільку папярэднім прамоўцам, сказаўшы, што не стажам трэба пахваляцца, а баявымі рахункамі.

Хмялеўскі не паспеў сесці, як падхопліваецца з налітым чырванню тварам Гаркуша, уздымае шурпатую далонь Дзяруга. Узбуджана гамоняць камандзіры, камісары глыбінных раёнаў, у якіх з выхадамі на чыгунку, з буйнымі дыверсіямі не густа. Нарада можа скіравацца ў непажаданы бок. Лаўрыновіч гэта адчувае: устаўшы, нахмурыўшы бровы, папярэджвае наконт дысцыпліны.

## II

Вясна наступае павольна-стрымана, спакойна. Празрыстыя, чыстыя адценні пануюць у паветры. Днём веюць цёплыя вятры, капае са стрэх, чарнеюць дарогі. Раскашуюць на нечувана багатым харчы, накіданым па дарогах, гракі. Надвячоркам лёгкі прымаразак зноў падсушвае ручаіны, акрываючы іх лёгкай хрупасткай наледдзю. Чуючы блізкае цяпло, нават галубы прыляцелі: гуркочуць на ўзлессі, на дубах.

Штаб ахоплен ліхаманкавай работай. Бондар з памочнікам Дарошкам спяць мала, носяць пад вачамі сінія кругі. Стварэнне брыгад на базе атрадаў — гэта вылучэнне на высокія камандныя пасады мноства людзей. Некаторыя камандзіры рот прызначаюцца камандзірамі атрадаў, палітрукі ідуць на камісараў. На ўсіх трэба характарыстыкі, іншыя паперы, а работа ў штабе не адрэгулявана і яшчэ болей — у атрадных штабах.

Ноч наўсцяж трашчыць у штабе на стале, раз-пораз успыхваючы зыркім агнём, запраўленая бензінам дванаццацілінейная лямпа. У магазін дзеля раўнамернага гарэння падсыпана соль. Але і падсолены бензін страляе.

На камандзіра Гарбылёўскай брыгады ідзе Бальшакоў. З яго кандыдатурай згодны наваствораны абком і штаб. Хто ўзначаліць дамачоўцаў, невядома. Наконт Петраўца — сумненні. Калі не пацягнуў атрад, то як стане на брыгаду?

Вакуленка блукае злосны, нахмураны. Піць нібыта перастаў, але ўсё адно як з пахмелля. Лаўрыновіч, асядлаўшы яго жарабка, узяўшы ў ахову трох маладых партызанаў, носіцца па атрадах.

Лаўрыновіч прыляцеў не адзін. Разам з ім Бурбіс, ружавашчокі, шыракаплечы мацак, які кіраваў у вобласці спортам, намеснік па камсамоле. Другі — пажылы, з вострым пранізлівым позіркам, але ветлівы — упаўнаважаны НКВД Хлябцэвіч. Ваяваў у Іспаніі, паездзіў, нібыта, па ўсім свеце. Набірае ў атрад спецыяльнага прызначэння людзей. Каторым жа намеснікам будзе Вакуленка? У партызанах ён з першага месяца вайны, падняў болей як дзесяць атрадаў, заварыў вялікую кашу. Высокіх пасад не займаў, адукацыяй пахваліцца не можа — тры класы, чацвёрты калідор...

Бондар з Дарошкам, сабраўшы паперы і замкнуўшы іх у жалезную скрынку (у такіх скрынках даваенныя касіры хавалі грошы), збіраюцца спаць, калі ў пакой, з грукатам адчыніўшы дзверы, усоўваецца бокам Вакуленка. Ён п'яны, у расхлістаным кажуху, без шапкі. Мокрыя, потныя космы звісаюць на лоб. Вакуленка плюхаецца на табурэтку — яна трашчыць пад ім усімі ножкамі,— абшчаперыўшы рукамі галаву, недаўменным позіркам абводзіць пакой.

— Давайце пагаворым, хлопцы. Ці, можа, вы ўжо мяне за камандзіра не лічыце?

Бондар зачыняе дзверы, садзіцца на ложак.

— Пашкадуй нас, Адам Рыгоравіч. Каторыя суткі як зайцы спім.



Вакуленка выбухае гневам:

— А мяне хто шкадуе? Усіх вас з гразі павыцягваў, людзьмі зрабіў, а вы?.. Новаму начальніку боты ліжаце. Пагладзіў па шэрсці, дык вы лапкі ўверх. Хто вас застаўляе горбіцца над бумагамі? Хіба мы бумагамі ваявалі? Дванаццаць атрадаў хто на ногі паставіў?

— Гэта ты з п'янай галавы, Адам Рыгоравіч,— азываецца Бондар.— Дарэмна. Свой атрад я, між іншым, сам арганізаваў. Ад цябе дапамогі было — дзве паперкі. Яшчэ сустрэўся з табой, калі не забыўся, у канцы сорак першага.

Дарошка, апусціўшы вочы, сядзіць пры стале, вострыць сцізорыкам алоўак.

— Добра, Бондар, няхай так. Няхай мы з табой роўныя. То чаму ты ад мяне адракаешся? Хто цябе ў штаб прыцягнуў? Хто пазатыкаў горлы, якія крычалі, што табе тут не места?..

Бондару непрыемна, балюча. Ён цяпер як паміж двух агнёў. Лаўрыновіч залішне крута верне, адціскаючы Вакуленку. У той жа час Бондару, як ваеннаму, бліжэй да сэрца парадак, дысцыпліна. Хіба не за гэта сам Вакуленка забраў яго ў штаб?

— Не бядуй, Адам Рыгоравіч. Баявых коней у запас не спісваюць. Знойдзецца месца. І не плявузгай на акружэнцаў. Фронт мы дзяржалі. З гразі вылезлі самі.

Вакуленка, пахістваючыся, устае, бярэ з падваконніка графін з вадой, п'е. Вада струменямі ліецца на кажух, на гімнасцёрку — не зважае.

Аддыхаўшыся, ён насядае яшчэ з большай злосцю.

— Вас, ваенных, чаму не любяць? Таму што ваявалі пагана, палавіну Расіі аддалі Гітлеру. Калі такое было? У гісторыі не знойдзеш. Ведаеш сам, як народ для арміі стараўся. Нашы людзі апошнім дзяліліся. Я ж па нарыхтоўках працаваў, магу без канспекта сказаць. Колькі хлеба здавалі дзяржаве, колькі мяса. На тое, каб вы сытна елі, каб блішчастыя гузікі насілі. І ты мне не талкуй пра акружэнцаў. У вас былі пушкі, кулямёты, вінтоўкі, а вы іх пакідалі. Мы пазбіралі тое, што вы пакідалі, і етым ваюем. Таму для мяне ўсякі калгаснік даражэй, чым камандзір, які пазрываў свае шпалы і туляўся па кустах. Ведай ета, Бондар. Але я за другое крыўдую. Лаўрыновіч няправільна робіць, а ты да яго прыліп. Перабежчык ты! А мая душа не церпіць перабежчыкаў.

— Да каго я перабег? Няўжо ты забыўся, хто прыслаў Лаўрыновіча?

— Ты мяне не пужай. Я самому таварышу Сталіну магу напісаць. Няхай ведае, колькі нам, парцізанам сорак першага года, каштуе наша парцізанства. Дзе нашы жонкі, дзеці? За што нас адціраць на задні план?

Вакуленка раптам ідзе да ложка, валіцца на яго і адразу пачынае храпці. Ці сапраўды так балюча пераўжывае адстаўку, ці плёў непатрэбства з п'янай галавы?..

## III

Падзеленыя ў штабных паперах атрады Дзяругі, Гаркушы, Міхнаўца, Паслядовіча, Батажкова, Бальшакова, Камарова, Млышэўскага зацвярджаюцца на пасяджэнні абкома як брыгады.

Па колькасці меншыя атрады Лажнаўца, Плотнікава, Аўраменкі,

Карафанава, Сасноўскага, Галышава застаюцца на ранейшым становішчы.

Пытанне праходзіць лёгка. Камандзірамі, камісарамі, начальнікамі штабоў прызначаюцца людзі, вядомыя ў сваім асяродку.

Калі заходзіць гаворка аб начальніку штаба злучэння, Бондар уздымае руку. Устае, коратка паведамляе пра паездку ў Піляцічы, размовы з жыхарамі. Нагадаўшы, што родам з Бацькавіч, ведае раён, просіць даручыць яму арганізацыю мясцовага атрада.

З хвіліну пануе маўчанне.

— Калі просіцца, хай ідзе,— не ўстаючы з лаўкі, гукае наваспечаны камбрыг Міхнавец.— Камандзір, нашто яго ў штабе трымаць? А ў штаб я свайго капітана адпушчу. Адарваў ад адной удавы, на вожках у атрад прывёў. Паставіў на ўзвод, але магу для карысці аддаць.

Зала выбухае рогатам.

Лаўрыновіч разгневаны:

— Атрады нашай вобласці не мелі адзінага цэнтра. Абком, штаб створаны, каб такі цэнтр быў. Тут таварыш Міхнавец кінуў жарт наконт штаба. Зарубіце на носе, таварыш Міхнавец, загад штаба — закон для нас. Ваша лінія, таварыш Бондар, таксама няправільная. Вам аказана высокае давер'е, ім трэба даражыць.

За Бондара галасуюць усе.

Наступнае пытанне — аб пасылцы ініцыятыўных груп у паўднёва-прыпяцкія раёны. Да апошняй хвіліны ніхто не ведае, на якой пасадзе застанецца Вакуленка. Калі ж Лаўрыновіч прапануе прызначыць яго камандзірам яшчэ не створанай Паўднёва-Прыпяцкай зоны, прысутныя насцярожана стойваюцца.

Бондар адразу адчуў, што сваёй прапановай Лаўрыновіч робіць памылку. Вакуленку не надта слухаюць, не заўсёды з ім лічацца, але ён як бы жывая гісторыя вакольнай партызаншчыны.

Першы ўстае Міхнавец. На галаве высокая, з баранняй аўчыны кучомка з шырокай чырвонай паскай, з-пад расхлістанага скуранога паліто відаць дыяганалевая камандзірская гімнасцёрка, перацягнутая крыж-накрыж рамянямі.

— Вакуленку за Прыпяццю не ведаюць, а ў нас ведаюць,— Міхнавец махае рукой за кожным словам.— Аднаго яго голасу баяцца. Я кажу пра ворагаў савецкай уласці, таварыш сакратар. Трэба яго тут паставіць на брыгаду. Можа будзе паніжэнне, але нічога не зробіш. Мы з ім акадземій не канчалі...

Міхнавец, якога Вакуленка вылучыў, падняў, камандзір не надта. Але ён як бы ўгадаў агульны настрой.

У падтрымку Вакуленкі выступае райкомавец Грынько, акружэнцы Карафанаў, Плотнікаў.

Лаўрыновіч нарэшце разумее, што памыліўся.

— Няхай будзе па-вашаму, таварышы. Я толькі думаў, што Вакуленка прынясе болей карысці ў Запрыпяцкай зоне. Атрадаў там няма, іх трэба арганізаваць. А ў яго вопыт і слава, як вы самі гаворыце. Калі вы супраць, то прапаную прызначыць Вакуленку на Дамачоўскую брыгаду. У раёне тры неразагнаныя гарнізоны. Работы хопіць. Насельніцтва сельскае, і, думаю, Вакуленка будзе ў сваёй стыхіі.

Калі пасяджэнне скончылася, Бондар затрымаў новапрызначаных камбрыгаў, камісараў, трох-чатырох атрадных камандзіраў. Адвёўшы ўбок Бальшакова, Хмялеўскага, загадаў:

— Ваша брыгада базавая. Штаб злучэння будзе пры ёй. Запрашайце гасцей. Каб усё было чын-чынам.



Спускаецца сiняваты полаг сутоння. Заходні край неба ў барвовых разводах. Над далёкім лесам запальваецца першая зорка. З усіх куткоў, шчылін аддае вясной: пахне адталым за дзень гноем — куча яго ля кожнага хлява, прэлай зямлёй, гнілым, зляжалым бульбоўнікам.

Ажыўленне, рух пануюць на вуліцах. Кожны з камандзіраў прыехаў з аховай — вазкі, таратайкі, коні амаль у кожным двары. Яшчэ ніколі не бачыла лясная Сасновіца, паблізу якой не пралягаюць ні чыгунка, ні шаша, такога вялікага людскога зборышча. Нібы па ўзмаху рукі нябачнага чараўніка з гарадскіх праспектаў, плошчаў, з людных мястэчак жыццё перамясцілася сюды, у лясную глухамань.

У хаце каля сцен стаяць камандзіры, перамаўляюцца, чакаюць. Вакуленка ўсё-такі малайчына. Здолеў заціснуць гонар у кулак. Вясёлы, падцягнуты, сустрэў Лаўрыновіча на парозе, узяў пад руку, пасадзіў у цэнтры застолля. Запрасіў садзіцца астатніх. Ён, калі трэба, умее быць гасцінным, абыходлівым, гэты Вакуленка, якога прывыклі бачыць на кані або ў таратайцы. Воляй абставін ён узнёсся над астатнімі камандзірамі, бо на чале атрадаў стаялі старшыні сельсаветаў, калгасаў, брыгадзіры, нават рахункаводы і кладаўшчыкі. А ён жа, Вакуленка, апошнія месяцы замяшчаў старшыню райвыканкома, і каму, як не яму, было браць лейцы ў рукі, кіраваць, аддаваць загады? Тады ж, калі Акцябршчына загарэлася агнём супраціўлення, каму, як не яму, было перакідваць полымя на суседнія раёны?..

З поўнай, налітай да краю шклянкай Вакуленка ўздымаецца над сталом. Пачынае прамову з несхаванай урачыстасцю:

— Дарагі Сяргей Кандратавіч, мы рады вітаць вас на роднай палескай зямлі як нашага сакратара і камандзіра. Дакладуем вам, што, як і ў гражданскую вайну, наша Рудобелка стаяла і стаіць у вангардзе барбы супроць ненавіснага ворага. Ад сябе лічна скажу, што ў Запрыпяцкую зону я ісці не хацеў, бо там мала лесу, болей поля, а да поля я не прывык. Брыгаду, на якую мяне назначылі, прымаю, давер'е парціі і ўрада апраўдаю. Перадаю вам сваю парцізанскую ўласць як законнаму ўпаўнаважанаму Цэнтральнага Камітэта, якому мы ўсе падчыняемся. Кіруйце намі да поўнага вызвалення вобласці ад праклятых фашысцкіх захватчыкаў і наступлення мірнай сазідацельнай жызні...

З гэтымі словамі Вакуленка абдымае Лаўрыновіча, цалуе ў губы. а затым імгненна, адным дыхам апаражняе сваю шклянку.

Воплескі, абдымкі, пацалункі... Некаторыя, не саромеючыся, тыльным бокам далоні змахваюць слязіну.

Наступны тост Лаўрыновіча. Ён дзякуе за давер, гаворыць аб тым, што партызанскіх заслуг не мае, але пастараецца займець. Момант спрыяльны, і Лаўрыновіч паведамляе: найбольш відныя партызаны будуць прадстаўлены да ўзнагарод, нават да прысваення воінскіх званняў.

Афіцыйная нацягнутасць знікае, па застоллі з краю ў край перадаецца ўзбуджаны гоман:

— Сяргей Кандратавіч, аэрадром у Зарэччы на нашай тэрыторыі, а палучаем вельмі мала. Шэсць аўтаматаў на брыгаду...

— Чыгунку на Жлобін трэба раскідаць. Тады будзе суцэльная парцізанская зона...

— Як разумець з пагонамі, таварыш сакратар?..

— Фёдар Бумажкоў пайшоў у армію разам з вамі. Можа, што чутно пра яго?..

Лаўрыновіч адказвае, расказвае, на хвіліну наступае цішыня, потым — зноў пытанні.

Харошае застолле і гаворка харошая. Упершыню за доўгія месяцы сыйшліся ў ёй самыя відныя людзі, якіх узняла на грэбень хваля ваеннага ліхалецця. Невядомыя, не славутыя раней, яны вынырнулі, як з цемені, і цяпер сядзяць за адным сталом з чалавекам, які не толькі ўпаўнаважаны высокай партыйнай улады, але і генерал. Можа, нават трохі зайздросціць ім гэты свойскі, не фанабэрысты і, відаць, не дурны генерал, хоць невядома пакуль, якія выйграў ён бітвы. А яны выйгралі — і ведаюць гэта самі. Непрыкметныя службоўцы, сціплыя працаўнікі нізавога — раённага, сельсавецкага звяна, учарашнія брыгадзіры, калгаснікі, настаўнікі, камандзіры-акружэнцы, яны ў часіну небяспекі, якая навісла над іх краінай, знайшлі сілу без каманды і загаду павесці за сабой другіх. Імёны іх на вуснах тубыльцаў ляснога, балотнага краю. Яны яго героі.

Вакуленка з Міхнаўцом выбраліся на двор праветрыцца.

— Сакратар ніштаваты,— прыхінуўшыся спіной да паркана, кідае Вакуленка.— Я яго да вайны ведаў. Пясочыў мяне ў саракавым за зрыў ільноваланна. Вельмі туга было тагды з трастой. Аршанская фабрыка стала. А цяпер я яго калі-небудзь прапясочу. Мог жа тут астацца, як мінскія, гомельскія абкомаўцы. Дык ён яшчэ Бумажкова пацягнуў. Дзякуй, што брыгаду даў. Спытаю калі-небудзь.

— Не спытаешся! — Міхнавец рагатнуў.— Мне расказвалі — наводзіць наконт цябе справкі: колькі п'еш, з якімі бабамі спіш. Прыцісне — будзеш, як мыш пад венікам.

— Мышшу я не быў і не буду.

Дыхае ноч цёплым ветрам. Капае са стрэх, пахне мокрым дзеравам.

(Працяг у наступным нумары).



*іван ласкоў*



ПАЭЗІЯ



## ТРЫЦЦАЦЬ

ПАЭМА

I.

Прыслухайся да гулу вадаспаду...

Мне трыццаць год.
Ляцяць, ляцяць гады,
Нічым іх не задобрыш, не супыніш.
Яшчэ як быццам я і малады,
А чую ўжо — не за гарамі фініш.
Няма дарогі ўбок, няма назад.
— Імгненне, стой! —
гукаю з-пад далоні.
Грыміць, грыміць імгненняў вадаспад,
Тане слабы мой голас у прадонні.
Я хлеб грызу, п'ю піва ля ларка,
Жыццё то лашчыць, то за чуб цягае,
А год маіх няўмольная рака
Тым часам на уступе не сціхае,
І чым хутчэй па ўзросце грукачу,
Тым галасней, пакінуўшы браваду,
У тлуме побыту сабе шапчу:
«Прыслухайся да гулу вадаспаду...»

II.

Свой час у кожнага, асобны час...

Ці прачарціла ў вашай галаве
Аднойчы думка —
быццам куля —
трасу,
Што ўсё жывое на зямлі жыве
У нейкіх розных вымярэннях часу?
Адна адлегласць у жывых істот
Да крыку роспачы ад нараджэння,
І вымяраецца не лікам год,
А тым, ці выканана прызначэнне.

І я не думаю, што матыльку,
Які, пражыўшы дзень адзін, канае,
Чагосьці не хапае на вяку —
Для ўсіх здзяйсненняў дня яму хапае.
Усім хапае часу на зямлі
На ўсе бясхітрасныя іх патрэбы —
І чарвяку, што млее у раллі,
І птушцы злой, што гаспадарыць
ў небе.



Адзіны ты нібыта не жывеш —
О чалавек, як адыходзіш рана!
Ці не таму,
што на сябе бярэш
Больш, чым прыродаю наканавана?
Табе прызначана паднядь дзяцей
Ды больш ці менш падгадаваць
унукаў,
А ты марнуеш час, як багацей,
На вынаходства колераў і гукаў;
Табе б на лыжах лёгкіх ці з вяслом
Піць па глытку каштоўныя хвіліны,
Ты ж за раялем,
з пэндзалем,
сцілом
Не заўважаеш, як ляцяць гадзіны.
Ды як бы наш ні скарачалі век
Імкненні нашы і учынкі нашы —
Не памяняю іх я, чалавек,
На сон двухсотгадовы чарапашы.

III.

Будзь сябрам, памяць, будзь заўжды
са мной!

О памяць ясная, калі б не ты,
Я быў бы усяго рухомай глінай.
Горш у мільён разоў ад слепаты,
Ад глухаты,
ад немай нематы
Адной цяперашняю жыць хвілінай.
Не пакідай мой ненадзейны мозг!
Ты мне не толькі разнастаіш
будзень, —
Ты мой адзіны непадменны мост
Паміж мінуўшчынай і тым, што будзе.
Будзь сябрам, памяць,
будзь са мной заўжды



На ўхабінах жыццёвай каляіны!
Не растрасай пражытыя гады,
Не занядбай ніводнае хвіліны.
Хай пад адхон свяжак у чараты
Мае секунды гоніць, быццам смецце,—
Яны мае, пакуль са мною ты,
Хаця даўно іх і няма на свеце.
І я не толькі той, якім усе
Сягоння бачаць — трыццацігадовы
Чыноўнік у якуцкім кажусе,
З кватэрай — на траіх — двухпакаёвай.
Нібы мільён матрошак, ува мне
Усе мае былыя варыянты —
Старанны вучань, сціплы піянер —
Свае героі, геніі, вар'яты...
Я не магу ўявіць, што іх няма:
Яны нібыта там, дзе пагубляў іх,—
З раменнаю папружкай ля гумна,
З пабітым чамаданам на вакзалах...
Вазьму білет на першы самалёт,
Ды пааб'еду ўсіх сваіх малодшых:
З тым — гутарыць, усеўшыся на плот,
Таго — дубцом,
таму — пазычыць грошы...

IV.

Свой час у кожнага,
асобны час...

Калі аглядваюся,
дні свае
Ператрасаючы, нібы анучы,—
Як мне тады дыхання нестае,
Як мне тады агідна і балюча!
Мне шмат чаго прырода не дала
З таго, што іншым дастаецца проста:
Слановай моцы, зоркасці арла,
Бясстрашша льва, жырафавага росту.
У дваццаць год без пуху на губе,

Падлетак у пабітых акулярах,
Да гневу ненавідзячы сябе,
Я быў такім жа, як і ўсе, у марах!
Як не хацеў я адставаць ад тых,
Хто меў і сілы, і прывабства досыць!
Як я не ўмеў магчымасцяў сваіх
З жаданнямі сваімі суадносіць!
Мне «хлопчык, гэй!» — заўжды
крычалі ўслед.
Як загырчу ў адказ наўмысным басам!
Мне не давалі ў крамах цыгарэт,
А я ўжо смагу запіваў не квасам.
Не ў тым бяда, што грошы прапіваў,
Што час губіў на глупства,
ілюзорнасць,
А ў тым,
што у самім сабе таптаў
Так і не здзейсненую непаўторнасць.
Не мог уцяміць розум прасцяка,
Што ўсе мае цялесныя заганы
Не як для хлопца — як для мастака
Былі маёй удачай нечуванай.
Там, у душы, дзе колісь спеў нарыў,—
Сягоння ні нарыву, ні парыву...
Старэў, цішэў, лагаднеў калектыў,
А я не выдаваўся з калектыву.
Як іншы люд — набыў таго-сяго;
Сям'я, кватэра, чыстая анкета —

Як ува ўсіх...
І што цяпер свайго,
Пра што цяпер я раскажу сусвету?

V.

### Як цяжка са старымі сябраваць...

Як цяжка са старымі сябраваць,
Любіць іх і ўвесь час за іх баяцца,
Штодзённую трывогу прыкрываць
Расхрыстанай усмешкаю паяца!
Гляджу ў палонкі, родныя да слёз,
А ў сэрцы грозна прадчуванне спее,
Што недалёкі той сівы мароз,
Які навекі іх блакіт завее.
Яшчэ цяжэй пісаць лісты здалёк
І заміраць, не дапісаўшы сказу,
Ад страху, што ўсяго адзін радок
Назаўтра прыляціць замест адказу.
З дзяцінства я цягнуўся да старых,
Не разумеў з-за глупства маладога,
Што, прыкіпеўшы, —
мне праводзіць іх
У найцямнейшую за ўсе дарогу.
Я не шкадую ні аб чым, о не!
Дабром парад і чуласцю душэўнай —
За пахавальны боль і галашэнне.
Я нат шчаслівы ад таго, што я
Сваёй няўважліваю маладосцю
Дадаў мо некалькі хвілін жыцця
Тым, хто сягоння дрэмле на пагосце.
І ўсё ж, калі мне ўдасца дацягнуць
Да сівізны і прыйдзе поўны маю,—
Перш чым яго да сэрца прыгарнуць,
Я гэты верш спачатку прачытаю...

VI.

### Усё часцей смерць бачу я вакол...

Усё часцей смерць бачу я вакол.
Я не аб тым, што смерці стала болей:
Пасля вайны на наш галодны стол
Гаротных трун стаўлялася даволі.
Я не пра тое —
смерць заўжды была,
Ды я не заўважаў яе малечай.
У сорак шостым бабка адышла
Звычайнаю дарогай чалавечай.
Не ўспомню бабкавай труны ніяк,
Нібыта вочы нават не глядзелі,
Адно запала ў памяць —
кіслы смак
Крупені той, што на памінках елі.
Калі было мне васемнаццаць год,
На шахце аднакласнік мой загінуў.
Але слядоў і гэты эпізод
На памяці юнацкай не пакінуў.
Цяпер не смерць — нібыта іншы зрок,
Цяпер яна мяне не абмінае,
То так, то сяк, то зблізку, то здалёк
Тактоўна аб сабе напамінае.
То падціхую ў думкі прашмыгне,
То аблавушыць весткай не найлепшай,
То у якуцкім гразкім тумане





Штурхне пад рэбры фараю аслепшай,
То ясным днём перад тваім таксі
Картэж жалобны незнарок урэжа.
Галосяць там — і сам хоць галасі,
Бо забаронены абгон картэжу.
Ці, можа, то сігнал:
спяшайся, брат!
Час не марнуй на дробязнае, хлопец!
Яго ў цябе не так ужо і шмат,
Глядзіш — на велічнае і не хопіць...

VII.

### Што мною зроблена за трыццаць год?..

Што мною зроблена за трыццаць год?
Ідзе да схілу лета,
блізка восень,
А на маім загоне — недарод,
Больш пустазелля ў полі, чым калосся.
Калі судзіць мяне за неўраджай,
Я, верагодна, змог бы апраўдацца —
На неспрыяльны звышдажджлівы май,
На звышзасушлівы Пятрок спаслацца;
Я мог бы ўспомніць, кажучы прасцей,
Як з трыццаці пятнаццаць год, не
меней,
Не меў прытулку для сваіх касцей,
Па інтэрнатах лепшы час разменьваў.
Але навошта памяць варушыць?
Не мае сэнсу, брат Янук, не мае.
Смерць не пытае, што хацеў зрабіць,
І што зрабіў — таксама не пытае.
Як не дапытваецца студзень-кат,
Што недароблена, у селяніна,
А зацярушыць стынню далягляд —
І у нядбалага скаціна гіне.
Чакай, пакуль вясна твой змые грэх.
Жыві на тое, чым памогуць людзі!..

Мне на падмогу спадзявацца — смех.
Ды і другой вясны ў мяне не будзе.

Дай часу, смерць! Спыні сваю касу.
Я не прашу ў цябе яго занадта,
Каб зноў сваю засеяць паласу —
Хачу убраць да кожнага зярнятка.
Дай абысці загон з кутка ў куток,
Каб не заўважаным на голай пожні
Ніводзін не застаўся каласок,
Мне ўсё адно — ён поўны ці парожні.

Дай часу, смерць, раз не дае жыццё,
На самую апошнюю работу —
Змалоць на жорнах горкае асцё
І горкі хлеб спячы з свайго ўмалоту.

VIII.

Ёсць край, якому вінен ты без меры...

Час не спыняецца на перадых
Ні яснай ноччу, ні у поўдзень шэры.
Пакуль пісаў пра трыццаць год
сваіх —
Трыццаць другі пастукаўся у дзверы.
Дык будзь жа спадарожнікам маім,
Былы мой вораг — катаржная праца,
Адзіны спосаб лёсу не паддацца,
Адзіны спосаб да змагання з ім!
Хай той адрэзак, што мне жыць яшчэ,
Ідзе не ў роспачным чаканні ўдару.
Хай разам з потам кроў з мяне цячэ—
За бясклапотнасць колішнюю кара.
Няма ратунку ад канца.
Але
Ёсць край, якому вінен ты без меры,
Ёсць стол у краі тым
і на стале —
Пяро тваё ды белы стог паперы.
Хай хвошча дождж і рвуць лісткі
вятры,
Хай б'е маланка —
не крычы «даволі!»
Жыві сталом і на стале памры,
Як маці некалі — на жытнім полі...

IX.

Будзь на зямлі маёй душы працягам...

Мой любы сын, майго жыцця працяг,
Далёкі час, калі цябе апаліць,
Што ўсе мы на сваёй зямлі ў гасцях,

І ты пачнеш гартаць таропка памяць.
Шчэ доўга быць, маленькі мой,
малым,
Дзявочым пацалункам агнявым
Яшчэ не скора вусны пасалодзіш...



Ты з сённяшнім трыццаць адным маім
У дваццаць першае стагоддзе
ўвойдзеш.
Чужы сусвету у жывым шаблон,
І ты — не я, павек не будзеш мною,
Не паўтарэнне ты маё сляпое,
Твой час інакшы,
а стварае — ён.
Жыві, як трэба, лепш, чым я, жыві,
Хай нат не сніцца у тваім стагоддзі,
Як захлыналася маё ў крыві,
Як шкодзілі сабе мы і прыродзе.
Усё маё, што я з сабой нашу,
Мне браць з сабой — каштоўнае,
благое.
Ах, я б аддаў табе сваю душу,
Калі б ты мог ёй даць жыццё другое.
Не пасаромеўся б я, хлопчык мой,
Яе ніводнай хібы і заганы,
Ні тых учынкаў, што у беднай ёй
Як найглыбей шмат год таму загнаны.
Калі б дазволіў бог ці сатана —
Аддаў бы, сын, сваю душу табе я,
Каб маладымі вуснамі яна
Дагаварыла ўсё, што не паспею,
Каб ты ў стагоддзя новага прасцяг
Мой любы сын, жыцця майго працяг,
Ішоў пад бацькавым суровым сцягам.
Будзь на зямлі душы маёй працягам.



П. ДАНЕЛІЯ. Асенняя звонкасць.



Г. ВАШЧАНКА. Маё Палессе.



В. ГРАМЫКА. Над возерам.



**В. АЗОЛ. Ураджай.** (Латвійская ССР.)

ПРОЗА



*леў кунько*

# У РОДНАЙ ХАЦЕ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. М. Меранкова

Вось і ўсё... Кузьма, цяжка апусціўшыся на канапу, адкінуў голаў на дэрмацінавую падушку і стомлена заплюшчыў вочы. Яшчэ ўчора ён быў рабочым чалавекам, а сёння — нікому не патрэбны пенсіянер, нахлебнік у дзяржавы. «Жыві спакойна і радуйся»,— успомніў сказанае там, у заводскім клубе. Радуйся... А чаго радавацца? Яму прыемна было, што ўсе гаварылі цёплыя словы, віншавалі з выхадам на пенсію, але нейкі камяк увесь час падступаў да горла і не было той радасці, якой зычылі. Ён слухаў усё гэта, і яму здавалася, што гавораць пра некага іншага, а не пра яго, Кузьму Самохіна. І трохі прыкра было чуць гэтае «быў», «пакінуў змену».

«Быццам на хаўтурах»,— нявесела ўсміхнуўся Кузьма.

— Ты што гэта сам не свой? — перапыніла думкі жонка.— Ці здарылася што?

— Яна яшчэ пытаецца,— азваўся Кузьма.

— Авохці мне! Чалавеку пенсію вунь якую далі, з пачотам праводзілі, а ён яшчэ нечага хоча...

— І ты туды ж. Далася вам пенсія мая!

Кузьма падняўся з канапы, прайшоўся па пакоі.

— Хоць бы разуўся. Я цалюткі дзень спіны не разагнула, а ён ботамі сваімі...

— І яшчэ прыбярэш, не вялікая пані.

— Ды яно так. Але ж Міколка з жонкай хутка будзе. А яна ж у нас першы раз,— палагоднела жонка. І, падышоўшы да Кузьмы, папрасіла: — Ты хоць з ёй ласкавейшы будзь. Маладзенькая ж зусім. Дык ты ўжо...

— Ну што ты заладзіла? Што я — вылюдак які, ці што? Хіба не разумею?.. А калі шчыра, маці, то не па душы мне ўсё гэта. Вось выйшаў з завода — і быццам жыццё скончылася.

— Нічога, нічога, Кузя. Усё абыдзецца. Адпачнеш, а там і прывыкнеш. Адрабіў сваё, дзякаваць богу. Я вунь усё жыццё толькі і ведаю, што з чыгункамі ды рагачамі важуся — і нічога, жыву.

— У цябе, маці, справа іншая. Ты дзяцей гадавала...

Мікалай прыехаў, калі ўжо вечарэла. Штурхнуў веснічкі і, не аглядаючыся на жонку, якая ішла за ім, шпарка падняўся на ганак. Высокі, статны, трымаючы ў руках па чамадане, ён нагой пагрукаў у дзверы, якія тут жа адчыніліся. На парозе стаяў Кузьма.

— Здарова, бацька!— гукнуў Мікалай весела.— Сустракайце гасцей!

Ён паставіў чамаданы і абняў бацьку. Маці стаяла ля адчыненых дзвярэй, што вялі з сенцаў у хату, і нервова выцірала фартухом рукі.

— Сынок!.. Прыехаў,— яна кінулася да Мікалая і, уткнуўшы галаву ў расхрыстанае паліто сына, ціха ўсхліпвала.

— Ну хопіць, хопіць, мама. Як вы тут? Вось і ўбачыліся...

— Дзякаваць богу.— Потым, спахапіўшыся, падышла да нявесткі. — Здрастуй, дачушка,— і ў нерашучасці спынілася.

— Люда, пацалуйцеся!— весела выгукнуў Мікалай.— Раднёй усё ж такі сталі!

Маці абняла нявестку і тройчы крыж-накрыж пацалавала яе.

— Міласці просім, нявестачка,— запрасіў Кузьма.— Заходзь, дачкой будзеш.

Мікалай лёгка падхапіў вялізныя чамаданы і першы ўвайшоў у хату. Адразу зрабілася шумна і весела. Сваім басавітым голасам і гучным смехам Мікалай запоўніў усю хату. Ён шчоўкнуў замкамі чамадана і пачаў выгружаць з яго розныя пакункі і пакуначкі.

— Гэта табе, мама,— Мікалай падаў нешта загорнутае ў паперу.

— А што ж гэта такое?— маці разгарнула паперу і трымала ў руках бутэльку з-пад кефіру.— Нешта я нічога не разбяру.

Мікалай артыстычным жэстам выцягнуў з бутэлькі пуховую хусцінку.

— Што, падабаецца? — зарагатаў ён.— Сапраўдная арэнбургская. А бутэлька — гэта для эфекту. А табе, тата, ужо без усялякага эфекту. На, насі на здароўе. І ацані маю памяць. Помню, які памер табе патрэбен,— і ён падаў бацьку боты.

— Дзякуй за падарунак. А што помніш, то гэта добра.

— Ды не слухайце вы яго. Ён нават сваіх чаравікаў не ведае памеру, а запомніў толькі, што ў вас ногі аднолькавыя,— падала голас Людміла.

— Вось бачыце, якую я вам нявестку прывёз. Адразу ваш бок бярэ. Мужа роднага з галавой выдае,— жартам сказаў Мікалай. І, вы-

маючы з чамадана пакункі, працягваў: — Тут самі разберацеся, што каму. А гэта Ваську. Да дзяўчат, відаць, пабег, што так позна дома няма?— Ён разгарнуў паперу і паказаў прыгожы світар.— Гэта яна дастала,— кіўнуў Мікалай на жонку.

— Хутка і Васіль будзе,— сказаў бацька.— Лекцыі ў яго сёння.

— Усё вучыцца... Ну што ж, хай вучыцца, мо і ў нашай сям'і інжынер будзе. Толькі дарэмна не паслухаў ён мяне і не паехаў да нас. Там бы такі заробак быў, які ніводнаму інжынеру нават не сніцца. Я вунь баранку кручу і не скарджуся на заробкі, а з яго рукамі там азалаціцца можна.

— Вось што, Мікола. Хоць вы і родныя браты, але збіваць з толку хлопца я табе не дам... Хай вучыцца на здароўе, калі галаву мае. Кожны сам сабе дарогу выбірае. Твая добрая, кажаш, а па мне то і Васілёва не горшая,— перапыніў яго Кузьма.

— Ды што ты, тата? Гэта я так. Хоча вучыцца — хай вучыцца. Хіба я вораг брату роднаму?— прымірэнча адказаў Мікалай.

— Ну то-та ж, — пагадзіўся бацька. — Не ў заробку радасць. Мы вунь з маці ніколі вялікіх грошай не мелі, а жыццё пражылі і без хлеба не сядзелі.— І, звяртаючыся да жонкі: — Дзе там у нас, маці?.. У магазін схаджу...

— Пойдзем разам,— прапанаваў Мікалай.

— Сядзі ўжо. Прыехаў у госці — будзь госцем. А ты, Людмілка, памажы там маці на кухні.

Мікалай тры гады таму назад завербаваўся і паехаў на Поўнач. Стары Кузьма не адгаворваў яго. Ведаў няўрымслівы сынаў характар і не пярэчыў. Выбраў такую дарогу — то і ідзі па ёй. Яму хацелася, каб старэйшы сын быў пры ім, зваў на завод, але той палічыў за лепшае сесці за руль.

«Прастор люблю, раздолле, жыць так, каб аж вецер у вушшу свістаў»,— гаварыў Мікалай бацьку.

«Глядзі, сынок, каб жыццё не прасвістаў. А калі надумаў, то едзь, адгаворваць не стану. Чалавекам і там можна быць».

Кузьма надзеў паліто, сунуў у кішэню авоську. Мікалай закурыў і разам з ім выйшаў на ганак.

— Ну як, добрую я вам нявестку выбраў?— спытаўся ён у бацькі.

— Табе лепш ведаць,— няпэўна адказаў Кузьма.

— Душэўны яна чалавек. Дзетдомаўская. Вы яе тут прыгалубце ўжо. А мо, тата, грошы возьмеш? — спытаўся ён раптам і палез у кішэню.

Кузьма нічога не адказаў і выйшаў за веснічкі.

Калі вярнуўся, то Васіль быў ужо дома. Яны сядзелі з Мікалаем на канапе і ціха размаўлялі. Людміла памагала маці ставіць на стол.

— Прабач, тата. Я і не ведаў, што ты на пенсіі з сённяшняга дня.— Мікалай падняўся і падышоў да бацькі.— Віншую. Адпрацаваў ты сваё. Пра грошы не турбуйся. Падкідваць буду. Нам з Людай хапае.

Кузьма моўчкі паставіў на стол бутэлькі і пайшоў на кухню.

— Не ў гуморы нешта наш стары. Што гэта з ім?— спытаўся Мікалай у Васіля.

— Нічога. Гэта ў яго бывае,— няпэўна адказаў той.

Настрой бацькі перадаўся сынам. Неяк прыцішылася весялосць Мікалая, ён сядзеў на канапе і перагортваў кніжку.

За стол садзіліся ціха. Кузьма напоўніў чаркі і ўстаў:

— Ну вось мы і сабраліся разам. І Людмілка ў нашу сям'ю ўвайшла. Люба ты Мікалаю, любай і нам будзеш. Хацелася б дачакацца



і тваёй, Васіль, радасці. А цяпер вып'ем, дзеці, за ваша шчасце. Мы вунь з маці колькі адмахалі ўжо, нас і з балансу спісваць можна, а ўсё прайшло, нібы адзін год.

— Не, бацька. Не тое ты гаворыш,— перабіў яго Мікалай.— За наша шчасце мы яшчэ вып'ем. А сёння ты ў нас імяніннік. Вось за цябе і маці нашу і вып'ем першую чарку.

— Спрачацца не будзем. І мы з маці заслужылі гэтага. Так я кажу, старая?

Маці сядзела сцішаная і моўчкі пераводзіла позірк з Кузьмы на дзяцей. Час ад часу падносіла да вачэй насоўку.

— За вас, тата і мама,— паднялася Людміла. Яна падышла па чарзе да кожнага з іх, чокнулася і пацалавала.

Сядзелі за сталом доўга. Мікалай расказваў пра далёкую Поўнач, хваліўся заробкамі. Кузьма слухаў моўчкі. Ён чакаў прыезду сына з нявесткай, рыхтаваўся да гэтага, а вось цяпер радасці не адчуваў. Чаму? Ды ён і сам не мог адказаць на гэта. Бачыў, што ягоны Мікалай трывала стаіць на нагах, і не было ніякай прычыны чым-небудзь упікнуць сына. І жонка, здаецца, у яго што трэба. Сабой ладная і гаспадарлівая. (Кузьма паспеў ужо заўважыць гэта). Дык чаго ж ты хочаш, Кузьма Самохін? Што яшчэ табе трэба? Твой старэйшы— ужо сталы, сямейны чалавек, хутка, дасць бог, ты дзедам станеш. Не трывожыў і Васіль. Працавіты, разумны хлопец. І на заводзе яго паважаюць, і ў інстытуце — праўда, у вячэрнім — вучыцца. Не сорамна Кузьму за дзяцей. Але прыглядзіцца ён да Мікалая і бачыць, што нешта штучнае ў яго, не іхняга, самохінскага роду. Ну, чаго, чаго ты рагочаш, як жарабок-стаеннік? Чаго вылузваешся перад бацькамі і братам? Зарабляеш добра? І спажывай на здароўе. Зарабіў — не ўкраў. Гэтага саромецца не трэба. Але ж і перад людзьмі выстаўляць не варта. Падумаеш, мільянер знайшоўся. Хусцінку ў бутэльку засунуў і рагоча. Цырк знайшоў, эфект, бач, яму патрэбен. А мы ўсё жыццё без эфекту пражылі і далей не горш за людзей жыць будзем.

Васіль ціха размаўляў з Людмілай. Мікалай, добра захмялелы, расказваў бацьку:

— Разумееш, усё там добра. Толькі людзей мала... Тры гады пражыў, а сябра сабе так і не знайшоў. Кожны жыве сам па сабе, дзяньгу зашыбае. Мала хто стала асталёўваецца. Наб'е кішэні — і на мацярык, як у нас там кажуць. Ды і я вось гадкі з два пасяджу за рулём, а там махнём куды-небудзь. Работа ў мяне, сам ведаеш, калымная. Таксі там не ходзяць. Зробіш рэйс у адзін бок, а назад вяртаешся — твая выручка. У людзей заўсёды перавезці што-небудзь знойдзецца. Тут табе на кожным кроку міліцыя ды аўтаінспектары, а там раздолле, на сотні кіламетраў жывой душы не сустрэнеш. Твая дарога, і ты гаспадар на ёй.

— Ну, а начальства як на ўсё гэта глядзіць?— спытаўся Кузьма.

— А што начальства? Быў у нас такі, што спрабаваў свае парадкі завесці, ды доўга не пратрымаўся. Знялі.— Мікалай з хітрынкай засмяяўся.— А нам што трэба? Калі папрацаваць — дык я двое сутак з кабіны не вылезу, але не перашкаджай і мне жыць. Будзе мне — будзе і табе, як той казаў. Вось і перападае, апроч зарплаты, кавалак ладны. Затое цяпер я кум каралю. За адзін месяц магу столькі зарабіць, што вы тут і за тры не заробіце. Калі жыць, то жыць трэба з шыкам, а не сядзець, як той крот у нары.

Кузьма слухаў моўчкі, не перапыняў. Бачыў, што Людміла час ад часу паглядае на мужа з нейкім затоеным сумам. Яму хацелася ўстаць, грукнуць кулаком па стале, каб аж вокны задрыжэлі. А яшчэ



лепш — аплявуху добрую заехаць сыну. Але ён маўчаў. Ды і не мог ён сёння спакойна гаварыць з сынам. А заўтра? Заўтра ён паставіць ультыматум: альбо бацькі, альбо Поўнач твая калымная. Толькі спачатку з нявесткай пагаварыць трэба.



— Хопіць людзям зубы загаворваць,— звярнуўся Кузьма да Мікалая, каб перапыніць яго выхвалянне.— Лепш налі яшчэ па чарцы.

— А можа, хопіць ужо?— падала голас Людміла.

— Свята сёння. Я ў родную хату прыехаў. Дык чаму ж нам не выпіць?— падняўся з-за стала Мікалай.

Ён наліў чаркі і, расплёскваючы гарэлку, завёў:

У край далёкі па-а-язддж-а-й, сыночак,
Толькі нам адтуль ты на-а-пішы-ы.
І да на-а-с вяртайся, як захочаш...

Але змоўк, падышоў да бацькі.

— Вось я пабываў у далёкім краі і да вас вярнуўся.

— А ты, Мікалай, нейкі другі стаў,— не слухаючы яго, сказаў Кузьма.— Цябе і пазнаць цяжка.

— Які?

— А ты сам на сябе паглядзі. Хіба не бачыш?

— Такі, такі, тата, як і быў. Нашага, самохінскага кораня. Патомных рабацяг. І сын мой, а твой унук рабацягам, як і мы, будзе.

— А я, сынок, рабацягам ніколі не быў. Я чалавек рабочы.

— Не злуйся. Свята ў нас сёння. Я рады, што акурат у гэты дзень прыехаў. Ты як хочаш думай, а я рады за цябе. Хопіць, адстаяў ты сваё ля станка. Устанеш заўтра — і вольны казак. Жыві ды жыццём любуйся. Пенсія добрая, а трэба, то сыны памогуць.— І раптам, спахапіўшыся, дадаў:— А ведаеш што? Мы з Людмілай да мора думаем пракатацца. Айда з намі!.. Ты ж, мусіць, за ўсё жыццё і на курорце ніколі не быў?

— Вось гэта ідэя! Згаджайся, тата! Сам ты ніколі не збярэшся паехаць,— падтрымаў брата Васіль.

— Пра гэта не на п'яную галаву талкаваць. Будзе яшчэ час падумаць,— адказаў Кузьма.— А за ласку — дзякуй, сынок.

— А што тут думаць?— не адставаў Мікалай.— Магу ж я хоць адзін раз бацьку-пенсіянера на курорт звазіць?

— Ну што ты заладзіў: пенсія, пенсія... Далася яна табе. Прыехаў у госці і гасцюй...

Кузьма і сам не ведаў, што з ім робіцца. Усё яго раздражняла, злавала. Ну і што, калі сын пенсіянерам назваў? Што ў гэтым блага? У цябе сёння госці, сын з нявесткай прыехаў. Павінна быць свята. Але свята не было. Не было і святочнага настрою. Мікалай сапсаваў яго? Можа, яно і так. А можа, ён проста выхваляецца лёгкімі заробкамі? Хоча паказаць, што не прагадаў, паехаўшы на Поўнач? Дык дзе ж прычына? Дзе?

Спаць клаліся позна. Кузьма доўга варочаўся ў ложку, думаў. Думаў пра Мікалая, Васіля. Выраслі дзеці, кожны абраў сваю дарогу. Як яны пройдуць яе? За Васіля не баяўся. Добры хлопец, свайго даб'ецца. А Мікалай? Заўтра пагаварыць трэба. А можа, і не трэба нічога казаць? Не маленькі ўжо, сам павінен разумець усё. Але ж ён бацька, у сынах павінна застацца і ягоная часцінка. Усё жыццё ён вучыў іх быць самастойнымі. А калі не навучыў нічому добраму, то, значыць, і сам нічога не ўмеў, грош цана табе, Кузьма Самохін...

Раніцой Кузьма прачнуўся а сёмай гадзіне. Каб нікога не турбаваць, ціхенька прайшоў на кухню. Есці не хацелася. Крыху пасядзеў, дастаў брытву і без люстэрка пачаў вадзіць па падбародку. Толькі паголіўся, як, заспаны, ускудлачаны, выйшаў Мікалай. Напіўся вады.

— А ты куды збіраешся?— спытаўся ў бацькі.— Хіба забыўся, што пенсіянерам адпачываць трэба?

— Куды, куды... На завод пайду, вось куды.
Мікалай паціснуў плячыма і пайшоў з кухні.
Кузьма ўжо апранаўся, калі выйшла жонка.
— А можа, не хадзі сёння? З Мікалаем паталкаваў бы.
— А што талкаваць? Калі ёсць галава на плячах, то і сам зразумее, што не ў заробку ды ў курортах шчасце. Знойдзе сваю дарогу.
— Можа, і так. Табе лепш ведаць... Вось, перакусіш там...— яна хуценька сунула яму ў кішэню пакунак.
Кузьма з удзячнасцю паглядзеў на жонку і выйшаў з хаты.

Снедалі без Кузьмы. Васіль паставіў на стол бутэльку, але Мікалай адмовіўся.
— Хопіць, брат, і ўчарашняга. Не трэба.— І, звяртаючыся да Васіля, спытаўся:— Што гэта з нашым бацькам? Можа, на мяне пакрыўдзіўся?
— Не разумееш ты яго,— крыху памаўчаўшы, адказаў Васіль.— Адвык за тры гады. А ён цябе чакаў. Нават да вас збіраўся з'ездзіць. «Вось, кажа, адпачну крыху і паеду да Мікалая. Хоць свету пагляджу».
Мікалай сядзеў задуменны, моўчкі еў. Ён любіў і паважаў бацьку, не хацеў яго крыўдзіць. Ды, відаць, пакрыўдзіў. Ён цьмяна помніў учарашнюю размову, але ведаў: сказаў нешта такое, што абразіла бацьку. А маці? Вунь і яна сядзіць нейкая сумная, быццам і не рада прыезду сына. Толькі цяпер ён убачыў, як яна пастарэла. Ды і бацька з'ехаў, схуднеў за апошні час. Ён помніў іх маладымі і прыгожымі. У думках ліхаманкава праляцела дзяцінства, апошнія гады жыцця. Тут, у гэтай хаце, ён нарадзіўся, адсюль паехаў шукаць шчасце. А ці знайшоў? Так, знайшоў. Вось яно, шчасце яго. Людміла, старэнькія бацькі, гэтая хата, дзе ўсё да дробязяў знаёмае і дарагое.
Мікалай падышоў да жонкі.
— Ты не пакрыўдзішся, калі да мора не паедзем? Адпачыць ты і тут зможаш.
Яна згодна кіўнула галавой.
— А мы з Васілём за гэты час хату падрамантуем. Спатрэбіцца яна нам яшчэ...





***мікола арочка***



ПАЭЗІЯ



■

Слухаю, слухаю боль чужы.
Нехта мне зноў спавядаецца.
Знаю: лягчэй,
Калі да душы
Спагадна душа дакранаецца.

Трагедыі,
Плачце сухімі слязьмі,
У плячо маё тыцнуўшы тварам.
Як жа няладна ўсё, чорт вазьмі,
На гэтым апаленым шары!

Былое,
Агнём і пургою не вей.
Суцішцеся... Тое не вернецца...
А на рынку сусветным, як і раней,
Подласць высока цэніцца.

Хопіць.
Хвілінку давай памаўчым.
Апалае лісце кружыцца...
Уздрыгвае боль на маім плячы
І словам маім не тушыцца.

■

Палю за сабою масты.
Кожны міг — гэта з нечым расстанне.
Чуеш — быццам грымяць капыты
І вазы тарахцяць на змярканні.

Ды нялёгка з узростам паліць
У сабе галасы, адгалоскі
Той далёкай застрэшнай вёскі,
Што ўспамінам ва мне смыліць.

Як шкада аддаваць агню
Цішыню за мастамі драўлянымі,
І чарнічных бароў гушчыню,
І птушыную песню з палянамі!

Новы бераг мой, ты для мастоў
У жалезабетонных зводах.
І грукочуць саставы ў пралётах,
Як табунны галоп капытоў.

У саюзе бетону з жалезам
Ёсць трываласць, якую хвалю.
Ды на гулкіх шляхах прагрэсу
Я драўляных мастоў не палю.

■

Жывую ніць перапляценняў
Мы пазнаём у стратах, спакваля.
Адною тканкай лісцяў і карэнняў
Сягоння ператканая зямля.
Крані адно звяно з набраклых
парасткаў —
І недзе недарод і невырост.
Тапор ударыць спадцішка,
па-варварску —
І уздрыгне зямля за сотні вёрст.

■

*Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...*
*М. Багдановіч.*

Паміж замшэлых плітаў і вянкоў
Я ледзь знайшоў грудочак твой
пясчаны.
Прынесці б мне сюды не ружаў
чайных,
А з роднай нівы жменю васількоў.

Цяжкі, цяжкі табе прыйшоўся лёс,
Нібы зярнятам тым над хваляй Ніла.
Не верыцца, што тут твая магіла,
А не ў краіне соснаў і бяроз.

Прабіліся зярняты з-пад пластоў
І ўскаласілі — ўсё гэта вядома.
Але чаму, паэце, ты не дома,
Між каласоў і сініх верасоў?

Ты, кажуць, вечна марыў пра зварот
Да тых вытокаў, што з глыбінь
бруяцца,
Аб новых парастках патурбавацца,
Каб не пабіў сухмень ці недарод.

Пераступіў к табе я грэбень гор
З той верою зярнят у калашэнне,
Што ты жыццём пацвердзіў і
служэннем
І для мяне пакінуў як узор.

З цяжкіх глыбінь ты праз мяне
прарос,
Прарос з пакутнай цемені магілы.
А я стаю ў цяньку галін пахілых
І сіл шукаю,
гледзячы ў твой лёс.





**ніна загорская**



ПАЭЗІЯ



■

Звіваю шчасце у сувой,
сатканае табой і мной...
І так баюся,
што не хопіць
палатна,
каб прад табой
дарогі ўсе
заслаць.
Няўжо мне
давядзецца
датыкаць
адной?!.
З... няспраўджаных надзей
і... сноў...



**мечыслаў шаховіч**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Генерал Пушча

*Анатолю ВЯЛЮГІНУ*

Дзе і цяпер бярозы плачуць
І сосны тужаць, як удовы,—
Я генерала Пушчу бачыў,
Чуў яго з вечнасцю размову.

Калісь яго лясную сілу
Адчула чорная навала...
Тут партызанскія магілы
Навечна памяць захавала.

Нас кліча лета песняй новай,
І цішыня — над буданамі...
Сягоння зноўку бор сасновы,
Як партызан, гаворыць з намі...

І на узлеску, як калісьці,
Грыміць смяротны бой гарачы...
Пра подзвіг мне шапоча лісце.
Я генерала Пушчу бачу.

■

Адкажы мне на пытанне:
Дзе цябе схавала лета?
Нат зязюля на світанні
Усё кукуе: «Дзе ты? Дзе ты?»

Можа, стала ты сасною?
Мо смяешся кветкай-ружай
Ці ля мора нада мною
Неспакойнай чайкай кружыш?

Я стаю адзін ля мора,
Пазіраю адзінока:
Мо цябе убачу скора?
Мо твае пачую крокі?





**данута бічэль-загнетава**

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Як пачынаецца?
З таго, што прачынаецца,
Акенца ў свет даверу прачыняецца,
І вецер веку, як марскі прыліў,
Натхненнем чалавека акрыліў, —
Імчыся з распасцёртымі рукамі,
Пакуль не выскачыў на сцежку
камень...

■

Піць даюць з вядзерца градкам.
Курчацца дубкі.
За машынай ці за статкам,
Нібы жарабкі,
Уздымаюцца гасцінцы на дыбкі.
Як у пустцы, сухавей дудзіць на
дудцы.
З грушы — дулькі, з галавы страсае
думкі.
Просіць хмараў у райцэнтра аграном.
Метэаролагаў кляне ён перуном.
Бабка моліцца паціху, без пракляцця:
— О збавіцелька калгаснага багацця!
Захіні яго ад засухі рукой!
Смагу ніва і паветра супакой...
Ад змяркання да змяркання плача
ка́ня.
Хоць напоена скацінка, ды рыкае.
Бор засмяглы, занямоглы як зароў!
Абудзіўся ў трыдзевятым краі гром!

## Шэрыя сонцы

*Хірургу В. Я. Жуку*

На струнах нерваў другія гралі.
Твае прызванне — слязіну сцерці.
Штодзённа ходзіш па вострай грані,
Па зыбкай грані жыцця і смерці.

Стаіш над прорвай на ломкай кладцы,
Дзе птушаняці прыткнуць нагу.
Умацаванне — тонкі кетгут.
Змагаюцца пільныя пальцы.

Хоць боль і плач, смага і голад
І ныюць раны на змораным целе,
А вушы зловяць твой ранні голас,
І вусны зросіць кропля надзеі.

У белым пекле, засмяглым, сонным,
Адкуль на свет без пакуты нельга,
Усходзяць вочы, два шэрыя сонцы,
Цяплейшыя, чым тое, што ў небе.

■

Намоў сябе да слабых быць лагоднай.
А тое, што зрабіць неверагодна,
Пачні хутчэй, выконвай да канца
З упартасцю апошняга байца.
Па крузе — рынак-кухня — бегаць
прыкра?
Няхай цябе натхняе іншых прыклад.
Здзяйсняць учынкі — дзетак мыць
у ванне?
Сапраўднае жаночае прызванне!
Намоў сябе, як трэба, быць нямой.
Дзе трэба стаць крыклiваю — намоў!
Баліць табе? Ніякай асцярогі!
Упрыся — не баліць!— і стань на ногі.
Намоў, што будзеш вечна быць на
свеце, —
Не бойся, не дрыжы да самай смерці.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА 

● Аляксандр КУЧЫНСКІ ● Валянцін ЖДАНОВІЧ ● Аляксей КРАСНОЎ

● Уладзімір ЮРЭВІЧ ● Дзіна МАНАЕВА ● Алег ЛОЙКА ● Рыгор БЯРОЗКІН

● Алесь ЖУК

● Кандрат ТРАЎКІН ● Барыс ГЕРСТАН ● Георгі ЮРЧАНКА ● Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ



**Мар'ян Гольніс нарадзіўся на Пастаўшчыне. Ён узначальвае перадавую камсамольска-маладзёжную брыгаду на Вільнюскім заводзе паліўнай апаратуры.**

«Пабудаваць і ўвесці ў дзеянне прадзільна-ніткавы камбінат у Гродна».

*(З Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады).*

# І ЗАКРУЦЯЦЦА ВЕРАЦЁНЫ...



## 1. БУДОЎЛЯ.

Яшчэ зусім нядаўна тут было балота. Ды не абы-якое—вада не высыхала нават улетку, а зімою тутэйшыя хлапчукі з імпэтам гойсалі тут на каньках, ладзілі вясёлы лёдавы калаўрот. Зараз ад балота не засталося і следу. Трапіш сюды—і ажно не верыцца: на месцы колішняй багны ўсё вышэй расце велізарны белы будынак. Гэта—галоўны корпус будучага Гродзенскага прадзільна-ніткавага камбіната...

Намеснік дырэктара камбіната па капітальным будаўніцтве Леанід Пятровіч Чаплюк расказваў мне:

— Наш камбінат будзе буйнейшы ў рэспубліцы. Яго вытворчая плошча зойме 64 тысячы квадратных метраў. Прадпрыемства будзе выпускаць у год да 92 тысяч штук прадзільных верацён і да 200 мільёнаў умоўных шпулек нітак. Такога буйнога камбіната па вытворчасці пражы, асабліва нітак, у Беларусі—яшчэ раз падкрэслю—пакуль што няма.

Больш чым год віруе на будоўлі жыццё. Махаюць сваімі доўгімі жалезнымі рукамі краны, успыхваюць халодным бляскам агні электразваркі, адзін за адным паўзуць, калываючыся на калдобінах, «МАЗы», «ГАЗы», «ЗіЛы». Яны вязуць сюды панелі, цэглу, цэмент, бетон, арматуру і іншы «хлеб» будоўлі.

Камбінат расце не па днях, а па гадзінах. Усё больш акрэслена вырысоўваюцца абрысы яго вытворчых карпусоў, адміністрацыйна-бытавых і дапаможных будынкаў.

Старшы прараб БУ-151 Юры Фёдаравіч Кулікоў, знаёмячы мяне з будоўляй, гаварыў:

— У мінулым годзе мы асвоілі больш чым тры з паловай мільёны рублёў. Сёлета аб'ём будаўніча-мантажных работ павінен скласці каля дзевяці мільёнаў рублёў. Таму неабходна асаблівае працоўнае напружанне, самая поўная аддача сіл. Прыемна, што калектыў будоўлі добра разумее гэта і працуе з павышанай энергіяй, сістэматычна перавыконваючы дзённыя заданні. Самааддана—іншага слова тут, бадай, не падбярэш—працуюць брыгады Купы, Гамзюка, Слабыша. Усе яны носяць званне брыгад камуністычнай працы. Пра брыгаду Слабыша хорачца сказаць асабліва цёплае слова. Уключыўшыся ва ўсесаюзнае спаборніцтва работнікаў прамысловасці, будаўніцтва і транспарту за датэрміновае выкананне плана трэцяга, рашаючага года пяцігодкі, яна прыняла свой, сустрэчны план. Члены брыгады вырашылі выканаць гадавое заданне да 29 кастрычніка—да дня нараджэння Ленінскага камсамола. Сваё слова хлопцы трымаюць з гонарам—штодзённа выконваюць нормы выпрацоўкі на 130—135 працэнтаў...

## 2. БРЫГАДА.

Іх—дваццаць пяць. «Амаль карабельная каманда», як гаворыць былы матрос, а цяпер муляр Лёня Протас. Зрэшты, гэта цяпер іх стольні, а яшчэ зусім нядаўна было дваццаць шэсць—быў яшчэ Ваня Чахоўскі. Зараз Ваня— не то свой, не то чужы: упраўленне вылучыла яго брыгадзірам у суседнюю брыгаду. Праўда, сваіх ён па-ранейшаму не забывае, часта заходзіць праведаць хлопцаў. А як жа: дванаццаць гадоў аддаў брыгадзе. Гэта не жартачкі. За гэты час, як кажуць, душой прырос.

А кожны прыйшоў у брыгаду па-свойму, кожнага прывяла свая сцежка. Віця Звераў, напрыклад, прыехаў з Гродзенскага ГПТВ будаўніком. Прыжыўся тут. Адсюль потым пайшоў у армію. І сюды ж вярнуўся, дэмабілізаваўшыся.

— Чаму менавіта сюды?—цікаўлюся ў хлопца.

— А куды ж яшчэ?—здзіўляецца ён.

Пазней, ад хлопцаў, даведаўся, што Віця—сірата, рос і гадаваўся ў дзіцячым доме. Можа, і па гэтай прычыне стала брыгада яго, так сказаць, родным домам. Ён служыў у арміі, а ў брыгадзе памяталі аб ім, пісалі пісьмы, пасылалі падарункі і пачастункі. Таму, пэўна, і здзівіўся хлопец, пачуўшы маё пытанне. Яно і праўда: куды ж яшчэ было яму вяртацца, як не ў родную хату, у родную сям'ю.

Толя Статкевіч прыйшоў з іншай брыгады. Не спадабалася яму там. Людзі на рубель былі занадта сквапныя. І праз гэтую сквапнасць забываліся часам на чалавечнасць, трацілі тое добрае, што мелі за душой.

— Папрасіў ва ўпраўленні, каб перавялі ў брыгаду Слабыша,—расказвае Толя.—Чуў, што хлопцы ў яго брыгадзе харошыя, душэўныя, што працаваць з імі цікава.

— Не шкадуеш, што перавёўся? Задаволены?

— А няўжо ж! Я аб такой брыгадзе, можна сказаць, і марыў!

Зноў жа: зразумела, чаму пасля арміі Толя вярнуўся да Слабыша, у брыгаду. Правільней будзе сказаць—у сваю брыгаду, таму што ўжо тады яна стала для яго чымсьці родным і блізкім.

Працуе Толя Статкевіч у калектыве ўжо больш чым чатыры гады, набыў немалы вопыт, стаў мулярам высокага класа.

А поруч з ім—Бабаджан Кувандзікаў. Рабочай вывучкі, такой, як у Статкеві-



**Муляры і цесляры з брыгады М. Слабыша.**

ча, у яго яшчэ няма, хлопец толькі-толькі пачынае набываць яе, але верыцца, што з цягам часу і ён стане сапраўдным майстрам. Прыйшоў Бабаджан у брыгаду пасля арміі—служыў у Беларусі. А родам ён з кішлака Камсамолабад, што непадалёк ад Душанбэ.

— Мясціны ў нас прыгожыя,—гаворыць Бабаджан.—Увесь кішлак у садах, вінаградніках. Горы ўдалечыні...

— Што ж ты дадому не паехаў, а тут застаўся?—не то жартам, не то ўсур'ёз пытаюся ў яго.

— Хачу спецыяльнасць добрую мець у руках,—тлумачыць, крыху бянтэжачыся, Бабаджан. І, памаўчаўшы, дадае:—А яшчэ хачу памяць тут пакінуць. Слова сабе такое даў. Дзе жыў чалавек, там павінен ён памяць па сабе пакінуць.

— Ну і падабаецца табе ў брыгадзе?

— Ага.—Бабаджан пажвавеў.—Харошыя хлопцы. Вельмі харошыя!

Працуе Бабаджан у звяне Лёні Протаса. Не ўсё ў яго пакуль што гладка атрымліваецца. То кладку скасабочыць, то яшчэ што. Ды хлопцы заўсёды на дапамогу прыходзяць. А асабліва—звеннявы Лёня Протас, які за свае шэсць гадоў работы ў брыгадзе авалодаў прафесіяй дасканала. Ён нібы персанальна адказвае за Бабаджана, перадае яму свой вопыт, сваю вывучку. Закон такі ў брыгадзе: умееш сам—навучы таварыша.

Кувандзікаў, бадай, адзіны ў брыгадзе навічок. Усе ж астатнія працуюць у калектыве па 6—7 і больш гадоў. За гэты час паспелі не проста здружыцца-пасябраваць, а, лічы, парадніцца.

— Што я без брыгады рабіў бы—не ведаю,—казаў мне Лёня Ляпёшка.—Восем гадоў разам. Уявіць нават цяжка сябе аднаго, без хлопцаў...

За апошнія гады брыгада пакінула пасля сябе прыкметны след—будынак аэрапорта, піянерскі лагер, таксаматорны парк, радзільны дом, некалькі жылых дамоў. А вось цяпер камбінат—самая буйная будоўля ў жыцці хлопцаў. І самая галоўная, значыць. Скончаць яны будоўлю, і прыйдуць сюды рабочыя камбіната, закруцяцца верацёны, пабягуць-паплывуць на шпулькі бясконцыя ніткі... Гэта ж будзе! І людзі, якія будуць працаваць тут, успомняць—неадноййчы ўспомняць—іх, будаўнікоў, і трэба, каб успаміналі добрым словам. Хлопцы добра ўсведамляюць гэта. Сведчанне гэтаму—іх сустрэчны план, які яны прынялі ў пачатку года на камсамольскім сходзе. Ужо само слова «сустрэчны» гаворыць пра многае. І перш за ўсё пра тое, што брыгада як бы ідзе насустрач часу. Зрэшты, так яно і ёсць: брыгада працуе з апярэджаннем графіка. За кошт чаго? Па-першае, за кошт разумнай арганізацыі працы, рацыянальнага выкарыстання рабочага часу, скарачэння ўнутрызменных прастояў. Па-другое, за кошт рацыяналізацыі і ўкаранення тэхнікі. Так, напрыклад, раней на многіх участках, дзе нельга было прымяніць аўтакран ці вежавы кран, даводзілася працаваць уручную. Зараз жа шырока прымяняецца малая механізацыя: бетонаўкладчыкі, стужкавыя транспарцёры і інш. Па-трэцяе, за кошт павышэння прафесійнага майстэрства рабочых...

— Самае ганаровае слова ў нас—«трэба!»,—сказаў мне брыгадзір Мар'ян Слабыш.

Я бачыў, як ажывае гэтае слова, як яно набывае канкрэтную адчувальнасць. У канцы змены падышла машына з бетонам. І хоць да канца змены заставалася нейкіх пяць хвілін, ніхто з хлопцаў не пакінуў будаўнічай пляцоўкі, пакуль бетон не разгрузілі і не ўклалі ў апалубку.

Зразумела, што тон ва ўсім задае брыгадзір.

— Не ведаю больш самаадданага чалавека, чым ён,—гаварыў мне пра Мар'яна Толя Статкевіч.—Для яго наша прафесія будаўніка прыдумана спецыяльна...

### 3. БРЫГАДЗІР

Брыгадзірам Мар'ян працуе ўжо шосты год. Выбралі яго самі хлопцы замест ранейшага брыгадзіра. Той, ранейшы, не апраўдаў надзей. Піў, працаваць не хацеў. Хлопцы аб'явілі яму байкот, а на яго месца прапанавалі Слабыша. Мар'ян згадзіўся, толькі сказаў: «Буду брыгадзірам, але пры ўмове». «Што за ўмова?»—насцярожыліся хлопцы. «Працаваць—дык працаваць!»—адказаў Мар'ян. «Знайшоў чым палохаць!»—толькі і сказалі сябры.

Да свайго брыгадзірства Мар'ян працаваў тут жа, у брыгадзе. Мулярам. Прыйшоў ён у брыгаду з пэўным працоўным і жыццёвым набыткам—пасля сканчэння ГПТВ узводзіў у Салігорску па камсамольскай пуцёўцы калійны камбінат. Але, мусіць, толькі тут, у брыгадзе, праявіўся як мае быць ягоны талент мулярскі. А дапамог яму ў гэтым Леанід Прохаравіч Карканіца. Майстар ён быў, якога трэба пашукаць. Нездарма зараз ва ўпраўленні інструктарам па кладцы. Слабыш многае ад яго пераняў. І найперш—павагу да сябе і да сваёй нялёгкай працы. Карканіца даўно пайшоў з брыгады, а Мар'ян яго не забывае, як не забываюцца пра першага настаўніка.







**Работы на даху галоўнага корпуса ніткава-прадзільнага камбіната.**

Хлопцы Мар'яна паважаюць. Паважаюць за тое, што робіць за двух, што спецыяліст выдатны, што аб брыгадзе клапоціцца. Паважаюць і стараюцца ў чымсьці быць падобнымі на яго. Мар'ян не стаіць над душой. Давярае хлопцам. Вось брыгада працуе на розных участках. Але брыгадзір не бегае ад адной групы да другой. У кожнай групе ёсць у яго надзейны «наменснікі», на якіх ён спадзяецца, як на самога сябе, якім давярае. І яны ніколі не падводзяць брыгадзіра, паспяхова спраўляюцца са сваёй работай.

Дарэчы, гэтым даверам ён «забраў у палон» душы многіх. Памятаю, пры мне наведаўся на будоўлю Расціслаў Налівайка. Праз тыдзень ён ішоў у армію. Але вось не ўседзеў дома і прыйшоў праведаць сяброў.

Спачатку ён працаваў у іншай брыгадзе. Але—звольніўся. Казаў: «А што там? Росцік—падай, Росцік—збегай, Росцік—прынясі...» У брыгадзе Слабыша яму адразу даверылі асноўную работу, сталі вучыць. У армію ён адыходзіў з дзвюма добрымі спецыяльнасцямі: стропальшчыка і муляра. Брыгада наладзіла праводзіны. Уручылі на памяць гадзіннік—каб не спазняўся на службе—і аўтаручку—каб часцей пісаў маці і сябрам. На праводзіны прыехала і маці Расціслава, каб сказаць хлопцам з брыгады дзякуй за ўсё добрае, што яны зрабілі для сына.

Вучыў Расціслава сам брыгадзір.

— За гэты час ён мне братам стаў,—гаварыў мне Расціслаў.—Адслужу—абавязкова вярнуся ў брыгаду.

У гэтых яго словах няма нічога знарочыстага. Яны—ад сэрца.

Такім Мар'ян стаў не толькі для Расціслава Налівайкі. Для ўсіх. Не дзіўна таму, што хлопцы бяруць з яго прыклад. І ў працы, і ў жыцці. Бо і жыве ён так, як працуе: па вялікім рахунку. А жыве Мар'ян Слабыш для таго, каб будаваць. Я ўпэўнены: ён многае яшчэ пабудуе. Бо яму ўсяго трыццаць...

**Аляксандр КУЧЫНСКІ.**

г. Гродна.

Фота **Я. Краўчанкі і А. Перахода.**



# ПАРА ВЯРГІНЯЎ

Фотарэпартаж **ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА**

Эдзіта Гаяўскене спяшалася ў цэнтр.

Вяргіні, астры, гладыёлусы апошнім агнём лета дагаралі пад вокнамі яе дома ў мікрараёне.

Апрануўшы святочнае, Эдзіта яшчэ раз зірнула на сябе ў люстэрка: рабінавы колер сукенкі адцяніў загар на твары. Прычоска... Гм, прычоска не надае маладосці, ды што зробіш... Абцасы... Няхай дзяўчаты бегаюць на тых модных катурнах... Сказала дачцы, каб не пускала галубоў у пакой («Хопіць ім балкона!»), збегла па лесвіцы ў двор. Паўсюль вяргіні, вяргіні... Між дамоў выйшла на прыпынак. Неўзабаве мякка падрупіў аўтобус і павёз яе ў цэнтр, у стары горад.

Там, сярод муроў і бруку, на рэнесансных дворыках і пад гмахамі вільнюскага барока таксама ззялі шырокія вочы вяргіняў. Яшчэ больш іх было ля Катэдры, і вежа Гедыміна была таксама падобная на чырвоную кветку сярод прыглушанай зеляніны явараў. А на вуліцы Кам'яўніма, уздоўж сцяны, якая адгарадзіла ўсходні бок квартала, бабулькі гандлявалі жнівеньскай раскошай сваіх кветнікаў.

Сцяна шэра-ружовая, высокая, доўгая, верх яе паламаны зубцамі чарапічных дахаў. Яна няўклюдна вытыркалася на плошчу, калісь забудаваную спрэс, а зараз прасторна-аголеную. Каб сцяна не так псавала выгляд, дазволілі пад ёю прадаваць людзям кветкі.

Ужо колькі гадоў здзіўляецца Эдзіта несупыннай, неўвядальнай маладосці старога Вільнюса. Яна тут нарадзілася, але вырасла ажно ў Краснаярску. Там, калі яшчэ хадзіла ў школу, яе недаверліва перапытвалі, ці сапраўды яна літоўка, пыталіся, як выглядае тая краіна, што мяжуе з Беларуссю, і ці падобна Беларусь на Літву, і чаму Эдзіта так добра гаворыць на рускай мове... Пасля сібірскіх абсягаў стары Вільнюс здаўся Эдзіце маленькім і крыху таямнічым. Чым далей, тым часцей гучэла тут літоўская мова, якую Эдзіта вывучала амаль што нанова,— адвыкла ад яе за доўгія гады жыцця ў Краснаярску.

Эдзіта не памятала бацьку—ён загінуў на фронце. Бацька ведаў даваенную Вільню—Эдзіта ведае сучасны Вільнюс. Мікрараёны новага горада выцягнуліся па ўзгорках Каралінішкаў і Лаздзінкаў, уздоўж Віліі—Нерыс. На адным беразе ракі за памяццю Эдзіты ўжо паўстаў Палац спорту, на другім—будынак опернага тэатра. Шкло і сталь на фасадзе новай Оперы завяршае канструкцыя, падобная на замак і на арган—канструкцыя абшыта чырвонай меддзю, яшчэ недаробленая, а ўжо гучыць, мадэрная, але з адчувальным подыхам даўніны. А побач—сапраўдная даўніна сярэднявечнага горада.

Праекціроўшчыкі і будаўнікі шануюць стары Вільнюс. З пасівелых муроў людзей паступова перасяляюць у зручныя кватэры мікрараёнаў, бліжэй да лесу, да ракі, а камяніцы XVI стагоддзя рэстаўрыруюць, вяртаюць ім першапачатковы выгляд, прыстасоўваюць пад музеі, карчомкі, сувенірныя крамкі. Дзе-нідзе даюць месца ўстановам, невялікім прадпрыемствам і пазначаюць іх шыльдамі, стылізаванымі пад старадаўнія цэхавыя знакі. А ўначы на вузенькіх вулачках запальваюцца «старадаўнія» каваныя ліхтары.

Прыгожа! Прыгожа і неабходна, бо стары Вільнюс—калыска культур двух народаў: беларусаў і літоўцаў, якія спрадвеку жылі ў добрым суседстве і дружбе.

Вось і ў брыгадзе Эдзіты—большасць дзяўчат з Беларусі: з Ашмянскага, Воранаўскага, Астравецкага, Пастаўскага раёнаў, з Гродна, Ліды, Мядзеля.

Ага, ёсць і з Нарачанскага краю. Зося Шастаковіч з Мядзельшчыны. У Зосі на дзіва бялюткі і задуменны твар. А рухі спаважныя, дакладныя. Побач з ёю смуглявая весялуха Галя Сліжэўская—як ружа каля лілеі. І Вера Талочка сумаваць не любіць. І часта смяюцца самыя чорныя ў брыгадзе вочы Рэні Стацыны. Рэня сядзіць у канцы канвеера, адразу за Відай Шыданітэ. Віда крыху вылучаецца сярод сябровак—гарадская дзяўчына. Што гэта ў яе сёння вочы ці не заплаканыя? Ну, калі што сур'ёзнае—сама скажа...

Дзяўчаты любяць Эдзіту. Давяраюць ёй свае радасці, сардэчныя таямніцы. Падбяжыць каторая—і: «Ой, майстар, пасварылася я са сваім Сярожкам. Што рабіць? Ці вернецца? Ці памірымся?..»

Смешныя дзяўчаткі! Смешныя і харошыя... Наогул, Эдзіта даўно заўважыла іх вясковую шчырасць і сумленную працавітасць. Гарадскія так не стараюцца, здаецца. Чаму? Мо таму, што з вёскі ў горад едуць, каб на нозі стаць?.. З такімі Эдзіта згодна выконваць самую складаную работу.

Падумала, ды спахапілася: яшчэ рана выхваляцца. Разрады ў дзяўчат невысокія, завод працуе нерытмічна... Але потым успамінае, як сама пачынала працаваць на заводзе паліўнай апаратуры. У кішэні—дыплом аб тэхнічнай адукацыі. Ды хлебапячэнне, якое вывучала ў тэхнікуме, не мела ніякіх адносін да вытворчасці помпаў. Давялося пачынаць «з нуля». Эдзіта села на канвеер, на зборку. Брыгадзір Гена Тарасаў, малады інжынер, таксама нядаўна трапіў на завод. Побач і раслі. Гена стаў майстрам, Эдзіта—брыгадзірам. Гена—намеснікам начальніка цэха, Эдзіта—майстрам. Разам і ў партыю былі прыняты. Цяпер Генадзь Тарасаў сакратар заводскага камітэта камсамола. А камсамольска-маладзёжная брыгада Эдзіты—лепшая на заводзе.

Ад той брыгады, у якую прыйшла Эдзіта, засталося ўсяго пяць чалавек. Пяць «ветэранаў» і—дваццаць пяць новенькіх. Кожную навучы, кожнай пакажы. Першы клас, дый годзе! Але ж «ветэраны» дапамагаюць. Ды і брыгадзір Мар'ян Гольніс—хлопец паваротлівы і цягавіты.

Усе разам, сябруючы і спаборнічаючы, дамагліся той высокай культуры вы-




**На канвееры.**



**Рэня Стаціна.**

творчасці, калі ўся брыгадная прадукцыя прымаецца з першага прад'яўлення. 100-працэнтная якасць—нялёгкая справа на любой рабоце. А зборка паліўных помпаў ускладняецца павышанай патрабавальнасцю да дакладнасці: помпа—агрэгат прэтэцыёзны, так і лаві ўвесь час мікроны. А лавіць іх надзвычай цяжка. Алюмініевы корпус помпы адліваюць на Мінскім маторным заводзе. Эдзіта пакуль што не ведае, як сочаць за якасцю ліцця мінчане—спаборніцтва паміж Мінскім маторным і Вільнюскім паліўным толькі пачынаецца. З цягам часу высветліцца, чаму цэнтры адтулін на многіх адліўках «скачуць» на добрыя міліметры (якія ўжо там мікроны!). А ў механічным цэху на сваім жа заводзе таксама не ўсё ладзіцца—апрацоўваюць усе адліўкі падрад—маўляў, няхай на зборцы выбракоўваюць благія. А тым часам зломіцца які-небудзь звышдакладны станок—і зборка спыняецца, і дзяўчаты пазіраюць у вокны, а Эдзіта ідзе ўшчуваць начальства. І калі аднойчы аб'явілі, што ў брыгадзе Гольніса—Гаяўскене прадукцыйнасць працы складае 123 працэнты, Эдзіта ажно разгубілася—не можа быць!..

Хаця... Яна зноў перабірае ў памяці сваіх дзяўчат: заклапочаны тварык Чэсі Радзевіч, руплівыя рукі Ванды Будзіч, невысоканькую, але моцную постаць Рэні Юхневіч, шырачэзныя, уважлівыя вочы Валі Галавач. Амаль усе дзяўчаты—камсамолкі, кожная другая—ударніца камуністычнай працы...

Эдзіта перасякае старую плошчу, адчыняе дзверы невысокага будынка, у вокнах якога адбіваецца вежа Гедыміна, падымаецца на другі паверх, мякка ступае па дыване светлага кабінета. Сакратар райкома партыі Таіса Канстанцінаўна Макутэнас гаворыць ёй:

— Мне прыемна ўручаць вам новы партыйны білет якраз у той дзень, калі адзін з вырабаў вашага завода ўдастоены дзяржаўнага Знака якасці...

На стале сакратара чырвонымі зоркамі гараць кветкі. І Эдзіта раптам успамінае, што на рабочым месцы Лёдзі Шыманскай яна бачыла сёння таксама чырвоную вяргіню. Толькі не ў крышталёвай вазе, а ў нейкай металічнай дэтальцы. Па канвееры штуршкамі плылі да фінішу бліскучыя помпы, і ў такт руху канвеераківала сваёй галоўкай чырвоная вяргіня...

Вільнюс—Мінск.





**Эдзіта Гаяўскене (другая злева) — майстар брыгады зборшчыц.**



**Чэся Радзевіч і Рэгіна Юхневіч.**

**Віда Шыданітэ.**



**Брыгада адпачывае.**



**Валейбольная каманда завода.**



# ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ І ДЛЯ СЯБЕ



## МІФ АБ УСЕАГУЛЬНЫМ ШЧАСЦІ

Стагоддзямі людзі марылі пра лепшае жыццё, складалі легенды пра той час, калі не будзе багатых і бедных, калі ўсе будуць шчаслівыя. Аб шчасці створана многа песень, напісана многа кніг. І ўсё ж наўрад ці знойдзецца на зямлі чалавек, які не ставіў бы перад сабой усё тое ж даўняе пытанне: у чым жа яно, шчасце? Як навучыцца жыць шчасліва і быць шчаслівым?

Мысліцелі далёкага мінулага бачылі шчасце або ў пачуццёвай і духоўнай асалодзе (Эпікур, Гельвецый, Фейербах), або ў дабрачыннасці (Сакрат), або ў выкананні маральнага абавязку (Кант).

З таго часу, як з'явілася рэлігія, служкі культу ўпарта гавораць пра марнасць і нікчэмнасць зямнога шчасця. Ідэя шчасця, на іх думку, не мае канкрэтнага сэнсу, бо кожны чалавек разумее шчасце па-свойму. Адзін бачыць яго ў захапленні навукай і мастацтвам, другі — у пачуццёвых задавальненнях, трэці—у служэнні блізкім і г. д. Імкненне да шчасця, на думку царкоўнікаў, азначае імкненне да нейкага дабра. Але дасягнуўшы аднаго дабра і задаволіўшыся ім, чалавек імкнецца да другога, якога, як яму здаецца, толькі і не хапае для поўнага шчасця. І так бясконца...

Сваё сапраўднае шчасце, павучаюць царкоўнікі і сектанты, чалавек можа знайсці толькі ў рэлігійнай веры. Прапаведнікам рэлігіі добра вядома, што чалавеку, які не спазнаў шчасця на зямлі, вельмі не хочацца, каб для яго ўсё скончылася разам са смерцю. Таму яны шчодра абяцаюць веруючым шчасце на тым свеце, калі іх душа будзе «чыстай» ад зямных грахоў. Але «рай нябесны» заслужыць толькі той, хто будзе пакутаваць на зямлі.

Абяцанкамі царства нябеснага замест рабства зямнога рэлігія спакусіла не адну чалавечую душу. Байкамі аб вечнасці чалавечай душы, аб казачным шчасці пасля смерці яна засланяла ад людзей прыгажосць жыцця, перашкаджала ім змагацца за сапраўднае, адзіна магчымае шчасце—за лепшае ўладкаванне жыцця на зямлі.

У класавым грамадстве, якое раздзіраюць непрымірымыя супярэчнасці, няма і не можа быць адзінага, аднолькавага для ўсіх шчасця. Усё залежыць ад грамадскага становішча людзей, іх класавай прыналежнасці. Эксплуататарскае грамадства стагоддзямі стаяла і стаіць на тым, што шчасце прывілеяванай меншасці здабываецца няшчасцем мас працоўных. Як пісаў У. І. Ленін, «старое грамадства было заснавана на такім прынцыпе, што альбо ты рабуеш другога, альбо другі рабуе цябе, альбо ты працуеш на другога, альбо ён на цябе, альбо ты рабаўладальнік, альбо раб».

Стаць уласнікам, мець «сваё», забяспечыць сабе спакойнае жыццё, няхай нават цаной галечы або гібелі іншых—запаветнае жаданне, самая трывалая спрадвечная звычка тых, хто мае багацце і ўладу. Ахопленыя прагай нажывы, яны клапоцяцца толькі пра саміх сябе, пра свой дабрабыт. Цынізм іх жыццёвых прынцыпаў выяўляецца ў распаўсюджаных правілах, накшталт «чалавек чалавеку воўк», «кожны за сябе, адзін бог за ўсіх» і г. д.

Індывідуалізм, які пануе ў класавым грамадстве, раз'ядноўвае і робіць жорсткімі людзей, распальвае варожасць між імі, фарміруе ў іх характары такія агідныя рысы, як прагнасць, карыслівасць, эгаізм, сябелюбства. Памешчык, буржуа, дробны ліхвяр дзейнічаюць згодна правіла: «мацнейшы паглынае слабейшага». Пастаяннымі спадарожнікамі эксплуататарскага грамадства з'яўляюцца хлусня, падман, адкрытае або прыкрытае ашуканства. Прага нажывы вызначае кірунак думак, спосаб жыцця і, вядома ж, разуменне шчасця ў буржуазным свеце.

Яшчэ К. Маркс і Ф. Энгельс указвалі, што буржуазія не пакінула між людзьмі ніякай сувязі, акрамя голага практыцызму, бессардэчнага чыстагану. У буржуазным грамадстве ўсе адносіны падпарадкоўваюцца грашовагандлярскаму прынцыпу, тут усё расцэньваецца і разменьваецца на звонкую манету. У аповесці М. В. Гогаля «Мёртвыя душы» бацька Паўлушы Чычыкава, праводзячы сына з дому, наказвае: «Больш за ўсё беражы і збірай грошы, гэта рэч больш надзейная, чым усё на свеце. Сябар або прыяцель цябе ашукае, а капейка не выдасць, у якую б бяду ты ні трапіў. Усё зробіш і ўсё праб'еш на свеце капейкай». У гэтых словах увесь кодэкс буржуазнай маралі. Гонар і сумленне, дружбу і таварыскасць, радасць і шчасце—усё замяняюць грошы.



Буржуазія, якая абвясціла некалі сваім дэвізам свяшчэнныя словы—свабода, роўнасць і братэрства,—на справе не дала народам ні свабоды, ні роўнасці, ні братэрства. Яна і не магла іх даць, бо гэта азначала б канец яе існавання. Цяпер абаронцы інтарэсаў буржуазіі ствараюць міф аб усеагульным росквіце і шчасці. Справядліва выкрываючы гэты міф, Т. Драйзер пісаў, што ў капіталістычных краінах сапраўды ёсць росквіт, але толькі для аднаго працэнта насельніцтва; там ход жыцця падпарадкоўваецца няўмольнаму закону: багатыя—багацеюць, бедныя—бяднеюць.

## У БАРАЦЬБЕ ЗА НАРОДНАЕ ШЧАСЦЕ

Ці можа быць справядлівасць, роўнасць і агульнае шчасце на зямлі? Камуністы, зыходзячы з марксісцка-ленінскага вучэння, не толькі абвясцілі, што гэтыя ідэалы рэальныя, але і самааддана змагаюцца за іх устанаўленне. Камуністы лічаць, што чалавек можа знайсці сваё шчасце, калі ён звяжа свой лёс з задачамі і барацьбой рэвалюцыйных класаў, з інтарэсамі народа, з вялікай мэтай пабудовы камуністычнага грамадства.

Заснавальнік навуковага камунізму К. Маркс на пытанне сваіх дачок: «Ваша ўяўленне аб шчасці?» адказаў: «Барацьба». У барацьбе за вызваленне працоўных, за іх дабрабыт К. Маркс бачыў сваё жыццёвае прызванне, сваё шчасце. «Барацьба была яго стыхіяй»,—гаварыў пра Маркса яго сябар і паплечнік Ф. Энгельс.

Рэвалюцыйная барацьба ў імя шчасця працоўных была стыхіяй і У. І. Леніна—вялікага прадаўжальніка справы К. Маркса. А. М. Горкі пісаў, што ў характары У. І. Леніна ўсіх захапляла «пачуццё непрымірымай, незгасальнай варожасці да няшчасця людзей, яго яркая вера ў тое, што няшчасце не ёсць непазбежная аснова быцця, а агіднасць, якую людзі павінны і могуць адкінуць прэч ад сябе». У. І. Леніну былі агідныя абывацельскія летуценні пра шчасце людзей без барацьбы за яго, ён называў такія летуценні «сентыментальнай вадзіцай мяшчанскай маралі». Ленін рэзка выступаў супраць людзей, якія, як ён пісаў, крычаць: «На гару, на гару, на гары шчасце», але не жадаюць змагацца за гэтую гару, не здольныя нават падумаць пра лесвіцу, каб падняцца на яе. У. І. Ленін называў такія заклікі выяўленнем мяшчанства ў рэвалюцыйным руху.

Камуністы не пераносяць дасягненне чалавечага шчасця ў выдуманы замагільны свет, а звязваюць яго з перамогай камуністычнага грамадства. Яны любяць зямное жыццё і робяць усё для таго, каб яно было вартым працоўнага чалавека.

Наш час багаты выдатнымі подзвігамі, і самыя яркія між іх належаць камуністам. Назаўсёды захаваліся ў чалавечай памяці імёны герояў-камуністаў, адважных і мужных сыноў народаў Еўропы і Азіі, Афрыкі і Амерыкі, што аддалі сваё жыццё ў барацьбе за народнае шчасце.

У Мадрыдзе, на могілках турмы Карабанчэль, ахоўнікі фашысцкага інквізітара Франка трымаюць у тайне магілу чалавека, твар якога бачыў увесь свет. Яго мяккія, крыху стомленыя вочы глядзелі на людзей са старонак газет. Ён аддаў жыццё за вечную вясну ўсяго чалавецтва. «Хуліян Грымау стаў сцягам барацьбы. Ён з намі, ён жывы і будзе жыць у сэрцах новых пакаленняў, якія ідуць па шляху камунізму...»

Гэтыя пранікнёныя словы, поўныя мацярынскай любові і гонару за члена сваёй партыі, сказала ў дзень пакарання Хуліяна Грымау вялікая дачка Іспаніі Даларэс Ібаруры.

Усё жыццё правадыра сялян Мексікі камуніста Рубена Харамільо прайшло пад дэвізам «Лепш загінуць у баі, чым жыць рабом». Гэты чалавек выключнай мужнасці загінуў ад рук наёмных забойцаў—яны не пашкадавалі і яго жонкі, і трох сыноў.

Бясстрашны сын парагвайскага народа Вільфрыда Альварэс, выклікаўшы агонь на сябе, прыкрываў адыход таварышаў ад паліцэйскіх. Зрашэчаны кулямі, ён здолеў яшчэ напісаць сваёю крывёй на сцяне дома: «Няхай жыве камунізм». Вільфрыда Альварэс быў адным з выдатных кіраўнікоў камуністычнай партыі Парагвая. Яму не было і сарака гадоў, калі ён загінуў.

Яшчэ зусім нядаўна па абпаленай зямлі Ірана хадзіў гарачы патрыёт сваёй радзімы Салям Адзіль. Ён напісаў багата шчырых, цёплых і суровых у сваёй праўдзівасці радкоў будучай жонцы, а цяпер ужо ўдаве: «Яшчэ раз, перш чым мы пажэнімся, я хачу сказаць табе, што ні матэрыяльных сродкаў, ні маёмасці, ні высокага дыплома, ні колькі-небудзь за-

бяспечанай работы я не маю. Я чэсна кажу, што зусім бедны, што паходжу я з простай рабочай сям'і, якая вядома, аднак, сваёй сумленнасцю і добрым імем. У мяне няма нічога, апрача партыйнага імя камуніста, які змагаецца за лепшую будучыню чалавецтва на зямлі. Гэтай святой справе я прысвяціў сваё жыццё, і, прапануючы табе стаць маёй жонкай, я павінен быў сказаць і сказаў, што маё жыццё мне не належыць. Мне заўсёды пагражае небяспека, арышты, катаванні, як і ўсім сумленным змагарам у маёй краіне. Але я магу абяцаць сумленна і цвёрда, што здолею, каб ты жыла жыццём чыстым, дзе не будзе месца ні злу, ні бруду, у якім патанаюць нашы класавыя ворагі...»

Адкуль гэтае душэўнае багацце і душэўная прыгажосць? Яго нарадзіла вялікая ідэя—ідэя барацьбы за перамогу камунізму на зямлі.

Кожны новы дзень нараджае ўсё новых і новых змагароў супраць цемры і гвалту на нашай планеце. Гэта да іх, змагароў і пераўтваральнікаў свету, звернуты радкі, напісаныя Назымам Хікметам: «Дзе б ты ні быў...—на Краснай Плошчы, сярод сцягоў і песень або ў турме за жалезнымі кратамі, чакаеш ты ля парога радзільнага дома жонку з дзіцем на руках або пакутуеш у турэмнай камеры пад пагрозай расстрэлу, але калі ты працаваў як камуніст, думаў як камуніст, любіў як камуніст, змагаўся як камуніст і жыў як камуніст,—ты самы шчаслівы чалавек XX стагоддзя»...

## МАРЫ СТАНОВЯЦЦА ЯВАЙ

У гады жорсткай разрухі і голаду, пранікаючы сваім празорлівым позіркам у будучыню, У. І. Ленін пісаў: «...Недалёка той шчаслівы час, калі працоўныя масы ўсіх буржуазных краін пазбавяцца ад ярма капіталу і ўстановяць сацыялістычны лад грамадства, якое адно толькі здольна забяспечыць трывалы і справядлівы мір, а гэтак жа—культуру і дабрабыт усіх працоўных».

У нашай краіне гэты шчаслівы час настаў.

...Пройдзены нялёгкі шлях. Шлях барацьбы і працы. Усё, чаго дасягнуў савецкі народ, далося яму нялёгка. Яно і зразумела. Шчасце лёгка не здабываецца.

Пераўтварыўшы эканоміку сваёй краіны, савецкія людзі разам з гэтым змяняюцца і самі. Змяніўся іх светапогляд, іх мараль. У нашым грамадстве паміж людзьмі ўсталяваліся і ўсё больш развіваюцца супрацоўніцтва, дружба, узаемная падтрымка, дух калектывізму. У свядомасці савецкага чалавека клопаты пра асабісты дастатак зліваюцца з клопатамі пра калектыўны дабрабыт усяго народа, пра шчасце чалавецтва.

Калі горкая рэчаіснасць капіталістычнага свету пераконвала працоўных у тым, што шчасця на зямлі не можа быць, то ў савецкім грамадстве людзі пераконваюцца—яно ёсць, яно дасягальнае. Толькі шчасце трэба разумець правільна—як творчую дзейнасць, як нястрымнае імкненне наперад, а не як мяшчанскую задаволенасць накопленым дабром або дасягнутым становішчам. «Ніколі шчасце чалавеку не даецца з неба,—пісаў М. І. Калінін,—яно заваёўваецца. ...Той, хто хоча пабудаваць сваё індывідуальнае шчасце, павінен быць кавалём, будаўніком шчасця для ўсіх рабочых і сялян, а калі ён каваль шчасця для ўсіх, то ён будзе кавалём і свайго асабістага шчасця».

У кожнага часу было сваё ўяўленне пра шчасце. Дваццаты год. Акопы, голад, сыпняк. Чатырнаццацігадовы юнак—баявая адзінка. Шчасце трымала тады ў руках вінтоўку. Нам зноў давялося ўзяцца за зброю ў цяжкія гады Вялікай Айчыннай вайны. Зоя Касмадзям'янская, якая здзейсніла ў імя Радзімы свой бессмяротны подзвіг, пісала, ідучы на фронт: «Мы ўсё жыццё думалі пра тое, што ж такое шчасце. Цяпер я ведаю: шчасце—гэта быць бясстрашным байцом за нашу краіну, за маю Радзіму».

Слаўная дачка беларускага народа Вера Харужая восенню 1942 года была накіравана на падпольную работу ў горад Віцебск. Цяжка было расставацца з роднымі і блізкімі, з дачкой Аняй і трохмесячным сынам Сярожам. Але яна адважылася. Гэта быў подзвіг маці-патрыёткі, чалавека з крыштальнай душой, для якой не было большага шчасця, чым барацьба за вызваленне роднай зямлі ад фашысцкіх захопнікаў. У тыя грозныя дні ў пісьме да сяброўкі Р. Кляшторнай В. Харужая пісала: «Пра сваё жыццё напішу ў наступны раз. А цяпер скажу толькі, што адчуваю сябе такой шчаслівай, як вельмі нямногія. Жыццё бязмежна цудоўнае, а жыццё, злучанае з барацьбой,—гэта шчасце!»

На прасторах Радзімы за пасляваенныя гады выраслі гіганцкія электрастанцыі, магутныя заводы, цэлыя гарады. Перад стальнымі стрэламі чыгунак адступіла тайга.

Якія ж прыкметы шчасця нашых дзён?

Сучаснае пакаленне справядліва звязвае свае самыя светлыя мары з клопатамі аб міры ва ўсім свеце. Яно не ўяўляе сабе, як можна быць шчаслівым у грамадстве, пабудаваным на прыгнечанні чалавека. Роўнасць і братэрства людзей у яго разуменні—такія ж неабходныя ўмовы для шчасця, як вада і ежа для жыцця. Яно не ўяўляе сабе шчасця без працы.

Сённяшнія ўнукі гераічных салдатаў рэвалюцыі па закліку сэрца едуць у неабжытыя месцы, каб там уласнымі рукамі здабыць сапраўднае шчасце. Шчасця сёння не чакаюць, не выседжваюць у цёплым бацькоўскім гняздзе, не атрымліваюць у спадчыну. Яго здабываюць у барацьбе і ў працы.

## ДЗЕ Ж ЯНО, ШЧАСЦЕ?

Кожнага чалавека ў нашай краіне, дзе б ён ні жыў, чакае столькі цікавых і захапляючых спраў, што ёсць усе падставы адчуваць сябе шчаслівым: у нашай краіне шмат дарог да шчасця,—выбірай, якая табе да спадобы.

Добра пра гэта сказаў народны паэт Беларусі Якуб Колас:

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою—
Многа новых, шчаслівых дарог
Рассцілае жыццё прад табою!

Надзя Фёдарава з Віцебскага дывановага камбіната робіць дываны. І лічыць сябе шчаслівай. Яна любіць сваю справу. Яна ведае, што яе праца патрэбна людзям: і тым, хто засявае былую цаліну, і тым, хто рыхтуецца да палётаў у космас.

Творчая праца ў імя камуністычных ідэалаў, у імя ажыццяўлення вялікай праграмы будаўніцтва камунізму ў СССР, якая намечана нашай партыяй, прыносіць савецкаму чалавеку вышэйшае маральнае задавальненне.

Шчаслівыя людзі—гэта не толькі тыя, хто будуе новыя гарады і электрастанцыі, шахты і руднікі. Шчаслівыя і тыя, хто вырошчвае збажыну на палях, лечыць людзей, выхоўвае і вучыць у школах дзяцей, водзіць аўтамашыны і трамваі... Шчасце—гэта вышэйшае задавальненне, якое дасягаецца чалавекам у развіцці і творчым прымяненні яго фізічных і разумовых сіл пры гарманічным спалучэнні яго асабістых і грамадскіх інтарэсаў.

Шчасце непарыўна звязана з прызваннем чалавека. Не жыццё само па сабе, а жыццё, натхнёнае і асветленае высакароднай мэтай, прыносіць сапраўднае шчасце. Калі задаволіць усе патрэбы чалавека, гаварыў К. Д. Ушынскі, але адабраць у яго мэту ў жыцці, ён стане няшчасный і нікчэмнай істотай. Не задавальненне жаданняў, а высокая мэта ў жыцці з'яўляецца асновай чалавечай годнасці і шчасця.

«Самыя цудоўныя і ў той жа час самыя шчаслівыя людзі,— пісаў выдатны савецкі педагог В. А. Сухамлінскі,— тыя, хто пражыў сваё жыццё, клапоцячыся пра шчасце іншых».

І ў лад з гэтымі думкамі, як іх рэха, гучаць словы ўдарніцы камуністычнай працы сакратара цэхавай камсамольскай арганізацыі Мінскага гадзіннікавага завода Людмілы Высоцкай: «Мне здаецца, што для шчасця трэба мець велізарную, захапляючую, нястрымную мару, верных сяброў, веру ў будучыню, любімую работу і любоў да жыцця...

Сапраўдны сэнс шчасця, як я яго разумею, вельмі ўдала раскрыў у сваёй паэме «Сцяг брыгады» народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў:

Толькі трэба
яго не шукаць,
не лавіць,
Трэба шчасце
ў суровым змаганні
здабыць.
Шчасце ў працы,
у светлым здзяйсненні
надзей,
Шчасце ў тым,
каб змагацца
за шчасце людзей.

Хочацца яшчэ дадаць, што шчасце ў наш час—гэта заўсёды прыступка ў заўтрашні дзень, у будучыню, да таго Шчасця з вялікай літары, якое ўпершыню ў гісторыі чалавецтва накрэсліла на сваім сцягу наша родная Камуністычная партыя.

**Аляксей КРАСНОЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**дацэнт Мінскага дзяржаўнага**
**педагагічнага інстытута**
**імя А. М. Горкага.**



# ТАЛЕНТ І ПРАЦА



Калі і як пачынаецца мастак? На гэтае пытанне адказаць цяжка. Ды проста і немагчыма.

Сказаць, што Васіль Шаранговіч як мастак пачынаўся ў няпоўныя тры гады, калі скрэмзаў каляровым алоўкам усю шафу, залезшы ўсярэдзіну,—значыць сказаць не ўсю праўду. Бо хто з малых не займаецца тым самым, хоць пасля мастаком і не становіцца! Васілю зрабіць гэта было не лёгка. Ішоў другі год вайны. У хаце не тое, каб алоўка, але і кавалка хлеба часам не стыкалася. Колькі ж было радасці ў хлопчыка, калі зайшоў да бацькі сувязны ад партызанаў і даў маленькаму чырвона-сіні аловак!

Гэта было на радзіме Васіля Шаранговіча, у хаце, якая і цяпер стаіць на ўскраі вёскі Качаны каля Мядзеля. У хаце жывуць другія людзі. Бацька Шаранговіча пераехаў з маці ў Латвійскую ССР, дзе кавалюе ў калгаснай кузні. Сэрца ж Васілёва прырасло да Нарачанскага краю.

Адзін за другім паказвае Васіль Пятровіч лісты, як ён кажа, «амаль з натуры». На іх—краявіды, знаёмыя кожнаму, хто бываў у ваколіцах возера Нарач. Пісаныя, сапраўды, там, на ўлонні прыроды ў летнія канікулы, калі яму, выкладчыку Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, надаралася вольная часіна, каб папрацаваць для душы.

Можна было б і не ведаць, што Васіль Шаранговіч родам з-пад Нарачы, але, глянуўшы на краявіды, адчуць, што нешта надта роднае, блізкае, душэўна трапяткое засведчана на іх. І на кожным—адбітак часу.

Вёска. Дахі, дахі, дахі... Не саламяныя стрэхі, не. Сучасныя—бляха, шыфер, гонта. І вокны, не падслепаватыя, як некалі, а зіркатыя, у ліштвах, і весела ўзіраюцца ў далячынь. А там плешчацца возера, атуленае ўзгоркамі з пералескамі...

Дарога паўз возера. Гэта—новы ліст. Віецца, як вужака, між узгоркаў, кіруючыся да вады, а яна далёка-далёка, як бы зліваецца на даляглядзе з небам. І невядома, што дзе адлюстравана—неба ў вадзе ці наадварот...

Сонца—тройчы дакранулася вады. Ад гэтага няма спакою на азёрнай прасторы. Усё як бы ў руху, і рыбакі на лодцы гойдаюцца, занятыя сваёй штодзённай справай... Прырода і людзі. Усё праз чалавека, праз яго душу.

Курганок над возерам. Вада, а хмары над ёй цёмныя, злосныя, і ад гэтага, мусіць, вада выдае такой светлай... На курганку трое забітых дзецюкоў і змардаваная горам маці. У звыклы краявід урываецца цяжкі ўспамін аб вайне. Гэта ўжо не проста накід, а вынашаная задума, грунтам для якой стала ўсё тая ж Нарач. Яна ў сэрцы мастака і яшчэ доўга будзе трывожыць яго.

«Прырода і людзі Нарачаншчыны»—так умоўна назваў Васіль Шаранговіч серыю графічных лістоў, над якімі працуе не адзін ужо год, спакваля. Вось і цяпер на станку чарговы ліст—некалькі ліній алоўкам, а ўжо ўгадваюцца абрысы чалавека, занятага працай, творчасцю. Гэта—ганчар.

Уражанні маленства... Яны як бы пільнуюць мастака, каб пры новым творчым імпульсе даць той грунт, на якім толькі і можа вырасці багаты плён. «Прывязка да мясцовасці» не замінае яму выходзіць на шырокія прасторы Радзімы, якую ён даследуе ў вечным руху да абнаўлення.

Уражанняў са сваіх дзіцячых і юначых гадоў Васіль Шаранговіч назапасіў шмат. І ўсе яны, пра што б ні завёў гаворку, будуць вакол бацькі, яго працы. Пра бацьку свайго Васіль Пятровіч гаворыць з павагай і гонарам, бо ён з кагорты людзей працы. Такім лічыць сябе і сын, хоць, можа, з абсягу працаўнікоў мы па даўняй звычцы выключаем мастакоў, пісьменнікаў, артыстаў. Быццам тут усё залежыць ад той «божай іскры», якую завуць талентам.

Талент, калі не памножыць яго на штодзённую працу, бывае і замінае чалавеку знайсці сваё месца сярод іншых. Талент Васіля Шаранговіча неадлучны ад працы, як неразлучнае з ёй і ўсё яго жыццё. Бацька Васіля Пятровіча каваляваць пачаў з шаснаццаці гадоў. Мусіць, няма такой справы, за якую не браўся б Пятро Шаранговіч. Хіба можа толькі іголку не ўмеў трымаць. А так: і стальмашыў—рабіў адмысловыя брычкі ды вазкі, лыжкі і іншую драбязу, і муляр-печнікам слыў на ўсю акругу, і аўчыны вырабляў, і валёнкі валяў...

— Надта ж хацелася бацьку, каб і старэйшы сын вывучыўся на каваля ці на шаўца,—прыгадвае Васіль Пятровіч колішнія размовы за сямейнай вячэрай.—Я не цураўся памагаць бацьку і ў кузні, і з гэблем, і гліну мясіў, і аўчыны мачыў, але каб аддацца зусім аднаму з гэтых рамёстваў—не атрымалася... У мроях бачыў нейкі шырэйшы свет, які там, за даляглядам.

Пасля пачатковай школы хадзіў Васіль у вёску Зані, што за паўтара кіламетра. Там сямігодку скончыў. А пасля адвёз бацька сына ў Мядзель.

Ці не тут, у Мядзелі, і пачаўся мастак Васіль Шаранговіч? Мусіць што, крыху так: тут было пасеяна зерне, якое праз гады дало рунь.

— Захапляўся я моцна матэматыкай,—успамінае Васіль Пятровіч,—можа, таму, што выкладаў гэты прадмет цікавы чалавек, Генадзь Ільіч Астроўскі. Цікавы рознабаковасцю сваіх інтарэсаў. Ён меў прыгожы голас і цудоўна спяваў, на баяне іграў і хорам кіраваў. А яшчэ маляваў. І калі арганізаваў гурток малявання, мы з Міхасём першыя падаліся туды. Міхась Чарняўскі—мой аднагодак-зямляк. Сябравалі мы з ім моцна, сябруем і цяпер. У Мядзелі здружыў нас гурток малявання. Праўда, я сур'ёзна ставіўся да малявання, а ён з усмешкай. Здавалася, што і Міхась выбера сабе сцяжыну мастака. Аж не, захапіўся гісторыяй, а больш дакладна—археалогіяй. Крыўдаваў трохі я на Мішу, а потым прыцерпеўся да яго новага захаплення. Зноў сябруем, у грыбы разам ездзім... (Чытачы «Маладосці» знаёмыя з Міхасём Чарняўскім і па малюнках у раздзеле «ўсмешак», і па сур'ёзных навуковых публікацыях. Працуе ён у Інстытуце гісторыі АН БССР).

Мядзельская школьная пара акрэсліла прызванне Васіля Шаранговіча. Па-першае, толькі ў Мядзелі трапіліся першыя каляровыя алоўкі і акварэльныя фарбы. Па-другое,—і гэта, мабыць, самае галоўнае,—натрапіўся чалавек, які заўважыў хлопцава жаданне і ўсё зрабіў, каб распаліць гэта жаданне ў вялікую прагу да прыгожага, што адкрывалася юнаку ў мядзельскіх ваколіцах. На эцюды хадзілі разам. З цягам часу знікала мяжа ў адносінах між настаўнікам і вучнем, нават футбольны мяч часам ганялі разам. Але павага да старэйшага заставалася, і яшчэ ўзнікала павага да чалавека, які ўмеў спатоліць нейкія таямнічыя парыванні душы юнака і выправіў яго ў неспадзяваную дарогу.

Пасля восьмага класа паехаў Васіль паступаць у Мінскае мастацкае вучылішча. Такія-сякія рэчы вёз у клумку—чамадана ці куфэрка не было. Боты бацька сам пашыў, штаны-галіфэ ў суседа пазычылі.

— На ўступных экзаменах патрабавалі «малюнак штрыхом»,—успамінае Васіль Пятровіч,—а я і не чуў, што гэта такое. Праўда, пагледзеў, як другія робяць, і ў мяне нібы пайшло... Але ўсё роўна не прынялі, бо да дзвюх чацвёрак прыставілася злашчасная тройка...

Карысць з той першай паездкі ў Мінск усё ж была. Васіль Шаранговіч упершыню наведаў Мастацкі музей, убачыў сапраўдныя творы мастацтва ў арыгінале. І зразумеў, што яшчэ мала што ўмее.

Вярнуўшыся ў Мядзель, увесь аддаўся маляванню. І настаўнік Генадзь Ільіч гэта ацаніў. Не шкадаваў часу, каб быць разам з Васілём, памагаць яму парадай, накіроўваць яго пошукі. А тэхніку хлопец здабываў ужо сам, працай ад цямна да цямна, ды і пры святле лямпы яшчэ. Кіраваўся бацькавым правілам: «Ці не брацца зусім, а калі ўжо брацца, дык па-сапраўднаму, пакуль не даможашся задуманага».

Праз год уступныя экзамены ў мастацкае вучылішча былі вытрыманы паспяхова. Сустрэчы з выкладчыкамі, большасць з якіх былі шырока знаныя мастакі, далі юнаку такі зарад



**Ілюстрацыя да казкі А. Талстога «Прыгоды Бураціна».**

працавітасці, што ён і не згледзеў, як стаў выпускніком вучылішча. Ды яшчэ і вячэрнюю сярэднюю школу скончыў. Васіль Шаранговіч займеў права называцца мастаком. Але называцца мастаком і быць ім—не адно і тое ж. Тэхніка работы ў розных матэрыялах, якую здабыў Васіль пад час вучобы, давала прастор для самастойнага пошуку. Але разам з тым чагосьці неставала.

Паставіць фармальныя пошукі на службу багатаму зместу ўдавалася не заўсёды. бо бракавала ідэйнай узброенасці, глыбокага ведання гісторыі мастацтва, законаў марксісцка-ленінскай эстэтыкі, усяго таго, што ў комплексе фарміруе творчую індывідуальнасць. Карацей кажучы, дарога вяла ў вышэйшую навучальную ўстанову. І Васіль Шаранговіч паступае ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне графікі. Тут пад кіраўніцтвам прафесара П. Любамудрава з кожным годам сталее яго рука, шырэюць далягляды жыцця...

Мы сядзім у майстэрні, якую мастак яшчэ не абжыў як след пасля нядаўняга наваселля. Але ўсё, што трэба для графікі,—пад рукамі. І яшчэ—кнігі. Томікі збору твораў Янкі Купалы—апошняга выдання, і тых, што выходзілі раней. Адам Міцкевіч. Максім Гарэцкі. Раманы І. Мележа, У. Караткевіча... Беларуская Савецкая Энцыклапедыя... З кнігамі даўно звязаў свой мастакоўскі лёс Васіль Пятровіч, яшчэ на першых курсах інстытута. Кніжная графіка як самастойны від мастацтва абрана ім для свярджэння свае творчай індывідуальнасці. Шматлікія (каля дзесяці) дыпломы Усесаюзных конкурсаў і выставак, на якіх кнігі, афармленыя Васілём Шаранговічам, займалі прызавыя месцы, сведчаць пра адметнасць яго таленту як кніжнага графіка.

Якія кнігі найбольш вабяць мастака? Розныя—не скажаш. Ён не «ўсяедны». Першым захапленнем былі тыя, у якіх раскрываўся галоўны змест нашага жыцця—рэвалюцыйнае пераўтварэнне грамадства. Рэвалюцыя і народ—гэтая тэма хвалявала яшчэ пад час курсавой работы: афармленне кнігі Джона Рыда «Дзесяць дзён, якія скаланулі ўвесь свет». Потым мастак вернецца яшчэ раз да афармлення гэтай кнігі ў выданні «Бібліятэкі сусветнай літаратуры». Пазней будзе ілюстраваць выданне паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» у перакладзе Петруся Броўкі. Зноў тая ж тэма, толькі ўжо больш канкрэтызаваная: выявіць узаемадносіны кіраўніка і мас, стварыць вобраз правадыра рэвалюцыі.

І яшчэ адно захапленне—Янка Купала. Таксама, мабыць, з малых гадоў, калі хлопчыку адкрыліся таямніцы чытання. Купалавы вершы, асабліва яго паэмы «Курган» і «Бандароўна», заселі не толькі ў памяці, але і глыбока ў душы ўражлівага Васілька. Не даюць спакою і сёння.

— Калі ў якасці дыпломнай работы,—прыгадвае Васіль Пятровіч,—мне прапанавалі ўзяць з выдавецкага плана афармленне выбранай лірыкі Якуба Коласа, не пагадзіўся. Настояў, каб далі Янку Купалу. І з таго часу ён увесь час са мной. Вось і зараз (мастак бярэ прыстаўлены да сцяны планшэт)...

«А хто там ідзе?». Купалаў верш адгадваецца адразу: натоўп беларусаў, што прагнуць «людзьмі звацца» і змагаюцца за гэтае права.

Ужо ёсць шмат станковых работ на тэму гэтага верша—П. Сергіевіча, Я. Раманоўскага, Б. Заборава... У В. Шаранговіча новы ход—паказаць Купалу сярод тых прадстаўнікоў народа, якія на розных этапах гісторыі вялі за сабой спакутаваны і абяздолены працоўны люд да шчасця, да волі, да лепшае долі. Ф. Скарына, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Цётка, М. Багдановіч, Я. Колас—як выказнікі духоўнай сталасці нацыі. Гэты ліст прызначаны для Купалаўскага мемарыяльнага запаведніка ў Вязынцы. Гэта—як бы адыход ад кніжнай графікі, але і ён у рэчышчы той агульнай задумы, якая хвалюе мастака апошнім часам, як хвалявала яго і раней.

Прапанаваць чытачу ілюстраванае выданне ўсіх паэм Янкі Купалы—гэтым жыве Васіль Шаранговіч у апошні час.

— Купала для мяне,—прызнаецца мастак,—як увасабленне глыбокай народнай мудрасці, а яго творчасць—як філасофскае асэнсаванне лёсу нацыі на працяглым адрэзку гісторыі ад змрочных часоў феадалізму да асветленай пары разгорнутага будаўніцтва сацыялізму. Шлях гэты прасочваецца асабліва яскрава праз вобразы купалаўскіх паэм. «Сон на кургане», «Зімою», «Нікому», «Адвечная песня», «Адплата кахання», «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», «Безназоўнае», «Над ракой Арэсай»—такі будзе змест асобнага выдання паэм, афармленнем якіх я цяпер заняты.

Слухаю Васіля Пятровіча, і на памяць прыходзяць лісты яго дыпломнай работы. Яны ўзніклі з таго самага жадання—глянуць на свой народ, яго шматпакутную, але гераічную гісторыю праз прызму купалаўскай паэзіі.

«Пан сахі і касы»—гэты крылаты выраз Купалы так і просіцца ў назву ліста, на якім мы бачым мужыка як гаспадара зямлі. Зямлі, якой пакуль што ён не мае і за якую змагаецца,—таму і трымае касу—сімвал змагання. У позірку—сама воля, назапашаная праз доўгія гады цярпення, каб рынуцца ў бой за свае правы, за справядлівасць. Гэта—не загнаны мужык, а чалавек волатнай сілы, як у Купалы.

Актыўная рэалістычная форма і сапраўды творчае развіццё нацыянальных традыцый беларускай графікі прыкметныя ў астатніх лістах гэтай серыі, дзе так багата зместу і настрою, перададзеных скупымі сродкамі лінагравюры, калі мастак свядома абмяжоўвае сябе магчымасцямі перадачы аб'ёмаў, святла, паветра, прасторы, фактуры, канцэнтруючы ўвагу на самым істотным і вызваляючыся ад другарадных дэталяў.

Серыю заключае партрэт Янкі Купалы, поўны той унутранай экспрэсіі, якая нясе высокі духоўны зарад. Лоб песняра парэзаны глыбокімі маршчынамі—слядамі часу. Купала засведчаны ў глыбокім роздуме пра жыццё народа, у трывозе за яго лёс, у здзіўленні яго магутнасцю. І скарыстаныя ў аснове партрэта купалавы радкі: «Я адплаціў народу, чым моц мая магла»—найлепшым чынам завяршаюць кампазіцыю.

Мастак, калі гаворка заходзіць пра гэтую серыю лістоў, выказвае сваю незадаволенасць. Што ж, сціпласць і патрабавальнасць—добрыя рысы.

Праца над афармленнем кнігі Джона Рыда пра Кастрычнік таксама не задавальняла мастака. Яго трывожыла доўгі час думка, што не давялося яму стварыць вобраз Леніна, які ўзняў масы абяздоленага люду на штурм цвярдыні капіталу і павёў іх у рэвалюцыю. І вось—нагода. Да 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна прадпрымаецца ілюстраванае выданне паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін». Афармленне даручаюць Васілю Шаранговічу.



**«Нарач». Вугаль.**

— Спачатку была радасць, потым трывога,—прыгадвае мастак.—Давялося перачытаць ледзь не ўсяго Маякоўскага і яшчэ шмат літаратуры, уключаючы і асобныя працы Леніна. У мяне такі закон—калі, працуючы над нечым, чытаеш твор і пасля апошняй старонкі рупіць зноў перачытаць—значыць, выбар трапны. Паэму Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» перачытаў некалькі разоў перш чым узяўся за ілюстрацыі.

Учытанасць мастака ў Маякоўскага адчуваеш, калі глядзіш усе дзесяць лістоў. Лейтматывам праходзіць думка пра з'яднанасць правадыра з народам, з рэвалюцыяй. У мастака выразнае імкненне адкрыць новае ў даўно знаёмым. Асобу Леніна, яго бурную дзейнасць ён імкнецца праблізіць да нас, да нашага часу.

Ліст за лістом—і паўстае гіганцкі гістарычны шлях, які прайшлі народы Расіі, а разам з імі і Ленін. Дэталі пададзены буйна, уражліва.

Дымяць бурна ў неба фабрычныя коміны—гэта з тых узбуйненых метафар, якія характэрныя для мастака.

Адзіным узмахам кірак сагнутыя постаці крышаць у забоі вугаль. Гэта абагулены вобраз пралетарскай Расіі, дзе «больш ад катарг крывавы гнаў пот пры фабрычных варштатах прыгнёт».



**Ілюстрацыя да рамана У. Карпава «Нямігі крывавыя берагі».**





**Францыск Скарына.** Лінагравюра.

Яшчэ ліст—тыя ж рабочыя, толькі ў гордай паставе змаганцаў, хоць і з кайданамі на руках. А на наступным—ужо ўзброеная маса рабочых і сялян са сцягам у руках, на якім—«Уся ўлада Саветам». І Ленін у гэтай масе, засведчаны на той ступені рашучасці, «калі засталося на барыкады выйсці».

І вось «вялікі, пакрыты крывавай іржою, народ» у вобразе малатабойца разбівае гідру капіталу.

На наступным лісце—«жалезная дыктатура» ўзброеных мас, што ўзняліся адстаяць заваёвы рэвалюцыі.

Фінал тэмы—у рэвалюцыйным маршы «ішлі па балоце мы мільёнамі зор чырвоных, напрост»: узбуйненым планам—барабаншчык.

І «раптам стопудовая вестка—з Ільічом удар» знайшла ў мастака экспрэсіўнае выяўленне ў постацях, што застылі, сагнуўшы галовы пад цяжкім цяжарам пакут, ды моцна трымаюць у руках зброю.

Лагічным завяршэннем серыі з'яўляюцца два лісты, дзе Ленін—буйным планам. На адным—з узнятай у прывітальным жэсце рукой, па якой угадваеш з'яднанасць правадыра з рабочым класам і нібы чуеш яго заклік: «Армія пралетарыяў, устань, шматлікая!» На другім мы бачым Леніна, які «і цяпер жывей за ўсіх жывых». «Сапраўдны, чалавечы, ленінскі, вялікі, мудры лоб», праніклівы позірк, які асвятляе шлях на шмат дзесяцігоддзяў наперад.

Па цэльнасці задумы, па яскравасці формы, па экспрэсіі серыя лістоў, што складаюць афармленне паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін», пацвярджае ў Васілю Шаранговічу майстра высокага класа. Некаторыя работы яго, асабліва лінагравюры, нагадваюць «рэнтгенаўскае прасвечванне»: агульная буйная метафара як бы распадаецца на поўныя ўнутранага зместу кадры, а ўвогуле атрымліваецца моцна знітаваная кампазіцыя, дзе форма падпарадкавана найбольш выразнаму выяўленню ідэі. А яшчэ, і гэта яскрава відаць пры рабоце над названай серыяй, Васіль Шаранговіч тонка валодае тэхнікай вырашэння канструктыўна-афарміцельскіх задач. Афармленне супервокладкі—гэта паўтарэнне ўнутранага афармлення, чым падкрэсліваецца адзінства вобразнага ўспрымання кнігі як твора мастацтва.

Работы Васіля Шаранговіча — афармленыя ім кнігі і асобныя творы ў часопісах «Маладосць», «Вясёлка», «Неман» — сведчаць аб усталяванні беларускай школы кніжнай графікі, да якой належаць, акрамя В. Шаранговіча, такія майстры, як А. Волкаў, М. Гуціеў, А. Кашкурэвіч, У. і М. Басалыгі, Б. Забораў і іншыя, кожны са сваім адметным почыркам, а ўсе разам з добрым імкненнем самастойнага выяўлення сутнасці твора, яго ідэі.



Сярод іх Васіль Шаранговіч вылучаецца не вонкавым прыёмам, а ўменнем адкрываць кожны раз новы прыём у працэсе рэалізацыі мастацкага вобраза. Сродкі выяўлення ў мастака гнуткія і разнастайныя. Калі мець на ўвазе лінагравюры, дык штрыхі ў Васіля Шаранговіча не падпарадкаваны тэхнічным канонам, яны размяшчаюцца вольна, мяняючы напрамак, даўжыню і таўшчыню, каб у спалучэнні з белымі плямамі некранутай паперы і суцэльнымі заліўкамі тушшу ствараць ураженне гульні святла і ценю, зрабіць лісты маляўнічымі. А яшчэ ў мастака звычайна высокая ступень кампазіцыйнай арганізаванасці, якая дыктуецца выразнасцю ідэі і рэалістычнасцю светаўспрымання. Пісаць з натуры мастак лічыць важным, бо толькі ў натурным эцюдзе ён знаходзіць хвалюючую сэнсавую завязку будучага абагульненага вобраза, выразны эмацыянальны фон.

— Мастак павінен не пераказваць змест твора ў «абразках», а знайсці і раскрыць тое, што схавана недзе між радкамі, выявіць не асобныя думкі, а ўсю пазіцыю пісьменніка,—так вызначае Васіль Шаранговіч свае прынцыпы кніжнай ілюстрацыі.— Першаасновай заўсёды з'яўляецца кніга, але тая, якая адпавядае майму светаўспрыманню. Калі мастак—інтэрпрэтатар, калі ён узнімаецца да ўзроўню пісьменніка, яго лісты могуць жыць самастойна.

Тут мне прыгадалася работа Васіля Шаранговіча над афармленнем кнігі выбраных вершаў Якуба Коласа «З майго летапісу», дзе мастак не заўсёды паказвае сябе ўдумлівым інтэрпрэтатарам. У кожным разе, толькі некалькі лістоў могуць быць аднесены да тых, што маюць права на самастойнае прачытанне Коласа. Светаўспрыманне рэчаіснасці Коласам на розных этапах яго жыццёвага шляху зразумета мастаком не з той сілай унутранага ўзрушэння, як пры яго прачытанні твораў Купалы. Саступаць на шлях каменціравання твораў, што заўважаецца ў некаторых ілюстрацыях **да** кнігі «З майго летапісу» — гэта выпадковая ў творчасці Васіля Шаранговіча сцяжына. Я назнарок падкрэсліваю прыназоўнік «да», бо ў манеры мастака — самастойная інтэрпрэтацыя кнігі сродкамі кніжнай графікі.

— Пісьменнік і мастак,— заўважае Васіль Пятровіч,— гэта творчая садружнасць, і размова іх у часе работы над афармленнем павінна ўяўляць дыялог, а не спрэчку. Мастак павінен быць актыўным творцам кнігі, яе рэжысёрам. Ён мае права стаць побач з аўтарам і паказаць, чаго няма ў апісанні нейкай падзеі, але што магло быць, што заканамерна вынікала з характару героя. Але гэта не азначае, што мастак мае права стварыць адасоблены ад кнігі свой свет і павесці чытача туды. Гэта па-за рамкамі творчай садружнасці.

Васіль Шаранговіч працуе заўсёды з «уключаным маторам», можа, таму так рана пасерабрылася яго галава. Ён умее радавацца чужой радасцю, пакутаваць за чужыя няўдачы, а гэта якасць **вельмі важная** ў рабоце **не** толькі мастака, але і педагога.

— Калі б можна было, пачынаў бы інакш, ужо ў інстытуце, на першых кроках, калі лёгкасць выканання вучэбных заданняў, бывала, засланяла неабходнасць больш глыбокага зразумення творчай задачы.

Гэтае шчырае прызнанне Васіля Шаранговіча — як бы наказ тым, хто выбраў сабе цяжкую, але шчаслівую сцяжыну творчасці ў выяўленчым мастацтве. Кожны, хто творыць, спрабуе разабрацца ў самім сабе. А гэта азначае разабрацца ў сённяшнім часе, у гадах, што належаць прошласці, у тых, што яшчэ прыйдуць.

Ад ліста да ліста, ад накіду да накіду шукае гэтага адказу і Васіль Шаранговіч.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

■■■



**З нарачанскай серыі.** Лінагравюра.

# ПАЧАТАК ВЫШЫНІ

## ГАДЫ ВУЧНЁЎСТВА

На сцэне, залітай чырвоным святлом, стаяў юнак і, хвалюючыся, гаварыў пра жыццё, якое трэба пражыць так, каб не было пасля балюча за марна пражытыя гады. Ва ўсёй яго хударлявай і лёгкай фігуры, нервовым і тонкім твары адчувалася велізарнае напружанне. Так бывае, калі стрыманы чалавек, пераадолеўшы штосьці ў сабе, пачынае раптам спавядацца. І гледачы, захапіўшыся плынню шчырых слоў, верылі—такім быў Паўка Карчагін.

А для маладога артыста Валерыя Шушкевіча гэты маналог быў і ўласнай споведдзю. Калісьці, яшчэ школьнікам, ён пакляўся «выхоўваць у сабе чалавека, вартага часу, Чалавека з вялікай літары». Гэтыя словы ўпэўнена і ўрачыста ён абвясціў тады разам з іншымі юнакамі, якія вырашылі прысвяціць сябе служэнню высокаму мастацтву—тэатру. Яны назвалі свой гурток студыяй «Юнацтва». Душой гэтай групы энтузіястаў быў Валодзя Балабохін, студэнт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Яны збіраліся ў маленькім старым чыгуначным клубе, які прытуліўся дзесьці за пуцямі, і цэлымі вечарамі гаварылі пра тэатр, жыццё, мастацтва. Не толькі гаварылі, а ўсур'ёз вывучалі гісторыю тэатра, асновы акцёрскага майстэрства, этыку Станіслаўскага. Валодзя Балабохін любіў паўтараць: «Кожны чалавек можа стаць акцёрам—толькі б ён быў асобай». І гэты выраз зрабіўся як бы дэвізам студыі.

У сваім маніфесце маладыя энтузіясты запісалі і такое патрабаванне: «Зрабі лепей таварышу, а пасля—сабе».

Пазней, калі студыя ўжо не існавала, Валодзя Балабохін цаной уласнага жыцця даказаў вернасць абранаму шляху: ён загінуў, выратоўваючы людзей... Для тых, хто пачынаў з ім сваю сцежку ў мастацтве, гэты таленавіты, захоплены жыццём чалавек застаўся ўзорам Чалавека з вялікай літары.

Вядома, не ўсе студыйцы сталі пасля акцёрамі, але маральная праграма, маральны клімат іх самадзейнага калектыву дапамаглі кожнаму рана ўсвядоміць сваю адказнасць перад грамадствам, перад самім сабой.

Яны ставілі спектаклі. Спачатку аб сабе. Нават самі выдумлялі іх. Напрыклад, п'есу «Біч», у якой усе падзеі адбываліся ў школе, яны напісалі самі. У ёй імкнуліся сказаць сваё слова пра сваё пакаленне. Пасля адчулі: прыроду чалавечую глыбей за ўсё зразумелі класікі. У іх можна знайсці адказы на многія хвалюючыя пытанні. І студыйцы пачалі ставіць п'есы Шэкспіра, Чэхава, Брэхта, Маякоўскага.

«Лазню» Маякоўскага яны паказалі ў тэатральна-мастацкім інстытуце як дыпломную работу Валодзі Балабохіна. Было ў гэтым спектаклі многа маладой дзёрзкасці, былі спрэчкі з традыцыяй. Але была і прафесійная няспеласць. Студыйцы паднялі толькі верхні пласт п'есы—перадалі яе адкрытую публіцыстычнасць. Пранікнуць у больш глыбокія пласты, стварыць чалавечыя характары, буйна вылепленыя драматургам, самадзейныя артысты не здолелі. З гэтай задачай, як вядома, спраўляюцца нават далёка не ўсе прафесійныя тэатры: занадта ўжо своеасаблівая драматургія Маякоўскага!

І ўсё-такі спектакль «Лазня» зрабіў сваё—студыйцаў заўважылі. І ўвосень таго ж года найбольш здольныя сталі студэнтамі Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Валеры Шушкевіч, Ала Палухіна, Генадзь Маляўскі, Галя Ляндрэс прынеслі ў інстытут сваю апантанасць, гатоўнасць дні і ночы працаваць над самай сціплай роллю, эпізодам, эцюдам. Да іх пацягнуліся найбольш таленавітыя студэнты курса—В. Філатаў, А. Мароз, В. Саладзілаў, М. Кавальчык, Ю. Міроненка. У хуткім часе яны сталі ядром курса, якое вызначала яго мікраклімат. А клімат гэты быў вельмі падобны да таго, што панаваў у студыі «Юнацтва». Працаваць, чытаць, шукаць, дапамагаць таварышу—гэтыя запаведзі сталі законам і тут. Калі аднаго студэнта дэканат вырашыў выключыць «з-за адсутнасці творчых здольнасцяў», усе аднакурснікі сталі за яго гарой, даказваючы, што таварыш іх яшчэ пакажа сябе. І сапраўды, пазней, апынуўшыся ў тэатры, гэты малады чалавек даказаў, што мае права звацца акцёрам.

Былыя студыйцы прынеслі ў інстытут неспакойны студыйны дух. А інстытут выхаваў у іх пераконанасць, што мастацтвам сёння нельга займацца па-дылетанцку. Каб узнавіць на сцэне жыццё чалавека, трэба зразумець складаную навуку пераўвасаблення, авалодаць акцёрскай тэхнікай.

Гэтую навуку яны праходзілі пад кіраўніцтвам народнай артысткі РСФСР Веры Паўлаўны Рэдліх, разумнага і чулага педагога, мастацкага кіраўніка курса. Вера Паўлаўна бачыла, які багаты матэрыял трапіў ёй у рукі, і не шкадавала часу для працы. Яна па-чалавечы разумела сваіх студэнтаў. Вось гэты—сарамлівы і замкнёны, і трэба дапамагчы яму пераадолець унутраную скаванасць. Тады тэмперамент юнака вырвецца на волю і мы ўбачым натуру палымяную, самабытную. А ў гэтай—адкрыты тэмперамент (аж бурліць цераз край!). Трэба навучыць стрымліваць яго: пасля вельмі спатрэбіцца ў рабоце над любой роллю. Трэці занадта ўразлівы. І Вера Паўлаўна гутарыць з сябрамі, просіць, каб яны пабераглі яго. Галоўнае ж—яна дае ім ролі, якія дапамагаюць будучым артыстам уведаць саміх сябе і, урэшце, сфармавацца як творчым індывідуальнасцям.

Выхаванцы Рэдліх многа іграюць у п'есах, урыўках, фрагментах. Валеры Шушкевіч, напрыклад, быў і Башмачкіным у «Шынялі» Гогаля, і Каінам у драме Байрана, і казачнікам у беларускай народнай казцы, і князем Мышкіным. Ала Палухіна сыграла ў студэнцкія гады Жану д'Арк у «Жаваранку» Ануя, чэхаўскую Ніну Зарэчную, Настассю Філіпаўну Дастаеўскага. А Слава Саладзілаў паспрабаваў сябе ў такіх непадобных ролях, як сумленны чэхаўскі Іваноў і бессаромны хцівец Якаўлеў з «Фальшывай манеты» Горкага.

Ставілі гэтыя ўрыўкі, фрагменты з п'ес свае ж аднакурснікі, будучыя рэжысёры Ю. Міроненка, Г. Ляндрэс, М. Кавальчук, Н. Прыёмка. Для іх гэтыя гады былі таксама плённымі, дапамаглі намацаць сваю дарогу. Пра гэта сведчаць пастаўленыя імі спектаклі (Ю. Міроненка паставіў «Птушкі нашай маладосці» ў Рускім дзяржаўным тэатры імя А. М. Горкага і М. Кавальчук у супрацоўніцтве з С. Еўдашэнка—«У ноч месяцавага зацьмення» ў Брэсцкім тэатры), якія парадавалі своеасаблівасцю мастацкага почырку маладых рэжысёраў.

Так праходзілі гады вучнёўства: лекцыі, заняткі па майстэрстве, рэпетыцыі, вучэбныя спектаклі. Ігралі многа, марачы аб вялікай сцэне, аб сваім тэатры—маладзёжным, эксперыментальным. Ім яшчэ на другім курсе сказалі: паедзеце ўсім выпускам у Бабруйск, там ствараецца новы тэатр. І яны загарэліся гэтай ідэяй. Незадоўга да выпуску сабраліся ўсе разам, але без педагогаў, каб выра-



Рэжысёр В. Каралько на рэпетыцыі.

шыць, хто ж едзе. Прасядзелі да чатырох гадзін ночы. Размова ішла шчырая і без кампрамісаў—каго браць з сабою, каго не браць.

Гэта ўжо была размова дарослых людзей, якія паставілі перад сабою ясную мэту—стварыць тэатр. Дваццаць два чалавекі з дваццаці чатырох на камісіі па размеркаванні сказалі: «Толькі ў Бабруйск».

### ЦЯЖКІ ДЫЯЛОГ

Аднапавярховыя дамы Бабруйска цягнуцца квартал за кварталам, займаючы ледзь не ўвесь цэнтр горада. То там, то тут на трывалых брамках відаць дошчачкі з надпісам: «У двары злосны сабака».

А на ўскраінах узнімаюцца новыя шматпавярховыя дамы, заводы, фабрыкі, цэлыя мікрараёны, вырастаюць карпусы індустрыяльнага гіганта—шыннага камбіната. Адсюль новае наступае на старое.

А старое часам супраціўляецца. Любілі, напрыклад, бабруйчане аперэту—многа гадоў быў тут тэатр музычнай камедыі. Да яго прывыклі. Хадзілі, каб паглядзець, як весела спяваюць ды прыгожа танцуюць на сцэне, а ў антракце самі весела танцавалі ў фае: для гледачоў аркестр іграў кожны вечар танцавальную музыку. Прывыклі, што спектакль і вечар танцаў—гэта як бы адно і тое ж. А тэатр ішоў на гэта, можна сказаць, з адчаю. Трэба было неяк завабіць гледача, каб не пуставала зала і не трашчэў фінансавы план. Горад невялікі, сапраўдных тэатралаў мала. Так і атрымлівалася—паглядзіць глядач, скажам, драматычную сцэну гібелі адважнага героя ў спектаклі «На досвітку», выйдзе заплаканы з залы, а тут яму «Казачка» іграе аркестр—ідзі, калі ласка, скачы. Што ўжо тут сказаць аб уздзеянні мастацтва, аб яго высокай ролі. Можна падлічыць, як вырасла колькасць гледачоў дзякуючы вечарам танцаў. А як улічыць, наколькі знізіўся мастацкі густ публікі з-за такога сімбіёзу? Дык і не выратоўвала гэта, у канчатковым выніку, тэатр. У мастацтве дзейнічае той жа закон, што і ў жыцці: перастане чалавек сябе паважаць—страціць да яго павагу і іншыя.

Старыя работнікі Бабруйскага тэатра расказваюць, што калі ён яшчэ быў аперэтай, здаралася, білеты на спектаклі распаўсюджваліся (напрыклад, на фабрыцы імя Халтурына) у якасці пакарання: правінаваціўся чалавек—купляй два білеты ў тэатр. Магчыма, гэта і легенда, але вельмі ўжо сумная легенда.

Тры гады назад тэатр музкамедыі ў Бабруйску быў расфарміраваны. Ад ранейшай трупы засталося сем чалавек. Сюды і прыехаў выпускны курс Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Маладыя энтузіясты гарэлі жаданнем сказаць сваё слова са сцэны, іграць п'есы і сур'ёзныя, і вясёлыя, але абавязкова напоўненыя вялікімі ідэямі, поўныя глыбокіх і моцных пачуццяў. Іх творчую праграму падзяляў малады рэжысёр Віктар Каралько, нядаўні выпускнік гэтага ж інстытута, прызначаны галоўным рэжысёрам.

Ветэраны Бабруйскага тэатра, пакуль чакалі прыезду маладога папаўнення, паставілі спектакль «Трыбунал» па п'есе А. Макаёнка. У ім выявілі свой талент П. Масцераў (Цярэшка Калабок), Н. Калаптур (Паліна, яго жонка). Артысты, якія за многія гады скалясілі з тэатрам усю Беларусь, не раз сустракалі ў жыцці народныя тыпы, якія так ярка абмаляваў драматург. Таму і ігралі з такім захапленнем, з такой бытавой дакладнасцю.

А выпускнікі інстытута прывезлі ў тэатр свае дыпломныя спектаклі—«Ідыёт» і «Беларускія казкі».

З гэтага і пачаўся новы тэатр, названы Магілёўскім абласным тэатрам драмы і камедыі. Не, не адразу і небезбалесна знікла тое шво паміж дзвюма жывымі арганізацыямі: рэшткамі старой трупы і навічкамі. Занадта ўжо рознымі былі іх жыццёвы вопыт і творчыя імкненні. Былыя артысты аперэты па-ранейшаму імкнуліся да бытавізму, лёгкай забавы, а вучні Веры Паўлаўны Рэдліх свае сімпатыі аддавалі псіхалагічнай драме, публіцыстыцы. Міністэрства культуры БССР ішло на вялікую рызыку, ствараючы новы тэатр на такой аснове. Каля двух гадоў канфліктныя сітуацыі перашкаджалі творчасці. Дружба і згуртаванасць інстытуцкага курса, які прыехаў у тэатр, праходзілі цяжкія выпрабаванні. Занепакоілася Вера Паўлаўна Рэдліх, іх любімая настаўніца, з якой вучні не парывалі сувязяў. У адным са сваіх часопісных артыкулаў яна напісала: «Няхай тэатральная моладзь праходзіць праз усе натуральныя цяжкасці мастацтва, але не трэба ствараць іх для яе спецыяльна, дадаткова ў выглядзе ўнутрытэатральных змаганняў невысокіх пачуццяў».

Міністэрства культуры БССР прыняло шэраг радыкальных мер, і толькі тады працэс «прыжыўлення» пайшоў хутка, і цяпер яго можна лічыць завершаным. Відаць, Міністэрства культуры ўлічыць гэты вопыт, калі яму давядзецца адкрываць новыя тэатры ў маладых гарадах рэспублікі.

За тры сезоны Бабруйскі тэатр паказаў амаль што дваццаць прэм'ер. Гэта нямала. Былі і ўдачы, былі і зрывы. Не змаглі акцёры захаваць на сцэне «Беларускія казкі»—поўны гумару і паэзіі дыпломны спектакль. Пацярпела паражэнне пры пастаноўцы п'еса К. Сіманава «Хлопец з нашага горада». Былі ў гэтым спектаклі ўсялякія наваццы: напрыклад, хлопцы ў белых сарочках з гітарамі—у ролі хору, які каменціраваў падзеі. Спявалі хлопцы добра, з душой, а ігралі—дрэнна. Нельга цяпер гаварыць пра вайну без вопыту нядаўняй Айчыннай вайны, яе сапраўдных выпрабаванняў. Інакш рызыкуеш зрабіцца дэкларатыўным і легкаважным—што і здарылася ў гэтым выпадку з тэатрам.

А «Разгром» Фадзеева бабруйчане сыгралі так, што глядзець яго прыязджалі гледачы нават з Мінска. Здавалася б, тут і падзеі, і людзі, далёкія ад вопыту сённяшніх дваццацітрохгадовых. Але глыбокая сацыяльная і маральная праблематыка рамана «Разгром» і сёння гучыць актуальна. Маладыя акцёры змаглі сказаць у інсцэніроўцы фадзееўскага рамана сваё слова пра свой час.

Яшчэ лепш ім гэта ўдалося ў спектаклі «А зоры тут ціхія...» Увесь душэўны лад герояў Б. Васільева аказаўся блізкі ім. Ігралі горача, з захапленнем. Спектакль атрымаўся шчыры, патрыятычны.

Безумоўную перамогу атрымаў тэатр у спектаклі «Прачніся і спявай» (пастаноўка В. Каралько). Гэта п'еса венгерскага драматурга Міклаша Д'яфаша належыць да жанру мюзікла, які набывае ў свеце ўсё большую папулярнасць. Музыка і словы тут працуюць разам, дапаўняючы адзін другога. Маладыя героі, мноства камічных сітуацый, дасціпных рэплік—усё гэта ўдзячны матэрыял для стварэння спектакля вясёлага, маладога, звонкага. Такім ён і атрымаўся на сцэне бабруйскага тэатра. Акцёры ў ім лёгка рухаюцца, з задавальненнем спяваюць і танцуюць, пакутуюць і смяюцца, не хаваючы ад гледача, што ўсё гэта крыху не ўсур'ёз, што гэта ігра, умоўнасць, у якую трэба паверыць. Паверыць, напрыклад, у тое, што бацька не пазнае роднага сына, які стаіць за пяць крокаў ад яго. Або што цётцы Тоні семдзесят гадоў, хоць іграе яе дваццацічатырохгадовая Ала Палухіна. Вядома, ніякі грым не можа схаваць маладосці актрысы. Але яе гэта не засмучае. Хіба любы з нас не сустракаў гэтых вось бойкіх, жыццярадасных бабулек, якія зберагалі чужое шчасце? І цётка Тоня—Палухіна ўдала танцуе на сцэне разам з маладымі героямі.

Глядач апладзіруе. Не толькі ёй—усяму спектаклю. «Прачніся і спявай» бабруйчане глядзяць з ахвотай. Магчыма, таму, што зноў спяваюць і танцуюць на сцэне. Мюзікл—гэта ж амаль аперэта.

Артысты рады бачыць запоўненую залу, адчуваюць жывую рэакцыю гледачоў. Але яны хочуць мець поспех не толькі ў камедыях. Яны прыехалі сюды з упартым жаданнем служыць высокаму мастацтву, не ісці на кампрамісы, не дагаджаць непатрабавальнаму густу. Таму дыялог маладой трупы са сваім гледачом праходзіць досыць напружана.

Калі нараджаецца новы тэатр, павінен з'явіцца і новы глядач, які падзеліць яго творчую праграму. Працэс гэты складаны і працяглы. Даводзіцца ламаць традыцыі. Артысты паўсталі супраць вечароў танцаў у фае тэатра. Няхай чалавек пойдзе з тэатра ў той вечар узрушаны, несучы ў душы той настрой, які падараваў яму спектакль.

Маладая трупа пачала шукаць кантактаў з гледачамі ў вольны час: ішлі ў школы, цэхі прадпрыемстваў з гітарамі, урыўкамі. Замацавацца гэтай дружбе ўсяляк дапамагаў гарком партыі. Як мог, памагаў гарадскі камітэт камсамола, але не заўсёды так, як хацелася. У тэатры з крыўдай і горыччу расказваюць, як ужо ў мінулым сезоне гарком камсамола закупіў спектакль «Драматычная песня» для ўдзельнікаў свайго пленума. Вечарам у глядзельнай зале сядзела... 30 чалавек. А маладым артыстам так хацелася пачуць думку менавіта гэтай аўдыторыі: спектакль жа быў пра Паўку Карчагіна, пра камсамольцаў дваццатых гадоў.

Цяжка даецца бабруйскаму тэатру дружба са сваім гледачом яшчэ і таму, што не паспеюць яны, як кажуць, прывыкнуць адзін да другога, як трэба ўжо развітвацца на паўгода. Па пяць-шэсць месяцаў тэатр гастраліруе. Не кожная прывязанасць вытрымлівае такое выпрабаванне. Але тэатр змушаны ездзіць так доўга таму, што ў Бабруйску ў яго няма цяпер свайго будынка. Стары разбурылі, новы будуецца. Давядзецца пачакаць год-два, а пакуль тэатр восень і зіму іграе ў клубе, а вясной адпраўляецца ў далёкую дарогу.

### У ДАРОЗЕ

Доўгія гастролі—гэта добра і дрэнна. Добра таму, што даюць мноства новых уражанняў, сустрэч—толькі лаві назіральным вокам характэрныя твары, жанравыя сцэнкі! Для маладых артыстаў, якія нядаўна яшчэ былі студэнтамі—багаж гэта неацэнны. А дрэнна таму, што гастролі—



**А. Палухіна ў ролі цётухны Руцы ў спектаклі «Птушкі нашай маладосці».**

гэта напружаная работа без выхадных. Кожны дзень спектакль на асноўнай сцэне і, як правіла, яшчэ выязны, а часам і трэці—для дзяцей. Тэрміновыя ўводы, рэпетыцыі наспех. А часам даводзіцца выходзіць на сцэну і без рэпетыцыі. Вопыт «незамацаванасці» сцэнічных вобразаў, не нажытага скарбу небяспечны не толькі для ўводаў, але і для роляў, якія нараджаюцца паступова, у працэсе працяглых рэпетыцый.

Ці не ў гэтым прычына няроўнасці такіх спектакляў, як «Драматычная песня», «Птушкі нашай маладосці», якія рыхтаваліся ў час летніх гастроляў?

Дзеянне ў «Драматычнай песні» то набірае сілу і ўнутранае напружанне, то падае, ледзь паўзе, наганяючы нуду ў глядзельнай зале. Няроўна сыграны і Павел Карчагін Валерыем Шушкевічам. Артыст тонкі, тэмпераментны, імпульсны, ён то ўспыхвае, то пагасае. Словы яго часамі загучыць палымяна, спавядальна, і тады ўсё навокал рухаецца, жыве, а часамі гасне, стыне, не саграе пачуццём. А Павел Карчагін у гэтым спектаклі ўсё—і галоўны герой, і каментатар, і сувязное звяно эпізодаў. Астатнія асобы абмаляваны бегла, хаця артысты і імкнуцца як мага больш расказаць пра сваіх герояў у кароткіх эпізодах. З найбольшым поспехам гэта робяць Н. Варанецкая (Рыта Усціновіч), В. Філатаў (Фёдар Жухрай), Н. Бадзячэўская (Фрося), Н. Калаптур (Баба), Е. Гоўша (тэлеграфіст). Але і яны не могуць выраўняць агульнае дыханне спектакля, якое ўсё часцей і часцей зрываецца.

Спектаклем «Птушкі нашай маладосці» (рэжысёр В. Шыманскі) па п'есе малдаўскага пісьменніка Іона Друцэ Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі ўдзельнічаў у рэспубліканскім аглядзе, прысвечаным 50-годдзю СССР.

Усеагульную ўвагу прыцягнула ў ім выканаўца галоўнай ролі. Гэта была Ала Палухіна, тая самая, што ў мюзікле «Прачніся і спявай» сыграла вясёлую, бесклапотную сямідзесяцігадовую цётку Тоню. У «Птушках нашай маладосці» яе гераіні цётачцы Руцы таксама за семдзесят. Толькі вобраз гэты ўжо трагедыйны. Старая Руца, вясковая знахарка, нудзіцца па буслах, якія паляцелі. Гэта птушкі яе маладосці, і з імі, ёй здаецца, зніклі і прыгажосць і паэзія жыцця. Яна проста не заўважае, што ў кожнай маладосці—свае птушкі. Напрыклад, у яе пляменніка Паўла, старшыні калгаса, які перабудаваў усю вёску, любімыя птушкі—жаваранкі, што так тонка і пяшчотна звіняць над узараным полем.

Разумная, філасофская п'еса Іона Друцэ—сур'ёзнейшы экзамен для любога тэатра і кожнага выканаўцы. Ала Палухіна вытрымала гэты экзамен. Яна іграе так, што ёй верыш. Старая Руца Палухінай і разумная, і добрая, і праніклівая, і калючая, і спачувальная. Яе прымірэнне з Паўлам у фінале спектакля—гэта само прасвятленне мудрай старасці.

Павел Русу ў выкананні артыста В. Філатава пераканальны толькі ў асобных сцэнах, у асноўным, бытавога характару. У маналогах, успамінах-наплывах, дзе дзейнічае хор ценяў-прывідаў, ён скаваны, напружаны. А такіх сцэн у спектаклі многа. Пастаўлены і сыграны гэтыя масавыя сцэны нецікава. На жаль, і да рэжысуры гэтага спектакля можна прад'явіць многа прэтэнзій.

Значыць, яшчэ адзін недапрацаваны спектакль, у якім не ўсё выверана, прадумана, замацавана. Міжволь на закрадваецца боязь: ці не страціла трупа здольнасць удумліва і сур'ёзна працаваць над спектаклем, падпарадкоўваць усе яго кампаненты адзінай рэжысёрскай задуме, дабівацца ансамбля ў працы артыстаў.

Але побач з «Драматычнай песняй» і «Птушкамі нашай маладосці» стаяць у афішы бабруйчан яшчэ «Ветрык, вей» Райніса, «Даходнае месца» Астроўскага—складаныя класічныя творы, у якіх трупа паказала сябе зусім прафесійнай. Астроўскага яна літаральна адкрыла для сябе нанава. Рыхтуючы «Даходнае месца», усе працавалі як апантаныя, імкнучыся як мага глыбей зразумець эпоху і псіхалогію кожнага персанажа. Дапамог вопыт, накоплены ў інстытуце, праца пад кіраўніцтвам В. П. Рэдліх над вобразамі герояў Дастаеўскага, Гогаля, Чэхава, Горкага. Спектакль «Даходнае месца» (рэжысёр В. Каралько), хаця і спрэчны ў сваім рашэнні, атрымаўся яркі, самабытны. Цікавыя вобразы стварылі ў ім маладыя артысты В. Філатаў (Юсаў), В. Шушкевіч (Вышнеўскі), А. Палухіна (Ганна Паўлаўна), В. Саладзілаў і Г. Траццякоў (Жадаў), А. Бендава (Паліна), Э. Шклярава (Юлія).

Імкненне маладога тэатра сказаць сваё слова відаць і ў яго спектаклі «Несцерка», таксама пастаўленым В. Каралько (мастакі — Ю. Тур і Е. Волкаў, балетмайстар—М. Кіракозаў, музычнае афармленне І. Ніснева).

На сцэне балаган, кірмашовае прадстаўленне. Куляюцца, зазываюць народ скамарохі. Стракаты натоўп шуміць, спявае і танцуе. Хто сварыцца, хто мірыцца, не хаваючыся ад людскіх вачэй. Крыклівая цётка Мальвіна (артыстка В. Дземянкова) навучае сваю дачку Насцю (артыстка Н. Варанецкая), якога жаніха лепш выбраць, а тая, смеючыся, бяжыць за Юрасём (артыст А. Блашкевіч).

У гэтым вясёлым натоўпе выдатна адчувае сябе Несцерка (артыст В. Філатаў). Толькі што круціўся ён пасярод кірмашу, а ўжо вунь вытанцоўвае ў мядзведжай шкуры разам са скамарохамі. І не зразумець ужо, дзе балаганнае прадстаўленне, дзе рэальная падзея. Сцэнка, якую разыгрываюць скамарохі, паўтарае гісторыю жаніцьбы Насці і Юрася—толькі ў гратэскавым выглядзе. Смяецца кірмашовая публіка над няўдалым шляхцічам (артыст А. Жук). І толькі адзін шкаляр Самахвальскі (артыст В. Саладзілаў) злуе і крывіць губы, зразумеўшы пародыю на сябе.

Яшчэ далёка наперадзе паспяховы фінал п'есы, яшчэ давядзецца перажыць нямала непрыемных хвілін Насці і Юрасю, перш чым яны ажэняцца, а тэатр парадыйнай інтэрмедыяй скамарохаў як бы папярэджвае: «Не хваліцеся, усё будзе добра». Добра таму, што гэтыя людзі вераць у сябе, у свае сілы. Насця і Юрась у спектаклі бабруйчан не толькі пакутуюць з-за дэспатызму Мальвіны, але і змагаюцца за сваё шчасце. Змагаюцца весела, смела, гарэзліва. Асабліва Насця—Варанецкая, вясёлая, хітраватая, багатая на выдумкі дзяўчына.

Незвычайны і Несцерка ў выкананні В. Філатава. Ён тут вясёлы, прадпрымальны чалавек, увасабленне невычарпальнага народнага гумару і аптымізму. Пра такога кажуць: у агні не гарыць, у вадзе не патоне, у кішэню за словам не палезе. Усе гэтыя якасці Несцерка бліскуча дэманструе—асабліва ў дыспуце са шкаля-



**Сцэна са спектакля «Птушкі нашай маладосці».**

ром. Сцэна гэта пастаўлена і сыграна цудоўна. Гарачацца абодва, бурна рэагуе на кожную рэпліку натоўп. Яго сімпатыі яўна на баку Несцеркі. Ён адчувае гэтую сваю сувязь з простымі людзьмі: з кім-небудзь з «балельшчыкаў» Несцерка пераміргваецца, чыю-небудзь падказку падхопіць. І радуецца разам з усімі, атрымаўшы перамогу над панам Самахвальскім.

У гэтым спектаклі кожная роля — акцёрская ўдача і яркая знаходка ў агульнай карціне. Тут ёсць акцёрскі ансамбль, цэласнасць рэжысёрскай задумы, выверанасць дэталяў. Ёсць сапраўднае захапленне мастакоў і азарт першаадкрывальнікаў. Так, яны нанава адкрылі для беларускага гледача «Несцерку», і аўтар п'есы В. Вольскі, паглядзеўшы спектакль, выказаў ім сваю шчырую падзяку.

...У вялікім пакоі, які ўвечары служыць буфетам і гардэробам (клуб, дзе іграе цяпер тэатр, цесны, непрыстасаваны), мы сядзім з Алай Палухінай і Валерыем Шушкевічам і ўспамінаем студыю «Юнацтва», Валодзю Балабохіна, спектакль «Лазня». Успамінаем, як гула ў той вечар актавая зала тэатральнага інстытута. Усё было тады нязвыклае: лозунгі, плакаты, малюнкі, развешаныя па сценах залы, і сатырычныя вершы Маякоўскага, уціснутыя ў тканіну п'есы. Іх чыталі самадзейныя артысты, выходзячы на авансцэну, звяртаючыся адразу да гледачоў. Моладзь апладзіравала. Гледачы больш сталыя ўглядаліся, узважвалі. А студыйцаў нібы паднімаў малады запал, ім хацелася ўсё сказаць у гэты вечар, чым жывуць яны, чаму пакляліся служыць. Калі адзін з герояў п'есы выйшаў на авансцэну са сваім маналогам, то ў ім прагучала і ўласнае творчае крэда гэтай маленькай групы аднадумцаў:

— Таварышы, зразумейце нас правільна. Мы можам памыліцца, але мы хочам паставіць наш тэатр на службу барацьбе і будаўніцтву...

«Што ж удалося ажыццявіць з гэтай праграмы?» — задаю пытанне маім маладым субяседнікам. Яны лічаць — мала. Хочацца большага — і ад сябе, і ад тэатра. Больш п'ес, разумных, вострых, сучасных. І смеласці, пошукаў пры іх пастаноўцы. Тэатр жа мае права на эксперымент, нават на памылкі, тым больш, калі ён яшчэ шукае сябе, свой твар.

Ці ўсё робіць тэатральная моладзь, каб ажыццявіць сваё творчае крэда? Напэўна, не ўсё. Але маладыя артысты вераць у такі тэатр; і гэта мэта па-ранейшаму згуртоўвае калектыў.

Маладому тэатру хутка тры гады. Тэрмін гэты яшчэ малы, а прыступкі мастацтва крутыя. Перамогі і паражэнні яшчэ будуць перамяжоўвацца, нараджаючы ў артыстаў незадаволенасць сабою, нястомную прагу высокага мастацтва. Але і ў гэтым радасць руху наперад. Бо толькі той, хто ідзе, здольны ўдасканальвацца.

**Дзіна МАНАЕВА.**




# 1973

## ЛІСТАПАД


М. М. Сірата.


А. К. Ільінскі.

**1**

100 гадоў з дня нараджэння І. І. Замоціна (1873—1942), беларускага і рускага літаратуразнаўцы, члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**2**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) М. М. Сіраты, вучонага-фізіка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**6**

70 гадоў з дня нараджэння Д. М. Красільнікава (1903—1952), беларускага мастака.

50 гадоў з дня нараджэння (1923) І. М. Глебава, беларускага скульптара.

**7**

**56 гадоў (1917) Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. А. Дракахруста, пісьменніка.

40 гадоў з дня адкрыцця (1933) у Мінску помніка У. І. Леніну.

40 гадоў з дня адкрыцця (1933) Мінскага аэрапорта.

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Я. М. Павушкіна, вучонага-хіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР.



Л. У. Чарняўская.



В. С. Гарбук.



П. С. Пестрак.



Н. П. Варвановіч.

**11**

70 гадоў з дня нараджэння А. К. Ільінскага (1903—1967), народнага артыста СССР.

**14**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) М. А. Безбародава, вучонага-хіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**16**

80 гадоў з дня нараджэння (1893) Л. У. Чарняўскай, беларускай пісьменніцы і перакладчыцы.

**24**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) В. С. Гарбука, беларускага пісьменніка.

**26**

30 гадоў з дня вызвалення (1943) Гомеля часцямі Чырвонай Арміі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**27**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) П. С. Пестрака, беларускага пісьменніка.

**28**

55 гадоў з дня ўтварэння (1918) Беларускай Ваеннай акругі (ЧБВА).

45 гадоў назад (28 лістапада — 1 снежня 1928 г.) адбыўся першы з'езд пралетарскіх пісьменнікаў Беларусі (БелАПП).

**30**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) Н. П. Варвановіч, беларускай мастачкі-жывапісца.



# МЫ — З ШАСЦІДЗЕСЯТЫХ

## СТАРОНКІ ЎЗАЕМАСУВЯЗЯЎ МАЛАДОЙ БЕЛАРУСКАЙ І ЎКРАІНСКАЙ ПАЭЗІІ

На самым пачатку дазвольце згадзіцца з Раманам Лубкіўскім:

О не каноні, не іконы —
В поэзії свої закони...

Так, у паэзіі — свае законы, законы прарастання з сэрца чалавечага і ўздзеяння на яго, законы развіцця — росквіту і перацвітання, уздымаў і спадаў, пэўнай стабілізацыі ці браджэння, якасных рыўкоў, перападаў з плоскасці ў плоскасць, з рэчышча ў рэчышча. Законы гэтыя — і агульнага плана, і больш прыватнага значэння. Яны дзейнічаюць у часе, ахопліваючы пэўныя мацерыкі слова. Яны дзейнічаюць у чалавеку. У сэрцы чалавека перакрыжоўваюцца час і слова, гісторыя і народ, каб стаць паэзіяй. «Свой закон», першы закон паэзіі — яе вытох з чалавечых эмоцый, яе эмацыянальная прырода, якая дзякуючы слову пераўтвараецца ў эстэтычную яву. І калі гэта так, то нашу гаворку пра маладыя ўкраінскую і беларускую паэзію 60-х гадоў мы можам пачаць менавіта з высвятлення іх пачуццёвых вытокаў, з раскрыцця той сардэчнай усхваляванасці, якая спараджала яе, была для яе першаштуршком, перадасновай, зорным рэчывам — пакуль што без формы, без аблічча.

Сёння гэтае «зорнае рэчыва» мае ўжо і форму, і аблічча, яно ўжо стала паэтычным словам. І сёння тым словам, якое ўжо назвала з'яву, мы павінны будзем называць і самую яе перадаснову, самое тое «нематэрыяльнае», эмацыянальнае напружанне душы, думкі, што дало ў выніку вольтавую дугу паэтычнага свячэння маладой паэзіі 60-х гадоў.

Найперш думаецца, што 60-я гады для ўсёй маладой савецкай паэзіі, у тым ліку для ўкраінскай і беларускай, былі шчаслівыя. Заканамернасцю і там і тут было неймаверна хуткае вылучэнне і выспяванне значных кагортаў творчых індывідуальнасцяў. Бо сапраўды: параўнайце першую кніжку П. Макаля «Першы след» (1955) з яго ж зборнікамі «Круглы стол» (1964), «Акно» (1967), зірніце на першы зборнік Н. Гілевіча «Песня ў дарогу» (1957) і параўнайце яго з «Бальшаком» (1965), «Перазовамі» (1967). Або параўнайце першы зборнік Я. Сіпакова «Сонечны дождж» (1960) з яго ж зборнікамі «Лірычны вырай» (1965), «Дзень» (1968), а на Украіне — першы зборнік В. Кароціча «Залатыя рукі» (1961) — са зборнікамі «Плынь» (1965), «Пераўвасабленні» (1971), першы зборнік Л. Кастэнкі «Праменні зямлі» (1957) — са зборнікам «Вандроўкі сэрца» (1961). З гэтага параўнання няцяжка выявіць, напрыклад, той якасны скачок, які зрабілі Я. Сіпакоў ці В. Кароціч з іх пераходам ад трафарэтнасці паэзіі канца 40-х — пачатку 50-х гадоў да арыгінальнасці і творчай сталасці кніжак сярэдзіны 60-х гадоў. Да таго ж трэба сказаць, што яшчэ маладзейшым па творчасці паэтам пашанцавала крыху больш, чым тым, што пачыналі на пачатку 50-х гадоў. Больш маладзейшыя (у Беларусі — А. Наўроцкі, В. Зуёнак, на Украіне — І. Драч, Р. Лубкіўскі, Б. Алейнік) з першых жа кніг былі ўжо ў новай плыні і адразу ж раскрыліся як індывідуальнасці: І. Драч — у першай жа кнізе «Сланечнік» (1962), Р. Лубкіўскі — больш у «Навальнічным дрэве», сваім другім зборніку (першы, «Зачараваныя алені», выйшаў у 1965 годзе.). Так і А. Наўроцкі адразу ж праявіў сябе першаю кнігай «Неба ўсміхаецца маланкаю» (1962), а В. Зуёнак — таксама першай жа кнігаю «Крэсіва» (1966).

Праўда, некаторыя маладыя заяўлялі аб сабе вельмі ярка і ў канцы 50-х ці на самым пачатку 60-х гадоў, — напрыклад, В. Сыманенка, М. Вінграноўскі — на Украіне, У. Караткевіч, Р. Барадулін — у Беларусі. Моцныя іх індывідуальнасці «прарэзаліся» адразу. Шмат што рашыла сіла таленту. Але ўсё ж не яна была, урэшце, вырашальнаю. Бурны рост маладой паэзіі 60-х гадоў у цэлым быў абумоўлены інтэнсіўнасцю літаратурна-гра-

мадскага і грамадска-палітычнага жыцця. Ён прадаўжаецца і сёння ў той творчай атмасферы, у якой жыве наша краіна, ажыццяўляючы гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС.

Але вернемся да гісторыі, бо 60-я гады для нас—ужо гісторыя. Арыгінальная, значная маладая паэзія і на Украіне, і ў Беларусі пачыналася тады скрозь з аднаго—з высокага хвалявання, з маладога змагарскага запалу ў барацьбе за «высокае неба ідэалу» (А. Вярцінскі), за «небо... надий» (І. Драч), у якое паэты «ўраслі», якім для іх стала «сонцесяжна Програма»—галоўны дакумент нашай эпохі, камуністычнага XX стагоддзя, яго маніфест і наш падручнік жыцця.

Развіццё маладой савецкай паэзіі ў 60-я гады было звязана і з новымі заваёвамі сацыялістычнага рэалізму, з тым шырокім прасторам, які гэты метад адкрывае для развіцця самых разнастайных стыляў і творчых манер. І ў маладой украінскай, і ў беларускай паэзіі ў 60-я гады, можна сказаць, даволі бурна ішло калі не абнаўленне тэмаў і форм, паэтычна-вобразных структур, стыляў, мадэляў верша, то іх грунтоўнае, шматграннае пашырэнне. І там і тут накірункі пошукаў зводзіліся ў даволі рэзка акрэсленыя тры плыні: першая з іх была звязана з далейшым развіццём анталагічна-класічнай традыцыі (С. Гаўрусёў, Н. Гілевіч, Е. Лось, Г. Бураўкін; М. Вінграноўскі, В. Сыманенка, А. Лупій); другая—з далейшым паглыбленнем рамантычных традыцый у паэзіі, з развіццём асацыятыўнасці вобразна-паэтычнага мыслення, з абнаўленнем форм лірычнага верша, з раскаванасцю метафарычнага мыслення, кампазіцыі і інш. (І. Драч, Б. Алейнік, Р. Лубкіўскі; У. Караткевіч, А. Наўроцкі); трэцяя плынь — плынь традыцыйна-народна-песенная, яе крынічанне відаць, бадай, у кожнага больш значнага маладога паэта 60-х гадоў—у беларусаў Гаўрусёва, Гілевіча, Барадуліна, Зуёнка; ва ўкраінцаў Драча («Балады з фальклорных крыніц»), Лубкіўскага (раздзел «Пракорань» у зборніку «Рамёна»). У песенна-лірычнай традыцыі шмат піша М. Сынгаеўскі (раздзелы «Маё Палессе», «Закувала зязюля» ў кнізе «Зямля, чую цябе» (1961).

Вядома, не трэба думаць, што быццам бы той ці іншы малады паэт піша толькі ў адной такой плыні. Любая класіфікацыя ў паэзіі—справа ўмоўная, і калі мы адносім тое ці іншае прозвішча ў адзін з ідэйна-стылёвых накірункаў, то гэтым проста падкрэсліваем, што асноўныя вектары пошукаў таго ці іншага маладога паэта 60-х гадоў былі пераважна звязаны з цыклам менавіта гэтых пафасных і стылёвых з'яў. Напрыклад, паэзія М. Вінграноўскага, А. Лупія таксама не пазбаўлена шмат якіх рамантычных нюансаў, прыёмаў (узяць хоць бы развіццё лермантаўскага вобраза Дэмана ў першай кнізе М. Вінграноўскага «Атамныя прэлюды»). І не туды, і не сюды, паводле нашай класіфікацыі, не аднеслі мы таксама А. Вярцінскага, Р. Барадуліна, і гэта таму, што шырыня іх творчых пошукаў, па сутнасці, у абсягу ўсіх трох галоўных вектараў, намі вызначаных. І з поўным правам на тое можна сказаць, што па «шырыні» роўна з імі ва ўкраінскай паэзіі стаяць, часта нават і аспрэчваючы першынство, І. Драч, В. Кароціч, Р. Лубкіўскі, Б. Алейнік і інш.

Можа, на пачатку нам і трэба было б правесці канкрэтныя супастаўленні ў сферы тэматычнага дыяпазону, пафасных акцэнтаў. Ды мы не рабілі іх свядома. Бо проста не хацелася «даказваць» відавочнае: што тэмы і там і тут—аднолькавыя, што шырыня іх—аднолькавая. Бо куды больш цікавым нам здаецца іншае: што пры аднолькавасці застаецца розным—у такіх роднасных, тоесных па ідэйным духу, тэмах і пафасе маладых літаратурах—украінскай і беларускай? І яшчэ хацелася б убачыць тое: як нашы памкненні ў будучыню, наш час выяўляліся ў той канкрэтнасці, што мы называем нацыянальнаю формай?..

Украінская паэзія ў цэлым, як нам здаецца, як мы яе адчуваем «збоку»,—надзвычай пачуццёвая, сентыментальная (не ў горшым значэнні гэтага слова, якім абазначаюць сурагат пачуцця, а ў лепшым—глыбокім, непасрэдным). Можна падумаць: а што гэта за вызначэнне паэзіі, калі яе першапрырода ўвогуле—пачуццё, эмацыянальнасць? Эмацыянальная, пачуццёвая, вядома, і беларуская паэзія, як і кожная іншая. Але, мусіць, такога згустку пачуццёвасці, такой лазернай сілы сканцэнтраванага промня, такой пачуццёвай замілаванасці, лірычнага трымцення, як ва ўкраінскіх народных песнях і вершах пра маці, пра Бацькаўшчыну, наўрад дзе больш ці знойдзеш у такой насычанасці! Музыка, песеннасць і замілаваная пачуццёвасць—вось, відаць, самая першая паэтычна-нацыянальная стыхія і традыцыя сённяшняй украінскай паэзіі. Яе пачатак—ад украінскіх народных песень пра маці, каханне, прыроду, казачэньку, ад шаўчэнкаўскага «Кабзара», ад «Сонечных кларнетаў» П. Тычыны.

Нядзіва, што і малады Іван Драч—увесь у музычным адчуванні свету. Ён і сам гэта добра разумее:

Талане мій, на дикому смичкові
По струнах полохливих прослизни
У лоне скрипки, де бруньхуе слово,
Де зріє слово в муках тишини.

«Слова—з музыкі, з яе горкіх агоній»,— гаворыць у тым жа вершы паэт, які сапраўды мае ледзь не абсалютны паэтычны слых.

Але музычнасць светаўспрымання—можа, яшчэ і не галоўнае ў спараджэнні глыбінна пачуццёвага лірызму сучаснай украінскай паэзіі:

— А чим же ти граеш?—Золотим яблучком,
Ой не золотим яблучком—золотим сонечком.
— А чим же погрожуєш?—
Золотий ножик маю.
— Ой весна-красна, що ж нам винесла?
Як ти звісила по небесоньках долю-райдугу,
Вітворим воротонька, пустим раденько.

(І. Драч. «Балада пра Вясноньку».)

Менавіта ў сэнсе сентыментальна-завостранага ўспрыняцця свету украінская маладая паэзія 60-х гадоў несумненна вылучаецца перад маладой беларускай гэтага ж часу. Таксама значна больш у ёй было ў 60-я гады і эксперыментатарства, раскаванасці, фантазіі ў стылістычна-жанравых адносінах, і гэта тлумачыцца ўжо не пачуццёва-народнымі асаблівасцямі паэтычнага светаўспрымання ўкраінцаў, а больш гісторыка-літаратурным вопытам — у прыватнасці, пошукамі украінскай савецкай паэзіі 20-х гадоў. Украінская паэзія таго часу безумоўна з большым размахам засвоіла, абжыла, нібы свае нацыянальныя формы, ускладнёна-асацыятыўныя, інтэлектуальна экспрэсіўныя спосабы выражэння (П. Тычына, М. Рыльскі, М. Бажан, Я. Плужнік). Думаецца, што якраз на гэтай літаратурна-гістарычнай аснове складваўся эксперыментатарскі размах І. Драча, Р. Лубкіўскага, Б. Алейніка, А. Лупія і іншых. У маладой беларускай паэзіі 60-х гадоў раскаванасцю, творчым эксперыментатарствам вызначылася ў асноўным паэзія Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, А. Наўроцкага і Я. Сіпакова. Яркае асацыятыўнае мысленне ўнёс у маладую нашу паэзію У. Караткевіч. Але—і гэта спецыяльна варта адзначыць—унёс менавіта ў сувязі са сваімі непасрэднымі кантактамі з украінскай паэзіяй. Ён вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, ён варыўся, як кажуць, у тым жа саку, што І. Драч, а пасля Р. Лубкіўскі, Б. Алейнік.

Словам, маладая паэзія 60-х гадоў і ў Беларусі, і на Украіне перажыла шэраг тыпалагічна роднасных з'яў, сярод якіх немалое месца займала менавіта пашырэнне слоўных сродкаў паэтычнага выражэння, пошукі жанрава новага і разнастайнага. Івана Драча, напрыклад, нельга проста і ўявіць без яго наватарскіх балад, якія з уласна традыцыйнай, літаратурнай баладай маюць часта вельмі мала агульнага. У дадзеным выпадку—па сутнасці, таленавітае перараджэнне жанру, пераасэнсаванне яго, дастасаванне да новых функцый. Падобнае ж перанараджэнне жанру элегіі даў у нас сваімі сатырычна-лірычнымі элегіямі А. Наўроцкі. Па-свойму таксама трактавалі форму эцюда І. Драч, А. Лупій. Акрамя таго, І. Драч разгарнуў своеасаблівы жанр філасафемы, В. Кароціч—варыяцый, а ў нас Я. Сіпакоў—тэрцын, трыялетаў, актаў і інш. Словам, малюнак шырокага «размывання» традыцыйных жанраў як у маладой беларускай, так і ў маладой украінскай паэзіі 60-х гадоў тыпалагічна тоесны.

Куды цяжэй параўноўваць, супастаўляць жывапісную сутнасць маладой украінскай і беларускай паэзіі 60-х гадоў. Думаецца, што жывапіснасць І. Драча, В. Кароціча, Р. Лубкіўскага, Б. Алейніка з сур'ёзным поспехам аспрэчваў не толькі адзін выключна метафарычны мастак роднага слова Р. Барадулін. Яе аспрэчвалі і С. Гаўрусёў, П. Макаль, А. Наўроцкі, В. Зуёнак, У. Караткевіч, Д. Бічэль-Загнетава, В. Вярба і інш. Маляўнічасць, скульптурнасць, канкрэтнасць мне здаюцца ўвогуле самымі моцнымі якасцямі маладой беларускай паэзіі 60-х гадоў, як і яе публіцыстычны пафас.

Публіцыстычны напал беларускай маладой паэзіі 60-х гадоў звязаны перш за ўсё з творчасцю А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, Е. Лось, А. Сербантовіча, В. Макарэвіча і інш. З украінскіх маладых паэтаў абвостранай публіцыстычнасцю асабліва ўражваюць В. Сыманенка, В. Кароціч, Б. Алейнік.

Тыпалагічна аднолькавым было ў маладых украінскіх і беларускіх паэтаў 60-х гадоў іх звяртанне да гісторыі, культуры свайго народа і чалавецтва, якое давала ў кожнай паэзіі асобныя, не раз вельмі цікавыя мастацкія пераламленні.

Зварот да блізкай і далёкай гісторыі ў абедзвюх паэзіях быў найперш зваротам да гераічнага мінулага, да тэмы Вялікай Айчыннай вайны, да рэвалюцыйных традыцый, да гераікі нацыянальна-вызваленчых бітваў мінулага. Гэты зварот быў заканамерны і ў тым сэнсе, што без гісторыі няма чалавека, што працэс складвання гарманічнага, усебакова развітага камуністычнага чалавека немажлівы без паглыблення, без пашырэння гіста-

рычнага ракурсу ў нашым самаспазнанні, самасцвярджэнні.

Гераічны пафас—таксама ўвогуле адна з асноўных, самых глыбінных асаблівасцяў усёй украінскай паэзіі. Яго пачатак—з казацкіх дум, зноў жа з «Кабзара» Т. Шаўчэнкі, з «Вечнага рэвалюцыянера» І. Франко, з вобразаў, падобных да кветкі ламі-камень у Л. Украінкі.

Як і беларуская маладая паэзія 60-х гадоў, украінская паэзія гэтага часу несумненна пашырыла і паглыбіла распрацоўку тэмы Вялікай Айчыннай вайны—гістарычныя пласты гэтай тэмы, і асабліва драматычныя, трагічныя—як асноўную, самую высокую меру выпрабавання сілы і велічы нашых народаў, магутнасці савецкай улады, ленінскіх ідэй (возьмем для прыкладу паэмы «Нож у сонцы» І. Драча, «Вандроўкі сэрца» Л. Кастэнкі, вершы А. Вярцінскага «Рэквіем», «Дынамік», паэму Р. Барадуліна «Блакада»).

Свой уклад унеслі маладыя і там, і тут таксама ў раскрыццё бытавой праўды вайны (Барадулін, Макарэвіч, Паўлаў, Грачанікаў; Лучук, Лупій, Сынгаеўскі і інш.).

У атмасферы сацыялістычнага збліжэння нашых народаў, сучаснага збліжэння кантынентаў і рас беларуская маладая паэзія не абышла і гістарычнага вопыту украінцаў, і ён паўплываў на фарбы яе вобразнасці. Р. Барадулін у адным сваім вершы пра каштаны пісаў, напрыклад, што кожны з іх трымае па сотні гетманскіх булаў, а вобраз кветкі ламі-камень стаў цэнтральным у аднайменнай паэме Хв. Жычкі—паэме пра драматычныя дні ў Мінску Лесі Украінкі, на руках у якое тут паміраў яе сябар-рэвалюцыянер Сяргей Мяржынскі. Вершы пра Кіеў пісалі У. Караткевіч («Размова з кіева-пячэрскім сланом»), Р. Барадулін («У Кіева-пячэрскай лаўры»), пра Л. Украінку—Е. Лось, пра Закарпацце—А. Ставер, лівадзійскія чайкі паэтызаваў С. Гаўрусёў, «Песні Украіне» склалі С. Панізнік, В. Коўтун, якія некаторы час жылі і вучыліся ў Львове. Гэты пералік можна было б падоўжыць, але думка зразумелая і так: сябры пішуць пра сяброў, вопыт сяброў уваходзіць у вопыт сяброў.

Маладая ўкраінская паэзія таксама ў сваю чаргу паказала плённасць такога ўзаемазблíжэння. Мне, напрыклад, выдаецца адным з лепшых вершаў у кнізе Р. Лубкіўскага «Рамёны» верш «Коннікі з Беларусі», прысвечаны Максіму Танку, хоць яго цэнтральны вобраз паэту навеяла паэзія іншага Максіма—Багдановіча. І трэба прызнацца, што ўкраінскія нашы аднагодкі ўвогуле паспелі больш зрабіць, чым мы, у справе асваення паэтычных здабыткаў сваіх суседзяў. Яны не толькі падрыхтавалі вялікую анталогію перакладаў «Калінавыя масты», якая выйшла ў Кіеве ў 1969 годзе і ў якой прадстаўлены 44 маладыя беларускія паэты. У зборніку В. Кароціча «Пераўвасабленні» я знайшоў, напрыклад, і верш-наследаванне Г. Бураўкіну «Сябры», у кнізе Ул. Лучука «Важкасць» — пераклады з У. Караткевіча, Р. Барадуліна. І сапраўды, можна толькі пашкадаваць, што падобнай практыкі мы яшчэ не ўвялі ў сябе, хоць даўно і ведаем і высока цэнім паэтычныя здабыткі сваіх суседзяў.

Што датычыцца тыпалагічных супастаўленняў, то сярод іх можна вылучыць яшчэ і такія вельмі цікавыя з'явы. Маладая паэзія 60-х гадоў, як украінская, так і беларуская, звяртаючыся да сучаснасці, мінулага, гісторыі культуры чалавецтва, часам давала на дзіва ўнісонныя творы. Узяць, напрыклад, вершы В. Кароціча і Г. Бураўкіна, прысвечаныя тэме XX стагоддзя. Можна супастаўляць таксама распрацоўку вобраза Яна Гуса ў В. Кароціча з распрацоўкай трагічнай фігуры Спартака ў вершы А. Вярцінскага. А ці не з падобных жа стымулаў узніклі—кожная ўасобку арыгінальная—кніга Я. Сіпакова «Веча славянскіх балад» (1973) і кніжка перакладаў Р. Лубкіўскага з рускіх, беларускіх, польскіх, чэшскіх, славацкіх, сербалужыцкіх, югаслаўскіх, балгарскіх паэтаў? Як і зборнік «Славянскае неба» Р. Лубкіўскага (1972), кніга Я. Сіпакова сягае да культуры і гісторыі ўсіх славянскіх народаў, толькі што сваю, так сказаць, агульнаславянскую ідэю еднасці і братэрства, нялёгкіх гістарычных шляхоў у будучыню адзін з паэтаў выражаў, ідучы да кнігі арыгінальных балад, другі—даючы сапраўды прадстаўнічую шырокапанарамную нізку перакладаў аж са ста трыццаці шасці паэтаў!

Тыпалагічна тоеснымі на Украіне і ў Беларусі ў 60-я гады былі і працэсы так званай інтэлектуалізацыі паэзіі. Павышаная ўвага да інтэлектуальнага матэрыялу, да сучаснай навуковай інфармацыі, тэрміналогіі несумненна была і рэальнасцю і заканамернасцю, і адхрышчвацца ад яго — на падставе таго, што любая паэзія—«разумная», што нельга, маўляў, яе дзяліць на «неразумную» і «разумную», на нашу думку,— проста дылетанцтва. Інтэлектуалізм як з'ява ў сучаснай паэзіі меў свае канкрэтна-літаратурныя імпульсы і быў абумоўлены самім часам. Але інтэлектуальнае зерне ў паэзіі працуе не заўсёды «ў адным рэжыме»—ёсць наплывы яго больш інтэнсіўнага свячэння, ёсць перыяды большай увагі ці то да музыкі, ці то да пластыкі. Украінская паэзія, зноў жа скажам—у цэлым,—паэзія з вельмі багатымі філасофскімі традыцыямі (як не ўспомніць тут глыбакадумнай паэзіі І. Франко, Л. Украінкі, Ул. Самійленкі, Ал. Олеся, М. Рыльскага, М. Бажана, Я. Плужніка, В. Мысыка, С. Крыжаніўскага і інш.). У беларускай паэзіі, як вядома, традыцыі «чыста» філасофскай лірыкі пакуль што больш сціплыя: М. Багдановіч, У. Жылка, У. Дубоўка, С. Дзяргай. Таму працэс павышанай увагі да рацыё ў паэзіі быў, на маю думку, проста надзённай неабходнасцю—маладая беларуская паэзія 60-х гадоў магла б зрабіць і больш у адпаведным кірунку. Украінская ж маладая паэзія папрацавала тут, як нам здаецца, больш плённа—з шырокім выяўленнем вельмі патрэбных сёння паэту эрудыцыі, начытанасці ў пытаннях жывапісу, архітэктуры, музыкі, у пытаннях навейшай фізікі, біялогіі, сацыялогіі, псіхалогіі і г. д.

І. Драч, напрыклад, вельмі адкрыта паказваў сваю залежнасць ад У. Уітмена ў «Баладах будняў», вітаў у «Сланечніку» Н. Хікмета і П. Пікаса, яго зборнікі проста да краёў нафаршыраваныя эпіграфамі навукова-інфармацыйнага характару, навуковай тэрміналогіяй, паказваюць самую шырокую эрудыцыю паэта ў сучасным і наогул сусветным мастацтве, музыцы. Адкрыта пераспеўваў той жа І. Драч паэму латыша Ояра Вацыецiса, бо яна яму імпанавала якраз сваёю шырока гістарычнай панарамнасцю—Бруна, Лорка, Эйнштэйн.

І. Драч увесь запалонены ўспрыняццем свету ў яго гуках. Р. Лубкіўскі як бы супернічае з ім, пяючы гімны фарбам, заклікаючы: «вдівляймося серцем в поліського неба палітру», прагнучы «стобарвності, стозорності»:

У мене входить світ, як у прозору
призму...
Стобарвним полум'ям—від нього
в невідь бризну...

І адкрыццё свету ў І. Драча ў гуках, і нечаканасць фарбаў Р. Лубкіўскага («белыя даліны» ў яго спяваюць «чырвоным спевам» і звоняць «зялёныя званы»)—усё гэта, па-мойму, таксама непарыўна звязана было менавіта з працэсам інтэлектуалізацыі паэзіі, з размываннем у ёй рэалістычна-контурнага, канкрэтнага вобраза, з ростам асацыятыўнасці, з выхадам да новага, незвычайнага—у рэчышчы рамантычных традыцый, з прагай знайсці паэтычную форму самому сучаснаму патоку свядомасці, самой сучаснай думцы ў яе парываннях, азарэннях, сумненнях і адкрыццях не толькі свету, дадзенага нам у пяці спрадвечных пачуццях, але і макра- і мікрасвету, свету, убачанаму вачыма сённяшняй навукі.

Гэтыя тэндэнцыі перадвызначалі асаблівасці не толькі паэзіі Драча, Лубкіўскага, але часткова і В. Кароціча, А. Лупія, Ул. Лучука. У беларускай паэзіі яны абумовілі арыгінальнасць А. Вярцінскага, П. Макаля, А. Наўроцкага, А. Сербантовіча.

Але ў маладой беларускай паэзіі 60-х гадоў больш усё ж такі было паэтаў спакойна-традыцыйных па форме, упэўненых, што пушкінская школа пластычнасці, гарманічнасці, канкрэтна-рэалістычнай дакладнасці, строга класічнай метрычнасці можа яшчэ ўпаўне надзейна і трывала служыць і нашаму часу. Што гэта так, на Украіне ўсёй сваёй паэзіяй самага высокага лёту даказаў так заўчасна памерлы В. Сыманенка, зборнікам «Сто вершаў» (1967) хораша пацвердзіў гэта М. Вінграноўскі. У беларускай маладой паэзіі на гэты раз больш доказаў. Шэрагі «традыцыяналістаў» тут куды гусцейшыя: Н. Гілевіч, С. Гаўрусёў, Е. Лось, К. Цвірка, Ю. Свірка, Г. Бураўкін, У. Паўлаў, А. Грачанікаў. На пушкінскай мадэлі верша ў сваёй сутнасці трымаецца таксама паэтыка Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Д. Бічэль-Загнетавай, Р. Семашкевіча, А. Разанава.

У выніку можна, відаць, без асаблівых сумненняў сказаць, што маладая ўкраінская паэзія ў сваіх найбольш яркіх праявах была ў 60-я гады пераважна рамантычна-раскаванаю, менш традыцыйна-класічнаю, а маладая беларуская паэзія гэтага ж часу, наадварот, была больш традыцыйна-класічнаю па форме, менш рамантычна-раскаванаю. У роўнай ступені абедзве яны звярталіся да народна-песенных, фальклорных традыцый, толькі што ва ўкраінскай паэзіі фальклорныя вобразы і матывы больш сінтэзаваліся з фармальна-наватарскімі пошукамі, у беларускай — з традыцыйна-класічнымі пушкінскімі, купалаўскімі, коласаўскімі формамі.

Асобна некалькі слоў скажам аб маральна-этычнай дамінанце ў маладой паэзіі 60-х гадоў. Яна была сапраўды дамінантай і ў маладой украінскай і ў беларускай паэзіі. Не было паэта ні там, ні тут, які б не пісаў аб дабраце, чалавечнасці.

Це — спрага правди, і краси,
і ніжності,
Це — спрага вірності, кохання
й високості...
Це — спрага людяності,
і краси, і змоги.
Я нею сповнений. Мене пече
щоднини

Жагуча спрага щастя
для людини,
Тривога людства—це мої
тривоги.

І. Драч.

Не мають мертві сорому,
Але
Живим не можно жити
безсоромно...
Поети!
Вчить планету доброті...
...в битві за любов не вбий її
Жорстокими немудрими
руками.

В. Кароціч.

Тут проста напрошваюцца на супастаўленні вершы высокаграмадзянскага непрыняцця подласці, сквапнасці, прыстасаванства — Н. Гілевіча «Выпадак на шашы» і В. Кароціча «Грошы», верш Г. Бураўкіна «Пустыя п'едэсталы» і «Верш пра рэптылію» В. Кароціча, вершы таго ж Г. Бураўкіна «Пра сціпласць», «Зусім бязгрэшным» і В. Кароціча «Обережні сміються тихо».

Ні беларускую, ні ўкраінскую паэзію ўвогуле нельга ўявіць без камічнага. Гумар, сатыра — яны, можна сказаць, у нашай крыві і плоці, пачынаючы з «Энеіды» Катляраўскага, з беларускай «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе». Маладая паэзія 60-х гадоў, трэба сказаць, дала свае набыткі і ў выяўленні гэтай рысы: яны перш за ўсё выйшлі з-пад пяра В. Сыманенкі (нізка эпітафій «Хаджэнне па могілках», нізка эпіграм «Заечы шрот»). Іх у нас нямала таксама дзякуючы поспехам Ніла Гілевіча (асаблівую папулярнасць займелі яго замовы — ад тупасці, ад падхалімства, ад п'янства, а таксама сатырычныя вершы «Пра дачы», «Як я стаў балельшчыкам» і інш.). І на Украіне, і ў Беларусі асабліва магутную падтрымку паэтам прадаўжае аказваць фальклор. Асаблівую значнасць слова маладых сатырыкаў і гумарыстаў набывае тады, калі яно ўздымае сацыяльна-значныя, вострыя, надзённыя праблемы.

У паэзіі можна параўноўваць усё — тэндэнцыі, ідэі, вырашэнне праблем і тэм, напрамкі, стылі, рытм, інтанацыі, рыфмы і інш. Аднаго, відаць, не трэба і не ў змозе мы параўноўваць—талентаў. Бо талент — гэта ў кожным выпадку асобная, аўтарытарная з'ява. Сапраўдны талент — унікальны. Талент — заўсёды канцэнтраванае выражэнне духоўнай і псіхалагічнай сутнасці народа — пэўнага часу, пэўнай эпохі. Адно тут можна сказаць, што на таленты маладая паэзія 60-х гадоў і на Украіне, і ў Беларусі не была пакрыўджана. Іх даробак у скарбніцу ўсёй савецкай паэзіі і сапраўды відавочны і арыгінальны.

Алег ЛОЙКА.





**Анатоль ВЯРЦІНСКІ. «ВЫБРАНАЕ». Бібліятэка беларускай паэзіі. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973.**

# «...КАБ ПЕРАДАЦЬ САМО ГАРЭННЕ»

Анатоль Вярцінскі выдаў зборнік выбраных вершаў. У зборнік увайшло тое, што сам паэт палічыў за лепшае. Карыстаючыся выхадам кнігі, паспрабую пагаварыць аб некаторых агульных тэндэнцыях творчага развіцця Анатоля Вярцінскага.

Бяру наўздагад, амаль без выбару, два вершы паэта і чытаю іх запар, адзін за адным.

Адзін — з першай кніжачкі «Песня пра хлеб» (1962):

Я іду зялёным лугам,
Сцелецца трава.
І чамусьці кругам-кругам —
Галава.

Ці таму, што у брыгадзе
Лепшая жняя,
Ці таму, што ўчора ў садзе
З ім сядзела я.
і г. д.

І другі — з трэцяга зборніка «Чалавечы знак» (1968):

Мяне разбудзілі на зары.
Сказалі: данайцы прынеслі дары.
Данайцы! Вы мне прынеслі дары?
Вітаю вас, данайцы,
Хаця і помню той міф стары.
Давайце дары, давайце!

Няўжо гэта напісаў адзін паэт? Адзін. Праўда, у першым выпадку пачатковец, чалавек, які толькі спрабуе сваё пяро і таму яшчэ не ўмее яго засцерагчы ад спакусы абконтурыць агульнапрынятую канву; у другім — паэт са школай, з **індывідуальным** густам і вопытам. І калі б я, скажам, меў за мэту (кшталтам той, што звычайна ставяць перад сабой дысертанты) паказаць «творчы шлях» Анатоля Вярцінскага, то такога доваду (**там** — перайманне, **тут** — майстэрства), пэўна, хапіла б, каб вытлумачыць не розніцу нават — разрыў паміж двума прыведзенымі вершамі.

Але пытанне, як мне здаецца, стаіць інакш. Якія заканамернасці, характэрныя для ўсёй маладой беларускай паэзіі канца 50-х — пачатку 60-х гадоў, раскрываюцца за гэтым відавочна рэзкім рыўком і разломам у творчасці аднаго з таленавіцейшых яе прадстаўнікоў?

Такая заканамернасць ёсць. Назавём яе пераходам ад лірыкі, якая пасіўна, з дапамогаю надзейна апрабаваных сродкаў фіксуе вонкавыя прыкметы сучаснасці, стараючыся — і гэтак жа павярхоўна і «умозрительно» — спалучыць іх з «душэўным» («у садзе з ім сядзела я»), да лірыкі, зразуметай як зменлівы, дынамічны метад даследавання, да аналізу жыцця з усім няпростым, што яно выносіць на суд і ацэнку ўсіх і кожнага.

Вядома, мела значэнне і тое, што ў 1954 годзе Вярцінскі «не ўмеў», а праз дзесяць год «навучыўся». Але важна, што вучыўся ён іменна ў **гэтым**, а не ў якім-небудзь іншым

кірунку. У кірунку да большай аналітычнасці, большай паглыбленасці ў праблемы ідэйна-маральнага («нравственного») парадку.

Змена адбілася на абліччы самога верша, на яго інтанацыйнай, рытмічнай структуры. І гэта сведчыць аб арганічнасці пераходу, бо ідэя, «не выпакутаваная да формы» (бліскучая дэфініцыя М. Агарова),— яшчэ не ідэя.

«Гуляў вецер русым чубам, казаў хлопец мне, што я стала яму любай яшчэ па вясне. І што я яго надзея, сонейка яго...» Роўнядзь, гладка, без сучка і задзірынкі, паліраваная паверхня. Цьмянае прыпамінанне нечага такога, што мусіць спяваць, але **тут** не спявае, не можа пець, бо няма ні хлопца і ні дзяўчыны. Няма **кахання** як страсці.

Параўнаем з «Данайцамі»: «Данайцы! Вы мне прынеслі дары? Вітаю вас, данайцы, хоць і помню той міф стары. Давайце дары, давайце!..» Дакладна і жыва інтанаваная чалавечая мова. Уздымы і спады голасу. Галоўныя па сэнсе словы вылучаны, падкрэслены паўторам з розным, аднак, адценнем. Знарок празаізаваны, размоўны сінтаксіс. Нязмушанасць і свабода. І незвычайная рыфма: давайце — данайцы. Даўняя традыцыя яшчэ з часоў Вяргіліевай «Энеіды» катэгарычна забараняла што-небудзь браць у данайцаў: падман і каверза. А тут: давайце, давайце! Багдановіч называў падобныя з'явы ў паэзіі «камізмам рыфмы»...

Скажуць: а ці можна іх увогуле ставіць побач, тым больш параўноўваць,— верш з аб'ектыўным героем і тэмай і верш-дослед, верш-аналіз праблемы? Можна. Бо тое, што мы называем аб'ектыўнай лірыкай, лірыкай, звернутай да падзеі, да вонкавай з'явы, таксама народжана (павінна быць народжана) унутраным, душэўным імпульсам паэта і таксама мусіць нешта аналізаваць у жыцці. Інакш мы будзем чытаць не паэзію, а сумныя і адназначныя апавяданні ў рыфму. Ці збор сілагізмаў, расквечаных «вобразамі». Ці лянівыя падробкі пад фальклор.

Скажу яшчэ раз: я не выбіраў узораў. Ні адмоўных і ні станоўчых. І «Размову з данайцамі» ўзяў перш-наперш дзеля той непаўторнай жывасці маналогу, якая сведчыла не толькі аб росце майстэрства — аб актывізацыі аналітычнага моманту ў творчасці нашага маладога пакалення паэтаў.

Але паколькі ў поле зроку трапілі менавіта «Данайцы», то паспрабую разабрацца ў сапраўдным змесце верша. Па-першае, таму, што гэта характэрны для Вярцінскага верш, а па-другое, таму, што неяк коса і крыва тлумачылі яго некаторыя крытыкі.

Гаварылі, ці правільней, намякалі: Вярцінскі недаацэньвае значэнне пільнасці ў нашым грамадскім жыцці. Гэта не так. Пільнасць да варожай ідэалогіі, да ворага, гатоўнасць належным чынам яго сустрэць гучыць у вершы выразна і моцна. «А што — калі з'явіцца вораг? Для ворага зброя ў мяне ёсць, для ворага ёсць ў мяне порах. Я не схілю перад ім галавы. Змяню на меч арала» (тыповы для Вярцінскага сэнсавы пераверцень: арала, зноў перакутае на меч).

Паэтава трывога пра тое, каб не блыталі пільнасць з падазронасцю, каб іх не атаясамлівалі, не выдавалі адно за другое. З гэтаю мэтаю Вярцінскі і пераасэнсоўвае іранічна старасвецкі міф аб данайцах, гэты класічны запавет падазронасці. (Шкада толькі, што аўтар прыпісвае данайцам лішняе: «Была гісторыя з тым канём. Так, абхітрылі вы Трою». Данайцы тут ні пры чым — Трою абхітрылі ахейцы).

«Яшчэ падазрэнне ў мяне ёсць, што сябар ёсць сябар, а госць ёсць госць»,— цэнтральная думка верша. І думка плённая, перспектыўная з пункту погляду той агульнай ідэі, якую развівае Вярцінскі ў шмат якіх сваіх вершах.

Скажам, у вершы «Ленінскі смех»:

Ленінскі розум
        ведаў даўно:
Рэвалюцыю робіць не зло, а дабро.
Дабро рэвалюцыю нараджае.
Рэвалюцыя дабро сцвярджае.
Дабру ж не да твару
        змрочныя шоры...

«Ленін заставаўся Леніным — і грозным, караючым мечам, і рэвалюцыі добрым геніем». Ленінская нянавісць і дабрыня жывуць разам, злучна, у непарыўным адзінстве.

Дыялектыка любові і нянавісці добра, на маю думку, выражана ў вершы Я. Вінакурава, які з'явіўся амаль адначасова з «Ленінскім смехам» Вярцінскага: «О, сострадание! Нет грознее силы и силы беспощадней, чем народ, познавший жалость! Он хватает вилы — спасать несчастных! Он топор берет».

Як у Купалавай «Бандароўне», дзе народ бярэцца за вілы і тапары якраз таму, што пазнаў пякучы жаль да дзяўчыны і яе бацькоў...

Гавару пра ўсё гэта, бо не раз выклікала крытычныя пярэчанні думка Вярцінскага (зусім не новая, як мы бачым) пра неадлучнае ад класавай нянавісці грамадскае дабро як пра аснову асноў і нашай рэвалюцыі, і нашага ладу, і нашай грамадскай маралі і як галоўны, нарэшце, стымул штодзённых паводзін кожнага з нас.

Паэт прыпамінае дэвіз і лозунг старога свету: «З ваўкамі жыць — па-воўчы выць»:



Гэты закон не патурае
чалавечнасці.
        Згодна з ім,
добрым быць — не натуральна,
больш натуральна —
        жорсткім і злым.

Для паэта ж быць добрым, чулым і ўважлівым да людзей — закон і норма, абумоўленыя самою сутнасцю ленінскай рэвалюцыйнай праўды, практыкай будаўніцтва новага сацыяльнага свету.

У звыклай для сябе строга лагалізаванай манеры, у даволі новым для беларускай паэзіі тэзісападобным выкладзе, далёкім, аднак, ад схемы, ад сілагізму, Вярцінскі таксама па-свойму інтэрпрэтуе талстоўскую думку:

Вы зразумейце правільна.
Я не за тое, не,
Каб падстаўлялася правая,
Калі хто па левай б'е...

Ён «не супраць гневу», ён толькі за тое, «каб гордасці нашай і годнасці ніхто не наносіў абраз, каб не было неабходнасці рашаць: ці біць у адказ!»

Сярод лепшых твораў Вярцінскага — вершы (маленькія паэмы) пра вайну, пра **сацыяльнае зло** фашызму. Пра зло, прынесенае фашызмам народу. І пра народную мужнасць, якую спарадзіла неабходнасць «біць у адказ».

«Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня». Яна пачынаецца прозай, быццам аўтару страшна было **такое** крануць зарыфмаваным словам, «тэхнікай» (асцярога перабольшаная, але псіхалогію яе можна зразумець): «Помню, міма маёй роднай вёскі ішлі карнікі — маю вёску яны абышлі. А праз нейкі час мы пачулі страляніну, убачылі дым... Назаўтра мы даведаліся, што спалена вёска Кісялёва, а жыхары яе забіты».

Далей вершы пра здзічэлага пеўня на вогнішчы, вершы, якія не толькі не дысаніруюць з высокім маўчаннем трагедыі, а наадварот, паглыбляюць і адцяняюць яго:

Запеў і здзівіўся ён, напэўна:
«Чаму не спяваюць іншыя пеўні?»
А потым крычаў і двойчы, і тройчы,
На золаку вёску будзіць пачаў.
Крычаў, на абпаленым плоце стоячы,
Крыламі лопаў і крычаў.
Ён вёску будзіў,
        крычаў да хрыпу.
Будзіў у каторы ўжо раз.
А вёска маўчала — ні рыпу, ні скрыпу,
Ні груку, ні гуку ў адказ.

Ці пра Хатынь: «Што значаць яны, твае званы? Ці гэта гучаць адгалоскі той вёскі, што была да вайны, той колішняй мірнай вёскі?..»

Вершы А. Вярцінскага пра вайну занялі ў яго творчасці нейкае адметнае месца, акрэслілі новую яе ступень, новую якасць, і ў святле гэтых вершаў выявіліся як і некаторыя слабасці паэта, так і рэальныя шляхі іх пераадолення.

Анатоль Вярцінскі ўнёс у маладую беларускую паэзію стыль цвярозага і разам з тым усмешлівага рацыяналізму, аналітычную нотку, імкненне разабрацца не толькі ў пачуццях — у паняццях, у тэрмінах. Можна, як мне здаецца, цалкам згадзіцца з рускім крытыкам А. Урбанам: «Увогуле рацыяналізм паэзіі не ёсць велічыня пастаянная. У савецкай паэзіі апошніх дзесяцці — пятнаццаці гадоў разам з ростам філасофскай лірыкі пашырыліся разважнасць, падкрэсленая ацэначнасць, скарыстанне лагічнай аргументацыі ў вершаваным тэксце».

На фоне многіх і многіх даволі бяздумных «лірычных» вершаў пра «басаногае маленства», якія не ішлі далей цвёрда завучаных «эмацыянальных» стэрэатыпаў, добраю навіною і абяцаннем новых адкрыццяў прагучалі вершы Вярцінскага з іх аналітычнай тэндэнцыяй, з іх нязвыклым інтанацыйным ладам і прынцыпова «непаэтычным» сінтаксісам: «Аднойчы анёлаў сабраў херувім. Агледзеў вачамі вясёлымі і стаў гаварыць узрушана ім, як ён задаволен анёламі». Тым часам анёлы слухалі, «раскрыўшы ружовыя раты» і «стараліся яшчэ святлей свяціць сваімі німбамі».

Некаторыя вершы Вярцінскага нагадвалі трактаты на зададзеную тэму: «Пра веліч» — «Нярэдка яшчэ, ілюзіям верачы, прымаем за веліч мы манію велічы»; «Да пытання аб склерозе» — «Думайце, хлопцы, думайце, інакш — бяда, склероз...»; «Комплекс непаўнацэннасці», «Абыякавасць», «Пра дошкі мемарыяльныя і звычайныя» (з другой кнігі паэта — «Тры цішыні», 1966).

Усе гэтыя вершы з іх акцэнтам на думку і на даследаванне мелі, паўтараю, ста-

ноўчае значэнне для нашай маладой паэзіі, бо разбуралі кантэксты лірыкі, якая толькі і спадзявалася на інтуітыўнае, на «душэўны» стэрэатып і штамп, на бяздумнасць.

Але далей, на жаль, з Вярцінскім адбываецца вось што: адасобленае, вылучанае з чалавечай цэласнасці, з **натуры** рацыянальнае, разумовае пачынае верхаводзіць у вершы, распараджацца ім, выстройваць яго паводле адной нягнуткай і, скажам прама, не надта багатай на **паэтычны** змест кампазіцыйнай схемы: пасылка — вывад, факт — «мараль».

Верш «Бар'еры»: «Падае за бар'ерам бар'ер — гукавы, светлавы, зямных гравітацый... Толькі ёсць у мяне непакой: ці хутка дойдзе чарга да бар'еру глухой адчужанасці людской, неразумення і недаверу!..»

Лёгка ўяўляю сабе падобную, «тэхнічную», навуковую, тэму ў Леаніда Мартынава — самага, бадай, яркага прадстаўніка філасофскага, інтэлектуальнага накірунку ў сучаснай савецкай паэзіі. Мартынаву не патрэбны такія паспешлівыя перакідкі з «навуковага» на «маральнае» — сам па сабе прадмет, сама тэма, узятая са сферы навукі, дазваляюць паэту раскрыць новыя, поўныя рамантычнай узнёсласці маштабы свету і яго пазнання, і «видно все, чему еще не верят к вчерашнему привычные глаза».

Механічныя ж паралелі (бар'ер гукавы — бар'ер недаверу) няшмат гавораць нашым пачуццям, думкам, фантазіі, тым больш, што і самі паняцці «адчужанасць», «недавер» вымагаюць сацыяльна-аб'ектыўнага тлумачэння абставінамі і **гісторыяй**, бо не **цалкам залежаць** толькі ад злой ці добрай чалавечай волі.

Яшчэ адзін верш — «Бой». Ужо не навука, не тэхніка, а падзея апошняй вайны складае яго непасрэдны сюжэт: 17 ліпеня 1941 года пад Крычавам герой-артылерыст Мікалай Сірацінін даў бой цэлай калоне нямецкіх танкаў. Так расказвае эпіграф да верша. Сам верш мала што дадае да эпіграфа. Ды і пісаўся ён не дзеля падзеі, а дзеля вываду і «маралі»: «Так бы пераконана змагацца з сіламі зла, як з стальнымі драконамі змагаўся хлопец з Арла...» «Вы ж будзьце асцярожныя!» — хтосьці крычаў — наўздагон. А мы, як заварожаныя: — Агонь! Агонь! Агонь!..» Побач з вельмі канкрэтнымі «стальнымі драконамі» — танкамі, спыніць якія можна толькі агнём, занадта абстрактна пачынаюць гучаць згаданыя ў вершы «сілы зла», і артылерыйскія каманды наўрад ці тут дарэчы.

Дык от, два важныя тэмаю вершы, і ні адзін не хвалюе, не выклікае актыўнай эмоцыі «ў адказ», і ўсё праз «галаўную» зададзенасць, праз гэту жорсткую распластанасць на каркасе рацыяналістычнай схемы і даволі размытай, па сутнасці, думкі-тэзісу.

Пад аднабаковым ціскам рацыяналістычнага, з яго маўклівай санкцыі расшчапляецца атам жанравага адзінства: лірыка робіцца дэкламацыяй («Высокае неба ідэала!.. І толькі так, як хвалюе каханне, ты хвалявала маю кроў...»), іронія — фельетонам, як, напрыклад, у даволі смешным «Здарэнні ля шлагбаума» ці ў «Одзе квітанцыі»...

Спрадвеку, ва ўсе часы сапраўдны паэт глядзеў на паэзію не проста як на справу свайго жыцця, а як на само жыццё, рэалізаванае ў слове-ўчынку, слове-дзеі. Яшчэ стары Дзяржавін, калі спрабавалі правіць ці перарабляць яго вершы, адказваў звычайна так: «Вам хочацца, каб я сваё жыццё пражыў, як ваша?»

Не кажу ўжо пра Куляшова ці Танка. Чаму ўсе мы, і чытачы, і крытыкі, гэтак прыхільна сустрэлі Аляксея Пысіна, гэтак узрадаваліся яго паэзіі? Хіба ў Пысіна ўсе вершы аднолькава добрыя? Не, ёсць у яго непраясненыя задумы, эмацыянальная цьмянасць, яшчэ не здымкі, а негатывы, не спеў, а натхнёнае мармытанне. За што ж мы палюбілі Пысіна? За тое, што паэзія ў яго вершах праяўляецца не ўрыўкава, не асобным ускрайкам, «сектарам» душы, не стылем, зразуметым як сума прыёмаў, а цэласным чалавечым існаваннем, жыццём, **лёсам,** які **рухам** сваіх **каранёў** цесна і арганічна перапляюцца з каранямі **ўсіх.**

Можна зразумець шчыры клопат, нават трывогу Анатоля Вярцінскага:

Зноў шлак халодны.
Толькі шлак.
Як быць з табой,
маё тварэнне?
Я б'юся, я шукаю шлях,
Каб перадаць само гарэнне.

Сапраўды, як? Відаць, штó ні паэт — то свой адметны шлях, свой спосаб «перадаць гарэнне». Але ёсць агульная для ўсіх небяспека, адзін няплёнлы спосаб імітаваць хваляванне, і да яго, на жаль, часта звяртаюцца паэты — равеснікі Вярцінскага ды і ён сам. Гэта — спосаб павярхоўнай экспрэсіі, вонкавага «майстэрства», кідкай, але не запоўненай пачуццём вершаванай тэхнікі, якая скрозь хапаецца за бурны жэст, за паўтор, за гучную фразу, застаючыся, як правіла, халоднай.

Так, прынамсі, напісана «паэма віны» А. Вярцінскага «Даруйце!»: «Даруйце, даруйце!.. Даруй, мая мама», «мая вёска», «жанчына», «мой Яўгенчык», «мой дружа», «усе змагары і спадзвіжнікі», «ахвяры», «птушаняты», «Хірасіма» і г. д., і г. д. Надзвычай экспрэсіўная з выгляду інтанацыя выраўніла, выцягнула ў нітачку розныя зместам, «аб'ёмам», характарам прадметы аўтаравай віны, а сама гэтая віна засталася, па сут-





насці, не высветленай, і не яна фактычна звяртаецца да нас, чытачоў, а толькі нададзеная ёй тэхнікай і манерай форма вонкавага ўзрушэння...

Анатоль Вярцінскі — аўтар трох зборнікаў вершаў (чацвёрты — выбранае). Першы зборнік «Песня пра хлеб» адкрываўся аднайменнай паэмай. Не сказаць, каб яна была нейкім новым словам у нашай паэзіі — хто з беларускіх паэтаў не ўслаўляў «бохана круглага» і «матчыных спрытных» рук? (Увогуле, няма, напэўна, у свеце паэзіі, якая б столькі гаварыла пра хлеб, як беларуская).

«Песня пра хлеб» распачынала асобную лінію ў творчасці Вярцінскага. Назавём яе вясковай, сялянскай, «хатняй» ці як там яшчэ. З ёю пакуль што звязаны найбольшыя ўдачы паэта. Удачы цэласнага, арганічнага лірызму і душэўнай пластыкі, народжаных **сваім,** біяграфічна блізкім жыццёвым матэрыялам, трактаваным не выбарачна, не вузка і без аніякіх «патрыярхальных» ілюзій.

Іменна тут, на матэрыяле блізкай рэчаіснасці, выявілася такая каштоўная якасць Вярцінскага, як чуласць да перажыванняў «чужога», старонняга чалавека і ўмельства даць гэтаму чалавеку праўдзівыя голас і слова.

Вышэйшае дасягненне паэта ў гэтым плане — «Дынамік», верш, які, спадзяюся, запомнілі многія. Пра адзінокую сялянскую маці, пра «радзіва» — яе падмогу, пра... Зрэшты, у дачыненні да сапраўднай паэзіі не трэба, як мудра заўважыў С. Я. Маршак, высвятляць, **пра што** яна расказвае, а **што** яна гаворыць. «Дынамік» Вярцінскага — нярэзкае, тактоўнае (бо аналізуецца сутнасць **гэтай** канкрэтнай сітуацыі) адмаўленне чалавечага адзіноцтва, сцвярджэнне салідарнасці і ўзаемапавагі.

Свабодна гучыць апавядальны верш Вярцінскага, жыва перададзены расказ старой:

Хуценька ў печы дапаліла,
Трохі прыбрала, падмяла.
Пайшла вуліцай тапалінай
У другі канец сяла.
Кажа ўсім: «Іду да радзіста,
Нешта радзіва маўчыць».
А ў радзіста сын нарадзіўся,
Сын нарадзіўся і крычыць.

Далей старая прыпамінае сваіх сыноў: адзін на вайне, другі ў партызанах, трэці без вестк... «Толькі радзіва адно... І пагаворыць, і паспявае, добрай ночы жадае мне. І паплачам з ім, бывае, як успомнім аб вайне». **Успомнім.** Я і дынамік, старая маці і радыё... Праўдзівая псіхалогія, пераканаўчы верш, які хоча спасцігнуць — і спасцігае — самую прыроду і сутнасць рэчаў, мінаючы ненадзейныя і мімалётныя эфекты «стылю», «экспрэсіі»...

Вопыт работы над вершамі накшталт «Дынаміка», вопыт чалавечае праўды значна ўзбагаціў і ўласна лірычныя творы Вярцінскага, самую сутнасць якіх добра выражаюць такія радкі:

Я так не магу, каб стрэцца
І холадна абмінуць,
Каб сэрцам другое сэрца
Горача не крануць.

Каб у нас адзначалі прэміяй лепшы вершаваны ўрывак, перыяд, страфу, то сур'ёзна прэтэндаваць на такую прэмію маглі б вось гэтыя радкі Вярцінскага з паэмы «Заазер'е» пра сына, які навекі развітваецца з маці,— столькі ў гэтых радках стрыманай, але глыбокай страсці, гора, гарэння! І яшчэ чыста паэтычнай, творчай культуры пачуцця, якое ўмее паставіць сябе ў цвёрдыя рамкі, не ахвяруючы ўнутраным зместам.

Ад вёскі да могілак —
з паўвярсты.
Ад вёскі да могілак —
шлях далёкі,
доўгія вёрсты,
трудныя крокі.
Як ты паспееш да цемнаты?..
І ты ўсё глытаеш той горкі камяк,
і ты ўсё глытаеш камяк той саляны,
і ты ўсё ідзеш за тымі санямі.
Днямі ідзеш.
І не дойдзеш ніяк.

Нарэшце, вершы пра вайну, пра спаленую вёску, што побач з «маёй роднай вёскай», пра кожнага чацвёртага жыхара Беларусі, які загінуў ад фашысцкіх рук... Хіба за невялікім выняткам, тут усё перажыта, істотна і цесна звязана з чалавечым характарам аўтара, здатнага, як мы бачым, дамагчыся сінтэзу і адзінства толькі на грунце **народных** уяўленняў аб добрым і злым, маральна вартым і нявартым.

Анатоль Вярцінскі — паэт цікавы і таленавіты, і самая каштоўная яго рыса — грамадзянская актыўнасць, імкненне ставіць і вырашаць такія маральныя праблемы, якія хвалююць усіх нас. Глыбокая адданасць мэтам і ідэалам нашага часу, ленінскай рэвалюцыйнай праўдзе і народжаным ёю гуманістычным каштоўнасцям — галоўны пафас творчасці Вярцінскага.

Мяркую, што далейшыя развіццё і рост А. Вярцінскага будуць цалкам залежаць ад таго, наколькі яму ўдасца паглыбіць гэта набытае ім умельства, цэласна (натурай, характарам, не аддзяляючы думкі ад пачуцця) сінтэзаваць падзеі і з'явы жыцця — свайго і агульнага, нашага.

**Рыгор БЯРОЗКІН.**




**Віктар КАРАМАЗАЎ. «ПА ТАЛЫМ СНЕЗЕ». Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973.**

# ЧАЛАВЕК НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

Ледзь пагойдваецца на хвалях неглыбокай звілістай рэчкі плыт, на якім пасажыркаю едзе да горада Юлька. Няспешна праплываюць міма берагі, цудоўнае прырэчча Сожа. І праходзіць перад намі жыццё Ягора Кавалька, Юлькі, нялёгкі яе лёс. Прыпыніцца, пакрасуецца і пойдзе далей па свеце Анкуда, муж Юлькі...

Вось, бадай, і ўвесь сюжэт аповесці В. Карамазава «Пагоннік». Не памятаю, але, здаецца, сустракалася ў нашым перыядычным друку вызначэнне, згодна якога творы В. Карамазава адносяцца да так званай «падарожнай» літаратуры. А да якой аднесці гэтую аповесць? Да сельскагаспадарчай? Да прамысловай? Хоць, шчыра кажучы, бывае часам трывожна ад гэтага катэгарычнага падзелу на «вытворчыя», «сельскагаспадарчыя», «інтэлектуальныя» творы, быццам сапраўдная літаратура можа быць, да прыкладу, і неінтэлектуальнай.

Часцей за ўсё «вытворчымі», «сельскагаспадарчымі» называюцца творы, у якіх бадзёра гудуць трактары і шумяць станкі, а да гэтага «падстаўлены» схематычны вобраз селяніна ці рабочага. Такі твор — самы звычайны брак, за які крытыкуюцца тыя ж рабочыя і сяляне, самая звычайная спекуляцыя на тэме. А ад нашае ж літаратуры патрабуюцца творы пра рабочага, селяніна, інтэлігента, а не паспешлівыя скарагаворкі на патрэбную тэму. Літаратура даследуе чалавека, а чалавек звязаны ў грамадстве з пэўнымі сродкамі вытворчасці, займае адпаведнае становішча ў грамадстве. І характар чалавека неабходна даследаваць у непарыўнай еднасці і з вытворчым працэсам, і з грамадскім асяроддзем, і з усімі складанымі праявамі жыцця.

Вядома, нельга адмаўляць неабходнасць пісаць і пра вытворчы працэс (прыкладам можа служыць цікавасць да раманаў Хейлі), але пісаць пра сам вытворчы працэс дасведчана і глыбока. Нельга яшчэ забываць, што камуністычнае грамадства патрабуе не толькі неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай базы, а і новага чалавека. Як ідзе выхаванне чалавека будучыні, як уплывае на яго імклівасць тэхнічнага прагрэсу з яго стандартызацыяй, усё большай рацыяналістычнасцю? Чаму магчымасць жыць у дастатку часам спараджае мяшчанства? Праблем столькі, што іх нельга нават пералічыць.

Вось перад намі муж Юлькі Анкуда. Дзікая, гарачая ад самае маладосці сіла, жаданне быць лепшым і прага мець больш за другіх. Гэтая прага павядзе Анкуду «на край свету», прымусіць забыцца і на жонку, і на дзіця, каб мець толькі самому, каб жыць толькі сабе на ўцеху. У яго ёсць магчымасць жыць у дастатку, толькі ці мае чалавек маральнае права дастатак ставіць вышэй за ўсё ў жыцці? Таму мы не можам прыняць Анкуду з яго эгаізмам, ён антыпатычны нам. Сваю няправату адчувае і сам Анкуда. Навошта б яму, здавалася, пасля гібелі Юлькі частаваць участковага, які юрыдычна да яго ніякіх прэтэнзій не можа мець? Чужым, нядобрым праходзіць Анкуда па аповесці.

Толькі праз многа гадоў, праз горкі жыццёвы вопыт зразумее Юлька, што можна абысціся і без лішняй капейкі, але нельга без дабраты, спагады, што ў дабраце, у чалавечнасці Ягора Кавалька большая моц, чым у разгульнай сіле Анкуды. Моц гэтая перадалася Ягору ад бацькі, чалавека нялёгкага рамяства і вялікай душэўнай чысціні.

Ці трэба было Ягору ўступаць Анкуду? Ці трэба было яму чакаць гадамі, пакуль Юлька сама адмовіцца ад свайго мужа? Ці не за гэтую пасіўнасць заплочана так дорага — жыццём Юлькі?

Аўтар жорстка карае свайго героя. Трагічная выпадковасць, яе выключнасць як бы прыпыняе звыклую плынь жыцця, парушае натуральную логіку развіцця падзей і характараў. Зададзены тон «звычайнасці» падзей, пра якія пішацца, выключае магчымасць такое канцоўкі, і таму ствараецца ўражанне, што аповесць не дапісана да канца, абарвана.

Добра, дакладна выпісаны Анкуда з яго «звычайным» эгаізмам, які ён не хавае, якім нават і казырыцца пры выпадку. Але, магчыма, залішне «чорным» — ад пачатку да канца — выглядае ён. Пісьменніку, відаць, трэба было ўбачыць хоць бы парасткі чагосьці чалавечага, добрага ў душы гэтага чалавека.

Аповесць прываблівае сваім бескампрамісным непрыняццем эгаізму, душэўнай глухаты. Размову, пачатую ў ёй, працягваюць апавяданні зборніка.

Нам светла і радасна, што гадуецца, жыве на зямлі Сярожка — «прыліпала», які не ўяўляе жыцця без дабраты, любові да ўсяго жывога. І калі за даверлівасць аднагодкі ахрысцілі яго «прыліпалам», то бацькі і сам апавядальнік берагуць гэтую трапяткую даверлівасць і чысціню, зайздросцяць ёй.

Лёгкаю горыччу павее са старонак «Не першага снегу» — ад таго, што за клопатам, за гадамі аддаляюцца людзі, якія разам перажылі самыя цяжкія дні свайго жыцця, што з узростам нібы скупейшы робіцца чалавек на дабрату і спагаду.

Цудоўна напісана апавяданне «Дзед». «Маленькі, сухенькі, што вымерзлая за хлявом цітаўка, дзед» на сконе свайго веку з болем і дакорам глядзіць на сына і нявестку. Многае можа дараваць ён, толькі не даруе той чарсцвінкі ў душы сына і нявесткі, якія за сваімі крыўдамі забыліся на дзяцей. І дзед збіраецца, едзе да ўнукаў, хоць яго і не надта хочуць пускаць туды. Але ён усё роўна едзе, бо хоча выгадаваць іх сапраўднымі людзьмі.

Самы што ні ёсць «падарожны» твор у зборніку — нарыс «Руны мараны», на старонках якога праявілася ўменне аўтара пісаць пра прыроду, адчуваць і разумець яе. Нямала старонак у нарысе — пра нашых землякоў, якія жывуць і працуюць на карэльскай зямлі. Пісьменнік піша пра велічную, непаўторную прыгажосць паўночнай зямлі, пра яе людзей, пра дзівоснае народнае мастацтва, пра Кіжы, непаўторныя карэльскія руны. І піша не толькі як падарожнік, а як гаспадар на зямлі. Таму болем адгукаецца ў душы невясёлая статыстыка пра «мільёны кубікаў», у якія штогод пераводзіцца карэльскі лес. З захапленнем глядзіць ён на Кіжы, якія ўпарта ратуюцца людзьмі ад гібелі, і згадвае занядбаныя саборы Мсціслаўля, Княжыцы пад Магілёвам, якія гінуць, амаль нікому не вядомыя. Крыўдна, што цудоўная карэльская бяроза, якая расце і ў лясах Беларусі, пераводзіцца на дровы, а не становіцца матэрыялам для твораў мастацтва. Ці не з-за ўлюбёнасці аўтара ў родную зямлю, вострага, тонкага адчування яе і гаворыцца пра «падарожны» характар творчасці пісьменніка? Толькі гэтая любоў да навакольнага свету зусім не «падарожная». Прырода — не толькі фон у творах пісьменніка, яна — неад'емная часцінка душы кожнага персанажа. З прыродаю цесна звязаны і Ся-

рожка з апавядання «Прылiпала», i Ягор з «Пагоннiка», i Курэпiн з апавядання «Па талым снезе».

Успомнiм першы зборнiк В. Карамазава «Падранак». Ужо там была пiльная ўвага да прыроды, было ўменне пiсаць пра яе. I хоць першы зборнiк меў нямала недахопаў, нам запомнiўся Гнат з апавядання «Я люблю яго...», запомнiўся паляўнiчы Антановiч, якi, вяртаючыся з палявання на слонак, скажа: «Забiць — не вялiкае ўжо шчасце...»

Бясспрэчна, новы зборнiк В. Карамазава мацнейшы за першы. Мы ўжо з поўным правам гаворым пра В. Карамазава як пра пiсьменнiка, якi ўмее тонка i разумець сваiх герояў, i адчуваць прыгажосць навакольнага свету. Гэта ж вымагае вельмi дакладнага пiсьма без малейшае ноткi фальшу нават у iнтанацыi, у жэсце, у слове героя. Таму са шкадаваннем бачыш, як прозу В. Карамазава псуе запланаваная зададзенасць, i тады герой (напрыклад, Анкуда з аповесцi «Пагоннiк») з самага пачатку i да канца толькi адмоўны. Часам парушаецца логiка развiцця падзей, як гэта адбылося ў сцэне трагiчнай смерцi Юлькi; нярэдка спатыкаешся на моўнай неахайнасцi накшталт: «пазней, калi вада схлыне, садзiцца ў берагi» цi «кожны вагон пад загрузку вырываў немалымi нервамi». Хацелася б, каб у творах не было стылiстычных i моўных недакладнасцяў, iнертных, iнфармацыйных сказаў, зацяганых шаблонных канструкцый.

Вядома, можна было гаварыць пра асобныя творы пiсьменнiка больш падрабязна, разглядаць iх больш дэталёва з усiмi iх недахопамi i ўдачамi, але нельга было б не падкрэслiць галоўнае ў В. Карамазава, пiсьменнiка, улюбёнага ў родную зямлю, якога цiкавiць духоўны свет сучаснiка, якi абавязаны быць сапраўдным чалавекам свайго часу, сваёй зямлi.

**Алесь ЖУК.**

---

## • папытай у кнiгарнi • папытай у кнiгарнi •

**«УСЕНАРОДНЫ ПАРТЫЗАНСКI РУХ У БЕЛАРУСI Ў ГАДЫ ВЯЛIКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ. т. II».** Гэта першая кнiга II тома, у якiм сабраны асноўныя дакументы, што захавалiся ў архiвах, пра гiсторыю развiцця партызанскага руху ў Беларусi ў перыяд з лiстапада 1942 па чэрвень 1943 года, калi барацьба супраць акупантаў набыла ўсенародны размах.

У храналагiчным парадку (па датах напiсання або публiкацыi) у кнiзе змешчана 379 дакументаў. Гэта загады, зводкi, агляды i iншыя матэрыялы Цэнтральнага i Беларускага штабоў партызанскага руху, а таксама баявыя данясеннi, рапарты, справаздачы, акты, выпiскi з дзённiкаў баявых дзеянняў груп, атрадаў, брыгад i злучэнняў народных мсцiўцаў.

Блiжэйшым i адданым памочнiкам КП(б)Б у разгортваннi ўсенароднай вайны супраць фашысцкiх акупантаў з'яўлялася камсамол Беларусi. Надрукаваныя дакументы даюць яскравае ўяўленне пра ягоную дзейнасць у тыле ворага.

У падрыхтоўцы кнiгi да выдання прыняў удзел вялiкi калектыў складальнiкаў. Яна забяспечана iмянным i геаграфiчным указальнiкамi, а таксама ўказальнiкам партызанскiх фармiраванняў, што дзейнiчалi на акупаванай тэрыторыi нашай рэспублiкi.

**Выдавецтва «Беларусь», Мiнск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ПАСЛАНЦЫ ВЯЛIКАЙ ЗЯМЛI».** Дом № 26 па Старавiленскай вулiцы ў Мiнску... Мемарыяльная дошка сведчыць, што ў гэтым доме ў 1941—1942 гг. знаходзiлася канспiратыўная кватэра Мiнскага падпольнага гаркома КП(б)Б. Гаспадаром кватэры быў член партыi з 1931 года, былы чэкiст i актыўны ўдзельнiк мiнскага падполля Павел Раманавiч Ляхоўскi. У кнiзе расказваецца пра перажытае, пра таварышаў па барацьбе, пра пасланцоў з Вялiкай зямлi, якiя з дапамогай падпольшчыкаў здабывалi каштоўныя звесткi аб ворагу i рэгулярна перадавалi iх камандаванню Чырвонай Армii.

Лiтаратурны запiс М. Грыцана.

**Выдавецтва «Беларусь», Мiнск, 1973 г. На рускай мове.**

**«АТЭIЗМ У НАСТУПЛЕННI»** — калектыўны зборнiк пра станаўленне i развiццё атэiзму на Беларусi за гады Савецкай улады. Аўтары змешчаных у зборнiку артыкулаў В. Дуброўскi, Е. Пракошына, А. Чуднiкава i Р. Надольскi на канкрэтных фактах i прыкладах прасочваюць заканамерны працэс адыходу беларускага народа ад рэлiгii, грунтоўна даследуюць сацыяльныя i гiстарычныя ўмовы гэтага працэсу.

У кнiзе абагульняецца вопыт укаранення ў побыт нашага народа новых савецкiх абрадаў, звычаяў, традыцый. Таму яна прыдасца i культасветработнiкам, i камсамольскiм актывiстам, i прапагандыстам.

**Выдавецтва «Беларусь», Мiнск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ У 2 ТАМАХ»** — першы найбольш поўны збор твораў арыгiнальнага мастака слова, аднаго з пачынальнiкаў беларускай прозы Максiма Гарэцкага.

Першы том склалi апавяданнi з кнiг М. Гарэцкага «Рунь» (Вiльня, 1914 год), «Досвiткi», «Сiбiрскiя абразкi», «Люстрадзён», драматычныя абразкi, а таксама апавяданнi розных гадоў, якiя раней не ўключалiся ў зборнiкi пiсьменнiка. У другiм томе змешчаны аповесцi «Меланхолiя» i «Цiхая плынь», дакументальна-мастацкiя запiскi «На iмперыялiстычнай вайне», раман-хронiка «Вiленскiя камунары». Упершыню апублiкаваны ў 1963 годзе, праз трыццаць гадоў пасля напiсання, гэты раман стаў прыкметнай падзеяй у беларускай лiтаратуры, быў перакладзены на iншыя мовы i атрымаў высокую ацэнку на Украiне, у Лiтве, Польшчы, ГДР.

Прадмову i каментарыi да двухтомнiка напiсаў Дзмiтры Бугаёў.

**Выдавецтва «Мастацкая лiтаратура», Мiнск, 1973 г.**

**«ДВА КОЛЕРЫ ЖЫЦЦЯ».** У аднатомнiк выбраных твораў Аляксея Русецкага ўвайшлi вершы розных гадоў, а таксама паэмы «Другi пачатак», «Яго вялiкасць», «Маналог Зямлi». Iх аб'ядноўваюць адметныя рысы паэзii А. Русецкага — высокая грамадзянскасць, непадробная шчырасць, лiрызм.

**Выдавецтва «Мастацкая лiтаратура», г. Мiнск, 1973 г.**

**«НЯХАЙ IДЗЕ ДОЖДЖ».** Новая аповесць Аркадзя Марцiновiча вяртае чытача ў незабыўны сорак першы год, калi, аблiваючыся крывёю, нашы войскi стрымлiвалi шалёны нацiск ворага. Малады баец з цiхай беларускай вёскi Андрэй Нiтрыновiч праходзiць праз суровыя франтавыя выпрабаваннi. Цяжкое раненне разлучае яго з сябрамi па зброi, з капiтанам Сяславiным, а ваеннае лiхалецце — з дзяўчынай Лiдай, якую ён шчыра пакахаў... Але, зведаўшы перад тварам смерцi цану сапраўднай дружбе, Андрэй i праз многа гадоў пасля перамогi застаецца верны салдацкаму пабрацiмству, першаму каханню, апаленаму полымем вайны.

**Выдавецтва «Мастацкая лiтаратура», Мiнск, 1973 г.**

**«БЕЛАРУСКI ФАЛЬКЛОР У СУЧАСНЫХ ЗАПIСАХ».** Гэта першы выпуск серыйнага выдання фальклорных матэрыялаў, сабраных за апошнiя гады выкладчыкамi i студэнтамi БДУ iмя У. I. Ленiна ў часе вучэбнай фальклорнай практыкi. Сюды ўвайшлi ўзоры традыцыйных фальклорных жанраў Брэсцкай вобласцi. Тут i каляндарна-абрадавая, i сямейна-абрадавая паэзiя, песнi, прыпеўкi, прыказкi i прымаўкi, загадкi i г. д.—усяго каля 270 запiсаў. Многiя песнi пададзены з нотамi.

Кнiга выйшла з прадмовай i пад рэдакцыяй Р. Р. Шырмы. Складальнiк выпуску В. А. Захарава.

**Выдавецтва БДУ iмя У. I. Ленiна. Мiнск, 1973 г.**

**«АБНОЎЛЕНАЯ ЗЯМЛЯ».** Раман, перакладзены на беларускую мову, належыць пяру вядомага таджыкскага пiсьменнiка Сатыма Улугзадá. Ярка i праўдзiва адлюстравана ў творы пасляваеннае жыццё кiшлака. Нялёгка даюцца высокiя ўраджаi бавоўны маладому камунiсту Нуралi Баратаву, накiраванаму партыяй на ўмацаванне адсталага калгаса, яшчэ цяжэй змагацца са старымi поглядамi кiшлакоўцаў на побыт i сям'ю, адстаяць сваё з Шадыгуль каханне.

Пераклад Я. Васiлёнка.

**Выдавецтва «Мастацкая лiтаратура», Мiнск, 1973 г.**

## • папытай у кнiгарнi • папытай у кнiгарнi •



# Гэта ж трэба!..

## ЧАЛАВЕК ЦІ МАЛПА?

У наш час нават сама пастаноўка такога пытання здаецца недарэчнай. Між іншым, адзін прадпрымальны заакіянскі дзялок з горада Х'юстана (ЗША) у свой час заявіў на ўвесь свет, што ён хацеў бы, каб на яго фабрыцы замест рабочых працавалі шымпанзэ.

— На мой погляд,—пераконваў сваіх слухачоў гэты шаноўны бізнесмен,—малпы будуць ідэальнымі работнікамі і цалкам змогуць замяніць людзей.

Гэтаму «праекту» не суджана было спраўдзіцца. Амерыканцы пасмяяліся, і на гэтым справа скончылася...

І вось цяпер даведваемся: ідэя «наватара» з Х'юстана раптам ажыла ў Гаіці—невялікай краіне Карыбскага басейна. Тут з сур'ёзным выглядам абмяркоўваецца праблема замены чалавека на вытворчасці малпамі. І невыпадкова: грамадзяне Гаіці ўцякаюць са сваёй айчыны, уцякаюць ад беззаконнасці, голаду і хвароб. Больш як 300.000 гаіцянцаў жывуць у Злучаных Штатах, 200.000 працуюць рэзчыкамі цукровага трыснягу ў Дамініканскай Рэспубліцы, шмат іх у Канадзе, Еўропе, Афрыцы, Азіі. Таму малпы, з пункту гледжання гаіцянскіх фабрыкантаў і заводчыкаў, маглі б прыйсці ім на дапамогу. Улічваецца пры гэтым і тое, што малпы не асмеляцца аб'яднаўвацца ў прафсаюзы, не пойдуць на дэманстрацыі пратэсту, а галоўнае—не будуць патрабаваць павышэння заработнай платы. І, апрача ўсяго іншага, яны не будуць замахвацца на цяперашні дзяржаўны лад у Гаіці, які стварыў рай для капіталістаў і пекла для простага люду.

Адна бяда—на Гаіці малпаў не хапае. Можна нават сказаць, іх там зусім няма.

## ВЯСЕЛЛЕ НА МОГІЛКАХ

Прэзідэнту Паўднёвай Карэі Пак Чжон Хі прыйшла ў галаву ідэя: вясельныя звычаі перанесці на могілкі і, наадварот, пахавальны абрад—на вяселле. Пасля гэтага з'явіліся ўрадавыя законы, у якіх:

забараняецца друкаваць і рассылаць запрашэнні на вяселлі;
забараняецца дарыць вясельныя падарункі;
забараняецца наймаць фатографа, каб увекавечыў урачысты момант уступлення ў шлюб;
забараняецца ўтрымліваць раней адкрытыя традыцыйныя цырыманіяльныя пакоі, дзе звычайна нявесты давалі афіцыйную згоду на тое, што яны гатовы ўзяць на сябе абавязкі жонкі;
забараняецца з'яўляцца на паніхіду ў традыцыйнай жалобнай вопратцы;
забараняецца паіць і карміць сяброў, якія прыйшлі развітацца з нябожчыкам;
забараняюцца галашэнні над целам памерлага;
забараняецца хаваць, апускаць труну ў магілу без спецыяльна выдадзенага дазволу;
забараняецца таксама «ўтрымліваць» у зямлі тых, хто ўжо даўным-даўно памёр, калі старыя магілы не будуць неадкладна перарэгістраваны.

## ЛЁС ДЫКТАТАРА

Генерал Трухільо самаўладна кіраваў Дамініканскай Рэспублікай амаль трэць стагоддзя. Пасля смерці яго спачатку пахавалі на бацькаўшчыне, але ненадоўга. У хуткім часе яго выкапалі і адправілі ў невядомым кірунку. Як пасля высветлілася, удава і сваякі нябожчыка вымушаны былі зрабіць гэта са страху перад сваім народам. Страх прымушаў іх уцякаць разам з мёртвым «дабрадзеем нацыі» як мага далей ад родных мясцін.

Ва ўдавы нябожчыка грошай хапала, і яна вырашыла пахаваць мужа ў Парыжы, на славутых могілках Пер-Лашэз, папрасіўшы для гэтага 75 квадратных метраў зямлі. Ёй адмовілі, паколькі згодна з нормамі магіла на гэтых могілках не павінна займаць больш як чатыры квадратныя метры. Удава Трухільо не стала пярэчыць і згадзілася.

У хуткім часе на могілках закіпела работа. Для нябожчыка збудавалі шыкоўную капліцу з чорнага мармуру, і дыктатар зноў набыў вечны спакой.

Праз некалькі месяцаў нейкія тры паны выказалі жаданне набыць на Пер-Лашэз участкі па суседстве з магілай генерала Трухільо. Іх просьба была задаволена. Але калі былі прад'яўлены праекты надмагільных помнікаў, выявілася, што яны—дадатак да манумента на магіле душыцеля дамініканскага народа. Адным словам, тры паны аказаліся падстаўнымі асобамі прадпрымальнай удавы, супроць якой і была ўзбуджана крымінальная справа. Адміністрацыйны суд Парыжа вынес рашэнне канфіскаваць купленыя мадам Трухільо і яе саўдзельнікамі ўчасткі зямлі на могілках Пер-Лашэз і знесці манумент. Такім чынам, справядлівасць узяла верх.

Што ж зрабіла засмучаная ўдава са сваім знакамітым нябожчыкам? Яго давялося зноў выкапаць і вывезці. Куды? Ходзіць пагалоска, што ў Іспанію, а магчыма, у Партугалію...

Вось так «жывецца» на тым свеце дыктатарам.

## У ІЗРАІЛЬСКІМ «РАІ»

Сотні эмісараў Ізраіля гойсаюць па белым свеце, выпрошваючы пазыкі і падачкі, каб «цыраваць» свой бюджэт, асноўная частка якога ідзе на ваенныя патрэбы. І ім гэта часта ўдаецца. Ізраіль атрымаў, пачынаючы з 1949 года, 3300 мільёнаў долараў дармовай дапамогі.

Аднак чужаземныя падачкі памагаюць мала. Па-ранейшаму ізраільскі «рай» выглядае бутафорыяй. У краіне 850 тысяч чалавек жывуць у нястачы—трэцяя частка ўсяго яўрэйскага насельніцтва. У мінулым годзе кожнае чацвёртае дзіця ва ўзросце да 14 гадоў пастаянна недаядала, а многія з іх проста галадалі.

Ізраільская моладзь у адчаі. На яе долю прыпадае найбольшы працэнт беспрацоўных, а значыць, і галадаючых. Не маючы магчымасці працягваць вучобу ў сярэдніх школах, каля 10 тысяч ізраільскіх юнакоў штогод вымушаны пакідаць школы і папаўняць бандыцкія і зладзейскія шайкі. Газета «Джэрузалем пост» паведамляла, што больш пяці тысяч дзяўчат ва ўзросце да 16 гадоў вымушаны гандляваць сабой, каб не памерці з голаду. Сіяністкі «рай» робіцца сапраўдным пеклам.

## ПАЛЯПШАЮЦЬ... НАСЫ!

У Злучаных Штатах з'явіўся новы від бізнесу на... замене насоў. Для павелічэння сваіх прыбыткаў бессаромныя дзялкі вырашылі выкарыстаць натуральнае жаданне людзей выглядаць лепш і маладзей за свае гады. І не памыліліся ў надзеях. За кароткі час была створана добра прадуманая сістэма медыцынскага прадпрымальніцтва, асабліва ў штаце Каліфорнія. І вось першыя вынікі: за мінулы год 250 тысяч амерыканцаў «палепшылі» насы. Шчаслíўчыкамі аказаліся, вядома, тыя, у каго таўсцейшыя кашалькі.

Жартаўнікі расказваюць, між іншым, нібыта пластычныя аперацыі па замене насоў настолькі дасканалыя, што пасля іх нават блізкія сваякі не пазнаюць адзін аднаго. У сваю чаргу бізнесмены з сур'ёзным выглядам сцвярджаюць, што пасля такіх аперацый пацыенты маладзеюць не толькі целам, але і душой. Прастадушныя грамадзяне клююць і на гэтую прынаду.

Можна было б не зважаць на з'яўленне новага віду бізнесу ў ЗША, калі б не адна важная дэталь. Нягледзячы на працвітанне хірургіі па «рэканструкцыі» зусім здаровых, нармальных насоў у Злучаных Штатах няма сапраўдных клопатаў аб здароўі людзей. Амерыканскія спецыялісты сцвярджаюць, што ў іх краіне яшчэ не вынішчаны хваробы, якія сустракаюцца зараз толькі ў слабаразвітых і адсталых краінах. Голад, антысанітарныя жыллёвыя ўмовы—спрадвечныя спадарожнікі побыту значнай часткі насельніцтва, з-за чаго людзі асуджаны на беднасць, інваліднасць, заўчасную смерць. Жабрацкія сумы, якія ўрад выдзяляе на ахову здароўя і сацыяльнае забеспячэнне, амаль не аблягчаюць становішча беднякоў (а іх у ЗША—дзесяткі мільёнаў) і толькі садзейнічаюць росту і без таго высокай платы за лячэнне.

Хварэць у Амерыцы—трагедыя. Як паказвае статыстыка, для кожнага чацвёртага грамадзяніна ЗША сур'ёзнае захворванне азначае фінансавы крах. Каб зрабіць аперацыю апендыцыта, неабходна заплаціць звыш тысячы долараў. І калі ў 1970 годзе адзін дзень знаходжання ў бальніцы каштаваў 81 долар, то ў

1971—92. Зараз гэтая лічба яшчэ вышэйшая. Характэрна, што з 1960 года плата за медыцынскае абслугоўванне ў цэлым па краіне ўзрасла на 50 працэнтаў.
Не выключана, што гэтая плата стане яшчэ вышэй у сувязі з масавымі аперацыямі па «рэканструкцыі» насоў.

### «ЦУД»-СПАРТСМЕНЫ

Незвычайная вестка прыйшла з італьянскага горада Сарана. Пяцідзесяцігадовы Аціліо Сальвіні стаў пераможцам у незвычайным спаборніцтве. Заваяваўшы тытул «караля насоў 1973 года», ён скінуў з п'едэстала «караля насоў 1972 года» суайчынніка Расеці, хаця па сваіх «аб'ектыўных дадзеных» саступае яму. Мяркуйце самі: у Сальвіні даўжыня носа 64 сантыметры, шырыня—38 сантыметраў, а ў Расеці адпаведна—69 і 42. Як жа ўдалося Сальвіні «перамагчы» Расеці? Вельмі проста: на другі тэрмін кароль насоў у Італіі не выбіраецца.
Гэта не адзінкавы выпадак, калі ў краінах капіталу захапляюцца ўсялякага роду рэкорднымі бязглуздзіцамі.
У Аўстраліі прагны да славы Альфрэд Рэйнбоў у спрэчцы заявіў:
— Я магу за адзін раз з'есці не менш як тры сотні вустрыц.
*І што вы думаеце? Ён не кінуў сваіх слоў на вецер.* Не прайшло і дваццаці пяці мінут, а Рэйнбоў праглынуў, ні многа ні мала, 322 вустрыцы.
Сярод іншых непаўторных «герояў» падобных спартыўных «дасягненняў» можна назваць француза, які свістаў без перадыху 9 гадзін 45 мінут. Нельга не ўспомніць і амерыканку Уімлер, якая стала чэмпіёнкай па плачы. Яна ліла горкія слёзы, таксама без перапынку, ажно 22 гадзіны 44 мінуты.
Такія «спаборніцтвы» наладжваюцца не проста дзеля забавы. Іх арганізатары атрымліваюць нечуваныя прыбыткі.

**Сабраў Кандрат ТРАЎКІН.**

● **Барыс ГЕРСТАН**

# ТАКІ ЎЖО Я ЧАЛАВЕК!

**ГУМАРЭСКА**

Розныя ў людзей хобі бываюць. Адзін можа цэлы дзень на даху пратырчэць, галубоў ганяць, іншы зранку да паўночы ля магазіна «Філатэлія» таўчэцца, а той пустыя бутэлькі калекцыяніруе.
А вось я вельмі люблю дапамагаць... Днём на рабоце дырэктару дапамагаю красворды рашаць, вечарам за дачку сачыненне пішу або суседзям дапамагаю разабрацца, хто вінаваты ў іх хатнім скандале.
А калі хто папросіць дапамагчы, дык я такі рады, быццам просяць мяне паехаць у месячную камандзіроўку ў Ялту.
Вось і пазаўчора людзям дапамог...
Сяджу сабе ўвечары ля свайго пад'езда, бачу: грузавік у двары спыніўся. Выходзіць з кабіны чалавек, глядзіць у нейкія паперы і быццам бы шукае кагосьці. Ну, думаю, трэба дапамагчы...
— Вы да каго? — пытаюся...
— Да Івановых,— кажа.— Павінны былі сустрэць, ды, відаць, спазніліся мы.
— Дык я вас правяду! Гэта ж у нашым пад'ездзе.
— Дзякуй вам вялікае.
І тут з машыны выскокваюць яшчэ два хлопцы і павольна сцягваюць з кузава вялізны раяль.
— Івановы на якім паверсе жывуць?
— На сёмым,— адказваю.
— А грузавы ліфт ёсць?
— Ёсць, толькі не працуе. Але вы не хвалюйцеся, я вам дапамагу!
— Было б вельмі прыемна! Які вы спагадлівы чалавек!
— Ну што вы! Такі ўжо ў мяне характар. Дык пайшлі?
І мы пайшлі. На першы паверх узняліся даволі лёгка. Хлопцы цягнулі раяль спераду, а мы з чалавекам, з якім размаўлялі ў двары, штурхалі ззаду. Па дарозе на другі паверх мы пазнаёміліся. Звалі яго Мікола, была ў яго жонка і дзядзька ў Канатопе. Паміж другім і трэцім паверхам у гутарку ўступілі хлопцы. Аказалася, што яны — браты. Звалі іх Вася і Валя, і былі яны студэнтамі. А які студэнт не хадзіў у грузчыках?
Пасля трэцяга паверха раяль стаў больш цяжкі.



Мал. **С. Волкава.**

— І што б мы без цябе рабілі? — выціраючы пот, сказаў Мікола.— Гэта ж трэба, сам згадзіўся раяль цягнуць!
— Ты, Мікола, паверхі лічы! А то пранясём! — прамармытаў Валя.
— Не хвалюйцеся! Я лічу,— сказаў я.— Яшчэ чатыры!

— Малайчына! — пахваліў мяне Вася.— Нам проста на цябе пашанцавала.
Яны зноў узяліся хваліць мяне. Хвалілі да пляцоўкі чацвёртага паверха. Там яны вырашылі адпачыць і неасцярожна паставілі раяль Міколу на нагу. Далей давялося цягнуць і яго. Раяль важыў, напэўна, як добры дарожны каток.
На пятым паверсе Вася пачаў прасіцца:
— Пакіньце мяне, сябры!
Я супакойваў яго:
— Ты не ведаеш, што за чалавек Іваноў. Вось убачыш, як ён нас сустрэне!
— Якая дабрата! — прашаптаў Мікола. Гэта ён пра мяне.— У такія цяжкія хвіліны знаходзіць сілы, каб падбадзёрыць сяброў.
На шостым паверсе ўпаў Валя — самы дужы з нас. Я стаў перад ім на калені.
— Хлопчыкі, ну яшчэ крышачку. Іваноў ужо, напэўна, стол рыхтуе. Ён чалавек шчодры. А жонка! Проста багіня! Яна ж так узрадуецца: раяль даставілі...
Рэшткамі сілы мы ўсе ж такі дацягнулі раяль. Мікола пазваніў у кватэру Іванових. Адчыніла сама багіня. Я пераможна паглядзеў на братоў-студэнтаў: а што я казаў? Але яны былі пахмурныя.
— Тут жывуць Івановы? — спытаўся Мікола.
— Тут.
— Атрымлівайце свой раяль!
— Які раяль?
— Як які? Вы ж заказвалі раяль!
— Навошта нам раяль? З нас гітары хопіць. І так сын спакою не дае: запісаўся ў нейкія электрамузыканты. Можа, гэта Івановы з суседняга пад'езда заказвалі? Там на дзевятым паверсе кампазітар жыве,— і дзверы зачыніліся.
Але, прабачце, трэба закругляцца. Вунь ужо суседа з ложка здымаюць: на аперацыю павязуць. Пайду хірургу дапамагаць, не магу без справы сядзець. Такі ўжо я чалавек!

# ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРОДЫІ

**Георгі ЮРЧАНКА**

## БАБРОВЫЯ ЛОВЫ

**Алесь Масарэнка**

Бабёр, ядры яго матары, дальбожачка, такі: добраахвотна да рук не падыдзе, хоць богам ублагай ці курапаткаю ля нары станавіся. Не тое, што Леўшакоў Жук або тая Цецікава Лыска.
Калі ж вам досмерці заманулiся бабры і зусім няўседня бярэ, служлівым золкам зазбірайцеся ў дарогу. Забудзьце друз будзёншчыны і заклічце тых з сябрукоў, хто адчувае бабровыя памкненні.
Важна ўнікнуць у стройнасць руху вашай кунпаніі і пагадзіцца міжсобі. Паперад, значыцца, хай навуж чыкільгікае мінавіцай Адам Луцэін, вушлы, не лыкам сцёганы хлопец. Ручы, ён у сарочцы радзіўся. Будзе млець ад насалоды, спрытнюга.
Пасяродкі лэхаць лепш тычыцца Сахвеінаму байстручыну Цімку. Вы яго бачылі: мурло саўсімацька, як у кормніка. Ладны матло і пройда несусветны, іці яго пяты.
Ляксандра хай дубічыць уследкі, разіньку ловіць. Усё дно нявехна абазвала яго рапухай.
Перад вамі няхай абгойсвае балацiны добрая сучэнцыя. Але можна клікнуць любую сабачэнцыю. Асноўнае, каб яна ўмела мудра ўсміхацца і кідалася ўгалоп.
Як дача́каеце да гушчэчы, агняздуйцеся перамарыць чарвяка — насухама. Во дзе смаката, яй-праўдачка. Не менш латва запiпчыць, седзячы на сукардычыне. Паддыхніце трохі і тахтоньце далей.
Ля Ходаравай пратокі ўсяму прычындаллю знайдзіце схованъ, навырунку нічога не кіньце, бо нейкая чмурэча краз можа спуліць брызентавы курцік ці збахрыць шчупы, а то і зусім збаёдаць лаўкі, не сысці мне з етага места.
Пошук нары пачынайце спасцярожліва. З пяткамі ў нару не залазьце, не больш як па дзягу. Акалпачыць зверука не проста. Ён празукаваты ў сваіх партаментах. Пад любой карчакай сядзіць, як карапузік усё роўна. Дый ушчунку на яго, радзімца, няма, што заўгодна можа адчубучыць. Таму паперша трэба агледзецца і ўбачыць палазу, каб было куды уляпётваць, калі пачне барабаніць лапамі.
Калі ж зверука не ўбачыце — не баёдзьцеся. Забірайце, калі знойдзеце, прычындалы і смела зыгуйце дамоўкі. Тым больш, за самавольныя ловы 300 рублёў штрапяка — шчупянуцца не паспееце — узучаць. Па сабе ведаю. Так што кумекайце пра пальзіцельнасць.



**Язэп ТАЎШЧЭЗНЫ**

## З ДУБА ВЕЦЦЕ

**Валянцін Мыслівец**

Дубы ў нашай вёсцы — во! Вышэй Санчынага плоту. Тайга дый годзе. А родныя — да скону. Сэрцу мілыя, не пакінеш, а пакінеш, дык вернешся. Не верыце? Спытайцеся ў Ганькавай Марфы, якая летась атрымала кватэру ў Зялёным Лузе...
Ай, дубы, дубы. Усё тут табе — з жалудоў кава, з лісця булён. Харчуйся, сілкуйся. Бы твой какос, ці гэтая, як яе... джунгля! Таямнічыя дрэвы. Колькі тайнаў, колькі згадак. Акадэмік з бярэмам дыпломаў не вырашыць. Узяць сабе і тую, пра якую неяк расказаў мне наш вясковы ляснік Аўдзей Кукарэка.
Аднаго разу па вясне заўважыў Аўдзей дзіўнаватую з'яву: голлі з дубоў гнуліся якраз туды, куды дзьмуў вецер. Што за чорт, задумаўся ляснік, з чаго б тое? Але прыгадаўшы, што справа была якраз на першае красавіка, супакоіўся, апрастаў гляк ляснога напітку (кварта зелля на кроплю дубовага соку) ды і пашыбаваў сабе дадому.
На другі дзень уразіўся Аўдзей яшчэ больш: вецер дзьмуў менавіта ў той бок, куды гнуліся голлі! Моцна расхваляваўся ляснік, доўга супакоіцца не мог, перавёў усё гаючае піцво, каб трохі прыйсці ў сябе, давялося яму шчэ купляць дубарэзнай звычайнай у мясцовай краме. А дубы свае: дзень так, а дзень гэтак! Пройдзе, верыў Аўдзей, раней таго не было! І сек з дубоў вецце на паліва. А не прайшло ж! Нешта паблыталася ў нашым дубовым гаі.
Тады і з'явілася ў лесе нашай вёскі камісія. Дамогся свайго Аўдзей, прывёз людзей з цэнтра. Акадэмік у белай кашулі, барада — лес мяце. Піў жалудовую каву ў леснікоўвай хаце, моршчыўся. Напітак жа ўхваліў. Усё дапытваўся ў Аўдзея спосаб прыгатавання. А Кукарэка яму: мілы чалавек, ды я для цябе цэбар таго піцва не пашкадую, ты мне скажы толькі, чаго голлі гнуцца ў той бок, куды дзьме вецер, а назаўтра — наадварот?
А што ён можа сказаць, акадэмік, і навошта яму той цэбар, калі ён з першай жа шклянкі захроп на ўвесь лес? Махнуў рукой Аўдзей: хай ідзе, як ішло. Дуб ён дуб і ёсць, таямнічае дрэва, што з яго возьмеш?
А вы кажаце: зборнік, раман, аповесць... Дылогія, трылогія, антымонія. Ды я пра дубы магу пісаць, ажно пакуль паперы хопіць!..

# ВОСТРЫМ АЛОЎКАМ

Малюнкі **Л. ШУКАЛЮКАВА.**



...Мінус адзін, тата...



Клапатлівы гаспадар.

# нашы аўтары

**НАВУМЕНКА Іван** нарадзіўся ў 1925 годзе ў г. п. Васілевічы Рэчыцкага раёна. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і аспірантуру.
Доктар філалагічных навук. Выкладаў беларускую літаратуру ва ўніверсітэце. Цяпер дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.
Аўтар кніг «Семнаццатай вясной», «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах», «Таполі юнацтва», «Вайна каля Цітавай копанкі», раманаў «Сасна пры дарозе» і «Вецер у соснах».
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа.

**ЛАСКОЎ Іван** нарадзіўся ў 1941 годзе ў Гомелі. Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага.
Працаваў у навукова-даследчым інстытуце, рэдакцыях рэспубліканскіх газет. Цяпер старшы рэдактар Якуцкага кніжнага выдавецтва.
Аўтар зборнікаў вершаў «Стихия», «Белое небо».

**КУНЬКО Леў** нарадзіўся ў 1930 годзе на Полаччыне. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Працуе загадчыкам аддзела ў часопісе «Промышленность Белоруссии».

**АРОЧКА Мікола** нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Працаваў у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі». Кандыдат філалагічных навук. Працуе ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.
Аўтар кніг паэзіі «Не ўсе лугі пакошаны», «Ветраломная паласа», «Крылатае семя», аповесці «Хай расце маладая таполя», манаграфіі пра В. Таўлая.

**ЗАГОРСКАЯ Ніна** нарадзілася ў 1940 годзе ў вёсцы Загор'е Баранавіцкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.
Працавала на тэлебачанні. Цяпер вучыцца ў Вышэйшай партыйнай школе пры ЦК КПБ.

**ШАХОВІЧ Мечыслаў** нарадзіўся ў 1933 годзе ў мястэчку Крывічы на Мядзельшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ.
Настаўнічаў, працуе рэдактарам litстарадарожскай раённай газеты.

**БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута** нарадзілася ў 1938 годзе ў вёсцы Біскупцы Лідскага раёна. Скончыла факультэт беларускай мовы і літаратуры Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. Працуе настаўніцай.
Выдала зборнікі вершаў «Дзявочае сэрца», «Нёман ідзе», «Запалянкі», «Доля».


**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 10**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-36-48—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 29-38-54—сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92—аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75—фотакарэспандэнт.

АТ 08651. Здадзена ў набор 27.VIII-73 г. Падпісана да друку 1.X-73 г.
Папера $70\times108^{1}/_{16}$. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 16 228 экз. Зак. 449. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**